**Іван Мележ**

# ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ

# том 10

***ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА (1945-1976)***
***ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ***

Мінск
«Мастацкая літаратура» 1985

РЭДАКТАР ТОМА А. П. МАТРУНЕНАК

ЗБОР ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ, ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТАЎ І КАМЕНТАРЫЯЎ, ЛЕТАПІСУ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ, ПАКАЗАЛЬНІКАЎ Л. М. МАЗАНІК

Мележ І.

Збор твораў: У 10-ці т. Т. 10. Эпісталярная спадчына (1945-1976); Летапіс жыцця і творчасці/Рэд. А. П. Матрунёнак; Збор эпісталяр. спадчыны, падрыхт. тэкстаў і камент., летапісу жыцця і творчасці, паказ. Л. М, Мазанік.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 496 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р.

Змест дзесятага тома Збору твораў Івана Мележа складае эпісталярная спадчына пісьменніка, а таксама паказальнікі адрасатаў, твораў і творчых задум, імёнаў, летапіс жыцця і творчасці.

## ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА ІВАНА МЕЛЕЖА

Іван Мележ ва ўяўленні шматлікіх прыхільнікаў яго таленту — гэта перш за ўсё выдатны раманіст, аўтар «Палескай хронікі» і «Мінскага напрамку». Аднак буйная пісьменніцкая індывідуальнасць заўсёды вызначаецца шырынёй творчых інтарэсаў. І сапраўды, Іван Мележ, прызнаны мастак-раманіст, з поспехам выступаў у жанры малой прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі. Але існуе яшчэ адна галіна пісьменніцкай дзейнасці, якая звычайна мала вядома шырокаму чытачу, яшчэ адзін літаратурны жанр — эпістальярны. Перапіска І. Мележа — гэта старонкі новай мележаўскай кнігі, сур'ёзнай, глыбокай, непаўторнай і сумленнай. Адначасова перапіска з'яўляецца каштоўнай крыніцай звестак для вывучэння біяграфіі пісьменніка, вывучэння псіхалогіі творчасці, звестак пра гісторыю ўзнікнення задум, напісання і выдання таго ці іншага твора. Эпісталярый пісьменніка дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага асяроддзя, псіхалагічную атмасферу, у якой ён жыў і працаваў. Гэта таксама і адна з галоўных крыніц вывучэння творчых інтарэсаў пісьменніка, кола яго сувязяў і ўзаемаадносін, сямейнага жыцця і г. д.

Лісты І. Мележа неаднолькавыя як па насычанасці біяграфічным, творчым, інфармацыйным матэрыялам, так і па свайму аб'ёму, манеры напісання. Гэта залежыць ад таго, каму ліст адрасаваны, ад роду заняткаў адрасата, ад таго кола праблем і пытанняў, якія закраналіся ў лісце адрасата. Але кожны ліст цікавы і значны пасвойму, дае магчымасць убачыць, адчуць, якім глыбінным сэнсам было напоўнена жыццё І. Мележа — чалавека і пісьменніка.

Лісты да людзей, прафесійна блізкіх Мележу — пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў, перакладчыкаў і інш.,— вызначаюцца багаццем матэрыялу па псіхалогіі яго творчасці, дапаўняюць, уносяць дадатковыя штрыхі, у новым святле раскрываюць велічную фігуру І. Мележа, пісьменніка глыбокай філасофскай, сацыяльнай думкі. У лістах раскрываецца творчая гісторыя «Палескай хронікі» — ад задумы, плана, працы над ёй да выдавецкіх турбот, асабліва з «Подыхам навальніцы» ў «Роман-газете». (Лісты да Ф. Куляшова, Я. Скрыгана, У. Юрэвіча, Д. Кавалёва, В. Малюгіна.) Тут шмат шчырых аўтарскіх прызнанняў адносна таго, чаму ён усё ж звярнуўся да тэмы ў той час «няўдзячнай» (паводле яго слоў). З ліста Я. Скрыгану (2.VI. 1961): «Цяпер мяне вельмі вабіць зямля, поле, хаты нашы, я думаю, што гэтыя простыя, у нечым наіўныя, у нечым мудрыя, гарапашнікілюдзі — і ёсць аснова жыцця. З іх бяруць пачатак, імі ўзрошчаны

першыя парасткі... Вялікі і пакутны шлях гэты з дваццатых гадоў да спадарожніка, і ўсё гэта прайшлі людзі за паўвека жыцця — і нішчымніцу, і страхі вялікай ломкі, і гора вялікай вайны, і пакуты на выпаленай зямлі,— і аб усім гэтым забываць нельга, бо гэта жыццё людзей, мільёнаў людзей, і перад ім трэба схіляцца ў пашане. І аб ім трэба помніць, гаварыць, пісаць».

Шмат разоў вяртаецца І. Мележ у лістах да размовы аб «Мінскім напрамку», раскрывае прычыны няспыннай дапрацоўкі твора. З ліста да Г. Шупенькі (23.XII.1967): Зрабіў «чыстку першага рамана «Мін.[скі] напрамак]». Тое-сёе скараціў, перапісаў, напісаў і новае: асабліва па лініі Чарняхоўскага. За гэты час набраўся розуму крыху, а галоўнае — паявілася многа новых матэрыялаў, якія даюць падняць некаторыя раздзелы пра Чарн. [яхоўскага]. Вось і цяпер сяджу над важным раздзелам: Чарн. на КП (у пачатку 2-й кнігі). Разгарнуў на цэлы аркуш».

Лісты-анкеты, лісты, якія пісаліся па просьбе М. Абалкіна, Б. Ляонава, С. Колева і інш., можна сказаць, спецыяльна для публікацыі, даюць праўдзівае ўяўленне аб творчым крэда пісьменніка — глыбока асэнсоўваць падзеі нашай рэчаіснасці, настойліва, няспынна авалодваць майстэрствам. І. Мележ паўстае тут на поўны рост як мастак-грамадзянін, пісьменнік, які заўсёды востра адчуваў пульс эпохі. З ліста да М. Абалкіна ад 1. VI.1963: «Один из главных мотивов «хроники» — мысль об ответственности человека перед временем, перед делом, которое стало великим делом народа. Чем выше, величественнее дело народа, тем выше и ответственность каждого перед ним».

Задача «изобразить начало великого перелома», якую паставіў перад сабой І. Мележ, прыступаючы да «Палескай хронікі»,— вялікая грамадзянская задача. І так самааддана, бліскуча вырашыць яе, як удалося гэта зрабіць Мележу,— пад сілу толькі чалавеку з высокім грамадзянскім пачуццём, адказнасцю камуніста.

У лістах-анкетах таксама закранаюцца такія праблемы, як народнасць і гуманізм у савецкай літаратуры: «гуманизм советской литературы прежде всего в действенной любви, в уважительном отношении к человеку труда, к создателю, созидателю всего, на чем держится мир, что движет мир вперед». (Ліст М. Абалкіну ад 5.V.1968.)

У лістах да літаратараў, якіх Мележ блізка ведаў — да В. Казачэнка Ф. Куляшова, Д. Кавалёва і інш.,— багата фактаў біяграфічнага і бытавога плана, з жыцця літаратурнага асяроддзя, шчырых прызнанняў аб творчых поспехах і цяжкасцях.

З ліста да С. С. Смірнова аб «Мінскім напрамку»: «Роман стоил мне много крови — и работа над ним и его «жизнь» поначалу, право

на которую ему было так тяжело завоевывать...» або, напрыклад, з ліста О. Йыгі пра «Палескую хроніку»: «Роман мне очень дорог, в нем очень много того, что бесконечно мило моему сердцу».

У лістах да людзей творчай прафесіі найпаўней раскрываюцца і проста чалавечыя рысы характару І. Мележа. Адчуваецца, што Іван Паўлавіч умеў падтрымаць людзей у цяжкую хвіліну, удыхнуць веру ў лепшае. У гэтым сэнсе асабліва цікавыя лісты да Г. Шупенькі.

У перапісцы І. Мележа знайшлі месца самаацэнкі і самахарактарыстыка яго жыццёвых і творчых планаў, а таксама ацэнкі твораў некаторых пісьменнікаў. Ён дае, напрыклад, высокую ацэнку творчасці і асобным творам К. Сіманава, С. Смірнова, В. Казачэнкі, І. Навуменкі. Станоўча характарызуе літаратуразнаўчыя працы Ю. Андрэева, В. Гуры, У. Сурганава, Ф. Куляшова.

У лістах да літаратуразнаўцаў і крытыкаў І. Мележ часта палемізаваў з нябачным субяседнікам, аргументуючы магчымасць прыняцця і непрыняцця той ці іншай заўвагі або прапановы. І разам з тым лісты малююць нам і іншага Мележа — уражлівага і ранімага. Несправядлівыя крытычныя закіды прыносілі Мележу вялікія душэўныя пакуты, парушалі творчую раўнавагу, але гэтыя сумненні і загартоўвалі яго волю, вучылі душэўнай стойкасці. Яны ж прымушалі аўтара «Мінскага напрамку» крытычна ставіцца да ўжо напісанага, цвяроза ацаніць зробленае, узняцца над сабой ранейшым і з новымі сіламі пайсці ўперад.

Узаемаадносіны і перапіска з перакладчыкамі — таксама багатая на змест, а нярэдка і драматычная старонка ў біяграфіі І. Мележа. Сам Іван Паўлавіч з вялікай адказнасцю ставіўся да мастацкага слова, што з'яўлялася законам усяго яго творчага жыцця. Такі ж падыход да слова ён хацеў бачыць у кожнага перакладчыка. Вельмі важным для Мележа быў маральны аспект — да высакароднай справы перакладу літаратуры, якая закліканa збліжаць народы, могуць мець адносіны толькі сумленныя людзі з пачуццём вялікай адказнасці за справу. Не заўсёды задавальнялі І. Мележа сваім прафесійным узроўнем мастацкія пераклады яго твораў на рускую мову, У лісце да Н. Даніленкі, адказваючы на пытанне адносна перакладу яго раманаў на рускую мову, Мележ напісаў: «Далёка не ўсе перакладчыкі старанна і адказна перакладаюць. Аўтарызацыя перакладаў для мяне — заўсёды пакута». Але ў лістах Мележа шмат добрых і ўдзячных слоў выказана ў адрас перакладчыкаў О. Йыгі, Ю. Ванага, А. Пятроўскас, І. Блока, Т. Алімкулава, В. Жыдліцкага і інш. Пачуццё вялікай сімпатыі пісьменніка да эстонскага перакладчыка выклікана ў першую чаргу той сумленнай, карпатлівай працай Йыгі

над перакладамі раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Шчырыя, добразычлівыя творчыя адносіны, што склаліся паміж імі, былі сапраўдным «узорам адносін паміж аўтарам і перакладчыкам».

Лісты Мележа да людзей, прафесійна блізкіх яму, вылучаюцца сваім грамадзянскім пафасам, адначасна ў іх пісьменнік бачыцца засяроджаным, удумлівым, настойлівым у дасягненні творчай мэты.

Грамадзянскай завостранасцю, прынцыповасцю характарызуюцца т. зв. дэпутацкія лісты Мележа. Яны даюць багатую інфармацыю аб дэпутацкім клопаце пісьменніка — клопаце пра будаўніцтва новай школы ў Глінішчы, пра адкрыццё ў вёсцы «Леніна» Жыткавіцкага р-на Дома культуры ці пра аднаўленне работ па стварэнню памятніка-манумента на Ціхмянаўскай вышыні і г. д. Любы ліст-зварот таго ці іншага адрасата да Мележа як дэпутата не пакідаў пісьменніка раўнадушным. Знаходзіў час і сілы давесці пачатую справу да канца.

Самая шматлікая група карэспандэнтаў І. Мележа і самая непасрэдная ў сваіх ацэнках і меркаваннях — чытачы. Іх лісты — гэта многія сотні водзываў на кнігі пісьменніка — глыбокія і наіўныя, але шчырыя, напісаныя з захапленнем, даверліва. Іван Паўлавіч заўсёды быў рады чытацкім водгукам, бо гэта ў нейкай ступені з'яўлялася і ацэнкай яго творчасці. У лісце да рэдактара А. І. Часнаковай (1955) ён пісаў: «Знаете, у меня, Александра Ивановна, целая кипа писем «со всей Руси», и каких хороших, часто наивных, может быть, но зато — каких сердечных, взволнованных. Читают нашу книгу, любят!»

Пра значэнне шчырага чытацкага слова Мележ не раз пісаў у лістах да сваіх карэспандэнтаў. З ліста М. П. Сажнёву (24.1.1955): «Сознание, ощущение того, что книга писателя волнует людей, нужна им, всегда вызывает у нас желание работать лучше, создает хорошую рабочую зарядку. Поэтому мне и хочется сказать Вам от души: спасибо Вам за слова привета, за хорошие вести, за добрые пожелания!»

Перапіска з чытачамі, якія звярталіся да пісьменніка з просьбай расказаць пра далейшы лёс герояў рамана «Мінскі напрамак» ці з просьбай аб працягу раманаў, з'явілася штуршком для напісання эпілога да рамана. Лісты даюць магчымасць прасачыць па адказах І. Мележа чытачам за варыянтнасцю эпілога.

Колькасць чытацкіх лістоў значна павялічылася з выхадам «Палескай хронікі». Чытачы настойліва прасілі пісьменніка хутчэй надрукаваць працяг рамана. І. Мележ тактоўна і добразычліва тлумачыў, калі выйдзе наступны раман «хронікі», над чым ён зараз

працуе, і ўжо самым нецярплівым расказваў пра далейшы лёс Васіля, Ганны і інш. герояў твора.

І. Мележу прыходзілася адказваць чытачам і на тэмы больш сур'ёзныя: у якой ступені, напрыклад, у яго творах спалучаецца дакументальны матэрыял з мастацкай выдумкай, пра творчую гісторыю таго ці іншага рамана і інш.

Свае адносіны да перапіскі з чытачамі І. Мележ выказаў у кнізе публіцыстычных і крытычных артыкулаў «Жыццёвыя клопаты»: «Я вельмі даражу пісьмамі чытачоў. Берагу іх. Павінен сказаць, што большасць пісем хвалююць незвычайнай пачцівасцю і дабратой. Сардэчная падтрымка чытацкіх водгукаў кранае тым больш, што ідзе яна ад людзей зусім не знаёмых, нічым мне не абавязаных...

Добразычлівыя, сяброўскія заўвагі чытача заўсёды бярэш з удзячнасцю. А калі сустракаюцца пісьмы з глыбокім роздумам, пісьмы, за якімі адчуваюцца і вялікія веды і сур'ёзны погляд, гэта выклікае асаблівую ўдзячнасць. Такія пісьмы вучаць, узбагачаюць, узмацняюць патрабавальнасць да сябе» (с. 554-555).

Лісты І. Мележа да таварышаў маладосці — землякоў, аднапалчан — гэта яго «вяртанне ў маладосць». У кожным лісце прысутнічае душэўная цеплыня і хваляванне: «В моей жизни воспоминания о 70-м гвардейском полку — одни из самых волнующих, дорогих. Много было пережито в 70-м полку такого, что на всю жизнь вошло в сердце, что никогда не забудется». У лістах да землякоў выказваецца неадольнае жаданне часцей наведваць родную зямлю, узнаўляецца ў памяці пісьменніка роднае Глінішча, дзе ён нарадзіўся і вырас, «мілая далёкая маладосць». З ліста да Я. Смаленскага (6.VII.1966): «Очень приятно получить весточку от тебя, которая для меня прозвучала, как далёкий и милый голос нашей молодости. Мне очень дорого все, что было в те далёкие годы, и каждое напоминание будто возвращает — пусть на мгновение — туда, в ту жизнь, которая с каждым годом уходит все дальше».

Лісты да родных і блізкіх — да жонкі, дачок, цёшчы — насычаны лірызмам, цеплынёй, пяшчотай, бытавым клопатам, і сваім зместам яны нагадваюць дзённікавыя запісы. У іх спалучаюцца інтымныя перажыванні з паведамленнямі аб паўсядзённых справах, творчых планах, грамадскім і літаратурным жыцці, сустрэчах з рознымі людзьмі. Лісты гэтага цыкла багаты падрабязнай інфармацыяй пра паездкі па краіне і за мяжу, пра жыццё ў тым ці іншым санаторыі, бо як вядома, дрэнны стан здароўя вымушаў І. Мележа на працяглае лячэнне.

Эпісталярная спадчына І. Мележа — каштоўны матэрыял, які больш шырока раскрывае літаратурна-эстэтычныя погляды пісьменніка (удакладняе, канкрэтызуе погляды аўтара на мастацтва і яго грамадскую ідэйна-выхаваўчую ролю). Пішучы лісты, аўтар звычайна не разлічвае на іх публікацыю, акрамя лістоў-анкет. Гэтую асаблівасць трэба заўсёды мець на ўвазе, напрыклад, улічваць тое, што крытычныя заўвагі ў лістах пазбаўлены той часавай выверанасці, якая ўласціва друкаванаму крытычнаму слову. Па-другое, крытычная ацэнка ў лістах бывае празмерна завостранай, празмерна эмацыянальнай, нярэдка і аднабаковай, не пазбаўленай суб'ектыўнасці, што часцей за ўсё народжана канкрэтнымі абставінамі — бытавымі, творчым станам, станам здароўя, нядаўняй ацэнкай таго ці іншага твора ў друку, адносінамі з адрасатам на той час, калі пісаўся ліст, і г. д. Такім чынам, ацэначнаму слову ў жанры перапіскі нельга надаваць той катэгарычнасці, як слову, загадзя прызначанаму для друку. Тут патрэбен своеасаблівы падыход — шырокае супастаўленне з іншымі выказваннямі пісьменніка, каб устанавіць меру аб'ектыўнасці аўтарскай ацэнкі. Лісты дапамагаюць чытачу лепш зразумець і тыя моманты супярэчнасцей, якія часам узнікалі ва ўзаемаадносінах пісьменніка з літаратурнай крытыкай.

Эпісталярная спадчына І. Мележа па свайму зместу, стылю, па мастацкіх сродках, інтанацыйных адценнях можа разглядацца як асобны літаратурны жанр у яго творчасці. Некаторыя лісты — гэта сапраўдная мастацкая проза — ім уласціва глыбокая змястоўнасць, высокі пафас сацыяльнасці, грамадзянская заклапочанасць, нярэдка кампазіцыйная цэласнасць малюнка, лаканізм, выразнасць слова, паэтычнасць. Такія лісты можна з поўным правам ставіць у адзін рад з уласна-літаратурнымі творамі І. Мележа. Яны нясуць не толькі пазнавальную функцыю, але і эстэтычную (многія фрагменты лістоў І. Мележа — гэта завершаныя эскізы), адлюстроўваюць творчы і псіхалагічны настрой І. Мележа ў канкрэтныя моманты яго жыцця.

Эпісталярная спадчына Мележа — гэта перш за ўсё неафіцыйныя дакументы, якія даюць вельмі яскравае ўяўленне пра асобу І. Мележа — выдатнага чалавека, народнага пісьменніка БССР.

*Л. М. МАЗАНІК*

# 1945

1. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*30 верасня 1945, Ялта*

Минчане мои милые!

Вы, очевидно, уже заждались письма, а я все не пишу и не пишу. Не думайте, что я забыл в эти дни о Вас, я все время, каждую минуту вспоминаю Вас, мои родные. Просто, мне кажется, не было ничего такого особенного, а для того чтоб писать об обычном, необходимо больше впечатлений. Теперь, в 4-й день моей ялтинской жизни, я огляделся и уже могу кое о чем написать. Прежде всего — о дороге. Она была длительной и утомительной. Мы приехали в Ялту 27, ночью (выехал из Минска, как помните, 21). Теснота в вагонах была невыносимой, жара такая, что даже ветер, входящий в открытые окна, чувствовался мало. Но были в дороге и хорошие впечатления. Во-первых, я проезжал по тем местам, где воевал в 41 году. Было как-то странно смотреть, что здесь теперь мирная жизнь и, кажется, ничто не напоминает о боях, о смерти. Проезжали ночью эти места, но ночь была лунная и вдали можно было различить тот сад, в котором нас обстреливали, ту насыпь, по которой мы тащили под огнем вагоны. Это было около Запорожья. Во-вторых, было интересно, когда поезд подошел к местам, где я никогда не был — Сиваш, Чонгарский мост. Когда проезжали через Перекопский перешеек, по обеим сторонам невдалеке синею полосой тянулось море. Чонгарским мостом я был разочарован, я представлял километровый железный мост, а он оказался маленьким, невзрачным, ничуть не лучше тех, которые можно видеть повсюду на Свислочи. К Симферополю приехали, когда улсе начинало смеркаться (поезд опоздал: должен был по расписанию прибыть в 4 утра, а прибыл в 7 вечера — на 15 часов). Дорога от Симферополя до Ялты должна была пройти ночью, о чем мы очень жалели. Путь наш лежал через Алушту на Ялту. Дорога здесь гористая, крутые повороты, подъемы и спуски,— особенно от Алушты до Ялты. Однако, и ночью ехать было довольно интересно, особенно когда взошла луна. Около Алушты наш автобус поднялся высоко над морем, было немного страшновато. Когда машина, поднимаясь на высоту, остановилась и прокатилась несколько шагов назад, прямо похолодало внутри: что, как тормоза не выдержат и мы махнем с этой километровой высоты в море. Как водится, в такие минуты рассказывали о том, что здесь часто случаются аварии, когда откажут тормоза или шофер прозевает. Так что, очевидно, все пассажиры

ощущали себя так, словно шли на какой-либо героический подвиг. Один прямо умирал от каждого резкого поворота и стонал: «Он нас погубит... у меня сердце больное... это ведь не пассажиры, а больные...» Но приехали благополучно — в 2 часа ночи. Поплескались холодной водичкой, переоделись и завалились спать. Утром я поспешил послать телеграмму и побриться. Меня после Минска очень обрадовало обилие парикмахерских здесь, нигде не приходится ожидать. (Если бы так обстояло дело в Минске, клянусь, Лилечка, я бы никогда не колол твои щечки!) Затем бродил по городу, по набережной. Город небольшой, зеленый, немного разрушен, лежит на берегу моря. За городом начинаются горы — желтые скалы да рыжий тощий кустарник. Очень красива набережная, волны подходят к ее берегам. В бурные дни они с силой бросаются на камни набережной, разбиваются и, тысячами брызг взлетая вверх, осыпаются на набережную. В конце набережной пляж. Я появился на нем на третий день, потому что врач запретил купаться, можно схватить грипп. Вчера купались — Семкин и я. Вода в море теплая. Волны то поднимут на гребень пловца, то опустят вниз, и я порядком нахлебался отвратительной соленой похлебки. Едва отплевался после. У берега не успел я стать, как волна бросила на камни — немного расшиб колено. Теперь все хорошо — колено не болит. Вчера ходил в домик Чехова. Почему-то, ходя по комнатам, вспоминал нашу комнатку и наши с Лилей мечты на будущее. (Скоро ли придут эти времена.) После обеда на катере делали экскурсию в Алупку. С моря видел Ливадию, где заседала Крым.<ская> конференция и помещались американцы, Юсуповский дворец (помещалась советск.<ая> делегация). Были в парке Воронцовского дворца, из которого открываются чудесные виды на море. В парке много красивых аллеек, гротов, камней. Пожалуй, ничего подобного по красоте я еще не видел. Из Алупки (дворец Воронцова в Алупке) отправились на катере до Симеиза. С моря величественное впечатление производит самая высокая вершина Крыма — гора Ай-Петри. Высокие отвесные скалы поднимаются на 1200 метров. В горе на высоте — черная яма — пещера, в которой по преданию жил какой-то отшельник Петр. На обратном пути катер основательно качало — море разыгралось. Немало из пассажиров «поехало в Ригу». Я перенес хорошо. Это, пожалуй, самый хороший день изо всех здесь — в другие дни болтаемся по улицам, по базару, магазинам (пустым) и много скучаем. В санатории работа поставлена плохо, для того чтобы создать культурный отдых, ничего не делается. Вчера для развлечения ребята нашей комнаты совершили рейд в совхозный сад. Пригласили меня.

Операция прошла успешно <...>. Вот, пожалуй, и все, о чем хотелось написать. Что забыл, расскажу после, покажу — я купил несколько карточек с видами Ялты. Если говорить об общем впечатлении от поездки, то мне она нравится только лишь как интересная экскурсия. Много нового узнал, еще одно пятнышко на земле перестало быть для меня темным. Отдыха я, конечно, не получу хорошего, поправиться тоже не рассчитываю, судя по питанию. Написать придется немного, мешают ребята, да и сидеть не хочется — ведь надо многое увидеть, пока есть возможность. При всем этом меня тянет в Минск, к Вам. Беспокоюсь, получили ли Вы карточки, достаточно ли денег, как здоровье нашей маленькой Людочки? Может быть, я уеду раньше. После будет известно, потому что я здесь из Минска не один. Между прочим, здесь и жена Савицкого с дочкой. Есть студенты из некоторых минских институтов. Когда выеду, сообщу телеграммой.

До скорой встречи, милые мои мама, жена и дочурка!

Крепко, крепко обнимаю и целую тысячу раз.

Ваш курортник

30 сентября 1945 г. Ялта

## 1947

2. П. С, КАБЗАРЭЎСКАМУ

*Да 2 сакавіка 1947, Мінск*

Уважаемый тов. Кобзаревский!

В «Антологии белорусской новеллы» идут два моих рассказа. Один из них мне бы хотелось заменить. Если еще не поздно, прошу вместо рассказа «Пабыўка сержанта» включить «У завіруху», который я высылаю с настоящим письмом. Я об этом подумывал и раньше, но тов. Бенде, который одно время был в Минске, говорил, что Вы уехали в Крым.

Очень прошу извинить за беспокойство.

С уважением Іван Мележ.

P. S. Мой адрес: Минск, Дом правительства, ССП БССР, Мележу И.

3. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*18 красавіка 1947, Мінск*

Паважаны Яўген Сямёнавіч!

Калі я быў апошні раз у Вас, абяцаў выслаць Вам «Выбраныя творы» З. Бядулі. У магазінах гэтай кнігі не было, не аказалася яе і ў

бібліятэцы Дзярж.<аўнага> выд.<авецтва> Беларусі. Выпадкова ўдалося купіць у букіністыч.<ным> магазіне, і я неадкладна высылаю разам з гэтым пісьмом. Газету («Звязду» ці «Сов.<етскую> Бел.<оруссию>») не выпісаў, хоць два разы хадзіў на пошту — не застаў начальства, якое загадвае гэтым. Калі трэба будзе, зайду яшчэ раз. Напішыце. (Можа, вы самі як выпісалі?) У Мінску — такія-сякія навіны, якія Вам цікава будзе ведаць. Перш за ўсё — Міхась Ціханавіч канчае раман! «Полымя» ўжо адвяло патрэбную жылплошчу — нешта каля чатырох нумароў. Вы ведаеце, Паслядовіч скончыў аповесць «Цёплае дыханне»... Я напісаў апавяданне «Таварышы» — пра людзей, што вярнуліся з вайны (адзін з іх хваліцца заслугамі былымі, нічога не робіць). Чытаў у «Звяздзе», гаворaць правільна, добра. Думаю летам падрыхтаваць зборнічак апавяданняў «Гарачы жнівень», аркушы на 3,5. Хочацца хутчэй скончыць, бо з нецярплівасцю чакаю, калі вазьмуся за адну рэч, якая пакуль толькі ў задуме. Цісну Вашу руку

Іван Мележ Прывітанне Вашай жонцы і дачушцы!

4. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*27 мая 1947, Мінск*

Уважаемый Павел Семенович!

Обещание свое выполнил. Завтра со спокойной совестью улечу спасать своих стариков.

Подготовил исправленный вариант «Горячего августа». Не берись за голову, увидев поправки. Когда я чернил рассказ, думал о переводчике, которому это доставит новую работу, но зато я теперь спокоен — рассказ стал значительно лучше и «законченнее».

Думаю — в таком виде,— не стыдно показаться с ним и на берегах Невы? Не слишком ли самоуверенно, а?

Желаю всяческих успехов.

Іван Мележ 27/V-47 г.

5. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*19 ліпеня 1947. Мінск*

*19/VII-1947 г.*

Бродяга!

Сколько можно скитаться по свету— надо все ж знать совесть. Я тут болтаюсь по Минску, жду, вот, может быть, скоро вернется, остепенится, будет заниматься семьей, а она присылает открытку — выехали из Орджоникидзе. Ну разве ты не бессовестная! Погоди — приедешь, мало тебе не будет!<...>

Все же тебя интересует, видно, что я тут «мешкаю». Сборник «Гарачы жнівень» сдал, заключил договср (на 11 тыс.). Может быть, к концу этого года и выскочит, хотя, зная наше издательство, я мало надеюсь на это. Книга получилась по объему не маленькая, больше «Завірухі». Так что редактор даже сказал, что придется сократить объем, потому что у них строгий лимит на размер книг. Грошай еще не получил — в издат-ве не было. Получил стипендию до сентября, пенсию — так пробиваемся. Кл.<авдия> Ив.<ановна> самоотверженно мечется по базарам. Вообще, живем мы с ней без тебя дружно. Мама моя живет пока у нас, все ждет Юленьки, которая давно должна была приехать. А Юли нет, старая уже начала скучать по родине. Чувствует она себя хорошо — главное, что ей понравилось у нас — много рыбы. Ну, мы и подаем ее всегда. О Людмиле Ивановне пишу последней, потому что она ведет себя недостойно. Очень редко вспоминает свою непоседливую маму, да и то всегда в связи с яблоками. <...>

Мы все уже говорим о новой квартире. Дело в том, что настала наша очередь. Я был в нашей секции — квартиры хорошие, отдельные на одну семью, не то что у Брыля. Положили пол, отштукатурили. Работы уже немного, на недельку, но с нашими темпами хватит до 30-летия Октября. То-то будет два праздника!

Ну, вось і ўсё.

Абдымаем і цалуем папка і дочка

6. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*29 жніўня 1947, Масква*

Уважаемый Павел Семенович!

Прошу прощения за то, что беспокою Вас снова. Меня очень интересует судьба рассказа «Гарачы жнівень»,— был бы весьма благодарен, если бы Вы черканули пару строк — по адресу: Минск, ул. Кл. Цеткин, 17, кв. 12, Мележу.

Кстати — если не поздно и если возможно — я бы хотел изменить название — не «Спор», а «В одной семье». Это будет правильнее — потому что в рассказе ставится проблема коллектива, семьи.

В наст.<оящее> время нахожусь в Москве — проездом. Еду в Гагры — Дом творчества, на сентябрь. В Минске подготовил книгу послевоенных рассказов (4,5 листа).

Хотелось бы знать, как Ваши творческие успехи. Напишите.

С приветом — Ив. Мележ

P. S. Если с ответом не задержитесь — пишите: Гагра, Дом творчества литфонда СССР, мне.

7. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*2(?) верасня 1947, Гагра*

Дарагая жоначка!

Вот ужо трэці дзень я на новым месцы. Домік, у якім я цяпер жыву і пішу гэтыя радкі да цябе, маленькі прыгожы дамок, стаіць недалёка ад узбярэжжа Чорнага мора. Шум хваляў, які не ўціхае ні ўдзень ні ўночы, даходзіць сюды, урываецца ў вокны майго пакойчыка, як акампанемент гэтым радкам. Дамок наш стаіць у прыгожым месцы, паміж вялікага саду. Ад вуліцы растуць кіпарысы, некалькі бананавых дрэваў — вуліца ніжэй нашага дома, яе не відаць з-за зялёных галін, толькі сіняе або зялёнае (гледзячы па пагодзе) мора глядзіцца ў прасветліны між стваламі. За домам дарожка ўздымаецца крута ўвысь на гару між дрэвамі груш, інжыру, мандарынаў. Гэта наш сад. Я ўчора падымаўся па гэтай дарожцы, сад даволі вялікі, але палакаміцца ў ім нечым — вінаград ужо аб'елі папярэднікі, інжыр я не люблю, а мандарыны яшчэ не паспелі. У пакойчыку маім два ложкі — адзін мой, а другі — пустуе, бо ў доме адпачынку цяпер толькі палавіна саставу. Усяго цяпер адпачывае 15 чалавек, а патрэбна — 25. З дня на дзень тут чакаюць папаўнення. Жыццё тут вельмі ціхае — як у Глінішчах. Наш Дом размяшчаецца ў Новых Гаграх (Ахалі Гагра) — тут толькі два-тры дамы адпачынку і санаторыі, асноўная частка горада называецца Старыя Гагры — да іх кіламетраў пяць, там усе ўстановы, парк, кіно і т. п. Вельмі вялікім агарчэннем было для мяне акрыцце, што ў нашым Доме няма бібліятэкі. Мае папярэднікі аставілі пад ложкам часопіс «Октябрь» № 7, без вокладкі і без канца. Я накінуўся і цяпер чытаю — з сярэдзіны — працяг аднаго рамана. Пайду паспрабую нагрузіцца кніжкамі ў гарадской бібліятэцы, а то так скучнавата. З шамоўкай у нас няважна, гатовяць добра, смачна, але — малавата. Думаю купіць хлеба і падкрапляцца мінскім капчоным салам. Вінаграду тут многа і, мне здаецца,— не дарагі, 8-10 руб. кілаграм. Я ўжо кілаграмы два знішчыў, так што пачынаю непакоіцца за свой жывот. Але пакуль — нічога. Купіў персікаў, кавуна (арбуз). Учора загараў на моры — паўгадзіны для пачатку. Дома зірнуў У люстра — пачырванеў, як яблык, хоць і па-ранейшаму худы. Настрой у мяне скучнаваты. Я адзін наводшыбе. Астальная кампанія — масквічы, вядомыя пісьменнікі <...>, у іх свае думкі і размовы, а я адзін, як «единственный глаз у идущего к слепым человека». Учора прыехала жонка N — амаль увесь учарашні дзень спала. Сягоння пайшла на пошту абрадаваць свайго благавернага аб прыездзе ў Гагры.

За гэты час я трошкі пазнаёміўся з тым, хто едзе на курорты. Такіх, як я, тут нямнога, іншыя, асабліва ў такіх санаторыях, як наш, прыязджаюць, каб убіць час, распыліць грошы. Я адчуваю сябе часта прадстаўніком нейкага «ніза», адным з калгасных Іванаў. Пра грузін ты правільна казала. Тут іх вельмі многа ва ўсіх магазінах і санаторыях, ва ўсіх кутках гарадка.

Я скептычна гляджу на мой адпачынак. Хоць... усё было б добра і лёгка, каб ты была са мной. Былі б мы ўдваіх, і нідзе б мы не скучалі. А так цягне дамоў, на кожным кроку адчуваеш — што не хапае цябе. Чартоўка! Кожны раз, калі я без цябе, я пачынаю чуць — што без цябе я сам не свой, што мне для шчасця не хапае цябе.

І Людмілы Іванаўны не хапае. Я ёй купіў «каррандашы», у чамадане ляжаць. А яна, мусіць, і не ўспомніць пра папку, які паехаў у «Гагырр» па «каррандашы».

Крэпка, крэпка абдымаю ўсіх і цалую ў абедзве шчочкі, у носікі, у роцікі, у губкі і лобікі —

Ваня.

8. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*6 верасня 1947, Гагра*

Гагра, 4 верасня

Малая мая жоначка! Як ты пажываеш, хацеў бы я ведаць, у далёкім-далёкім Мінску? Можа, дзе-небудзь ходзіш па мінскай вуліцы з заклапочаным суровым выразам на твары, можа, гуляеш з бялявай шчабятухай, слухаеш яе бясконцыя расказы і роспыты? Хутка, спадзяюся, ад цябе атрымаю хоць кароценькую вестачку — недарма ж я шлю свае пісьмы авіяпоштаю!

А ў Гаграх — дождж. Я сяджу каля адчыненага акна, за якім дождж лапоча па лісцях інжыру і сліве, і пад яго шум думаю пра маіх малых мінчан. Толькі што скончыўся абед, увесь малюсенькі дамок наш дрыхне, толькі я адзін сяджу за столікам і калдую над гэтымі радкамі.

У нашым доме некаторыя перамены. Галоўная — прыехаў начальнік Літфонда СССР (для параўнання — Левін ва ўсесаюзным маштабе). Тут яго прыезда чакалі, падрыхтавалі кветкі, дырэктар Дома творчасці паехаў ноччу на вакзал у Сочы сустракаць. А пра «слана» і забыліся. Забылі пра пакой для жыцця. Прыехалі ў Дом, а пасяліцца недзе — усе пакоі заняты. Дырэктар ускочыў у пакой, адведзены для начальніка, а там спала пісьменніца, яна напужалася, думала — разбойнікі, у адной сарочцы выскачыла ў вакно. Увесь дом узняўся на ногі, адзін я ўмудрыўся спакойна праспаць гэтую ноч і

толькі раніцой даведаўся аб гэтай гістарычнай падзеі. Днём нам выдалі па шклянцы віна, згатовілі добры абед — так што ўсе браты-пісьменнікі жартавалі над стараннасцю начальства Дома. Адзін, падышоўшы да стала, здзіўлена ўскрыкнуў, потым сказаў: «Гэта, пэўна, для генерала нашага!»; сеўшы за стол пажартаваў зноў: «Што ж пакуль ён не прыйшоў, паспрабую пачаць генеральскага». З харчаваннем стала трохі лепей, хоць нельга сказаць, што вельмі ўжо добра. Ва ўсякім выпадку час да абеда не сцягваецца асабліва. Да таго ж я купіў кавалак хлеба (вельмі гадкага) і з салам падкрапляюся. Вінаград амаль ніколі не сходзіць са стала; цяпер я да яго адносіцца стаў раўнадушна.

У сувязі з прыездам начальніка я перамяніў пакой. У маім былым пакоі — начальства.— ён і яна,— а я ў суседнім, меншым,— адзін. Мне гэта нават лепей, таму што ніхто не перашкаджае. Праўда, скучна. Я табе пісаў — усе мае суседзі людзі вельмі салідныя, старыя, і я адчуваю сябе адзінокім. Вельмі шкадую, што няма цябе тут — удваіх мы ўсюды маглі б добра жыць! На наступны год трэба — што б ні было — выпраўляцца разам, а? Возьмем прыклад з Фрыдманаў — з новага года пачнём гаварыць і капіць грошы.

Ну, на гэтым пастаўлю кропку.

Адкладаю ручку ўбок і абдымаю да хруста костачак цябе, жоначка, і дачку.

9. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*14 верасня 1947, Гагра*

Гагра, 14 верасня 1947 г.

«Я думаю о тебе, особенно по утрам и вечерам. Твой образ является ко мне со светом и укачивает меня полусонного, когда я начинаю засыпать...»

Гэтыя словы — з пісем Флабэра, якія я чытаў сягоння. А мне здаецца, што яны напісаны не Флабэрам і не к Луізе Колэ, а к маленькай чарнамазай жанчынцы з вуліцы Клары Цэткін, к той, чый воблік усюды ідзе са мною — дзе б я ні быў, што б ні рабіў, ні думаў.

Праўда, калі гаварыць пра мяне, то я цябе ўсё-ткі ўспамінаю вечарам і ноччу больш за ўсё — тады, як астаюся адзін на адзін з сабою. Удзень лягчэй — амаль увесь час заняты чым-небудзь: то загараю, то абедаю, то снедаю, то сплю. Тым не менш і днём часта ўспамінаю і з сумам, што цябе няма побач. Асабліва калі што бачу харошае. Калі б ты была са мною, я б нічога не хацеў бы большага, я б не скучаў бы, не хандрыў бы.

Паехаў я сюды недарэмна. Ужо і цяпер адчуваю — паздаравеў. Гляну ў зеркала — морда чырвоная, як у індзейца з Амерыкі. Малярыя мая сядзіць паціхеньку недзе (калі сядзіць, бо, можа, яе і няма зусім — цьфу, цьфу, цьфу, каб не ўракнуць). Я цэлымі днямі валяюся на беразе каля нашага дома, кожны дзень разы два-тры купаюся ў моры і — што асабліва дзіўна — хаджу без галаўнога ўбора, з адкрытай лысінай цэлы дзень жаруся на сонцы — і галава не баліць. Можа, тут сонца другое, а можа, таму, што я паправіўся. Пра кілаграмы папраўкі не скажу, бо не весіўся ні ў пачатку адпачынку, ні цяпер. У нашай багадзельні няма вясоў.

Апетыт — харошы, кормяць, на жаль, няважна. Заўсёды астаецца запасная плошча ўнутры, якая вымушана пуставаць. Затое я яе стараюся запоўніць вінаградам — кожны дзень не менш кілаграма, а ў добрым настроі — і два. Добра, што ён вельмі дзяшовы, а то можна было б разарыцца.

Учора палучыў ад цябе пісьмо. Дазволь прыжаць цябе крэпка-крэпка і тысячу разоў за твае мілыя словы. Для мяне гэты лісток быў вялікай радасцю. Я ўжо тры разы ездзіў у Старыя Гагры — на пошту, думаў, што ты пасылаеш «до востребования». Палучыў адну аткрытку, а два разы апошніх — нічога не палучыў. Учора таксама вярнуўся з пошты з пустымі рукамі і раззлаваўся. А тут у сталовай на абедзе палучаю! Цэлае пасланне з ілюстрацыямі — і на сэрцы адлягло. Толькі ў другі раз пішы не вечарам, каб цемната не застаўляла цябе раней часу ставіць кропку. Добра?

Цалую цябе ў шчочкі, носік, губкі, шыйку, і Людмілу — таксама.

Крэпка, крэпка (хоць завочна) абдымаю.

Твой Іваньчык.

10. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*17 кастрычніка 1947, Мінск*

Минск, 17.10.47

Уважаемый Павел Семенович!

Простите, что беспокою Вас вторично. Может быть, это нескромно с моей стороны — не дождавшись ответа на первую открытку, беспокоить Вас снова. Но я все же стучусь к Вам. Меня весьма интересуют дела с нашей антологией (прозы). Л. Бенде говорит, что в редакции произвели основательную чистку. Кто же пострадал?.. Буду очень рад, если черкнете пару слов о судьбе моего «Гарачага жніўня». Вы говорили, что его тогда неплохо приняли, как теперь? Не отвергла ли его строгая рука редактора альманаха? Пару слов о нашей жизни. Вам, вероятно, уже известно, что Правление

обсуждало вопрос о переводе повести Последовича... В «Полымі» печатается роман Стаховича. Написано несколько новых пьес (Кучаром, Виткой и др.). Лыньков кончает роман. У меня в последние месяцы года — скорее всего в декабре — выйдет книжка рассказов.

Сейчас начал работать над повестью. Вот все.

Передайте привет мой Ел.<ене> Никол.<аевне> Верейской. Жду весточку.—

І. Мележ

# 1949

11. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*28 чэрвеня 1949. Маеры*

Здравствуйте, дорогая мама Лиля, дочушка Люда и Клавдия Ивановна!

Вот я и на новом месте. Доехал сюда без особых приключений, поездка была, можно сказать, интересной, я впервые увидел места, которые знал по книгам давно и которые были заочно мне знакомы. Я впервые увидел Вильню — город расположен в долине, среди живописных холмов, и в ясный день он казался очень красивым. Поезд (вагон наш) стоял на станции 6 часов, и я с одним знакомым по купе евреем, ходил по городу. Город очень старый, с кривыми узкими уличками, вначале даже разочаровал меня, Но потом, когда я увидел центральную улицу Гедымина, площадь и гору Гедымина, это впечатление рассеялось. Вильно красивый, живописный город, с исторической архитектурой. Совершенно как будто попадаешь в новый мир — после Минска, в нескольких часах езды. Если у нас всюду видно новое, то тут из каждого уголка глядит старина. Поезд из Вильно отправился на Ригу в II час., нас прицепили к составу Вильнюс — Рига. Все остальное время я проспал, проснувшись недалеко от места остановки. Утром был в Риге. Через 30 минут шел пригородный в направлении санатория, и я сразу сел в новый вагон. Так что Ригу я видел только из окна вагона, причем особенно запомнился переезд через Зап. Двину (по-латышски Даугаву), которая здесь широка, как Волга. Чтобы Вам это нагляднее передать, посылаю как иллюстрацию открытку — это Рига, какой она осталась в памяти. Говорят, очень красивый город. Я ее пока не видел. Пригороды красивые — очень напоминают собой белорусские пейзажи, но зелень здесь, пожалуй, еще гуще, да, кроме того, она перемежается и

разнообразится причудливыми крышами дач, ровными асфальтированными дорожками. Почти весь вчерашний день был занят разными формальностями, устройством, ознакомлением с местом.

Здесь я почувствовал себя немало разочарованным. Санаторий наш расположен в нескольких старых домиках-дачках, в них довольно грязно, как в плохой, из «Мертвых душ», гостинице. Обои какого-то ржавого невероятного цвета, в комнате низкие потолки, скошенная стена с одной стороны — нам, троим человекам, отвели мансарду на втором этаже. Нехороший запах. Я попробовал поругаться, но мне сказали, что и другие не лучше, и вообще уверяли, что все замечательно. Завтрак, обед — очень не понравились. Готовят плохо, невкусно, потом — за обедом надо ждать около часа, потому что не успевают подавать. Говорил с культработником, сказал, что плохи у них дела; он ответил, что за всю свою жизнь встретил такой плохой санаторий второй раз, первый — где-то в Башкирии лет пятнадцать. Теперь мне ясно, почему я легко достал сюда путевку <...>. Жаль, что погода по-прежнему хмурится. Вчера после обеда шел дождь почти все время, сегодня утром тучи и холодно. Если бы не холод и дождь, со всем прочим можно было бы как-то бороться. Но это ко всему — б-р-р. Неприятно мерзнуть и сидеть у моря, не имея возможности покупаться. А оно совсем недалеко. Синее, большое, волнистое. Сегодня утром мне прописали разные процедуры — ванны морские, теплые, электричество, порошки. Начинаю лечиться. Как дальше — посмотрим. Пишите. Обо всем дальнейшем буду сообщать.

Крепко, крепко обнимаю всех и целую

*— муж и папа Ваня.*

12. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*5 ліпеня. 1949, Маеры*

Здравствуй, милая женушка!

Сегодня ходил на почту, думал — от тебя весточку получу, но — увы, ни ответа, ни привета. Пойду завтра, послезавтра — очень хочется мне услышать от тебя хотя бы на бумаге пару родных слов. Завтра попытаюсь из Майори позвонить по телефону в Минск, может быть, утром — чтобы застать тебя в постели или хотя бы дома, потому что вечером это, очевидно, мало надежно. Как ты живешь? Что нового? С работой, видно, все по-старому, не беспокойся, отдыхай, а потом что-либо придумаем. О себе. Первое мрачное ощущение несколько прояснилось после того, как выглянуло солнце. После писем, которые я послал, еще один день был дождь — весь день беспрерывно, а потом выглянуло солнце и небо разгладило морщины,

засинело ласково. Было два солнечных дня — я по два, по три раза купался. Первый раз купался в холод, в дождь, не выдержал — на второй день, даже боялся, что простужусь. Но ничего — все прошло удачно. Почти каждый день хожу на разные процедуры — делаю все, что написали, чтобы поправиться. Морские ванны принимаю, лекарства. Особенно хорошо действует море, купание в море. Я чувствую себя гораздо лучше, чем прежде (за 7 дней!). Не знаю надолго ли? Каждый день с ребятами играю в волейбол — почувствовал в мышцах силу, стал собраннее, сильнее. Одно, что меня все еще беспокоит,— бессонница. Две ночи 30 и 1-го почти совсем не спал. 1-го утром в 5 часов купался в море один — после заснул. Здесь очень строгий режим — в 8 подъем, в 11 — отбой, врач ходит по палатам, проверяет — все ли дома. Дом запирают, и ключ остается у сестры. Как в казарме... Вот все. Жду весточки!

Крепко обнимаю тебя, милая моя, крепко-крепко и целую, а так же и Людочку — поклон Клавдии Ивановне!

Твой Иван

13. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*13 ліпеня 1949, Маеры*

Здравствуй, Лилюша!

Получил твое письмо. Хотел сегодня поговорить с тобой, но линия занята на несколько часов. Так что приходится отложить. Меня больше всего интересует денежный вопрос: чем окончились хлопоты с институтом? Хорошо, если бы они не подвели,— но из твоего письма видно, что надежды на их мало. В общем, как бы там ни было, хотя бы на несколько дней, надо приехать. Думаю, что будешь довольна — (конечно, жаль, что мало времени), ну, да ничего не поделаешь. А мне так хочется, чтобы ты побыла здесь!

Если не удастся с ин<ститу>том, одолжи руб. пятьсот хотя бы — у Т <...> или Елены Павловны, или понемногу у обеих. Я приеду, постараюсь рассчитаться — конечно, это очень скромная сумма здесь, но приходится считаться с возможностями. В будущем году мы подготовимся как следует, а теперь — как есть.

Я, может быть, позвоню в Союз, попрошу еще сколько-нибудь.

О результатах всего сообщу тебе на днях, как молено быстрее.

Крепко всех целую Иван

Доверенность может заверить в Союзе Ковалев или Аллер, они поставят и печать.

## 1950

14. М. П. ДАБРАТВОРСКАМУ

*10 лютага 1950, Мінск*

Уважаемый товарищ Добротворский!

Благодарю Вас за внимание к моему роману. Я, конечно, буду также благодарен за материалы, связанные с освобождением Минска, которые Вы обещаете прислать мне для ознакомления. Хотелось бы в связи с Вашим пожеланием сказать следующее: роман мой не столько документальный, сколько художественный: в нем действуют люди-типы, черты которых взяты из многих героев боев, у них фамилии изменены. Исключение я делаю только для немногих, самых выдающихся героев. Кроме того — в романе я рисую в основном действия солдат и офицеров 3-го Белорусского фронта. Высказав эти замечания, я теперь могу сказать, что все, что будет соответствовать моему замыслу, я постараюсь извлечь из Ваших материалов, чтобы Вы узнали если не своих знакомых, то своих собратьев по боям за Белоруссию. Шлите: Минск, Белорусская, 4, кв. 12 — Мележу И. П. Если приходилось встречаться с Черняховским, расскажите — буду рад.

С приветом Иван Мележ.

10/11-1950 г. Минск

## 1951

15. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*9 студзеня 1951, Форас*

Бесценные мои — мамочка, дочечка, Клавдия Ивановна!

Привет Вам из далекого Крыма от близкого Вам человека, из горной страны «Форос». Вот уже четвертый день я живу в этом «Форосе» и, наконец, начинаю свыкаться со своим положением, привыкать к здешнему солнцу, горам, процедурам надоедливым и уколам надоевшим.

Но, в общем, здесь не так уж плохо. Место прямо замечательное, красивое (куда до него Коктебелю!). Большой парк, горные дорожки, прямо в двух сотнях метров скалистая стремнина горы (выше Коктебельской), почти отвесно падающей к земле. Она справа от моего окна.

Сегодня ясный солнечный день — как у нас в сентябре или апреле. Я, кроме процедур, все сидел сегодня у раскрытого окна и правил перевод сборника, а теперь вот пишу письмо, мыслями уносясь к Вам, в Минск, Воздух чистый, бодрящий — прямо весна!

Да, здесь можно отдыхать и... работать! Сборник, во всяком случае, у меня подвигается.

О моей дороге. Выехал я 4-го из Москвы, самолетом, надеясь в тот же день быть в Севастополе. До Харькова летели хорошо — нас было 5 человек. Провожал меня на аэродром в Москве Карабутенко. В Харькове в самолет зашла девушка и, поздравив нас с прибытием в город, «обрадовала» сообщением, что дальше самолет не пойдет — «в Симферополе нет погоды». Берите чемоданчики. Как раз через 1,5 часа шел дальше поезд, но в аэропорту — ни одного такси, ни одной машины. К нам же — никакого внимания. Как хотите, добирайтесь. Короче — мы опоздали к поезду. Проклятый Харьков — вечно в нем торчать. Пришлось ночевать. В 11 час. утра — поезд в Симферополь. Заночевали с одним лейтенантом-курортником, товарищем по несчастью, в гостинице, в той, где мы когда-то обедали с Лилей. Утром в 6 ч.— звоню на аэродром. Самолет полетит дальше. Добрались сломя голову на аэродром. Спешили, конечно, зря — самолет задержался. Наконец, вылетели. Все-таки обгоним сухопутных! И снова — около Запорожья — тучи, самолет начал снижаться. Посадка. Ждем, надеемся, до вечера — авось в Симферополе будет погода и мы улетим. Все напрасно. Хочешь не хочешь, пришлось возвращаться на железную дорогу. На первый поезд — билетов нет, мы устроились только на второй, скорый: хорошо, что разница между ними только три часа. В Симферополе — 6 ч. утра — случайно группка 4 чел. на Севастополь. Я нашел их, когда они уже собирались ехать. На рассвете был в Севастополе. На вокзале нас уже ждала машина санатория. Обождали поезд — на который не удалось взять билетов, и поехали, усталые, в санаторий. Сюда я прибыл только 6-го.

Вот мои дорожные приключения.

Здесь мне пока нравится. Людей мало, когда я приехал — было всего 18 человек, теперь — около 35. Обстановка — простая, почти домашняя.

Тихо. Этот санаторий — совсем не то, что городские. Тут — тишина, покой, лень.

Кормежка хорошая. Не знаю, что буду делать с салом?

Присылайте мне газеты — «ЛІМ». Если где ругают, не шлите — зачем настроение портить? Обязательно пришлите 2-3 экз. «Мінскага напрамку». Те все разобрали в Москве — один в издательство взяли.

Привет всем и пожелание — здоровья, здоровья —

Ваш Иван

9/1 — 50 г.[1]

16. Л. Я. ПЯТРОВАЙ

*20 (?) студзеня 1951, Форас*

Дорогая моя женушка!

Не знаю, получила ли ты уже предыдущее письмо. Я вчера от тебя получил бандероль и хорошее милое письмецо, которое меня разволновало и забеспокоило, а также рисунок от Люды с посланием. Спасибо Вам за все — мне было очень радостно получить здесь, вдали от Вас, такое богатство.

Ты, наверно, обижаешься — что редко пишу. «Бездельник,— наверно, думаешь,— разленился, что и пару строк не найдет времени написать».

Как ты ошибаешься, если бы знала! Во-первых, я уже кое-что сделал: отредактировал, тщательнейшим образом исправил перевод (много поправок!) — целых 63 страницы и сегодня послал в Москву. (Из Москвы мне должны выслать еще 50 страниц, но я их пока не получил.)

День наш заполнен. Подъем в 8 час., градусники, температура, физзарядка, завтрак, после завтрака — так наз. клинический час — с 10—9-30 до 11 час. Надо лежать в постели и ждать врача, который выспрашивает жалобы. Затем процедуры: массаж минут 40, приемы врачей-консультантов и т. д. и т. п., с 2 до 3 — обед, с 3 до 5 — мертвый час, в который я иногда читаю. С 5 — разные уколы, светолечение (после полдника). Кстати, об уколах: мне назначили 25 уколов хлор, кальция под кожу (двадцать пять). Шесть я уже отстрадал, остается еще 19. Удовольствие не очень большое. Вечером здесь часто бывают танцы: причем танцуют нередко парень с парнем (наш санаторий наз. «мужским монастырем»). После ужина к/картины — старые, вроде «Свинарки и пастуха», и «Светлый путь» и т. п. Вчера был впервые концерт артистов из Ялты, которых чуть ли не носили на руках. В 11 ч, сестра выключает свет. Никакие бессонницы не признаются — мне часто приходится глотать порошки, чтоб уснуть.

Что здесь замечательно, так это море, и парк хорош. Я целыми днями (т. е. часами свободными) сижу где-либо на скале и читаю или правлю рукописи, слушая шумок волн и чувствуя ласковый южный ветерок.

---

[1] Трэба: 9/1-51 г.

Дни у нас стоят хорошие. Позавчера было около 12 тепла, вчера — 10, а сегодня, в пасмурный день,— 9. Немного моросит. Предсказывают, на будущее, заморозки небольшие — это хуже. Жаль, если погода испортится.

Скучаю по Вас. Хочется скорее вернуться обратно, но пока здесь придется быть еще много. Больше месяца.

Чувствую себя неплохо. Только вот не нравится, что кашель не проходит.

Ну вот все. Всего сразу не расскажешь, оставлю до следующего раза.

Крепко, крепко обнимаю всех и целую много раз —

Иван

Высылаю доверенность. Удивляюсь, почему Аллер требует ее: ведь мы договорились, что мы оформим все по моем приезде?

17. Л. І. МЕЛЕЖ

*22 студзеня 1951, Форас*

Здравствуй, моя милая дочушка!

Поздравляю тебя с днем рождения.

Ты уже большая — целых семь лет, и я тебе посы лаю письмо. Я очень скучаю по тебе и по маме и хочу скорее приехать обратно домой. Я очень жалею, что не могу быть на твоих именинах, принести и передать тебе подарочек, а также потягать тебя, мою большую девчурку, за ушки. Но когда я приеду, принесу подарок и за ушки также потягаю — обязательно!

Скоро будет лето, а потом осень, золотой сентябрь — и мы с мамой отправим тебя в школу. Купим книжек, тетрадей, пенал и сумку — и ты будешь учиться, чтобы быть грамотной и умной, Ты ведь будешь умницей, правда?

Твои письма и твои рисунки я получил и очень благодарю тебя. Большое спасибо за то, что ты мне пишешь.

Ты не споришь с мамкой? Мама писала, что ты стала умной, сама пришила даже пуговичку и зачесала золосы и привязала бант. Это очень хорошо, надо так делать всегда.

И рисовать тоже надо. Пусть мама купит тебе тетрадку, и ты рисуй — только старайся аккуратно,— когда я приеду, я хочу посмотреть, как ты научилась рисовать.

А как твое здоровье? Мамка писала, что ты кашляешь. Я очень боюсь за это. Смотри, не выходи в сырую погоду, а когда гуляешь на дворе — не раскрывай шеи и не дыши ртом.

Разам з тым, павінен адзначыць адданую работу многіх акцёраў, асабліва — Васіля, Ганны, Яўхіма, мо жа быць — Глушака. Мусіць, можна дадаць і асобныя меншыя вобразы як удачы. Дарэчы, акцёраў падбіраў я сам, разам з Э. Герасімовіч. Тут найбольш важнае ўдалося.

Аб далейшай працы над «Хронікай» пакуль што не кажыце нічога. Не трэба даваць абяцанняў, якія, можа, і не ўдасца спраўдзіць. Тут пакуль што — цёмны лес.

У Ялце пішацца мне кепска. Надвор'е ўвесь час ламаецца, многа дажджоў, адчуваю сябе пагана. Таму і пішацца цяжка.

А прывітанне гледачам перадайце. Абавязкова. Вітаю з радасцю!

Вітаю і Вас.

І. Мележ

P. S. Дарэчы, калі зможаце, скажыце Фаміну з маг.<азіна> «Палітыч.<ная> кніга», каб кнігі, заказаныя мной, трымаў да майго прыезду. Я буду 27 снежня.

І. М.

### 267. В. П. КАЗАЧЭНКУ

*Пасля 20 снежня 1971, Ялта*

Дарагі Васіль Паўлавіч!

Няхай у новым годзе табе добра пішацца і кіруецца і лёгка ходзіцца па кіеўскіх вуліцах і па сцежках з травой.

Шчасця, адным словам! Прывітанне Ірыне Сяргееўне, дзецям.

Твой Іван Мележ

### 268. Г. М. КРЫЛОВУ

*22 снежня 1971, Ялта*

Дорогой Георгий Николаевич!

Боевой артиллерийский привет на новый год! Пусть он будет годом успехов во всех направлениях, годом счастья!

И. Мележ Ялта, 22.XII.71 г.

### 269. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ

*22 снежня 1971, Ялта*

Дарагія дварышчанцы! Ад сэрца віншую ўсіх з Новым годам! Няхай ён будзе годам добрых і выдатных ураджаяў у полі, у класных журналах і дзённіках! Шчасця і радасці ўсім!

Прывітанне шле Вам таксама Чорнае мора, крымскія горы і кіпарысы!

Да Новага года я буду таксама дома, у Мінску.

Іван Мележ
22.XII.71 г. Ялта

270. С. Л. і З. І. ГУБАНАВЫМ

*23 снежня 1971, Ялта*

Дорогой Сидор Леонтьевич! Уважаемая Зинаида Губанова!

Примите мои поздравления на новый, 1972 год! Желаю Вам всяческого счастья в доме, крепкого здоровья, необходимого для счастья.

Через день уезжаю из Ялты домой, в Минск. Буду теперь в Минске. Адрес: Минск, 30, ул. Я. Купалы, 7, кв. 52.

Всего Вам хорошего!
23.XII.71 г. Иван Мележ

271. М. М. УЛАШЧЫКУ

*23 снежня 1971, Ялта*

Дарагі Мікалай Мікалаевіч!

Прыгожы малюнак справа, глыбока даследаваўшы, я вытлумачыў так: няхай не тухне прыгожы агеньчык творчасці, а шышкі не падаюць на Вашу галаву! Гэтага я ад душы жадаю Вам у новым, 1972-м! Найлепшыя пажаданні Наталлі Маркаўне!

Іван Мележ 23.XII.71 г. Ялта

272. П. М. ЯКАВЕНКУ

*23 снежня 1971, Ялта*

Паважаны Пётр Міхайлавіч!

Тое, што мяне не прынялі ў інстытут, гэта была несправядлівасць, парушэнне закона. Але я быў ціхі, сялянскі хлопец, я не ўмеў дабівацца сваіх правоў і вымушаны быў вярнуцца назад.

Са мной абышліся пагана, прыёмам загадваў тады адзін чорствы, нахабны тып. Ён і круціў як хацеў. А я дабівацца праўды ў вышэйшых установах не здагадаўся пайсці. Вясковы хлопец!

Прывітанне вучням. Добрага Вам новага года і здароўя!

Іван Мележ

273. Я. Л. СМАЛЕНСКАМУ

*27 снежня 1971, Ялта*

Дорогой Ефим!

Поздравляю с Новым годом! Будь здоров и молод, товарищ молодых лет, не старей душой!

Обнимаю — Иван Мележ 27.XII. Ялта

274. В. М. КАРПАВАЙ

*Канец снежня 1971, Ялта*

Дорогая Валентина Михайловна! Главная суть того, что я хотел бы сказать Вам в эти дни, формулируется так: Наилучшие Пожелания В Новом Году!

Но я лично выразил бы иначе: пусть жизнь Ваша в новом году горит так же ясно и красиво, как это изображено слева. Хорошего Нового года!

Иван Мележ

275. С. Я. ПАПОВУ

*Канец снежня 1971, Ялта*

Дорогой Степан Ефимович!

Примите самые лучшие пожелания от одного из артиллеристов незабываемого 70-го артполка, которому я благодарен и за то, что судьба меня свела, познакомила с Вами. Вспоминая Лиозно, с волнением говорю Вам: счастливого Вам нового года, новых радостей, новых встреч! Крепкого здоровья! Счастья семье Вашей!

Иван Мележ

## 1972

276. Ф. В. МАРОЗ

*18 студзеня 1972, Мінск*

Паважаная Франя Мароз!

Мой твор «Палеская хроніка» — мастацкі твор. Гэта значыць, што я ў ім не проста запісваў тое, што было, а рабіў абагульненні, ствараў новыя, характэрныя вобразы. Многія з маіх знаёмых, якія далі мне магчымасць напісаць вобразы герояў «Хронікі», жывуць, і я не ведаю, ці спадабаецца ім, калі іх будуць турбаваць. Тым больш што я пісаў раман з многіх людзей.

Лепш будзе, калі Вы завяжаце перапіску са школай у в. Глінішча Алексіцкага сельсавета Хойніцкага раёна,— гэта значыць, у тых мясцінах, дзе жылі героі рамана. Вучні і настаўнікі могуць напісаць Вам, як жылі там людзі раней. У гэтай школе я калісьці вучыўся.

Можаце асабіста таксама напісаць настаўніку Ярашу Міканору (Ярош Міканор), можа быць, ён напіша Вам што-небудзь цікавае. Вось усё.

Усяго Вам добрага!

Іван Мележ
18.1.72 г.

277. Г. С. ШУПЕНЬКУ

*18 студзеня 1972, Мінск*

Паважаны таварыш Шупенька Г. С.! Гэты ліст і знак на канверце (малінавыя птушкі) дае права Вам пазваніць мне і дамовіцца пра сустрэчу. Мой тэлефон: 22-33-80.

Недзе ад 24 да 27-28.1. я магу не адказаць Вам. Вельмі можа быць, што буду ў Маскве, на Пленуме СП.

Прыміце запэўненні... і г. д.

Іван Мележ 18.1.71 г.[12]

278. А. Ц. ГАНЧАРУ

*9 сакавіка 1972, Мінск*

Дорогой Олесь Терентійович!

Я дуже, безкінечно вдячний тобі за те, що ти зробив для мене і для моїх книг минулого місяця. Мені добре відомо, що «волею судеб» ти був головою цих важливих и, мабуть, тяжких засідань, і те, чим скінчилися ти засідання, багато каже моєму серцеві. Буду пам'ятати все життя.

Правда, відчуваю я себе не дуже впевнено, хоч тут мої прихильники і підняли з надією голови. Дуже ж серйозна конкурентка ця Та й не знаю я, чи був на засіданнях тов. Грибанов. Два роки тому він на Комітеті, мені передавали, сказав: «А зачем спешить? Пусть напишет дальше, закончит».

Хтось з моїх земляків — не знаю, з якою метою,— підкинув туди листа, що автор, мовби, маз ще писати роман. І за це дехто відразу вхопився, особливо Грибанов. Це мені дуже пошкодило, воно вимушує непокоїтись і тепер. Чи не виникне знов формальна зачіпка : мовби не скінчено.

Я думав над цим: мої романи, я вважаю це два скінчені твори (якщо вже так неодмінно треба додержуватися форми в літературі!). Тому мене трошкі занепокоюэ окреслення: романдилогія, чи не можна було б написати, скажімо, просто: романи. Тоди, здаэться мені, відпалі б всякі розмови про дилогії, трилогії, тим більше, що ніколи я свої книги не називав ні дилогіямі, ні трилогіями.

[12] Трэба: 18.1.72 г.

Це — все по-дружньому. Я довго думав про це, та все не наважувався написати. Розумію ж, це діло таке, що мені краще стояти в боку та мовчати. Але хочеться і мені слово мовити...

Дорогий друже, ще раз хочу сказати тобі: дякую! На все життя: дякую! Як там воно не буде: мені гріэ вже те, що ви там поки що зробили. Ваша ласка, дружба. Всі ми — «немножко лошади».

Будь дужий, міцний. Хай тобі багато і добре пишеться. І не суди строго мою українську мову: пишу нею майже вперше (хоч читаю так же легко, як на рідній). Хотив написати білоруською, та не був впевнений, що ти добре все зрозумієш.

Обіймаю — Іван Мележ

Посилаю книгу. Вибач, що — пізно. Довго хворів, та й тепер — недужий. Щось погано з бронхами...

I. M.

9.III.72 г.

279. Г. С. ШУПЕНЬКУ

*21 сакавіка 1972, Мінск*

Дарагі Генадзь!

Я з хваляваннем прачытаў твой ліст. Агідна ўсё тое, што зрабілі з тваім артыкулам ў «ЛіМе», і тое, што стаіць за ўсім гэтым <...>. Усё гэта гаворыць, што дабро павінна ваяваць за сябе, за літаратуру.

На жаль, мяшчане ад літаратуры вельмі актыўныя, ідуць у наступ адкрыта (ва ўсякім разе, не саромеюцца і вылазіць у бойку)! А многім добрым літаратарам нібы і клопату няма да ўсяго.

Ну, і мяне, канечне, уразіла агульнае маўчанне, што да майго «лёсу». І газет, і ўстаноў, і людзей — многіх маіх сяброў. Хоць бы хто варухнуўся! Такое на ўсё жыццё запомніцца мусіць. Толькі мы, мабыць, можам гэтак. Я вельмі ўдзячны Маскве — «Правде», «Лит. <ературной> газете», «Известиям». Многа званілі з Масквы,— з Мінска — ніводная душа. Вось як!

Не, няпраўда, званіў Матукоўскі. І вельмі ўдзячны я гэтаму слаўнаму чалавеку. Як парадавала мяне яго добрая ўвага.

Тым больш што я ляжаў з тэмпературай (запаленне лёгкіх) і чуў сябе так адзінока ў родным горадзе.

Я — скептык па-ранейшаму, настройваю сябе на горшае. Але калі б выйшла лепшае... тут і казаць няма чаго.

Усяго добрага!

Іван Мележ 21.111.72 г.

280. С. Я. ПАПОВУ

*Канец красавіка 1972, Мінск*

Глубокоуважаемый Степан Ефимович! От всего сердца поздравляю Вас с Маем! С волнением вспоминаю майские (в День Победы) встречи в Лиозно и жалею, что жизнь не позволяет встречаться чаще. Будьте счастливы! Счастья Вашей семье!

Иван Мележ

281. С. КОЛЕВУ

*19 мая 1972, Мінск*

Дарагі таварыш Светаслаў Колеў!

Атрымаў Ваша пісьмо і нумар газеты «Отечествен фронт» з Вашым артыкулам. Артыкул прачытаў з вялікай цікавасцю. Ад сэрца дзякую Вам за яго, за ўвагу да маёй творчасці.

Адно мяне здзівіла: Вы пішаце, што раман «Людзі на балоце» («Хора сред блатата») выйшаў на балгарскай мове, але я пра гэта не ведаў. Кнігі гэтай у мяне няма.

Пасылаю Вам кніжку пра маю творчасць.

З павагай да Вас Іван Мележ 19.5.72 г.
Мінск

282. О. А. ЙЫГІ

*23 мая 1972, Мінск*

Дарагі Олеў Адавіч!

Вельмі дзякую Вам за віншаванне з прысуджэннем мне Ленінскай прэміі! Мне вельмі прыемна было атрымаць добрае слова ад Вас, таварыша і друга, які так многа зрабіў для маіх раманаў у Эстоніі.

Сёння ў «Звяздзе» надрукавана заметка з матэрыялаў нашай Энцыклапедыі. Думаю, Вам цікава будзе даведацца, што пра Вас будзе надрукавана ў наступным томе Беларускай энцыклапедыі. Аб гэтым — на лістку, які я пасылаю з пісьмом.

Зычу Вам шчасця і радасці!

Ваш Іван Мележ 23.V.1972 г.
Мінск

283. К. М. СІМАНАВУ

*23 мая 1972, Мінск*

Дорогой Константин Михайлович!

Я сердечно признателен Вам за поздравления и добрые пожелания в связи с присуждением мне Ленинской премии.

Дружеский Ваш привет мне особенно дорог; давно, неизменно я уважаю Вас как большого писателя и большого человека, серьезно и глубоко раздумывающего над беспокойными проблемами нашей жизни и литературы.

Отчетливо понимая, что здесь не место углубляться в то необыкновенно широкое, сложное явление, которое есть Ваше творчество, не могу все же не отметить — как отличную, блестящую страничку его — речь на прошлом писательском съезде. Давно хотел сказать это, пожать Вам руку. Пользуюсь случаем теперь.

Не сомневаюсь в долгой и достойной жизни Ваших «Живых и мертвых». От всего сердца желаю им и Вам самых больших побед, надежного здоровья.

Ваш Иван Мележ
23.V.72 г.

284. Л. М. ТАЛКУНОВУ

*23 мая 1972, Мінск*

Уважаемый Лев Николаевич!

Позвольте от всего сердца поблагодарить Вас за поздравления, присланные мне в связи с присуждением Ленинской премии 1972 года.

Пользуясь случаем, не могу не отметить с благодарностью ту дружескую и весьма дорогую мне поддержку, которую оказали «Известия» во время обсуждения кандидатур на соискание премии. Должен — по долгу сердца — вообще отметить, что «Известия» много внимания уделяют жизни литератур народов Союза, в том числе — белорусской.

Не сомневаюсь, что благодарные чувства к «Известиям» испытывают многие советские писатели.

Примите самые лучшие пожелания Вам лично, руководимому Вами коллективу славных «Известий».

С уважением Иван Мележ
23.V. 72 г.

285. В. ЖЫДЛІЦКАМУ

*29 тая 1972, Мінск*

Дарагі Вацлаў,

Ад сэрца дзякую Вам за віншаванне з прысуджэннем мне прэміі.

Мы тут, сябры і знаёмыя Вашы, не раз успаміналі Вас, нашы сустрэчы ў Мінску і ў Празе. І не толькі мяне парадавала добрая вестка ад Вас.

Будзем спадзявацца на новыя, добрыя сустрэчы.

З таго часу як Вы былі ў нас, многа падзей прайшло праз нашу літаратуру. Многа зроблена, аб усім і не напісаць у адным лісце. Ды я думаю, што Вы сочыце за жыццём нашым па газеце, часопісах. І для Вас не навіна, што напісалі Адамчык ці Адамовіч, Чыгрынаў ці Пташнікаў. Адамовіч напісаў новы раман, які хутка вы прачытаеце ў часопісах Мінска і Масквы, а Чыгрынаў з поспехам дэбютаваў у новым жанры.

Больш за іншых зрабіў, мусіць, Іван Навуменка. Ён не толькі напісаў некалькі кніг і стаў доктарам навук, але ўжо — і член-карэспандэнт Акадэміі. Прычынены да раду «бессмяротных!».

Я пішу мала. Падрыхтаваў Збор твораў у 6 тамах, які ўжо выйшаў. Зрабіў некалькі дакладаў па важных пытаннях — апошні па праблемах крытыкі, на пленуме Саюза пісьменнікаў. Вучу іншых, а сам не пішу. Ці — мала пішу.

Але настроены аптымістычна. І думаю, хутка зноў вырвуся на прастор. Настрой такі ёсць.

Што да рамана («Людзі на балоце»), то я ведаю, што Вы яго прыхільнік і Вы ні пры чым, што ён ляжыць у Вас без руху. Дарэчы, я не ў крыўдзе: ён ужо вытрымаў каля 20 выданняў у нас і за рубяжом.

Я не люблю набівацца: у літаратуры ўсё робіцца любоўю. Але калі справа дойдзе да перакладу ў Вас, то я буду лічыць за шчасце мець такога перакладчыка, як Вы. Рад буду аддаць кнігу ў Вашы рукі.

Прыміце самыя лепшыя пажаданні Вам і Вашай сям'і!

З павагай — Іван Мележ 29.5.72 г.
Мінск

286. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ

*Май 1972, Мінск*

Дорогий Сашко!

Дуже дякую за поздоровлення з присудженням мені недостойному Ленінської премії, яку я вже не хочу, щоб у мене відібрали. Хтось сказав, що золота медаль непогано виглядає на мені!

Як що говорить серйозно, то вдячний я тоби не тільки за поздоровлення, але й за переклад, який ти, як хитрый дядько, здогадався зробити — та ще й надрукувати — дочасно. От же хитрюга!

Щось хочеться походити, погуляти по Києву (як згадав, так і захотілось ще більше). Як би це вибратись?

Привіт синиченкам.

Тебе — ще й обіймаю
Іван Мележ

287. С. КОЛЕВУ

*1 чэрвеня 1972, Мінск*

Дорогой друг Светослав Колев!

Книги «Хора сред блатата»[13] получил. Большое спасибо. Благодаря Вам впервые увидел свой роман на болгарском языке, подержал в руке. Желаю счастья! Жадаю шчасця!

Іван Мележ 1.VI.1972 г. Мінск

288. Б. Б. РАПАПОРТУ

*2 чэрвеня 1972, Мінск*

Дорогой Беня!

Большое спасибо тебе за поздравления в связи с присуждением мне Ленинской премии!

Желаю тебе крепкого здоровья, успехов и счастья! И молодости — в душе!

Твой Иван Мележ

289. Л. А. СУШЧАНКУ

*2 чэрвеня 1972, Мінск*

Дарагі Леанід!

Вельмі рады быў атрымаць ад цябе віншаванне з прысуджэннем прэміі!

Для мяне гэта — праўда — вялікая радасць, вялікая падзея. І я рад усім, хто парадаваўся са мною.

Мне дорага дружба твая, якая напамінае пра тыя далёкія часы, ад якіх ужо нямнога засталося і якія вельмі дарагія сэрцу.

Рад я, што Дворышча (і Людзвін!) помняць яшчэ мяне.

Рады я і таму, што школа не забывае. Нядаўна атрымаў я пісьмо ад 5«а» класа і фотакартку класа! Вялікае дзякуй усім за гэты падарунак, які крануў мяне да самага дна сэрца.

Вельмі хацеў бы прыехаць, але ўсё не ўдаецца.

Шчасце табе і ўсім, хто жыве там.

Іван Мележ

---

[13] «Людзі на балоце» (балг.)

290. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*2 чэрвеня 1972, Мінск*

Прашу перадаць шчырую падзяку ўсім сябрам, знаёмым і незнаёмым, якія падзялілі са мной радасць вялікай падзеі ў маім жыцці — прысуджэння Ленінскай прэміі 1972 года.

Іван Мележ

291. М. Я. і Ю. П. ВАНАГАМ

*3 чэрвеня 1972, Мінск*

Дорогие Милда Яновна и Юлий Петрович!

Я был рад, что Вы так хорошо, по-братски отозвались на счастье, что пожаловало в мой дом. Большое спасибо за поздравления, за щедрые пожелания.

Я всегда буду благодарен Вам, Юлий Петрович, за то, что Вы, безо всяких сопутствующих обстоятельств, заметили мои книги и так много сделали для их жизни в милой моему сердцу Латвии.

Счастья и радостей Вашему дому!

Ваш Иван Мележ
3.VI.72 г.

292. Ф. З. УВАРАВУ

*3 чэрвеня 1972, Мінск*

Уважаемый тов. Уваров!

Мне было приятно получить от Вас поздравление с Ленинской премией.

Большое спасибо Вам.

Желаю Вам хорошего здоровья и счастливой жизни!

Иван Мележ 3.VI.72 г.

293. Я. Л. СМАЛЕНСКАМУ

*21 чэрвеня 1972, Мінск*

Дорогой Ефим!

Мне очень приятно было получить поздравление от тебя — товарища далеких юных лет! Ведь нас навсегда связало лучшее время нашей жизни.

Спасибо тебе за память!

Желаю тебе хорошей, счастливой жизни! Счастья твоей семье!

Теой Иван Мележ

294. Н. М. ДАНІЛЕНЦЫ

*9 жніўня 1972, Мінск*

Паважаная Надзея Міхайлаўна! Прабачце, што адказваю Вам з такім спазненнем. Я сапраўды ў гэтым годзе страшэнна заняты, а лістоў — багата.

Мне цяжка адказваць на пытанне пра пераклады. Вядома, у перакладах многае траціцца. Асабліва, як ні дзіўна, нават пры вельмі добрай рабоце перакладчыкаў, багата трацяць пераклады з беларускай мовы! Але далёка не ўсе перакладчыкі старанна і адказна перакладаюць, Аўтарызацыя перакладаў для мяне — заўсёды пакута.

Я не хачу даваць ацэнкі гэтым перакладам,— больш правільна, не магу. Там ёсць адзнака «аўтарызаваны»... Я думаю, што з гэтай адзнакай Вы самі справіцеся.

Што да другога пытання, раманы «Хронікі» перакладаліся на: рускую, украінскую, малдаўскую, эстонскую, латышскую, фінскую, польскую, румынскую, балгарскую; фрагментамі друкаваліся — на французскай і іспанскай. Урыўкі — на многіх іншых мовах.

Ці не дачка Вы, дарэчы, нашага паважанага пісьменніка Міхася Даніленкі? Калі так — прывітанне яму...

Жадаю Вам поспехаў у аспірантуры і жыцці!

Іван Мележ 9.VIII.72 г.

295. С. КОЛЕВУ

*9 жніўня 1972, Мінск*

Дорогой Светослав Колев!

Я бесконечно благодарен Вам за все, что Вы сделали. Я благодарен за Вашу дружбу.

Получил я книги, журнал «Лик», газеты «Литературен фронт», «Отеч.<ествен> фронт». Вы такой прекрасный человек, что я вижу это и через расстояние, которое разделяет Белоруссию и Болгарию.

Вы не обижайтесь на меня, что я отвечаю Вам не сразу. Я болел немного и очень был занят, трудное у меня это лето. Трудное и счастливое: недавно мне присвоили звание народного писателя Белоруссии. Это у нас самое высокое звание, которое присваивают писателю. Так что я счастлив.

Но и очень занят. Так что Вы не обижайтесь, что я отвечаю немного поздно.

Вместе с этим письмом я посылаю Вам две бандероли с книгами. Одна — альбом о Минске, вторая — с моими книгами.

Я посылаю две книги. Одну на белорусском языке, вторую на русском. Чтобы Вы могли контролировать свой перевод. В русской

книжечке, мне кажется, хорошие рассказы. Можете выбирать из них, не обязательно «На перекрестке». Я, например, люблю рассказ «В метель» и «В горах дожди». Мне кажется даже, что они — лучше.

А в общем, я буду рад, если Вы переведете любой рассказ.

И я повторяю, рад Вашему дружескому вниманию.

Жму Вам руку дружески.

Иван Мележ 9.VIII.72 г. Минск

296. Н. Е. КАПШУК

*26 лістапада 1972, Масква*

Шановна Наталя Кащук!

Я дуже був радий одержати від Вас листа, який показав мені ще раз, що Ви — гарна людина і навіть те, що тижні літератур і заплановані літзустрічі — річ корисна. Дякую Вам за добре Ваше серце і вдячний глибоко, спішаюсь першим поздоровити Вас з Новим роком! Хай він буде для Вас добрим та щасливим!

Сьогодні послав Вам наш журнал, у якому Ви «запечатлены» поряд зі струнким Закруткіним і який, сподіваюсь, нагадає Вам наше, вясе минуле літо, наш Мінськ та наші дуби над Ньоманом.

Я — в Москві. Тількі що здав стару, переписану наполовину книгу — роман. Звідси і шлю Вам, Києву мій сердечний привіт.

Іван Мележ

Здається, дуже багато помилок в моëі українській мові? Але сподіваюсь, що даруете іх за мою сміливість (у галузі мови).

297. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЧОРНОМОРСЬКА КОМУНА»

*17 снежня 1972, Мінск*

У меня также сохранился этот снимок. Одно из немногих, волнующих напоминаний о тех днях. Когда я смотрю на эту фотокарточку, мне вспоминается метельная, холодная зима 42 года, долгий путь — где пешком, где на попутной машине — из-под Барвенкова в Каменск, город в донских степях. Вспоминаю необычно, оглушающе тихие улицы, казармы, полные оживленного движения, голосов сержантов и заместителей политруков, съехавшихся со всего Южного фронта. Не могу забыть сосредоточенную тишину в учебных классах, простор степи за городскими окраинами, над которой все чаще и все теплее синело небо. Помню, как чернели снега и обнажалась жухлая, милая трава. Радовал глаза вид весенней, ласковой земли... По целым дням мы были в поле, все дни в степи — на занятиях. Учебный курс был плотно сжат: на все, ради чего нас направили сюда, было отпущено два месяца.

На курсах я был избран парторгом роты. Видно, этому я обязан тому, что на снимке занимаю почетное место в первом ряду, в средине. Глядя на этот снимок, я вспоминаю живые, незабываемые лица товарищей по курсам. Справа и слева от меня — Губанов и Буша, во втором ряду — Пономарев, Чугунов, Сахно, Икрамов, Квасница. Видя их, я каждый раз задаю себе один и тот тревожащий душу вопрос: где они, мои фронтовые друзья, как сложилась их военная судьба, какими были их пути?

Снимок был сделан, насколько помню, в конце апреля. В начале мая мы разъехались. Какое-то малое время некоторые из нас, в том числе и я, находились в резерве политуправления Южного фронта, в Ворошиловграде, потом уже из политотдела армии я выезжал со специальным заданием на передний край. Примерно в середине мая я получил назначение — в редакцию 51 стрелковой дивизии, державшей оборону под Изюмом.

Служба моя здесь оказалась очень недолгой, вскоре я был тяжело ранен, отправлен в госпиталь. В военном госпитале в Тбилиси завершилась моя фронтовая дорога. Меня демобилизовали. Надо было начинать новую жизнь...

Все годы среди других фронтовых товарищей вспоминал я о тех, кто снят на фотокарточке. Щемящий вопрос: что с ними было? — оставался без ответа. И только год назад отозвался — из Котовска — один из товарищей моих — Семен[14] Губанов. Он прошел большой и славный путь, от трудных дней лета сорок второго года до Победы. Меня глубоко взволновал его отклик — первый и пока единственный отклик от тех, кто был снят в группке курсантов в далекие, но памятные на всю жизнь апрельские дни сорок второго года.

Иван Мележ 17.XII.72 г.

### 298. В. І. КУДРЫЦКАМУ

*25 снежня 1972, Мінск*

Дорогой друг!

С Новым годом тебя и твою семью! Будь счастлив. Поскольку счастье начинается со здоровья — крепкого здоровья!

Иван Мележ

### 299. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ

*25 снежня 1972, Мінск*

25.XII.72 г.

---

[14] Трэба: Сидор.

Мінск

Дарагія таварышы, шлю Вам з Мінска — у Дворышча, у школу Вашу прывітанне і пажаданне: няхай гэты год будзе шчаслівы для ўсіх Вас! Добрых і выдатных адзнак Вам у школе, настойлівасці ў вучобе, вясёлых хвілін у вольны час!

Ваш зямляк Іван Мележ

# 1973

300. В. М. ЛАМАНАВУ

2 студзеня 1973, Мінск

Уважаемый Виталий Михайлович! Я внимательно и требовательно прочел интервью. Мне кажется, 1-ю часть надо разделить на части и связать Вашими вопросами. (Как оно, помнится, и было, когда мы беседовали.) Так будет разговор естественнее и живее. У Вас 1-я часть получилась громоздкой и разнослойной.

Все остальное, кажется, не нуждается в пояснениях.

Прошу все поправки учесть.

Буду благодарен, если экземпляр с поправками — после перепечатки — вернете. На всякий случай,— может, мне пригодится потом.

Подпись моя — виза — на последней странице. Чтобы Вы могли прикрепить к перепечатанному тексту.

И. Мележ 2.1.73 г.

P. S. Заголовок: надо посоветоваться в редакции. Не знаю, какие заголовки были у них прежде.

И. М.

301. В. М. ЛАМАНАВУ

*7 сакавіка 1973, Мінск*

Уважаемый Виталий Михайлович! Посылаю верстку. Проследите, чтобы исправления были перенесены: я прочитал внимательно и, как обычно, придирчиво.

Надеюсь, что все это придет к Вам и в срок, т. е.— не потеряется и не задержится.

Немного задержал, потому что болел. Так что есть оправдание.

Людмиле Николаевне привет и поздравления с 8 Марта. (Сегодня — 7-ое!)

И. Мележ

7.III.73 г.

Интервью для «Лит.<ературной> России» дать не смогу: к такому разговору не готов. Да и со здоровьем плохо: болею еще...

302. У. П. КАТЛЯРЧУКУ

*16 сакавіка 1973, Мінск*

Дорогой земляк

Владимир Павлович!

Прошу не обижаться на меня, что отвечаю так поздно. Дело в том, что я заболел, долго лежал в больнице. А перед этим был в отъезде.

Я прочитал Ваши стихи, и должен откровенно сказать, что написаны они неграмотно, а неграмотные стихи ни одна газета не печатает. Даже грамотные стихи печатаются не все, а только самые интересные.

У вас мало образования, чтобы стать писателем. Но вы не огорчайтесь. Не обязательно писать стихи, чтоб печататься. Многие пишут стихи для себя, даже академики, большие ученые.

Всего Вам хорошего!

Ваш земляк Іван Мележ 16.III.73 г.

303. Ф. І. КУЛЯШОВУ

*18 чэрвеня 1973, Мінск*

ТЭЛЕГРАМА

Дорогой Федор Иванович В этот большой день Вашей жизни позвольте выразить Вам чувства глубокого уважения и признательности за все что вы сделали за столь краткий миг истории Я глубоко уважаю Вас как талантливого исследователя литературы человека острой и пытливой мысли литератора огромных всесторонних познаний и интересов Ваш путь от беспризорника детдомовца к высотам культуры — это путь которым можно гордиться.

Иван Мележ:

304. В. М. ЛАМАНАВУ

*23 ліпеня 1973, Мінск*

Дорогой Виталий Михайлович!

Бандероли с журналом («В мире книг») получил. Прочитал.

Благодарю за все.

Желаю Вам больших успехов в журналистских и житейских заботах.

Самые добрые пожелания Людмиле Никол.<аевне>!

Ваш И. Мележ

305. К. А. ЧАРНЯЦЭВІЧУ

*12 жнiйня 1973, Мiнск*

Уважаемый товарищ Чернятевич!

Извините, что отвечаю с некоторым опозданием.

Меня трогает сердечно, что Вы так внимательно следите за моим творчеством, так хорошо приняли «Полесскую хронику», вдумчиво прочитали статьи.

Я глубоко уважаю тех, кто по-настоящему любит книгу. Я ведь сам умею ценить хорошую книгу и стараюсь не упустить ее.

Что касается Ваших вопросов, то могу лишь сказать — в ближайшее время «С.<оветский> п.<исатель> » выпустит в свет мой первый — большой — роман «Минское направление». Выйдет он в новой редакции, значительно дополненным.

О Собрании сочинений сказать Вам ничего определенного не могу. Где-то на какое-то неопределенное будущее,— по неопределенным тоже — сведениям якобы планируется такое издание. Но, по-моему, все это пока очень ненадежно. Хотя я, конечно, был бы рад такому изданию. Ведь, кроме романов, у меня немало других вещей, почти неизвестных читателю.

На этом разрешите закончить это короткое послание... Дела поджимают.

Всего Вам хорошего! Самые добрые пожелания Вашей жене, семье! 12.VIII.73 г.

И. Мележ

306. В. Д. АСКОЦКАМУ

*29 снежня 1973, Мiнск*

Дорогой Валентин Дмитриевич, хорошего нового года тебе, всяких радостей. И крепкой памяти о друзьях, которые где-то далеко, в Минске... Только что из санатория.

И. Мележ 29.XII.73 г.

# 1974

307. А. А. КУЛЯШОВУ

*5 лютага 1974, Мiнск*

Дарагi Аркадзь Аляксандравiч!

У гэты дзень, калi ты, мусiць, з узрушэннем азiраешся назад, на такую, здаецца, кароткую дарогу, якая ўвабрала ў сябе, аднак, амаль

паўстагоддзя творчага неспакою, я хачу сказаць табе (карыстаючыся юбілеем), што гэта — дарога, вартая павагі людзей, народа, што гэта дарога — выдатнага паэта, які ўзняў паэтычную славу свайго народа так, што яна бачна і ўсёй краіне, і цэламу свету; што гэта дарога чалавека, якім можна ганарыцца і прыкладу якога можна следаваць.

Адчуваючы, што магу (не без падстаў!) паддацца патэтычнай (вельмі шчырай) рыторыцы, я, бачачы твае пранікліўыя, разумныя вочы, хачу адно сказаць, карыстаючыся словамі А. Міронава: «Так держать!» Дадам да гэтага: што да будучыні, у мяне выклікае заклапочанасць толькі адно: далікатная і не заўсёды, на жаль, прыхільная да нас асоба — здароўе. Няхай яна заўсёды верна і з любоўю крочыць з табою, паможа зрабіць тое, што задумана і што — задумаецца...

Шчасця табе, тваёй паэтычнай ніве, твайму дому!

Іван Мележ 5.11.74 г.

308. В. ЖЫДЛІЦКАМУ

*16 лютага 1974, Мінск*

Дарагі Вацлаў, перш за ўсё прашу прабачыць, што так доўга не пісаў табе. (Хоць многа разоў збіраўся.) Прычынай таму — вельмі напружаны мінулы год (вясна і лета). За вясну і лета я падрыхтаваў да выдання новую рэдакцыю рамана «Мінскі напрамак», які дадаткова забраў некалькі гадоў; збольшага падрыхтаваў том крытыкі і публіцыстыкі (гады 1946-1973). Восенню ў Алма-Аце, у Казахстане, я трапіў у бальніцу з гіпертанічным крызам і катарам. І з таго часу, з невялікімі перапынкамі, то лячуся, то адпачываю (ад лячэння), нічога светлага (што да здароўя) не бачыцца мне наперадзе. Адно цешыць, што і раман, і том крытыкі ў выдавецтве, і клопат гэты ўжо не гняце мяне.

З дамамі Вашымі (выдавецкімі) была сустрэча ў СПБ, і я гаварыў адкрыта і «нелицеприятно» пра нашы выдавецкія адносіны. Яны згаджаліся, а што ў выніку з гэтага будзе — не ведаю. Я стаў устойлівым (непахісным) скептыкам, і неяк слаба верыцца ў перамены. Ды, шчыра сказаць, пасля таго шматгадовага ледзянога холаду не надта і хочацца выдавацца. Тым больш што ў цэлым, у іншых краінах — было столькі добрага, ласкавага. Асабліва цёплыя павевы былі ў апошнія гады з Балгарыі, у якой я ніколі не быў і — ці буду калі? Змяніліся на добрае нашы адносіны з польскімі таварышамі, якія цяпер сталі проста выдатнымі. Праўда, прыйшла першая ластаўка і з Браціславы — кніга апавяданняў (ад Бядулі да Б. Сачанкі). Але як далей пойдзе?

На гэтым — спынюся. Пісаць пра такое больш не хочацца. Турбуе цяпер мяне найбольш — здароўе. Трэба будзе клапаціцца пра яго больш, як дасюль. Не зусім ясныя мне тут, на жаль, «далягляды»...

З-за здароўя іду са службы. Буду вольным рамеснікам. Спадзяюся на лета...

Дзякую за шчодрыя пажаданні на новы год. Зычу і табе самага лепшага (дадаючы разам: каб яно ўсё збылося!).

Іван Мележ 16.11.74. Мінск

309. А. М. СТАТКЕВІЧУ

*17 лютага 1974, Мінск*

Паважаны тав. Сташкевіч!

Я атрымаў Ваш ліст.

1. Раман «За асакою бераг» я не закончыў, хоць ён часткова напісаны. Я адлажыў яго і апошнія гады працаваў над раманам «Мінскі напрамак», які я значна паправіў і дапісаў. Раман у дзвюх кнігах павінен неўзабаве выйсці ў выдавецтве.

2. Урыўкі з раманаў «Людзі на балоце» і «Подых нав.<альніцы>», я думаю, Вы самі з поспехам падбярэце.

3. Вёска Курані ёсць на свеце, але называецца яна інакш.

4. І. П. Шамякіну можна пісаць на Саюз пісьменнікаў (Мінск, 30, Саюз пісьменнікаў).

Іван Мележ 17.2.74

310. А. М. ЖАБІНУ

*20 лютага 1974, Мінск*

Дорогой Александр Михайлович! Вы спрашиваете, будет ли продолжение у романов «Люди на болоте» и «Дыхание грозы».

Думаю написать продолжение. Уже начал писать. Но выйдет это из печати не раньше чем через 3-4 года.

Всего хорошего! И. Мележ 20.11.74 г.

311. У. М. ШПІТАЛЬНІКУ

*20 лютага 1974, Мінск*

Дорогой Владимир Маркович!

С большим волнением прочитал я твое письмо. Оно напомнило мне такую далекую жизнь, которая теперь видится словно в тумане. Подумать только: 36 лет, да еще таких лет! Целая вечность такой, заполненной множеством событий жизни.

Хойники той поры я помню и вспоминаю как одну из самых лучших пор моей жизни. И каждый голос оттуда, из той жизни, мне,

конечно, очень дорог. Нас ведь так мало осталось, молодых людей той поры!

Я буду рад встретиться, вспомнить о тех днях, о товарищах тех лет. Думаю, летом побывать в родных краях, тогда обязательно заеду к тебе, поговорим, погрустим. Очень обо многом надо бы поговорить, вспомнить.

Я теперь болею, плохо чувствую себя. Поэтому буду краток, да и все равно всего не напишешь. Встретимся, поговорим.

Всего тебе хорошего! Приветы твоей семье!

Иван Мележ 20.11.74 г.
Минск

312. К. А. ЛЫСЕНКУ

*27 сакавіка 1974, Мінск*

Дорогой Кирилл Антонович!

Ваше письмо взволновало меня и заставило меня возвратиться к далеким предвоенным и военным годам. Вспомнить Розлуч, Турку, 298-й артполк, 192-ю горностр.<елковую> дивизию. То, что не забывается и не забудется, только иногда отодвигаясь в глубь памяти. Вспомнил я и трагедию на реке Самарке, о которой мне рассказывали те, кто вырвался тогда из этого ада. Я тогда был уже в другом полку...

Я рад, что Вам на войне повезло, что Вы остались живы, пройдя через всю войну. Я воевал недолго. В новом полку я был до февраля 1942 года, потом меня послали на курсы политсостава фронта. Это меня спасло от гибели, потому что в то время, как я учился, полк попал в Изюм-Барвенковское окружение и почти целиком погиб. Спаслось только немного работников штаба. Но в июне 1942 года меня ранило, и в Тбилиси осенью того же года меня демобилизовали. Я работал военруком, заочно учился — сначала в институте, потом в университете, который окончил осенью 1945 года. Тогда же, в госпитале и после него, я начал писать, работа, которой я занимаюсь всю последующую жизнь.

С этим письмом посылаю два последних своих романа — десять лет моей жизни, почти ежедневных трудов. Почитайте, они, мне кажется, больше расскалсут обо мне, чем длинное письмо.

На этом кончаю.

Всего хорошего Вам и Вашей семье! Самых больших успехов Вашему делу.

Иван Мележ 27.III.74 г. Минск

313. Ю. А. ПЯТРОВУ

*22 чэрвеня 1974, Мінск*

Уважаемый Юрий Александрович!

Посылаю Вам книгу, фото и биографию, написанную профессором Ф. Кулешовым.

Больше у меня ничего нет. Писать биографию некогда.

Через два часа улетаю в Крым, в санаторий.

Встретить не мог, так как в настоящее время живу не в городе.

С приветом —

И. Мележ 22.VI.74 г.

314. У. М. ШПІТАЛЬНІКУ

*Чэрвень ці ліпень 1974, Ждановічы*

Дорогой Владимир Маркович!

Спасибо за поздравление!

Извините, что отвечаю с опозданием. Желаю и Вам всего доброго.

Я живу теперь не в городе, на даче. Это — в районе Жданович, туда ходит автобус. Поселок мой против Дома отдыха «Беларусь», дача № 19. Телефон в гор. 22-33-80.

Если будет время, приезжайте. Встречу Вас.

И. Мележ

Автобус идет от вокзала. Надо ехать за Ждановичи, за мост на речке. До развилки.

315. С. КОЛЕВУ

*16 жнiўня 1974, Мінск*

Дорогой Светослав Колев!

Я получил бандероль, посланную Вами,— роман «Дыхание грозы» на болгарском языке.

Вы принесли радость в мой дом — я, конечно, очень доволен, что вторая моя книга издана в милой сердцу моему Болгарии. Беспокоюсь только о том, как понравится она у Вас — ведь книга эта серьезная, требует серьезного читателя. Она нелегко читается.

Жаль, Вы ничего не написали о себе. Что у Вас нового? Как Вы отнесетесь к тому, если я Вам тоже вышлю бандероль? Свою книгу на белорусском? Всего доброго!

И. Мележ 16.VIII.74 г. Минск

316. Л. І. МЕЛЕЖ

*4 лістапада 1974, Місхор*

Мілая Ларыса наша!

Віншуем цябе і бабушку са святам! Мы рады, што ты добра вучышся!

Будзь здаровая і шчаслівая!

Папа, мама

317. Ю. ЛАУРУШАСУ

*19 лістапада 1974, Мінск*

Минск, 19.XI.74 г.

Уважаемый тов. Лаўрушас!

Мое знакомство с А. Гудайтисом-Гузявичюсом было хотя и дружественным, но все же, к сожалению, слишком отрывочным и поверхностным.

У меня такое впечатление, что то был большой писатель, умный и сердечный человек, значительная личность, но у меня нет таких ярких, а главное личных наблюдений, которые могли бы послужить для серьезных воспоминаний.

Поэтому я, к сожалению, не смогу выступить в Вашем сборнике с воспоминаниями об А. ГудайтисеГузявичюсе.

С уважением И. Мележ

318. В. ЖЫДЛІЦКАМУ

*24 лістапада 1974, Мінск*

Паважаны Вацлаў Жыдліцкі, я доўгі час не быў у Мінску, вярнуўся толькі некалькі дзён назад, таму адказваю з такім спазненнем.

Разам з тваім пісьмом прыйшло да мяне пісьмо ад д-ра Міраслава Драпала з выд-ва «Праца», у гэтым пісьме ён паведамляе, што выд-ва мае намер выдаць мой раман («Людзі на балоце») у 1976 годзе, у адной з серый. Відаць, таму, што названы і год і серыя, на гэты раз выд-ва вядзе размову, да якой трэба паставіцца мне з сур'ёзнасцю і давер'ем.

Я толькі што напісаў адказ д-ру Драпалу. У гэтым пісьме я напісаў, што спадзяюся, што пераклад рамана будзе зроблены з арыгінала.

Наогул павінен сказаць, што гэта доўгая гісторыя з выданнем рамана мне даволі-такі надакучыла. І непрыемная яна мне, і незразумелая.

Але — аб справе. Я, вядома, згодны, каб за пераклад рамана ўзяўся Вацлаў Жыдліцкі. Так што гэты ліст няхай будзе патрэбнай згодай.

Што да самога выдання, то няхай будзе, як піша М. Драпал,— спачатку «Людзі на балоце». Не абавязкова разам. Перакладзіце

«Людзей» і выдайце, тады можна ўзяцца за «Подых». Так вырашыцца пытанне з аб'ёмамі ў выдавецкім плане. У «Подыху» можна будзе зрабіць некаторыя скарачэнні (асабліва ў раздзеле да Сесіі ЦВК).

Я наогул думаю, што «Подых», можа быць, варта раздзяліць на дзве кнігі,— выдзеліць у асобную кнігу ўсе раздзелы пра Апейку. Зрабіць з аднаго вялікага рамана два меншых.

Што да трэцяга рамана, то гаварыць пакуль рана. Але я патроху працую, і ён патроху ідзе ўперад. Сур'ёзная кніга, відаць, павінна выйсці.

Аб Караткевічу, яго рамане, трэба рабіць запытанне нашаму ВААПУ. Праз іх дабівацца згоды. Прыватныя думкі, у тым ліку мае, тут пад увагу не прымаюцца. Я ў свой час гаварыў ужо, што раман, пры пэўнай рэдактуры, можна друкаваць. Але гэтага аказалася мала.

Усяго добрага! І. Мележ 24.XI.74 г.

319. Ю. А. АНДРЭЕВУ

*25 лістапада 1974, Мінск*

Дорогой Юрий Андреевич!

Вашу книгу получил. Прочитал ее, перечитал снова главу о «Полесской хронике». «Снова» — потому что узнал в ней памятную мне статью из «Невы».

Я уже, кажется, писал добрые слова о ней. Мог бы повторить, она и теперь понравилась, читалась с волнением. В ней есть очень важные для меня мысли; причем некоторые из них (в частности об Апейке, о Ганне) есть только в Вашей работе, хотя писали о романах как будто немало.

Спасибо за книгу, за добрые слова! Лучше сказать — за слова, после которых хорошо, с пользой думается.

Работаю понемножку еще над одной «полесской» книгой, продолжающей судьбы героев первых двух. Жаль — дело идет медленно, нездоровится мне. Болею.

С интересом слежу за Вашими работами. Хотелось бы повидаться с Вами, надеюсь, что это vi случиться в недалеком будущем.

Пока же — здоровья Вам и самых больших успехов в работе!

Ваш Иван Мележ 25.XI.74 г.
Минск

320. Ю. М. ХУСАІНАВУ

*27 лістапада 1974, Мінск*

27 ноября 1974 г. Председателю Гомельского облисполкома товарищу Хусаинову Ю. М. Уважаемый Юрий Минивалич!

Ко мне как к депутату Верховного Совета БССР обратились рабочие и руководство совхоза «Припятский» Петриковского района с просьбой оказать им содействие в строительстве участка шоссейной дороги Мозырь — Петриков. Эта дорога, по их данным, в 1975 году будет заасфальтирована до дер. Скрыгалов Мозырского р-на. От Скрыгалова до моста у озера Глиницкое она выложена булыжником, на некоторых участках — щебенкой и гравием. От озера Глиницкое и до паромной переправы сделана насыпь, и дорога в летнее время становится непроезжей. Этот участок дороги — протяженностью десять километров — избиратели и просили замостить твердым покрытием.

Избиратели с-за «Припятский» подчеркивают крайнее значение для хозяйственной жизни совхоза и населения входящих в него деревень этого участка дороги.

Прошу Вас со вниманием отнестись к их просьбе, включить в план строительных работ участок дороги — озеро Глиницкое — паромная переправа.

Депутат Верховного Совета БССР
И. Мележ

321. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ

*26 снежня 1974, Мінск*

Дарагія таварышы — настаўнікі і вучні! З Мінска шлю Вам, дарагія дварышчанцы, самыя лепшыя пажаданні на новы год! Добра вучыце, і вучыцеся добра, будзьце шчаслівыя ва ўсе дні, якія дорыць нам гэты год нашага жыцця!

Іван Мележ
26.XII.74 г.

322. Г. М. КРЫЛОВУ

*31 снежня 1974, Мінск*

Дорогой Георгий Николаевич!

Примите поздравления с Новым, 1975 годом, юбилейным годом 30-летия Победы!

Пусть он будет для Вас годом счастья, свершения лучших Ваших надежд!

И. Мележ
31.XII.74

323. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*31 снежня 1974, Мінск*

Паважаны Міхась Ціханавіч!

Ад сэрца віншую Вас з Новым, 1975-м, які своечасова грядет к нам!

Няхай ён будзе шчаслівы для Вас і на сушы, і на моры (маецца на ўвазе Нарач і Ваш флот). Добрыя пажаданні Соф'і Захараўне!

Ваш Іван Мележ

324. М. М. УЛАШЧЫКУ

*31 снежня 1974, Мінск*

Паважаны Мікалай Мікалаевіч!

Шлю Вам з Мінска навагоднія віншаванні і зычу Вам, каб збылося тое, на што Вы спадзяецеся ў новым годзе.

У мяне справы не клеяцца са здароўем: кепска надта сплю, стомленасць, кепска працуецца. А да ўсяго — надвор'е: сырасць, гнілое паветра. Толькі ўчора падмерзла. Дзіўны пачатак зімы быў. Таму — сабе хацеў бы добрага сну і рабочага настрою, і толькі.

А Вам найперш — новых, як заўсёды, змястоўных, цікавых кніг!

Ваш Іван Мележ 31.XII.74 г.

325. С. С. і С. В. САРТАКОВЫМ

*Канец снежня 1974, Мінск*

Дорогие Софья Семеновна и Сергей Венедиктович!

Примите самые лучшие пожелания на Новый, 1975-й! Главное — надежного здоровья и счастья, т. е. того, чтоб то, что может случиться, случалось в лучшем варианте!

Ваш И. Мележ

Может быть, встретимся в Ялте?

# 1975

326. Л. А. СУШЧАНКУ

*7 студзеня 1975, Мінск*

Дарагі Леанід Акімавіч!

Перш за ўсё — паведамляю, што падарунак на Новы год — яблыкі — атрымаў, за што дзякую ўсім ад сэрца, і асабліва загадчыку навучальнай часткі школы, які мне бачыцца арганізатарам многіх добрых пачынанняў у сваёй школе, у тым ліку, мабыць, і гэтага.

Дзякую!

Дзякую таксама за ліст (і паштоўку да Кастрычніка), якія мяне парадавалі і на якія я не адказаў па той прычыне, што хацелася многае напісаць, а для таго, каб напісаць гэтае многае, часу было малавата. Адна з прычын гэтага таксама тое, што я спадзяваўся летам пабыць дома і пабачыцца, але паездка гэтая адклалася на восень, а там так усё закруцілася, што я, праязджаючы праз Хойнікі, не змог завярнуць у Людзвін.

Але павінна быць яшчэ лета, і будзем аптымістамі, будзем верыць, што ў гэта лета часу на паездку па родных мясцінах будзе больш і спяшацца не трэба будзе.

Усё гэта — бяда невялікая. Горш тое, што мне апошнія гады нездаровіцца, што і стварае такую сітуацыю, у выніку якой я трапляю ў даўгі перад харошымі людзьмі і вымушан адчуваць сябе перад імі вінаватым глыбока.

Горш таксама тое, што з гэтай прычыны я працую — пішу — з перапынкамі, перабоямі і не даю ў час сваю асноўную прадукцыю — творы. Праўда, затрымаўся я з новым раманам збольшага таму, што вяртаўся да першага свайго — да «Мінскага напрамку», які моцна дапоўніў і паправіў, але затрымка выйшла ў некаторай меры і з-за хваробы.

Між тым, у гэтым годзе выйдзе вялікая кніга — том — маіх крытычных твораў і артыкулаў публіцыстычнага характару. Пад канец гэтага ці ў пачатку наступнага пачну друкаваць той раман, які найбольш ад мяне чакаюць і які без майго дазволу аб'явіла рэдакцыя часопіса «Полымя». Толькі назва яго будзе, відаць, іншая, чым аб'явілі.

Вось пакуль усё.

Паклон зямлі нашай, якая ніяк не дачакаецца снегу, зімы.

Ваш Іван Мележ

7.1.75 г.

327. В. У. БЫСТРЫХ

*23 сакавіка 1975, Мінск*

Дорогой Валентин Владимирович!

Из издательства «Советский писатель» мне переслали Ваше письмо о моем романе «Минское направление».

Я рад, что роман понравился Вам, боевому офицеру, немало прошагавшему по дорогам войны. Романом своим я хотел сохранить в памяти людей те незабываемые дни, воздать должное воинам нашим, и если это удалось, то это — радует глубоко.

Спасибо Вам за доброе слово!

Всего Вам хорошего!

Иван Мележ 23.3.75 Минск

328. П. Е. ЛАТЫШАВУ

*23 сакавіка 1975, Мінск*

Дорогой Петр Ермолаевич!

Получил Ваше письмо. Оно меня взволновало и напомнило мне многое. Вы не ошиблись. Дедов и Романов, о которых я писал в статье, это те самые командиры, о которых Вы думали и за которых Вы беспокоились все годы. Это и мои командиры, так как в 41-42 годах я был с Вами в одном полку и даже, как видно из Вашего письма, в одной батарее. Правда, был я около полугода — с конца июля до февраля 1942 г. Однако мы вместе были под Новой Одессой, где я перешел в Ваш полк, и под Илларионовкой, и под Ростовом. А в феврале меня послали на курсы политсостава, и это меня, как и Вас, спасло от окружения. А в окружении полк наш почти целиком погиб. Погиб там и Дедов, застрелился, по рассказу моего товарища из 9 батареи, командир дивизиона Ликонов. Он застрелился. Там, в окружении, большинство наших товарищей — кто погиб, кто застрелился, кто попал в плен. Этот мой товарищ, наводчик из 9 батареи, вернулся после войны из Норвегии из плена. Он и рассказал все мне. Он сказал, что в Варшаве в концлагере видел в плену политрука нашего Смоквина. А о судьбе Романова я ничего не знаю. Не знаю, что случилось с Покатаевым и моим другом Дубинкиным, которого я особенно любил. В те дни спаслось очень мало, но знамя полка вынесли. Вынесла его группа под командой начштаба полка Рябчука. Поэтому полк сформировали заново, он под коман-д.<ованием> Рябчука воевал под Сталинградом, а затем был влит в арт.<иллерийскую> дивизию, которая потом получила название 3-я гвардейская артил. дивизия прорыва РВГК. Эта дивизия и полк в том числе воевали под Смоленском, под Витебском, освобождали Белоруссию, брали Кенигсберг и участвовали в боях против Японии. Рябчук стал командиром бригады, а полком командовал Сотников, мне сказали, адъютант командира полка Дедова. Я Сотникова лично не знаю.

Рябчук прошел весь путь с полком, до конца войны, демобилизовался полковником, жил под Киевом. Несколько месяцев назад умер.

Я был у Вас в батарее в расчете Дубинкина и был заместителем политрука, и Вы меня должны знать. Мы с Вами не раз встречались, но, конечно, забыли. Столько времени прошло! Хотя — правда, очень

смутно — я вроде помню Вашу фамилию и Ваше лицо. Может быть, конечно, что и ошибаюсь.

В Москве живет командир дивизии генерал Попов. У него есть книга «На огненных рубежах»[15] там упоминается наш полк и Рябчук. Люди из этой дивизии собираются иногда вместе, вот и в этом году собираются поехать под Калининград на встречу. Вот пока все. Всего хорошего, солдат!

И. Мележ

Дневник прислать не могу, он на белорусском языке. 23.3.75 г.

329. С. КОЛЕВУ

*18 красавіка 1975, Мінск*

Дорогой товарищ Колев!

Посылаю, наконец, ответы на Вашу анкету «Масштабы дружбы». Прошу извинить меня за то, что отозвался на Вашу просьбу так поздно. Я очень долго и серьезно болел. Всего Вам хорошего! Поздравляю с Первым мая!

И. Мележ 18.IV.75 г.

330. М. М. ХУДЗЕНКУ

*18 красавіка 1975, Мінск*

Дарагі Мікола!

Я атрымаў тваё пісьмо. Рады, што ты пішаш вершы і прозу і што твае творы друкуюць у газетах і часопісах. І рады таксама, што ты разам з тым добра вучышся.

Я ў твае гады таксама добра вучыўся і пісаў вершы, але іх чамусьці не хацелі друкаваць у газетах. Так што табе ў гэтым больш шанцуе.

На тваё пытанне, калі я буду ў Глінішчах, адказаць дакладна не магу, бо пакуль сам не ведаю. А фотакартку на тваю просьбу пасылаю.

Вучыся і далей добра і, вядома, пішы вершы і прозу!

18.IV.75 г. Іван Мележ

331. Т. Ф. ЗАЛАТУХІНАЙ

*25 красавіка 1975, Мінск*

Свет-Тамара Федоровна!

В этой депеше посылаю документ, необходимый для моего исцеления.

---

[15] Трэба: «На огневых рубежах»

Вместе с ними посылаю свои надежды и самую большую благодарность, которую Вы заслужили более чем сполна.

Дай бог, чтоб все свершилось, т. е. не сорвалось! Буду ждать известий, т. е. звонка!

Всего доброго!!!

Иван Мележ 25.IV.75 г.

332. Г. М. КРЫЛОВУ

*5 мая 1975, Мінск*

Дорогой Георгий Николаевич!

От всего сердца поздравляю с великим праздником солдатской и командирской доблести 30-летием нашей Победы в Великой Отечественной войне.

Могу доложить: За мою работу в области военной литературы Министр Обороны СССР Маршал Гречко наградил меня 21 апреля с. г. Дипломом и именным офицерским кортиком!

И. Мележ

333. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*5 мая 1975, Мінск*

Дарагі Міхась Ціханавіч!

Вас, салдата трох войн,— цэлых трох! — віншую з Перамогаю, якая зараз мае святкаваць трыццаць гадоў свайго слаўнага і мірнага жыцця!

Зычу Вам (як і ўсім нам) міру, шчасця і здароўя! Шчасця і дабра Вашай сям'і!

Ваш Іван Мележ

334. К. А. ЛЫСЕНКУ

*6 мая 1975, Масква*

Дорогой Кирилл Антонович!

С днем 30-летия Победы!

Память меня уносит в Карпаты, в Турку, Розлуч, Ст.<арый> Самбор, в 298-й горно-артилл.<ерийский полк> и 192-ю — нашу дивизию!

За наших однополчан! За живых и тех, которые давно ушли!

Здоровья и счастья Вам!

И. Мележ

335. У РЭДАКЦЫЮ ЧАСОПІСА «ЛИТЕРАТУРНОЕ ОБОЗРЕНИЕ»

*13 мая 1975, Мінск*

Уважаемые товарищи!

Возвращая верстку, не могу не высказать два серьезных возражения.

Считаю Ваш вариант заглавия хуже того, который был у меня. Зачем менять, какой смысл в этом?

Я настаиваю на своем варианте: «Мастерство — есть стремление...».

Во-вторых, совершенно не понимаю, почему снят важный абзац на четвертой странице верстки (отмеченный значками?!!). Вы придерживаетесь других взглядов, но позвольте мне иметь свое мнение!

В общем, примите с чувством досады...

13.V.75 И. Мележ

336. В. В. ГУРЫ

*29 мая 1975, Мінск*

ТЭЛЕГРАМА

Дорогой Виктор Васильевич сожалея о том что мы с вами лично незнакомы я пользуюсь прекрасной возможностью которую предоставляет Ваш юбилей хочу по велению сердца сказать как нужна нашей литературе Ваша серьезная глубокая работа в исследовании современного литературного процесса Позвольте от имени Ваших белорусских читателей и почитателей пожелать Вам за чертой пятидесятилетия новых талантливых книг увлекательных лекций всех радостей жизни

Иван Мележ

337. Л. Л. АРАБЕЙ

*10 ліпеня 1975, Мінск*

Шаноўная Ліда Арабей, я вельмі шкадую, што з-за непрадбачлівасці сваёй і няўвагі да мяне лёсу не змог трапіць на юбілейную вечарыну 26.VI. і не адзначыў у свой час як належыць юбілейную дату тваю. Вінавата ў гэтым пякельная гарачыня, ад якой усе здурэлі ў Крыме (у Кактэбелі), у тым ліку і я.

Цяпер я дома, прыводжу да ладу тое, што не зрабіў, выпраўляю хібы свайго жыцця ў мінулым месяцы. Таму па абавязку сэрца ацэньваю належна падзею, якая адбылася нядаўна, і ад сэрца віншую! Рад сказаць, што да такой сур'ёзнай даты ты прыйшла з сур'ёзнымі здабыткамі, якімі можна ганарыцца!

Зычу і далей таксама ісці! Новых кніжак і новых радасцей!

...твое письмо о романе...— Ліст Цыгліна ад 11.IX.1954, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 21.1.55 г.».

46. С. А. АРЛОВУ (с. 59)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...прислали Ваше письмо...— Ліст Арлова ад 8.1.1955, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55. І. М.».

47. М. М. БУТУЗАВУ (с. 59)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы

На лісце Бутузава ад 4.XII.1954 стаіць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г.».

48. У. КОЗІНУ (с. 60)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...переслали из издательства твое письмо.— Ліст Козіна ад 7.XII.1954, на якім дзве аднолькавыя — у пачатку і ў канцы ліста — паметы І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г.».

49. А. С. КРАСНАШЧОКАВУ (с. 60)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

На лісце Краснашчокава ад 30.XII.1954 стаіць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г. І. М.».

50. І. І. КУРЫЦЫНУ (с. бі)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Мне переслали Ваше письмо...— Ліст Курыцына ад 28.XII.1954, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г. І. М.».

С замечанием Вашим о том, что Туровец не мог сказать — «дай бог»,— не согласен.— Адрасант у вышэй названым лісце да пісьменніка пісаў: «В X главе третьей части... Туровец в разговоре с Алексеем Лагуновичем на его слова, выражающие предостережение новым поджигателям войны:

— Теперь, может, поумнеют немножко н те, у кого еще шкура не болела, но руки чешутся!..

Туровец отвечает: — Дай бог! Пора уж им поумнеть.

Знаете, как-то не вяжется, коммунист и пост занимает высокий на партийной работе, а верит в бога?!»

51. Я. В. СЕНІНУ (с. 61)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Получил Ваше письмо...— Ліст Сеніна ад 31.XII.1954, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г. І. М.».

52. Р. ШАДРЫНАЙ (с. 62.)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І, Мележа. Арыгінал невядомы.

На лісце Шадрынай ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 23.1.55 г.».

...об этом думаю написать...— Ні ў адным з пазнейшых перавыданняў рамана І. Мележ не вяртаўся да гэтага пытання.

53. М. П. САЖНЕВУ (с. 62)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

54. В. СЕЛІВАНАВУ (с. 63)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...получил Ваше письмо...— Ліст Селіванава датуецца снежнем 1954 г. На ім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 24.1.55 г.».

...дать еще краткое заключение...— Размова ідзе пра эпілог да

«Мінскага напрамку» (гл. каментарыі да ліста В. Г. Горлачу ад 19.1.1955).

...начинаю работать над новым романом.— Маецца на ўвазе раман «Людзі на балоце».

55. П. І. КАВАЛЕЎСКАЙ (с. 63)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...твое письмо о романе...— Ліст Кавалеўскай ад 13.1.1955, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адк. 30.1.55 г.».

56. А. Б. ГАЛЬПЕРУ (с. 64)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...получил Ваше письмо.— Ліст Гальпера ад 16.1.1955, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 4.2.1955 г. І. М. Паслаў кнігу».

Спасибо за добрые Ваши чувства...— У лісце да пісьменніка Гальпер пісаў: «С нескрываемым восхищением и захватом прочел Ваш роман «Минское направление» и, откровенно говоря, не мог оторваться от него, пока некоторые места не прочел дважды. Мне приходится выступать с докладами о международном положении, и эта книга для меня имеет ценность не только с точки зрения как военного человека, но и как международника».

Если будете посылать ее на Камчатку...— У лісце да І. Мележа адрасант пісаў, што яго сын служыць на Камчатцы камандзірам артылерыйскай батарэі і ён хацеў бы паслаць яму раман «Мінскі напрамак».

57. Б. В. ГЛУХАЎЦАВУ (с. 65)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Памылкова датуецца 4.1.1955. Рэдактарская дата даецца па памеце І. Мележа, зробленай на лісце Глухаўцава ад 15.1.1955 г.: «Адказаў 4.II.55 г. І. М. Паслаў кнігу. І. М.».

58. М. А. КАВАЛЁВУ (с. 65)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы..

На лісце Кавалёва ад 20.XII.1954 ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 13.3.55 г. І. М.».

...немного напишу еще в эпилоге...— Гл. каментарыі да ліста В. Г. Горлачу ад 19.1.1955.

59. С. НЯЯГЛАВАЙ (с. 66)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І, Мележа. Арыгінал невядомы.

Датуецца па памеце І. Мележа: «Адказаў. 14.III.55 г. І. М.», зробленай на лісце Няяглавай ад 29.1.1955.

...замечание твое по поводу Нины правильное.— Ніна — цэнтральны жаночы вобраз у рамане І. Мележа «Мінскі напрамак» — пападае ў палон і гіне. Чытач пытае, чаму таварышы нават не спрабавалі яе вызваліць — «пра гэта ж нічога не гаворыцца ў кнізе».

В следующем издании книги я обязательно исправлю этот свой просчет.— Ні ў наступным, ні ў далейшых перавыданнях твора І.

Мележ не вяртаўся да перапрацоўкі сюжэтнай сітуацыі, звязанай з вобразам Ніны.

60. М. М. СОІНУ (с. 66)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Книгу выслать не могу.— Размова ідзе пра раман «Мінскі напрамак».

Тое, пра што расказвае І. Мележ у рамане — вызваленчыя баі на мінскім напрамку,— было блізкім і дарагім Соіну як непасрэднаму ўдзельніку гэтых баёў. Таму ён звярнуўся да аўтара «Мінскага напрамку» з просьбай (ліст Соіна ад 3.III.1955) прыслаць яму гэту кнігу або падказаць, дзе можна набыць твор.

61. Н. ЯНЧУК (с. 67)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Датуецца па памеце І, Мележа: «Адказаў 14.III.55 г. І. М.», зробленай на лісце Янчук ад 16.11.1955.

Александроўская Ларыса Пампееўна (1904-1980), беларуская спявачка і рэжысёр. Народная артыстка СССР.

Драздова Лілія Сцяпанаўна (н. 1927), актрыса. Заслужаная артыстка БССР.

62. В. А. ПАЛЯВІКУ (с. 67)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...передали Ваше письмо...— Ліст В. Палявіка ад сакавіка 1955. З ліста: «Ваша книга пробудила с новой силой воспоминания о событиях тех боевых дней, той эпопеи, воспоминания о минувшем, славном, никогда незабываемом в Великой Отечественной войне... Моя дивизия с осени 1943 г. по май 1944 г. стояла в обороне против Осинстроя, на торфяных болотах (где позже, по книге, действовала дивизия генерал-майора Щербатюка 11 Гв. армии генерал-полковника Галицкого), имея против себя 78 Гренадерскую штурмовую дивизию генерал-лейтенанта Траута... Дивизия, овладев Дубровно, Оршей, получила наименование «Оршанской». Осью последующего наступления дивизии была Минская автомагистраль... Полки дивизии, совместно с танками генерала Бурдейного на рассвете 3 июля 1944 г. овладели г. Минском... За форсирование Немана, за взятие Гродно (совместно с войсками 2 Белорусского фронта) и

удержание плацдарма на левом берегу, мои саперы и артполк получили наименование «Гродненских», а мне было присвоено звание генерал-майора».

63. А. І. ГЛАЗЫРЫНУ (с. 69)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Получил из издательства Ваше письмо...— Ліст Глазырына ад 17.1.1955 (па пашт. штэмпелі), на якім ёсць памета І. Мележа: «Адказаў 10.4.55 г. І. М.».

64. В. КУЛЬБАЧНАМУ (с. 69)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа, Арыгінал невядомы.

...Ваше письмо о романе...— Ліст В. Кульбачнага ад 3.III.1955 г. На ім ёсць памета І. Мележа, «Адказаў 10.4.5-5».

В. Кульбачны напісаў ліст-водгук (ад 3.III.1955 г.) на раман І. Мележа «Мінскі напрамак» ад імя салдат в/ч 31721 «я» (г. Брэст). Ліст быў адрасаваны выд-ву «Советский писатель» з просьбай пераслаць яго аўтару рамана. У лісце-водгуку падкрэсліваецца вялікае выхаваўчае значэнне рамана, які абуджае патрыятычныя пачуцці да Радзімы.

Далей адрасант пытае, як ствараўся твор, якія кнігі гэтага пісьменніка можна яшчэ прачытаць.

Я встречался со многими друзьями Черняховского, с его адъютантом...— І. Мележ быў знаёмы і сустракаўся з генераламі Р. І. Арыка, В. Е. Махеравым, М. І. Аляксеевым, П. І. Іголкіным. З А. І. Камаровым, былым ад'ютантам Чарняхоўскага, Мележ не толькі сустракаўся, але і пісьмова кансультаваўся ў час працы над раздзеламі пра работу штаба войск 3 га Беларускага фронту. Вось адзін з лістоў А. І. Камарова:

«Уважаемый тов. Мележ!

Вашу главу из романа «Минское направление» я внимательно дваліды прочел...

Надо сказать, вы очень удачно показали подготовку прорыва и ход боя на отдельных этапах, а также заботу командующего за четкое взаимодействие между фронтами.

Выполняя Вашу просьбу, я советую несколько изменить эту главу в таких местах:

1. Верстка — колонка 2, абзац 1 — лучше было бы читать: «...силы — вверенных ему войск (или армий)...» ибо в то время

Черняховский командовал не одной армией, а несколькими (5-ю или 6-ю).

2. Верстка — колонка 12-я, т. е. последняя — мне думается, что выражение: «...Ну, а что касается гитлеровцев, то их «Траут» подложит им, попросту говоря, свинью»... или совсем выбросить, или записать, что соединения Траута, рассчитывавшего на долгое пребывание на этих позициях, не выдержало непредусмотренного ими по силе и организованности натиска наших армий.

Что касается остальных эпизодов и главы в целом, то я вполне согласен с Вами и выражаю свое одобрение. Просьбу Вашу о дополнительном материале связей командующего фронтом с командующими армий выполню. Материал пришлю особо.

С приветом А. И. Комаров.

Киев, 28.12.52 г.

Главку высылаю Вам».

...с его семьей, которую также хорошо знаю.— Працуючы над удасканаленнем, паглыбленнем вобраза камандуючага войск 3-га Беларускага фронту Чарняхаўскага І. Д; да першага рускага выдання «Мінскага напрамку» (1954), І. Мележ неаднойчы сустракаўся з яго сям'ёй — жонкай, дачкой, сынам. У жніўні 1954 г. пісьменнік падараваў ім «Мінскі напрамак» з надпісам: «Анастасии Григорьевне, Ниле, Алику Черняховским с уважением —

И. Мележ 23.8.1954 г.

Минск»

(Кніга захоўваецца ў асабістай бібліятэцы А. Р. Чарняхоўскай, г. Масква).

У архіве сям'і І. Мележа захоўваюцца два лісты А. Р. Чарняхоўскай — лісты-падзякі за падараваныя кнігі.

Першы — ад 25.Х.1953 — падзяка за кнігу «Мінскі напрамак», 1952, другі — ад 3.Х.1954 за «Минское направление», 1954:

«Уважаемый Иван Павлович!

Очень Вам благодарна за присланную Вами книгу. Хлопоты по переезду с дачи помешали мне прочесть ее сразу по получении.

Сейчас с большим интересом и с большой надеждой начинаем читать Вашу книгу.

Еще раз благодарны за внимание.

А. Г. Черняховская

3.Х.54».

65. Ц. Л. ЛАТАРЫЯ (с. 70)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...Ваше так взволновавшее меня письмо.— Ліст Латарыя ад І.ІІІ.1955, у якім чытач выказвае сардэчную падзяку беларускаму пісьменніку за твор: «Книгу Ивана Мележа «Минское направление» прочла вся моя семья. Захватывающе написана эпопея Великой Отечественной войны... Во веки веков останутся дорогим для каждого советского человека память славных, как Черняховского, Шабунихи, Нины, Васи, Вали... Большое спасибо тов. Мележу и издательству. Наше пожелание — переиздать эту книгу максимальным тиражом. Она должна стать достоянием масс. Она очень и очень необходима для каждого».

66. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 71)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Ф. І. Куляшова (г. Мінск), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

Датуецца па пашт. штэмпелі месца атрымання: 14.V.1955. Мінск, з улікам паштовага каэфіцыента.

В Крыму я уже пятнадцать дней...— І. Мележ знаходзіўся ў Лівадзіі ў санаторыі ВЦСПС з 19 крас, да 14 мая.

...обедаю в комнате, в которой жил Рузвельт.— Кіраўнік ўрада США знаходзіўся ў Лівадзіі ў лютым 1945 г. як удзельнік Крымскай канферэнцыі, якая адбылася 4-11 лют. у Лівадзійскім палацы.

Распуцін Рыгор Яфімавіч (1884 або 1865-1916), фаварыт імператара Мікалая II і яго жонкі Аляксандры Фёдараўны, авантурыст.

...не вышел ли журнал с Вашей статьей...— Артыкул Ф. Куляшова «Патрабавальнасць мастака» (Полымя, 1955, № 5, с. 123-134) аб рамане І. Мележа «Мінскі напрамак».

Такой же. какой, очевидно, был и у Вашего великого подопечного Ант. Павл.— Размова ідзе пра А. П. Чэхава. «Подопечным» Мележ называе таму, што якраз у нядаўнім мінулым Ф. Куляшоў займаўся творчасцю Чэхава — быў складальнікам зборніка «А. П, Чэхаў пра літаратуру і мастацтва» (1954).

67. Н. Т. ВАНДАРЭНЦЫ (с. 72)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Н. Бандарэнка даслала пісьменніку два лісты: ад 17.V. і I.VI. 1955. Ліст І. Мележа з'яўляецца адказам на другі (па змесце) ліст

Бандарэнкі, нягледзячы на тое, што памета пісьменніка стаіць на яе першым лісце: «Адказаў. І. М.».

68. Г. І. ІВАНОВУ (с. 72)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мелеліа. Арыгінал невядомы.

...отвечаю с таким большим опозданием.— Ліст Іванова датуецца 2.III.1955 г., на якім стаіць памета І. Мележа: «Адказаў 16.8.55. Паслаў кнігу».

...отказывать Вам в просьбе Вашей мне не хотелось.— Іван Паўлавіч не мог не задаволіць просьбы свайго адрасанта, прачытаўшы ў яго ліспе наступнае: «...Я уже одиннадцатый год лежу прикованным к постели. Война меня сделала вечным калекой. IПесть лет находился в госпиталях, а последние пять —, нахожусь дома. Стараюсь больше читать, чтобы отогнать скуку и тоску...»

69. Я. МАСКАЛЕНЦЫ (с. 73)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

70. Е. НАСЕНЦЫ (с. 73)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Получил Ваше письмо.— Ліст Е. Насенкі ад 8.VIII.1955.

Книгу скоро начнут печатать...— Размова ідзе пра выданні «Мінскага напрамку» ў 1956 г. (Мн.: ДВБ; М.: Военйздат).

71. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 73)

Друкуецца па арыгінале.

Вот уже несколько дней — Praha.— У складзе савецкай турысцкай групы ў кастрычніку месяцы І. Мележ наведвае Чэхаславакію.

Будем в Марианских лазнях...— Марыянске-Лазне, горад у Карлаварскай вобл. Існуе з 1808. Бальнеалагічны курорт.

72. С. С. СМІРНОВУ (с. 75)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...отвечаю на Ваше, так порадовавшее меня, письмо с опозданием.— Ліст С. Смірнова да І. Мележа датуецца 20 верас. 1955, у якім у адрас Мележа як аўтара «Мінскага напрамку» сказана шмат

добрых слоў. А таксама Смірноў паведаміў пра тое, што напісаў на «Мінскі напрамак» рэцэнзію для «Военного вестника» (1955, № 10).

«Сталинград».— Размова ідзе пра нарыс С. Смірнова аб Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі «Сталинград на Днепре».

73. М. ГОРАКУ (с. 77)

Друкуецца па машынапіснай копіі. Арыгінал невядомы. ...мне было передано в отеле «Прага» Ваше письмо...— Вось гэты ліст (у скарочаным выглядзе):

«Дорогой товарищ Мележ, мои друзья из «Света Советов» сказали мне, что Вы в Праге. Приветствуем Вас искренне в нашей столице. Приветствуем как советского писателя, автора «Минского направления» — которое мы собираемся издать в нашем военном издательстве «Наше войско». К сожалению, нет еще в нашей стране опытных переводчиков из белорусского, потому мы с изданием немножко опоздали. По-моему, будет надо переводить из русского перевода, но тот, кажется, не всюду хорош...

На память принес Вам несколько книг нашего издательства, появившихся к 10-летней годовщине освобождения Чехословакии Советской Армией.

Желаю успехов и крепкого здоровья. Милан Горак

литработник издательства «Наше войско» Прага

14.X.1955 г.».

(Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. На ім ёсць памета Івана Паўлавіча: «Адказаў 15. II. 55 г.».)

...«Наше войско» собирается издавать мой роман...— «Мінскі напрамак» быў выдадзены на чэшскай мове ў выд-ве «Наше войско» ў 1959 г. у перакладзе Я. Гулака.

74. В. П. і І. С. КАЗАЧЭНКАМ (с. 78)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна на падставе выдавецкай даты на паштоўцы і паводле зместу — размова ідзе пра аповесць Казачэнкі «Сальвія», якія асобным выданнем выйшла ў 1956 г.

...адзін з Казачэнкаў напісаў чудовий роман.— І. Мележ «звичайно пожартував. Мовиться про повість «Сальвія» (Кіеў: Молодь, 1956). (З ліста В. Казачэнкі ад 12.XI.1980 да ўкладальніка дадзенага тома.)

**1956**

75. В. П. КАЗАЧЭНКУ (с. 78)

Друкуецца па арыгінале.

...цей часопис мені радісно було одержать.— Україна, 1956, № 2, дзе надрукавана было апавяданне І. Мележа «На Прыляцці» ў перакладзе на ўкр. мову В. Казачэнкі. (Пазнейшая назва апавядання — «На рацэ».)

Хмяльніцкі Багдан (Зіновій Міхайлавіч; каля 1595-1657), дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, гетман Украіны.

Калачынскі Міхась (Міхаіл Іванавіч; н.1917), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР.

...пра сваю службу ў Карпатах...— Апавяданне «У гарах дажджы». Упершыню — Беларусь, 1956, № 10.

...пра лётчыкаў-рэактыўшчыкаў, іх жонак...— Апавяданне «Што ён за чалавек». Упершыню — Полымя, 1957, № 3 пад назвай «У прыморскім горадзе».

...пра дзяўчынку, вучаніцу 5 класа.— Апавяданне «Памылка». Упершыню — Бярозка, 1956, № 4.

«Дом на праспекце».— Апавяданне. Упершыню — Беларусь, 1954, № 7. Пасля дапрацоўкі — аповесць пад назвай «Дом пад сонцам».

Мінко Васіль Пятровіч (н.1902), украінскі драматург.

Смілянскі Леанід Іванавіч (1904—1966), украінскі пісьменнік.

«Калі вы маладыя».— Пад загалоўкам «Калі вы маладыя» публікаваўся толькі .ўрывак з п'есы «Пакуль маладыя» (Літ. і мастацтва, 1956, 7 студз.). Упершыню — Полымя, 1956, № 12 пад назвай «Пакуль вы маладыя». У 1957 г. п'еса была пастаўлена тэатрам імя Я. Купалы на сцэне Крамлёўскага тэатра. А ў чэрвені 1958 г. купалаўцы ўдзельнічалі з ёй у Прыбалтыйскай тэатральнай вясне.

«Атэстат».— Размова ідзе пра аповесць В. Казачэнкі «Атэстат сталасці» (1945).

...прыходзіў прадстаўнік ваеннага выдавецтва.— Гл. ліст М. Гораку ад 15.XI.1955 і каментарыі да яго.

Ганчар А. Ц.— Гл. ПА.

Коўпак Сідар Арцёмавіч (1887-1967), у той час — намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета УССР.

Учора Я. Брыль сядзеў з рэдактарам, здымалі «птушкі»! — Я. Брыль пераклаў на бел. мову «Атэстат сталасці» В. Казачэнка Кніга выйшла ў Дзяржвыдаце БССР у 1956 г.

76. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 80)

Друкуецца па арыгінале.

Чытал Ваше письмо...— Ліст Куляшова датуецца снежнем 1955.

Приходил из изд-ва человек...— Гл. ліст М. Гораку ад 15.XI. 1955 і каментарыі да яго.

...учитывая новую межд. обстановку, Женеву...— І. Мележ мае на ўвазе Жэнеўскую нараду кіраўнікоў чатырох дзяржаў,— СССР, ЗША, Вялікабрытанія і Францыя (1955) і Жэнеўскую нараду міністраў замежных спраў чатырох дзяржаў (1955), на якіх таксама стаяла пытанне і аб развіцці эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам.

Пьесу поправлял, черкал...— Маецца на ўвазе п'еса «Пакуль маладыя».

Написал несколько рассказов...— «Дадому», «Здарэнне».

Тянет к себе новая пьеса...— «У новым доме» (1957). Упершыню публікавалася ў 6-ці тамовым Зборы твораў Івана Мележа (Мн.: Беларусь, 1971, т. 4).

В ближайшее время начну роман.— Размова ідзе пра раман «Людзі на балоце».

В «Совет. Белоруссии» были мои очерки...— «Поездка в Прагу».

77. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 82)

Друкуецца па арыгінале.

...имею в кармане билет на теплоход «Победа»...— У ліпені 1956 г. Мелеяі удзельнічае ў экскурсіі на цеплаходзе вакол Еўропы.

...Был он в Германии...— У маі — пачатку чэрвеня 1956 г. у складзе турысцкай групы наведаў ГДР.

Думаю о романе, о новой пьесе...— Гаворка ідзе пра раман «Людзі на балоце» і п'есу «У новым доме».

Пьеса моя еще не идет в театре...— П'еса «Пакуль маладыя».

78. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 83) Друкуецца па арыгінале.

Арыгінал — машынапіс, подпіс «Іван Мележ» — чарнілам. Генварь.— Январь; устарэлае (18 ст.).

Вышел еще раз роман...— «Минское направление» (1956) у Ваенвыдаце.

Начал роман.— «Людзі на балоце».

**1957**

79. В. П. КАЗАЧЭНКУ (с. 84) Друкуецца па арыгінале,

«Сальвія».— Аповесць В. Казачэнка якую аўтар падараваў І. Мележу з надпісам: «Дорогому Ивану Павловичу Мележу — романісту і драматургові від скромного повістера.

З щирою повагою. 22.V.57 р. Киів». ...калі чытаў Шамоту...— Размова ідзе пра артыкул М. З. Шамоты «Случай из практики» (Лит. газета, 1957, 17 студз.).

Шамота Мікалай Захаравіч (1916-1984), украінскі крытык і літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН УССР.

80. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 85)

Друкуецца па арыгінале.

Адлажыў раман...— Размова ідзе пра раман «Людзі на балоце».

...пішу п'есу пра 1917 год...— «Дні нараджэння», якая ў 1958 г. была прынята да пастаноўкі, а затым пастаўлена тэатрам імя Я. Купалы. Спектакль па гэтай п'есе паказваўся таксама са сцэны Крамлёўскага тэатра.

...думаю, змагу тады ўручыць асабіста.— Кніга «Дом под солнцем» (М.: Сов. писатель, 1957) была падаравана з надпісам: «Федору Ивановичу Кулешову — переселенцу из Сахалина и другу.

Іван Мележ 30.12.58 г. Мінск»

81. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 86) Друкуецца па арыгінале.

Алег — Лойка Алег Антонавіч (н.1931), беларускі паэт, крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, прафесар.

...пасылаю Вам — бясплатна — праспект.— Гэта праграма спектакля, на тытульным лісце якой І. Мележ напісаў: «Ф. І. Куляшову-Сахалінскаму. І. М. 31.5.1956 г.».

Праз некаторы час Мележ падпісаў Куляшову экземпляр асобнага выдання гэтай п'есы (1958): «Федору Ивановичу Кулешову и Ольге Филипповне (тоже — Кулешовой) — за 1,5 часа до спектакля.

Іван Мележ 29.9.58 г. Мінск»

82. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 87)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

Привет Вам из Марселя,— У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў знаходзіўся ў Францыі.

**1958**

83. В. П. ДРУЗІНУ (с. 88)

Друкуецца па машынапіснай копіі, што для прачытання была адаслана А. А. Сакалова!! (гл. ПА). Захоўваецца ў асабістым архіве Сакаловай (г. Масква). Арыгінал невядомы.

...прочел статью сотрудника газеты...— Размова ідзе пра артыкул Ю. Ханюціна «Театр ищет пьесу» (Лит. газета, 1958, 26 чэрв.).

Прыбалтыйская вясна.— Традыцыйны агляд тэатральнага мастацтва Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі. У лісце гаворка ідзе пра Трэцюю Прыбалтыйскую тэатральную вясну, якая праходзіла ў Таліне і была адкрыта 6-га чэрвеня спектаклем І. Мележа «Пакуль маладыя» ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры «Эстонія».

«Советская Белоруссия» в рецензии на спектакль.— Б. Вішкароў, А. Шаўня «Спектакль о молодости» (Советская Белоруссия, 1957, 9 чэрв.).

...«Літаратура і мастацтва» в передовых статьях отметила, что спектакль «прочно вошел в репертуар театра»...— Літ. і мастацтва (перадавы артыкул), 1958, І студз.

...что это, как показала проверка временем и зрителем, «успех купаловцев».— З артыкула Я. Рамановіча «Спектакль пра неспакойную маладосць». (Літ. і мастацтва, 1957, 8 чэрв.).

Очень хорошо оценил спектакль журнал «Маладосць»...— Маецца на ўвазе артыкул А. Есакова «За моладзь трэба змагацца» (Маладосць, 1957, № 7).

...положительно оценил пьесу альманах «Советская Отчизна».— Артыкул П. Шаблінскага «О внутреннем росте героя» (Советская Отчизна, 1958, № 2).

84. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ (с. 91)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 369, л. 5, 6.

...посылаю бандероль с пьесой.— Размова ідзе пра п'есу «Дні нараджэння». Пераклаў п'есу на рус. мову Я. Мазалькоў (гл. ліст Я. С. Мазалькову, які датуецца канцом красавіка 1959, і каментарыі да яго).

Первый и второй отдал издательству и в «Полымя».— П'еса «Дні нараджэння» публікавалася ў «Полымі» (1958, № 12) пад назвай «Дні нашага нараджэння» і выйшла ў Дзяржвыдаце БССР у 1959 г.

**1959**

85. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 91) Друкуецца па арыгінале.

Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921-1981), рускі пісьменнік, перакладчык. Пераклаў на рус. мову раман «Людзі на балоце».

...едете в Минск на съезд...— 12-14 лютага ў Мінску праходзіў IV з'езд пісьменнікаў Беларусі. З'езд адкрыў К. Крапіва; з прамовай выступіў першы сакратар ЦК КПБ К. Т. Мазураў; даклад «Па шляху служэння народу» зрабіў П. Броўка.

Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1927), беларускі пісьменнік, крытык і літаратуразнавец. Член-карэспандэнт АН БССР. Доктар філалагічных навук, прафесар.

Эмін Геворк (Мурадзян Карлен Рыгоравіч; н. 1919), армянскі паэт.

Піменаў Уладзімір Фёдаравіч (н. 1905), рускі крытык.

...тепло говорил и о «Днях»...— Пра п'есу «Дні нараджэння».

Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918-1981), беларускі крытык, літаратуразнавец.

Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч (н. 1613), беларускі пісьменнік.

Панчанка Пімен Емяльянавіч (н. 1917), народны паэт Беларусі.

...рецензия была его хорошая — в «Советской Белоруссии»...— Размова ідзе пра рэцэнзію У. Піменава «Два спектакля» (Советская Белоруссия, 1959, 12 лют.), у якой разглядаліся п'есы «Дні нараджэння» І. Мележа і «Людзі і д'яблы» К. Крапівы ў пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы.

Хорошо написали о спектакле в «Советской культуре»...— І. Мележ мае на ўвазе артыкул М. Левіна «Этапы большого пути» (Советская культура, 1959, 7 лют.)

Раньше были рецензии в «ЛіМе»...— Маецца на ўвазе артыкул М. Модэля «П'еса і яе ўвасабленне». (Літ. і мастацтва, 1959, 14 студз.)

...уезжаю через два дня в Крык...— З 26 лютага да 21 сакавіка Мележ адпачываў у Ялце.

86. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 94) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна канцом красавіка, зыходзячы к кантэксту паштоўкі. А таксама — па году выдання самой паштоўкі.

...и те, которые стали у нас общими.— Гаворачы пра агульныя планы і надзеі, І. Мележ меў на ўвазе выданне п'есы «Дні нараджэння», на рус. мове, якую толькі што пераклаў Я. Мазалькоў. (Гл. таксама ліст Мазалькову ад 24 лют. 1959.)

87. А. А. САКАЛОВАЙ (с. 94).

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да Сакаловай, уключаныя ў дадзены том.

Кастрычнікам месяцам датуецца памылкова. Рэдактарская дата па пашт. штэмпелі.

88. А. А. САКАЛОВАЙ (с. 94)

Друкуецца па арыгінале.

...на просмотре спектакля...— Размова ідзе пра «Дні нараджэння» ў пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы.

Герасімовіч Эльвіра Пятроўна (н. 1925), у той час працавала загадчыкам сектара культуры і мастацтва аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ, потым — рэктарам БДТМІ.

**1960**

89. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ (с. 95)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 369, л. 7.

По возвращении из Англии...— Летам Мележ наведваў Англію ў складзе турысцкай групы.

Васілёнак Яўген Пятровіч (1917-1973), беларускі пісьменнік, перакладчык. У той час працаваў галоўным рэдактарам час. «Неман».

90. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ (с. 96)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 369, л. 8.

Живу в Крыму...— З 10 лістап. 1960 па 21 чэрв. 1961 г. разам з сям'ёй Мележ знаходзіўся ў Крыму.

...понемногу царапаю что-то на неактуальные и даже — несовременные темы.— Відаць, размова ідзе Пра работу над «Палескай хронікай».

**1961**

91. К. І. ПЯТРОВАЙ (с. 96)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Л. Я. Пятровай.

...на получение пенсии...— Маецца на ўвазе пенсія па інваліднасці пасля ранення 20 чэрв. 1942 г.

92. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 97) Друкуецца па арыгінале.

...написать к книге маленькое, лирико-эпическое, вступление...— Артыкул да сваёй кнігі «Што ён за чалавек» (Мн: ДВБ, 1961), які першапачаткова называўся «Гартаючы старонкі..,».

У «Жыццёвыя клопаты» ўвайшоў пад назвай «Калі гартаеш старонкі...».

...выйдет в свет, вышлю Вам или вручу...— Кніга «Што ён за чалавек» была падаравана з аўтографам: «Фёдару Іванавічу Куляшову з сімпатыяй і пашанай.

Іван Мележ 23.7.61 г. Ждановічы» Печатается в новом переводе...— «Минское направление», 1961, у перакладзе Л. Такоўскага.

Давно лежит у меня пьеса...— Гаворка ідзе пра п'есу «У новым доме».

У адным канверце з лістом даслана паштоўка з відам Місхора. На ёй надпіс І, Мележа:

«Федору Ивановичу Кулешову — с надеждой, что на этом пустынном берегу нетрудно будет дописывать воображением скушную фигуру одинокого романиста и новеллиста (в едином лице).

Іван Мележ

31.1.61 г.

Ялта»

93. К. І. ПЯТРОВАЙ (с. 99) Друкуецца па арыгінале.

...об «усатом полосатом».— Размова ідзе пра дамашняга ката. ...виделся с Гарбачевым, который просил выслать роман.— Размова ідзе пра раман «Людзі на балоце», які Гарбачоў прасіў даслаць для перакладу яго на рус. мову.

Жду от Вас страниц с пьесой.— Відаць, І. Мележ прасіў даслаць п'есу «У новым доме» з мэтай перагледзець яе і выбраць урывак для публікацыі ў «Работніцы і сялянцы» (1961, № 3).

...конечно, с 1-ым марта...— Дзень нараджэння жонкі І. Мележа.

94. І. ХУАНУ (с. 100)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мелея«а.

Ліст разам з выпраўленым перакладам казак быў адасланы адрасату ў г. Нанкін (Кітай). На канверце шмат пашт. штэмпеляў, розных адзнак,— гэта сведчыць пра тое, што ліст дайшоў да Кітая, але, відаць, у сувязі з т. зв. кітайскай культурнай рэвалюцыяй не папаў у рукі адрасата і быў вернуты назад.

Хуан Іван упершыню звярнуўся да Мележа (ліст ад 15.V.1960) як да аўтара «Мінскага напрамку». У лісце паведамляў, што ён з задавальненнем прачытаў гэты раман і хоча разам з сябрам-перакладчыкам Фу перакласці яго на кітайскую мову. Прасіў таксама І. Мележа даслаць водгукі, рэцэнзіі на кнігу і аўтабіяграфію.

Мележ, відаць, адказаў яму (гэты ліст нам невядомы), бо захоўваецца ў архіве другі, пазнейшы ліст з Кітая ад 3.XII.1960, дасланы Хуанам разам з яго перакладамі на рускую мову кітайскіх старажытных казак, у якім просіць беларускага пісьменніка прачытаць і, калі трэба, выправіць пераклады пяці казак і адаслаць назад.

Аналіз папраўак, зробленых І. Мележам у выніку прачытання казак, сведчыць аб сур'ёзнасці, з якой паставіўся пісьменнік да просьбы кітайскага таварыша. Праўкі, у асноўным, стылявога характару. Напрыклад:

| Было | Выпраўлена |
|---|---|
| Когда-то царь призвал... | Однажды царь... |
| Меч прячется за этим деревом.. | За этим деревом спрятан меч... |

...получили ли Вы роман и пьесу...— Відаць, І. Мележ пасылаў І. Хуану раман «Мінскі напрамак», выдадзены на рускай мове ў 1956 г., і п'есу «Пока вы молоды».— М: Искусство, 1958, бо іншыя п'есы не друкаваліся ў перакладзе на рус. мову.

...статья напечатана в новом издании романа...— Маецца на ўвазе артыкул І. Карабутэнкі «О творчестве Ивана Мележа», які змешчаны ў кнізе: «Минское направление», 1961.

95. К. І. ПЯТРОВАЙ (с. 101)

Друкуецца па арыгінале.

...для Скрыгана и для журнала.— Тут Скрыган успамінаецца як намеснік галоўнага рэдактара «Полымя», дзе павінен быў публікавацца першы раман з «Палескай хронікі».

Пьесу можно отдать печатать...— Размова ідзе пра п'есу «У новым доме».

96. І. А. СКРЫГАНУ (с. 101)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ, як і ўсе іншыя лісты І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

...атрымаў твой ліст.— Размова ідзе пра ліст Я. Скрыгана ад 9.ІІІ.1961. У ім Скрыган піша, каб Мележ выслаў свой раман для «Полымя», калі гатовы, бо ёсць пакуль час не спяшаючыся яго прачытаць. І можа так здарыцца, што «мы яго пусцім у першую чаргу, ці, лепш кажучы, без чаргі». (Упершыню раман быў надрукаваны ў «Полымі» ў 1961, № 8, 9, 10.)

Вуду з хваляваннем чакаць вынікаў.— Гл. лісты Скрыгану ад 2.VI.1961.

97. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 102) Друкуецца па арыгінале.

98. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 103) Друкуецца па арыгінале.

99. І. А. СКРЫГАНУ (с. 104) Друкуецца па арыгінале.

Мележ адказаў двума лістамі (дадзены і наступны) на ліст Скрыгана ад 18.V.1961. Ніжэй прыводзім ліст Скрыгана:

«Дарагі Іване!

Дзён колькі як збіраюся напісаць табе. Проста, каб падзякаваць за тыя харошыя часіны, якія даў ты мне тваім раманам. Папраўдзе, Іване. Даўно я не чытаў з такім жарай, любуючыся на тое, што створана табою. Як хораша і ўдумна ўсё зроблена, як тонка, дасціпна і глыбока. І як праўдзіва і адчувальна. Колькі прамаіў — і ў часе і ў людзях. Які тонкі псіхалагічны рысунак. А Ганна — гэта нешта непаўторнае і вельмі самабытнае.

Усё ўдалося табе, усё, мабыць, глыбока і даўно прадумана, гэта відно па самой фактуры. Мне нават шкода падумаць, каб што-небудзь тут скарачаць. Пастараемся, каб абысціся без гэтага. Хіба ўжо будзе прымушаць нас сама плошча часопіса.

Рукапіс чытаў я дома. Думаў, буду чытаць штодзень падвечар, а зранку рабіцьму сваё. Але прыйшлося-такі парадак парушыць: чытаў і зранку, і ўдзень, і ўночы. Бо на душы хораша было ад твае кнігі: і ад дасканалай філіграннай манеры пісьма, і ад сказу, і ад людзей, і ад атмасферы. Аніякіх маіх заўваг няма табе. Дай божа табе і далей так пісаць. І каларыту мовы я нідзе не крануў, і сказаў стылістам, каб не кранралі. Каб краналі толькі тое, што патрабуе граматыка, бо там былі, мабыць, і машынапісныя памылкі. Калі ты прыедзеш, то мы можам паглядзець рукапіс: калі там што і ёсць, дык толькі ў парадку сяброўскага меркавання па якіх-небудзь трох-чатырох словах. Ці, лепш кажучы, у парадку выяснення: ці ты так напісаў, ці так надрукавана на машынцы. Дый то — гэта ўжо ідзе па лініі стылістаў,

Дык от жа, Іване, цісну табе руку і дзякую за харошыя часіны, якія даў ты мне сваім раманам.

Янка Скрыган».

100. І. А. СКРЫГАНУ (с. 105)

Друкуецца па арыгінале.

...калісьці напісаў кнігу пра лейтэнантаў і генералаў...— Маецца на ўвазе раман «Мінскі напрамак».

Думалася часам, можа, гэта нецікава другім, не вельмі патрэбна...— У лісце-адказе ад 8.VI.1961 Я. Скрыган пісаў аўтару «Людзей на балоце»: «Ні на хвілінку не вагайся і" не сумнявайся, ты робіш добрую працу, пішучы свой раман. Як мне здаецца, дык аднолькава патрэбна і сучаснасць і гісторыя, якая абумовіла нашу сучаснасць. Да сучаснасці мы прыйшлі праз вялікія нягоды і тым больш не маем права забывацца на гэты шлях. Дай шчыра кажучы, я

не схілен пад сучаснасцю разумець толькі сённяшні дзень. Усё, чым жыло і жыве адно пакаленне,— гэта сучаснасць...

Не падымаецхта рука, каб што-небудзь скараціць. Усё там так любоўна і тонка выпісана, што калі скарачаць, то здаецца, мне будзе балець.

У Ганначку тваю я проста ўлюбіўся і перажываю: як та складзецца далейшы яе лёс. А калі так, то значыць, што ты вобразы даў, як жывыя, яны сталі дарагімі нават чытачу.

Вось, браце Іване, пішы далей. Не сумнявайся, не мучся — ты напісаў найлепшую кнігу, зрабіў вялікую перамогу. Смела магу сказаць, што гэта будзе самая яркая старонка ў літаратуры нашай пра Беларусь тых часоў,..»

101. Ф. І. і В. П. КУЛЯШОВЫМ (с. 106)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

...Новы. год Вы сустракаеце з намі...— Доўгі час Куляшоў з сям'ёй жыў на Сахаліне.

**1962**

102. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 107)

Друкуецца па арыгінале.

Мяне вельмі ўсхвалявала Ваша пісьмо...— Ліст ад вучняў датуецца пачаткам сакавіка 1962 г. У лісце паведамлялася, што лепшаму піянерскаму атраду школы прысвоена імя І. Мележа як пісьменніка-земляка.

Пасылаю Вам фотакартку і некалькі кніжак на памяць.— З гэтай пасылкі захавалася кніга «Минское направление», 1961, з аўтографам: «Дарагім маім таварышам вучням Дварышчанскай СШ, піянерважатым і настаўнікам школы разам з добрым зямляцкім прывітаннем, ад усяго сэрца

Іван Мележ 21.3.62 г.

Мінск»

і фотаздымак з надпісам:

«Піянерам 7-б класа Дварышчанскай сярэдняй школы. Жадаю Вам, дарагія мае землякі, добра вучыцца, працаваць, быць сапраўднымі піянерамі-ленінцамі! Ад душы вітаю Вас!

Іван Мележ 21.3.62 г. Мінск»

(З ліста Л. А. Сушчанкі ад 13.X.1980 да ўкладальніка тома.)

103. О. А. ЙЫГІ (с. 108)

Друкуецца па арыгінале. Эпісталярная спадчына І. Мележа да О. Йыгі налічвае 23 адзінкі. Захоўваецца ў Літаратурным музеі імя Ф. Р. Крэйцвальда (г. Тарту).

Упершыню — Неман, 1979, № 10, с. 163. ...послал Вам роман...— «Людзі на балоце»

104. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 108) Друкуецца па арыгінале.

...крымское «спасибо» тебе за письмо...— Ліст Мазалькова ад 17.X.1962, у якім паведамлялася, што па просьбе час. «В мире книг» ён пераклаў урывак з «Подыху навальніцы» (з трэцяга раздзела другой часткі). Аднак па невядомай прычыне ўрывак не быў апублікаваны ў гэтым часопісе.

Сегодня открываем мемориальную доску Богдановичу...— 23 кастрычніка 1962 г. у Ялце, на вуліцы Камунараў, адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі беларускаму паэту М. Багдановічу (1891-1917). Мележ выступіў там з прамовай.

105. О, А. ЙЫГІ (с. 109)

Друкуецца па арыгінале.

...отдыхал в Ялте...— Гл. ЛЖТ: 1962, Кастрычнік, да 23 — лістапад, да 7.

...есть ли у Вас «Белорусско-русский словарь»...—У лісце-адказе да Мележа ад 15.XI.1962 г. Йыгі пісаў: «Рад, что помните о моих заботах, но сейчас «Белорусско-русский словарь» на моей книжной полке есть, так что чувствую себя хорошо обеспеченным справочными материалами. Получил его от нашего общего знакомого Янки Брыля».

106. О. А. ЙЫГІ (с. 109)

Друкуецца па арыгінале.

С большим, интересом и вниманием прочитал Ваше письмо...— Ліст Йыгі ад 17.XI.1962, якое прыводзім тут у скарочаным выглядзе :

«...В связи с многими другими задачами кончил чтение Вашего романа о людях на болоте только недавно. Читал с большим интересом и убедился, что книга не только прекрасно издана — она очень интересна и как художественное произведение. Красочная, колоритная книга. Мне она очень понравилась своими неподдельными, на мой взгляд, картинами народной жизни. Вместе с тем такого романа о патриархальной, замкнутой крестьянской жизни в период НЭПа я не читал, и поэтому он для меня совершенно нов и свеж. На мой взгляд, Вы очень правильно, не приукрашивая, показываете своих героев, и это похвально. Я полностью верю

читанному, Вы сумели без лишней назидательности воплотить социальною идею и без голых схем — и это только хорошо! Наиболее удачными характерами мне казались Ганна и Евхим; очень любопытен Василь, но он, кажется, еще ждет своей очереди. Или не так? Миканор суше, бледнее. Есть и некоторые удачно раскрытые персонала в эпизодах (напр., купец-еврей, Годля), а также герои второстепенного плана. Вообще, много еще остается открытым, в частности судьба Ганны — отсюда наверно возникают интересные и острые коллизии, а также судьба Василя. Читал, что продолжите работу над Вашей хроникой. Не будет ли в дальнейшем центральный герой Василь? Еще отмечу, что очень мне понравились Ваши сочные, добротные, очень правильные картины народной жизни — ярмарка, крестьянские сходы, свадьба.

Сейчас уже почти ясно, что возьмусь за перевод Вашей книги...»

...спасибо за то, что внимательно прочитали книгу...— Гл. ліст да Йыгі ад 28.VIII.1962 і каментарыі да яго.

107. Ю. П. ВАНАГУ (с. 112)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Ю. П. Ванага (г. Рыга), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, што ўвайшлі ў дадзены том.

...книгу, которую Вы получите...— Раман «Людзі на балоце».

**1963**

108. Я. І. ПАЎЛАВУ (с. НЗ)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Отвечаю на Ваше письмо с небольшим опозданием...— Ліст Паўлава датуецца 13.1.1963 (па пашт. штэмпелі).

...только что вернулся в Минск.— Гл. ЛЖТ: 1963, Студзень, 16-20.

...отсюда послал его в редакцию журнала.— У рэдакцыю «Полымя», у якім быў упершыню апублікаваны раман.

Роман вышел в Минске, в Москве...— Людзі на балоце.— Мн.: ДВБ, 1962; Люди на болоте.— М.: Сов. писатель, 1962.

...мне присуждена национальная литературная премия имени Якуба Коласа.— Гл. ЛЖТ: 1962, Снежань, 30.

...на открытии памятника М. Богдановичу в Мисхоре...— 25 мая 1957 г. на тэрыторыі санаторыя «Беларусь».

...на открытии мемориальной доски в Ялте.— 23 кастр. 1962 г. на вуд. Камунараў.

109. І. Я. НАВУМЕНКУ (с. 114)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве І. Я. Навуменкі (г. Мінск).

Тры дні жыў я тут з тваімі героямі...— Размова ідзе пра герояў з рамана І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» (1962). Раман быў аўтарам падараваны І. Мележу з надпісам:

«Івану Мележу.

З павагай і любоўю

І. Навуменка 25.12.62 г.»

«Ростані».— Трылогія Я. Коласа «На ростанях» («У Палескай глушы», 1923; «У глыбі Палесся», 1927; «На ростанях», 1954).

«Барыкады».— Раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» (1951 — 1954).

...пленум у Маскве...— IV пленум Праўлення СП СССР (26-28 сак.), на якім абмяркоўвалася пытанне: «За высокую ідэйнасць і мастацкае майстэрства савецкай літаратуры». На пленуме Мележ выступаў з прамовай, якая ў скарочаным выглядзе апублікавана ў «Лит. газете», 1963, 28 сак. пад назвай «О смелости, которая городов не берет».

Жадаю добрага ўраджаю «Бульбы»! — Маецца на ўвазе аповесць І. Навуменкі «Бульба», над якой якраз у гэты час пісьменнік працаваў.

Ларчанка Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1907-1981), беларускі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР.

Казлова Вольга Васільеўна (н. 1925), загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна.

110. Я. БРЫЛЮ (с. 116)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Я. Брыля (г. Мінск).

Датуецца па пашт. штэмпелі.

І хай — і у птушак будуць добрыя мілыя гнёзды! — Размова ідзе пра раман Я. Брыля «Птушкі і гнёзды». У студзені — лютым 1963 г. Я. Брыль закончыў першы варыянт свайго рамана, пра што было вядома І. Мележу (са слоў Я. Брыля).

111. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 116)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

...шлю ў Мінск — «дедушке»...— Па аналогіі з чэхаўскім апавяданнем «Ванька»: «Подумав немного, он умокнул перо и написал

адрес: На деревню дедушке»... (А. П. Чехов. Полн. собр. соч. и писем.— М.: Худож. лит., 1946, т. 5, с. 262.)

112. В. А. КАВАЛЕНКУ (с. 117)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Гілевіч Ніл Сямёнавіч (н.1931), беларускі паэт, фалькларыст, драматург, перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Першы сакратар Праўлення СП БССР.

Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (н.1929), беларускі крытык і літаратуразнавец. Дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.

Пшыркоў Юльян Сяргеевіч (1912-1980), беларускі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР.

Грынчык М. М.— Гл. ПА.

Дзюбайла Павел Кузьміч (н.1931), беларускі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, прафесар. Загадчык сектара беларускай савецкай літаратуры Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Лобан Мікола (Мікалай Паўлавіч; н.1911), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР.

113. О. А. ЙЫГІ (с. 117) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце: віншаванне з Першамаем, а таксама — у тэксце вядзецца размова пра пленум СП СССР, які адбыўся 26-28 сак. 1963.

114. А. І. ЧАСНАКОВАЙ (с. 117)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце: віншаванне з Першамаем.

Андрыеўская Наталля Міхайлаўна (н.1921), намеснік загадчыка рэдакцыі прозы народаў СССР выд-ва «Советский писатель».

Уладзімір Апанасавіч.— муж А. І. Часнаковай.

...нет ли откликов на наших «людей».— Размова ідзе пра водгукі чытачоў на раман «Людзі на балоце», што выйшаў у выд-ве «Советский писатель» у 1962 г.

115. М. А. АБАЛКІНУ (с. 118)

Друкуецца па чарнавым аўтографе, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Ліст у скарочаным выглядзе друкаваўся ў «Правде», 1963, 16 чэрв. (Гл. ЛЖТ: 1963, Чэрвень, 16).

...хочу поблагодарить за внимание...— У лісце да Мележа ад 24.V.1963 Абалкін — у той час рэдактар аддзела літаратуры і мастацтва «Правды» — звярнуўся з просьбай адказаць на пытанні ў сувязі з падрыхтоўкай краіны да чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС: «Над чем Вы сейчас работаете? Какие Ваши ближайшие планы и замыслы? Что можете предложить для нашей литературной страницы?»

Сейчас я работаю над продолжением истории людей...— Над раманам «Подых навальніцы».

У архіве захоўваецца варыянт гэтага ліста, відаць, самы першы і датуецца 31.V. 1963. Прыводзім некаторыя розначытанні: с. 118. р. 24-25 замест: над продолжением истории людей - в первой книге // над продолжением истории, начатой прежней книгой

с. 118. р. 29 замест: мне //, которая задумана и начата, с. 119. р. 4-6 замест: так как благодаря упорно//так как она, пусть исподволь, трудно, с ошибками и потерями, но неуклонно, неудержимо

с. 119. р. 8-13. Хочу написать книгу - красоту искусству.— Адсутнічае.

с. 119. р. 16-18 замест: стало великим - каждого перед ним // ему поручено временем. В великом деле и велика ответственность.

116. Р. П. ПІЎТАРАКУ (с. 120)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

...дзякую за паштоўку.— Віншавальная паштоўка Піўтарака ад 29.IV.1963.

«Людзі».— Раман І. Мележа «Людзі на балоце», Пятроўскі А. І.— Гл. ПА.

117. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 120)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па змесце — тэлеграма да 50-годдзя з дня нараджэння Ф. І. Куляшова (18.6.1913).

...думаеце адседзецца ў сценах інстытута старажытнага горада Магілы льва...— Куляшоў быў запрошаны ў Магілёўскі педагагічны інстытут на дзяржаўныя экзамены ў якасці старшыні экзаменацыйнай камісіі.

118. О. А. ЙЫГІ (с. 120) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па памеце Мележа: «Адк. 17.8.63» на лісце Йыгі ад 10.VIII.1963.

119. О. А. ЙЫГІ (с. 122)

Друкуецца па арыгінале.

Ваше письмо, как и прежние, прочитал с чувством глубокого уважения к Вам...— Ліст Йыгі ад 8.IX.1963, на якім стаіць памета Мележа: «Адк. 16,9.63 г. І. М.». У гэтым лісце эстонскі перакладчык просіць пісьменніка адказаць на пытанні, што ўзніклі пры перакладзе «Людзей на балоце», і намаляваць план вёскі, пра якую ідзе ў рамане гаворка. А таксама — абазначыць на гэтым плане, дзе маглі быць хаты Васіля, Глушака, Ганны, Грыбка, Андрэя Рудага і інш. Паказаць памер вёскі, колькасць хат, дзе была цагельня, грэбля, могілкі. Асобна намаляваць разгорнуты тыповы план аднаго двара (якія былі пабудоўкі, дзе былі гумны, хлявы, агароды і т. д.).

120. Р. П. ПІЎТАРАКУ (с. 125)

Друкуецца па арыгінале.

...згадваю нашу паездку з Маладзечна.— У чэрвені 1963 г. Мележ запрасіў Піўтарака прыняць удзел у чытацкай канферэнцыі, што павінна была адбыцца ў раённай бібліятэцы г. Маладзечна. Пасля канферэнцыі заехалі да Мележа на дачу ў Ждановічы: «Мы прыехалі позна ўвечары. Крыху адпачнуўшы з дарогі і павячэраўшы, прайшлі ў рабочы кабінет. Іван Паўлавіч расказваў пра другі раман з «Палескай хронікі», зачытваў асобныя мясціны. Гаварыў пра цяжкасці і сумненні ў рабоце, што хоча праўдзіва паказаць карэнны перапом на вёсцы — калектывізацыю з яе складанасцю і супярэчлівасцю. Ён казаў, што шкада яму Ганну, і пакуль ён не ведае, як складзецца яе далейшы лёс, і што, мусіць, жыццё зноў звядзе яе з Васілём. Расказваў, што не заўсёды раман пішацца ў храналагічнай паслядоўнасці і што некаторыя сцэны з калгаснага жыцця былі ім напісаны яшчэ да таго, як ён працаваў над сцэнамі па самой арганізацыі калгасаў». (З ліста Піўтарака да ўкладальніка тома ад 5.XII.1979).

121. О. А. ЙЫГІ (с. 125)

Друкуецца па арыгінале.

Отвечаю с задержкой...— Ліст Йыгі датуецца 29.X.1963. Прыводзім яго ў скарочаным выглядзе: «Дорогой Иван Павлович!

...Спасибо! Ваши объяснения для меня очень полезны, и просто-напросто не знаю, как я мог бы обойтись без них, без Вашей помощи. В последнее время я был очень занят и переводом книги, и своими

повседневными заботами, уже перевел около половины, в течение последнего месяца около 100 страниц, и поэтому у меня сейчас довольно много всяких вопросов...

Признаюсь, перевести Ваш текст — дело довольно трудное. Это всегда так — текст, насыщенный живыми народными оборотами, сочным народным языком, переводится нелегко. Более свободно я чувствую себя там, где текст насыщен диалогом, так как там для передачи интонации больше свобод для выбора соответствующих выражений и оборотов из нашего языка. Я вырос в деревне, и это мне сейчас во многом помогает. Но описания природы и раздумья персонажей, богатые лексикой и стилистическими оборотами, переводятся довольно медленно...»

...готовил несколько глав нового романа для «Полымя».— Другі раман з «Палескай хронікі» друкаваўся ў «Полымі», 1964 № 1, 2 пад назвай «Навальніца над полем» і працяг у «Полымі», 1965, № 9, 10, 11 пад назвай «Подых навальніцы».

Остальное — на Ваших листах.— На двух лістах звычайнай паперы Йыгі напісаў (слупком злева) словы, сэнс якіх прасіў дадаткова растлумачыць. Мележ выканаў просьбу перакладчыка і другім слупком справа супраць кожнага запытання напісаў адказы.

На першым лісце паперы дадзены тапанімічныя назвы ва ўскосных склонах і ўнізе памета Йыгі: «Прошу написать по-белорусски!» Кожную назву вёскі І. Мележ даў у назоўным склоне. № 1.

пад Глінішчы (стар. 136) — Глінішчы да Вадавіч (137) — Вадавічы далей Хвойнага (150) — Хвойнае

пад Загаллем (152, это деревня?) — Загалле (деревня) пад Церамоскім (153) — Церамоскае у Багуслаўца (163) — Багуславец у Бярозаўцы (158) — Бярозаўка з Хвоенкі (213) — Хвоенка № 2

Кеўляе (стар. 96) — едва ходит, от слабости: «едва тянет ноги».

Будыль (118) — стебель.

Кубельца (116) — «кубел», кадка (с ушками). Кулідкі (119) — буханки.

Поралася (145) — управлялась, работала; хлопотала и т. д. Напашкі (146) — носить шинель, пальто на плечах, не вдевая в рукава.

Сычаць (154) — издавать звук, подобный змеиному. Змея «сычыць».

Анігадкі (171) — жить беспечально и т. п.

Чуйка (198) — длинная свитка (крест, пальто) для дороги зимой.

Худоба (200) — скотина (скот).

Чародка (202) — несколько человек, рядом — или один за одним; вроде очереди и (от — черед).

Кулёк (202) — кулёк соломы. Сноп соломы называют куль; кулёк — может быть горстью; меньше, чем куль.

Збарыла (209) — барыло — боченочек для воды и самогона, очень короткий.

Дзеркачы (218) — веник без листьев. Он — дерет, отсюда деркач.

122. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 128) Друкуецца па арыгінале.

...вместо последнего абзаца...— Мастацкі тэкст, які І. Мележ ніжэй прыводзіць у дадзеным лісце,— апошні варыянт канцоўкі тэксту першага падраздзела ў трэцім раздзеле другой часткі рамана «Подых навальніцы». За выключэннем замены слова «раптоўнай» на «нейкай», якую аўтар зрабіў пры наступным перавыданні рамана. (Гл. ліст Мазалькову ад 23.X.1962).

123. В. Д. АСКОЦКАМУ (с. 128)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве В. Д. Аскоцкага (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, змешчаныя ў дадзеным томе.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Віншавальная паштоўка напісана пасля прачытання Мележам артыкула Аскоцкага аб рамане «Людзі на балоце», надрукаванага ў «Литературной газете» (1963, 29 лістап.) пад назвай «Мост в новую жизнь».

124. А. І. і Я. У. ПЯТРОЎСКІМ (с. 128)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве А. І. Пятроўскага (г. Кіеў), як і іншыя матэрыялы з эпісталярнай спадчыны І. Мележа да адрасата, што ўвайшлі ў дадзены том.

125. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 129) Друкуецца па арыгінале.

126. Ф. І. і В. П. КУЛЯШОВЫМ (с. 129)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

**1964**

127. О. А. ЙЫГІ (с. 129) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па памеце Мележа, зробленай на лісце Йыгі ад 16.XII.1963: «Адк. 2.1.64 г.».

...вернулся из длительной поездки в Чехословакию.— З 5 па 22 снеж. 1963 г. у складзе савецкай пісьменніцкай дэлегацыі Мележ знаходзіўся ў Чэхаславакіі.

Новый роман мной написан только наполовину...— Размова ідзе пра раман «Подых навальніцы».

128. О. А. ЙЫГІ (с. 131)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па. пашт. штэмпелі.

...отвечаю, может быть, поздновато.— Ліст Йыгі датуецца 27.1.1964.

...а о премии не волнуйтесь.— У студзені 1964 г. раман І. Мележа «Людзі на балоце» быў вылучаны на атрыманне Ленінскай прэміі. Але па аб'ектыўных прычынах пісьменнік зняў сваю кандыдатуру. За два першыя раманы з «Палескай хронікі» — «Людзі на балоне» і «Подых навальніцы» — Ленінскую прэмію І. Мележ атрымаў у 1972 г.

Федзін Канстанцін Аляксандравіч (1892-1977), рускі пісьменнік, акадэмік АН СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

Ціханаў Мікалай Іванавіч (1896-1979), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі.

129. В. Д. АСКОЦКАМУ (с. 133)

Друкуецца па арыгінале.

Посылаю два номера «Полымя»...— Полымя, 1964, № I, 2, дзе надрукавана была першая частка рамана І. Мележа «Подых навальніцы».

130. Е. Я. ЛОСЬ (с. 133)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 141, в. I, спр. 72, л. I.

...у мяне ўсе думкі і трывогі аб новым рамане...— Размова ідзе пра раман «Подых навальніцы».

131. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 133)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

Я ў Крыму...— З 26 сак. да 22 мая Мележ знаходзіўся ў ялцінскім Доме творчасці пісьменнікаў.

І. Мележ інфармуе А. Пятроўскага пра сваё месца знаходжання ў выпадку, калі ўзнікнуць якія-небудзь пытанні ў сувязі з яго работай над перакладам на ўкр. мову «Мінскага напрамку». Раман выйшаў у выд-ве «Радянський письменник» у 1966.

132. О. А. ЙЫГІ (с. 134)

Друкуецца па арыгінале.

Асноўная частка дадзенага ліста публікавалася ў «Немане» (1979, № 10, с. 167).

...Письмо Ваше получил...— Ліст Йыгі ад 7.IV.1964, на якім ёсць памета І. Мележа: «Адк. 17.4.».

Кое-что сделал в этом году — главным образом в той самой второй части...— Размова ідзе пра работу над другой часткай рамана «Подых навальніцы».

133. О. А. ЙЫГІ (с. 136)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па памеце І. Мележа на лісце Йыгі ад 14.IV.1964: «Адк. 25.4».

У меня также сохранятся самые лучшие воспоминания о днях наших «встреч»...— У лісце да Мележа ад 14.IV.1964 Йыгі піша, што працаваў над перакладам рамана з вялікім задавальненнем, бо раман, складаны па задуме і выдатны ў мастацкім асэнсаванні, паставіў перад перакладчыкам складаныя праблемы. Ён шчыра дзякуе аўтару рамана за вялікую дапамогу ў час работы над перакладам яго твора: «Ваше внимание к моим заботам может быть образцом Отношений автора и переводчика».

134. У. М. ЮРЭВІЧУ (с. 136)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

Гэта адказ І. Мележа на ліст У. Юрэвіча ад 21.IV.1964, які друкуецца ніжэй (скарочана):

«Дарагі Іван Паўлавіч!

...Што ж я хацеў табе сказаць. Прачытаў першую частку «Навальніцы» і шчыра скажу — рады. Рады, па-першае, што спраўдзіліся мае спадзяванні аб прыходзе героя ў народ, я маю на ўвазе Апейку і вельмі жыва напісаную сцэну яго размовы з людзьмі на сенакосе. Баюся, ці не залішне шмат драматызму ў гэтай частцы — так моцна напісаны Ганніпы пакуты і смерць малой, так усхвалявана пададзены Хадосьчыны перажыванні, што ці хопіць такога ж драматызму і на

астатняе. А ён жа не павінен слабець, бо драматызм калектывізацыі — асабістая драма кожнага, і яна не павінна быць меншай, чым Ганніна і Хадосьчына перажытае гора. Спадзяюся, што не пагрэшыш смеласцю ў паказе гэтых драматычных падзей, якія вось-вось ужо наспелі. Мусіць, чытаў С, Залыгіна ў № 2 «Нового мира». А мо варта і яшчэ вастрэй, яшчэ больш агаліць супярэчнасці таго часу як палітычныя, так і ўнутраныя, псіхалагічныя ў кожным чалавеку. У Беларусі гэтага драматызму было не менш, чым у Сібіры.

Трохі бянтэжыць мяне парушэнне логікі вобраза Васіля. Неяк неспадзяванай і няяснай засталася яго жаніцьба на Мані, і не зусім падрыхтаваны такі раптоўны разрыў з ёй. Ці не занадта паспешліва ты з гэтымі вузламі?

Вось пакуль тыя беглыя заўвагі, што ўзніклі пры першым чытанні. Не крыўдуй, Іване, яны шчырыя... Жадаю табе добрага, веснавога, творчага настрою і здароўя, каб прычакаць хутчэй развязкі тых вузлоў, што ўжо ты паспеў пазавязваць у першай частцы «Навальніцы».

Чакаю твайго вяртання на беларускую зямлю з багатым плёнам — завершанай другой кнігай.

Моцна цісну руку твой Валодзя 21/IV-64 г.»

«Навальніца».— Гаворка ідзе пра раман «Подых навальніцы», частка якога была надрукавана ў «Полымі», № I, 2 пад загалоўкам «Навальніца над полем».

135. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 138) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце і па сувязі з сумежнымі лістамі.

...посылаю это поздно.— Размова ідзе пра першую кнігу «Мінскага напрамку», што была перакладзена А. Пятроўскім на ўкр. мову і даслана пісьменніку на аўтарызацыю.

136. П. М. НІКІЦІЧУ (с. 138)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве Марозавай М. В.— жонкі адрасата (г. Масква).

...прочитал Ваши переводы.— Размова ідзе пра пераклады ўрыўкаў з першай часткі рамана І. Мележа «Подых навальніцы», зробленыя Нікіцічам для маскоўскага радыё. Па невядомай прычыне ўрыўкі не папалі ў эфір. (З ліста М. В. Марозавай да ўкладальніка тома.)

Вопрос о переводе всего романа...— «Подых навальніцы» на рус. мову пераклаў Д. Кавалёў.

...кое-что уже переводилось для минских газет...— Урыўкі з рамана «Подых навальніцы» ў перакладзе І. Клімашэўскай друкаваліся

ў «Сельской газете», 1963, 1, 3, 4, 7, 8 снеж.; «Советской Белоруссии», 1964, 7 сак.

137. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 140)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Галіна Іванаўна — сястра А. І. Пятроўскага,

138. А. В. ВУДАКОВУ (с. 140)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата {Горкаўская вобл.).

...получил Ваше письмо...— Ліст Будакова ад 5.VI.1964, на якім ёсць памета Мележа: «Адк.».

...оно мне доставило большое удовольствие.— У лісце да пісьменніка адрасант паведаміў, што яго як кіраўніка драматычнага школьнага гуртка зацікавіла п'еса І. Мележа «Пакуль маладыя», і што ў 1964 г. яна была пастаўлена на мясцовай сцэне.

Я написал 2 с половиной пьесы.— Размова ідзе пра п'есы «Пакуль маладыя», «Дні нараджэння», «У новым доме».

...«Минское направление» — шлю на память Вам...— Минское направление.— Мн.: ДВБ, 1963 з надпісам:

«Александру Васильевичу Будакову с благодарностью за постановку пьесы «Пока Вы молоды» и с добрыми пожеланиями на будущее, от автора —

Иван Мележ I.VII.64 г.

Минск»

139. О. А. ЙЫГІ (с. 141)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Книгу получил.— Раман «Людзі на балоце» ў перакладзе О. Йыгі на эстонскую мову. Перакладчык у лісце да Мележа ад 25.XI.1964 піша: «Наконец-то Ваш роман на эстонском языке вышел: сегодня отправлено два экземпляра и Вам, чтобы Вы смогли положить их на полку рядом с другими переводами».

Новый роман движется понемногу.— Размова ідзе пра раман «Подых навальніцы».

...очень хочу побывать в Таллине...— Гл. ліст Мележа да Йыгі ад 24.VII.1968 і каментарыі да яго.

140. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 142)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

141. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 143) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце: «Настроен отдыхать и лечиться». Тэрмін знаходжання І. Мележа ў санаторыі з 9.XII.1964 па 2.1.1965.

142. О. А. ЙЫГІ (с. 143)

Друкуецца па арыгінале.

...одна из радостей была сотворена Вами.— Маецца на ўвазе пераклад О. Йыгі на эстонскую мову «Людзей на балоце».

143. І. А. і Г. М. СКРЫГАНАМ (с. 143)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

З заснежанага падмаскоўнага лесу...— З 9 па 30 снежня Мележ знаходзіўся ў падмаскоўным санаторыі «Пушкино».

144. Е. Я. ЛОСЬ (с. 144)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 141, в. І. спр. 72, л. 6.

Датуецца па змесце: паштоўка даслана з падмаскоўнага санаторыя, дзе Мележ адпачываў у снежні 1964 г.

145. У. М. і Л. С. ЮРЭВІЧАМ (с. 144)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве У. М. Юрэвіча.

Датуецца па памеце адрасата.

**1965**

146. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 144) Друкуецца па арыгінале.

Закончыў увесь трэці раздзел...— Размова ідзе пра раман «Подых навальніцы».

147. М. ТАНКУ (с. 145)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 25, в. 2, спр. 75, л. І.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

У пачатку мая вяртаюся дадому.— У сакавіку — маі Мележ знаходзіўся ў Ялце.

148. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 145) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна паводле зместу: «Некалькі дзён назад закончыў ён сур'ёзны раман...» А вядома, што «Подых навальніцы» І. Мележ скончыў 27 жніўня.

...рыхтуюць асобнае выданне ў выд-ве...—Подых навальніцы.— Мн.: Беларусь, 1966.

149. І. Г. БЛОКУ (с. 146)

Друкуецца на арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

...книга моя выйдет на румынской земле...— Раман «Людзі на балоце».

После возвращения из Румынии...— З канца студзеня па 3 лютага ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў Мележ знаходзіўся ў Румыніі. Пры сустрэчы падараваў Блоку кнігу «Люди на болоте» (1962) з надпісам: «Переводчику Игорю Блоку — на память

О первой встрече в Бухаресте и с благодарностью за радостный сюрприз — за перевод романа «Люди на болоте» на румынский язык.

Иван Мележ 4.II.65 г.

Бухарест»

...закончил новый роман...— «Подых навальніцы».

...посылаю несколько книг...— Альбомы пра Беларусь. (Інфармацыя з ліста Блока ад 3. П. 1982 да ўкладальніка тома.)

150. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 147)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ, як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да Кавалёва, уключаныя ў дадзены том.

...завтра я улетаю на юг...— З 10 лістап. па 5 снеж. Мележ знаходзіцца ў Ялце.

...ты прислал мне письмо...— Ліст Кавалёва ад 23.X.1965, у якім ён паведамляў, што запрошаны ў Мінск на нараду па перакладзе і што хоча сустрэцца з Мележам. Відаць, неабходнасць гэтай сустрэчы была выклікана тымі пытаннямі і праблемамі, якія ўзніклі ў Кавалёва пры рабоце над перакладам «Подыху навальніцы»: «...приеду — уже переведенное вместе считаем, внесем поправки».

...добить автобиографию (с которой опоздал ужасно)...— Мележ мае на ўвазе просьбу рэдакцыі «Вопросов литературы» (ліст А. Дзмітрыевай ад 19.VII.1965) даслаць да 1-га лістапада аўтабіяграфію (15 машынапісных старонак) для публікацыі ў часопісе, а затым уключыць яе ў 5-ці тамовае выданне «Советские писатели». Аўтабіяграфічны артыкул Мележа «Знайсці сябе» быў апублікаваны ў

названым часопісе ў № 10 за 1970 г. А таксама ў кн.: Советские писатели: Автобиографии.— М.: Худож. лит., 1972, т. 4.

...прочитать корректуры романа...— Размова ідзе пра першую і другую карэктуры рамана «Подых навальніцы» (Мн.: Беларусь, 1966). Відаць, у Ялце І. Мележ чытаў толькі першую карэктуру, бо ў архіве сям'і пісьменніка захоўваецца першая карэктура, на якой стаіць яго памета: «Прачытаў — Іван Мележ. 3.XII.65 г.».

Дома я оставляю корректуру № 11 «Полымя».— У «Полымі» № 11 была надрукавана заключная частка рамана «Подых навальніцы».

151. І. Г. БЛОКУ (с. 148)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (Румынія, г. Бухарэст).

152. В. І. КУДРЫЦКАМУ (с. 148)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ, як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Очень взволновало меня твое письмо.— Ліст Кудрыцкага ад 16.X.1965 (па пашт. штэмпелі), у якім ён звяртаецца да пісьменніка — таварыша школьных гадоў: «Дарагі сябар па школьнай лаўцы, Іван Паўлавіч!... Прачытаў тваю кнігу «Людзі на балоце». Цудоўная кніга... Чытаў тваю кнігу з такім пачуццём і любоўю, што мне здаецца, я вярнуўся да таго часу, калі я быў хлопцам і хадзіў па родных дарагіх мясцінах свайго роднага гнязда...»

153. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 149) Друкуецца па арыгінале.

154. А. І. ЧАСНАКОВАЙ (с. 149)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

...Вам, возможно, придется поработать над новым большим романом, который уже переводится.— Над «Подыхам навальніцы» ў якасці рэдактара ў выд-ве «Советский писатель».

155. Ю. П. ВАНАГУ (с. 150)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі,

**1966**

156. У ГУДЗЕВІЦКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 150)

Друкуецца па чарнавым аўтографе.

Упершыню (без даты) — Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 241.

157. О. А. ЙЫГІ (с. 151)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў літаратурным музеі ў г. Тарту.

...получите мою новую книгу.— Раман «Подых навальніцы». ...что Вы сделали для меня.— Размова ідзе пра пераклад О. Йыгі на эст. мову рамана «Людзі на балоце».

158. В. П. КРАЎЦОВУ (с. 151)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (в. Прылукі Мінскага р-на).

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1977, 12 жа. ...вельмі парадаваў і ўзрушыў Ваш ліст...— Гаворка ідзе пра публікацыю В. П. Краўцова «Вялікае ў малых Курэнях» (Літ. і мастацтва, 1966, 29 сак.) аб «Палескай хроніцы» І. Мележа.

Пасылаю Вам «Подых навальніцы»...— У падарунак ад пісьменніка Краўцоў атрымаў раман з аўтографам: «Васілю Паўлавічу Краўцову, якога я, здаецца, ніколі не бачыў, але якому мне хочацца па-сяброўску паціснуць руку і сказаць ад сэрца «вялікае дзякуй!».

Іван Мележ 14.4.66 г.

Мінск»

159. О. А. ЙЫГІ (с. 152)

Друкуецца па арыгінале.

...получил письмо от тов. Оямаа...— Ліст загадчыка рэдакцыі мастацкай літаратуры сацыялістычных краін выд-ва «Ээсці раамат» Ю. Оямаа ад 21.IV.1966, у якім выказваецца намер выдавецтва выдаць «Подых навальніцы» на эст. мове.

160. У СВАТКАЎСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 152)

Друкуецца па фотакопіі. Арыгінал захоўваецца ў Мядзельскім Музеі Народнай Славы.

...адказваю са спазненнем.— Ліст са Сваткаўскай школы, які «ад імя ўсіх склаў Мікола Пашкевіч» (1935-1972),— настаўнік беларускай мовы і літаратуры школы — датуецца 8.II.1966.

Прачытайце артыкулы Р. Бярозкіна, Р. Шкрабы, Ф. Куляшова, У. Юрэвіча...— Р. Бярозкін. Так пачыналася ў Куранях...— Звязда, 1961, 21 лістай.; Полесье, двадцатые годы.— В мире книг, 1963, № 2; Час ідзе, раман разгортваецца.— Літ. і мастацтва, 1965, 3 снежня. Р.

Шкраба. Ад праўды жыцця.— Полымя, 1962, № 6; Преображение человека.— Известия, 1963, 22 мая. Ф. Куляшоў. Лицом в завтра.— Неман, 1962, № 3; События и характеры.— Дружба народов, 1964, № 7; Грозовые дни.— Неман, 1966, № 4. Юрэвіч. Жывапіс словам,— Полымя, 1963, № 10; Шматгалоссе жыцця.— Малэдосць, 1964, № I; У творчэй трывозе.— Літ. і мастацтва, 1964, 5 чэрв.; у кн: Шматгалоссе жыцця.— Мн.: Беларусь, 1965, с. 3-46.

161. Я. Л. СМАЛЕНСКАМУ (с. 154)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваеццэ ў асабістым архіве Смаленскага (г. Кіеў), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том. Датуецца па пашт. штэмпелі.

...было приятно получить весточку от тебя...— Ліст Смаленскага ад 22.V.1966, у якім ён выказвае падзяку пісьменніку-земляку за раманы, што ўвекавечылі родны палескі край: «Недавно я из печати узнал о твоих успехах на литературном поприще<...>. Очень приятно всем нам, хойничанам, сознавать, что нашелся человек из нашей среды, который правдиво, в художественных образах рассказывает о жизни нашего родного края, утверждает перед всеми человека-полешука. Ёще раз поздравляю и с радостью жму твою руку. Не скрою, хотел бы получить ответ на это письмо и, если можно, хотя бы одну твою книгу с личным автографом. Я часто рассказываю о тебе своим детям и товарищам по работе, рассказываю с гордостью, что наша земля дала Белоруссии такого писателя, в котором, она так нуждалась».

...прибавилось работы еще и по Союзу писателей.— На 5-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі (1966, май) І. Мележ быў абраны сакратаром Праўлення СП БССР.

Завтра уезжаю во Францию...— Мележ наведаў Францыю толькі восенню (26 кастр.— 7 лістап.).

162. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 154) Друкуецца па арыгінале.

...заговорила старая рана...— 20 чэрвеня 1942 г. І. Мележ быў цяжка паранены.

...волнуют все наши общие дела...— Д. Кавалёў пераклаў на рус. мову раман І. Мележа «Подых навальніцы», які якраз рыхтаваўся да публікацыі ў час. «Дружба народов» і ў выд-ве «Советский писатель».

...удары за ударами — как в Ташкенте! — І. Мележ тут параўноўвае свой лёс з ташкенцкімі землетрасеннямі.

...на днях собираюсь поехать в Крым...— З 16 верас. па 9 кастр. адпачывае ў Місхоры.

Что касается договора с «С. п.»...— Размова тычыцца выдання «Подыху навальніцы» ў выд-ве «Советский писатель».

Баруздзін Сяргей Аляксеевіч (н. 1926), рускі пісьменнік. З 1966 г. працуе галоўным рэдактарам часопіса «Дружба народов».

Шапіра Леў Якаўлевіч (1908-1955), рускі пісьменнік, перакладчык. Пераклаў на рус. мову раман І. Мележа «Мінскі напрамак».

163. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 156)

Друкуецца па арыгінале.

...твое письмо я получил...— Ліст Кавалёва датуецца 10.IX.1966.

...что касается судьбы романа...— Гаворка ідзе пра публікацыю рамана І. Мележа «Подых навальніцы» ў час. «Дружба народов».

Салахян Акоп Ншанавіч (1922-1969), армянскі крытык і літаратуразнавец. У той час працаваў намеснікам галоўнага рэдактара «Друяібы народов».

Лукашэвіч Вадзім Пятровіч (1905-1978), рускі пісьменнік.

Нельзя же тянуть бесконечно.— Выдавецкі дагавор пад № 523 (з архіва сям'і І. Мележа) паміж І. Мележам і рэдакцыяй

«Дружбы народов» на выданне рамана «Подых навальніцы» быў падпісаны 12 крас. 1963 г. Раман жа быў апублікаваны ў часопісе толькі ў 1967 г., №№ 5-7.

...что-то сделать в отношении «Роман-газеты»...— Запланаваная публікацыя «Подыху навальніцы» ў «Роман-газете» адкладвалася на няпэўны тэрмін, што хвалявала І. Мележа.

164. А. І. ЧАСНАКОВАЙ (с. 156) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце: «Уже более 10 дней греюсь...» — а санаторная пуцёўка ў Місхор з 16.IX.1966.

...в октябре я готов...— Гаворка ідзе пра работу з выдавецкім рэдактарам. А. Часнакова як рэдактар «Подыху навальніцы», што рыхтаваўся да друку ў выд-ве «Советский писатель», яшчэ раней паведамляла І. Мележу, што заканчвае рэдагаванне кнігі і што ў бліжэйшы час хацела б з ім сустрэцца.

...готов «и к смерти и к бессмертной славе».— Перафразіраваны радок з паэмы У. Маякоўскага «Во весь голос»: «готовые и к смерти и к бессмертной славе».

165. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 157)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па змесце: «Сегодня 7-ое...»

На «Дружбу» я зол.— Гл. ліст Кавалёву ад 4.IX.1966 і каментарыі да яго.

Надо будет что-то делать с «Роман-гаЗ.»...— Гл. ліст Кавалёву ад 4.IX.1966 і каментарыі да яго.

...«Совет, воин» с твоей «врезочкой»...— Размова ідзе пра ўрывак «Апейкины заботы» з рамана «Подых навальніцы» ў перакладзе на рус. мову Д. Кавалёва, які быў апублікаваны ў час. «Советский воин» (1966, № 18, с. 32-36).

...что там в «Огоньке»? — У час. «Огонек» (1968, № 50, с. 12—15) апублікаваны аднайменны ўрывак з рамана І. Мележа «Подых навальніцы» ў перакладзе на рус. мову Д. Кавалёва.

166. І. Г. БЛОКУ (с. 158)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

...о встречах наших в Бухаресте...— Гл. каментарыі да ліста Блоку пад № 149.

Две статьи я посылаю Вам...— С. Андреюк. Сражающееся прошлое.— Советская Белоруссия, 1966, 20 крас.; Н. Пашкевич. Откуда мы родом.— Известия, 1966, 12 мая. (Інфармацыя з ліста Блока ад 13 ліп. 1982 да ўкладальніка тома.)

...вышла в Ленинграде книжка моих рассказов.— Зб. «Свидание за городом», які быў пасланы І. Блоку з аўтографам: «Дорогому Игорю Блоку с благодарностью за румынский перевод романа и с самыми лучшими пожеланиями.

И. Мележ 16.Х.66 г. Минск»

167. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 158) Друкуецца па арыгінале.

...большая часть нашего вояжа позади...— У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў знаходзіўся ў Францыі (26 кастр.— 7 лістап.).

168. У. С. АГАНСКАМУ (с. 159)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

...посылаю книгу...— «Свидание за городом» з аўтографам: «Дарагому таварышу мілай маладосці Уласу Аранскаму.

Іван Мележ Мінск, 27.XI.66»

169. Ю. П. ВАНАГУ (с. 159)

Друкуецца па арыгінале,

**1967**

170. О. А. ЙЫГІ (с. 160)

Друкуецца па арыгінале.

Спасибо Вам за хорошее письмо.— Ліст Йыгі ад 7.II.1967. На ім стаіць памета Івана Мележа: «Адк. 11.2.67».

Я рад, что Вы работаете над переводом...— Размова ідзе пра работу Йыгі над перакладам на эст. мову рамана І. Мележа «Подых навальніцы».

У лісце да Мележа ад 7.II.1967 Йыгі пісаў: «Сейчас сижу над этой работой и буду сидеть еще долго, по крайней мере, полгода или еще больше... На днях закончил перевод первой части «Навальніцы», т. е. одну треть. Работа идет — ах, как медленно!..»

Да, вопросов немного Я с Вами согласен: Вы сделали успехи.— «Хорошо, что многие проблемы я уже решил при переводе «Людей», так что сейчас голову ломать не приходится, и вопросов у меня к Вам не так уж много. Но они возникают иногда и будут возникать и в дальнейшем. Так что переписка и сейчас необходима для меня. Собрал вопросы все в одну кучу». (З ліста Йыгі ад 7.II.1967.)

І звернемся да ўспамінаў эстонскага перакладчыка: «В конце 1966 года я начал обрабатывать черновые варианты перевода н переписывать рукопись. И, конечно, возникли вопросы, требующие пояснения. Как и раньше, я обратился с ними к автору. Правда, неясностей было теперь значительно меньше: я уже кое-что знал о мире и быте героев Мележа. Поэтому работа шла успешнее, я был рад этому...» (Неман, 1979, № 10, с. 168.)

...летом эта мечта сбудется! — Гл. ліст І. Мележа да О.Йыгі ад 24.VII.1968 і каментарыі да яго.

171. Б. А. ЛЯОНАВУ (с. 162)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква').

...пишу только теперь.— Ліст Ляонава датуецца 13.1.1967.

...ответить на Ваши вопросы.— У сувязі з працай над нарысам па сучаснай савецкай прозе, у які павінен быў увайсці раздзел пра творчасць І. Мележа, Ляонаў звярнуўся да пісьменніка з просьбай (у вышэй названым лісце) адказаць на наступныя пытанні: «Как Вы оцениваете состояние многонациональной советской литературы и перспективу ее развития? Чем Вы объясняете такой быстрый и бурный расцвет литератур малых народов нашей страны? Ваши творческие планы?»

Книга будет называться «За осокой берег».— Размова ідзе пра апошні раман з «Палескай хронікі» «Завеі, снежань», толькі частка якога была надрукавана пры жыцці пісьменніка ў «Полымі», 1976, № 3, 4, 5.

172. КАЗАНСКАМУ МУЗЕЮ А. М. ГОРКАГА (с. 164)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Упершыню (без даты) — Іван Мележ. «Жыццёвыя клопаты», с. 277.

У пачатку 1967 г. І. Мележ атрымаў афіцыйны ліст ад дырэкцыі Казанскага музея М. Горкага, у якім паведамлялася, што музей стварае новы раздзел экспазіцыі «Савецкія пісьменнікі — пра М. Горкага» і што вельмі пажадана, каб І. П. Мележ як вядомы беларускі пісьменнік напісаў хоць бы некалькі радкоў для музея пра М. Горкага.

173. А. І. ЧАСНАКОВАЙ (с. 164)

Друкуецца па арыгінале.

...выдвинули кандидатом в Верховный Совет.— Па Ленінскай выбарчай акрузе № 264 Гомельскай вобл.

174. І. Г. БЛОКУ (с. 165)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Датуецца па змесце: віншаванне з Першамаем і па памеце адрасата на паштоўцы: 1967.

Новый роман печатается в журнале «Дружба народов»...— «Подых навальніцы».

175. І. А. СКРЫГАНУ (с. 165)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

176. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 165)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі месца атрымання: 27.IV.1967. Масква, з улікам паштовага каэфіцыента.

177. О. А. ЙЫГІ (с. 166)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

178. В. П. і Ф. І. КУЛЯШОВЫМ (с. 166)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па сэнсавай аналогіі з тэкстам паштоўкі Мележа да Йыгі ад 26.IV.1967.

179. Л. І. МЕЛЕЖ (с. 167)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

180. В. М. КАРПАВАЙ (с. 167)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве В. М. Карпавай (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

Датуецца па выдавецкай памеце: «1967» і ўдакладняецца дата па змесце — віншаванне з Першамаем.

181. З. П. МАТУЗАВУ (с. 167)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве П. З. Шаўцова (г. Мінск).

Ліст надрукаваны на машынцы на афіцыйным бланку Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

...выдаць кнігу выбраных твораў Л. Калюгі.— Кніга апавяданняў і аповесці Лукаша Калюгі «Ні госць, ні гаспадар» выйшла ў выд-ве «Мастацкая літаратура» ў 1974 г. Калюга Лукаш (Вашына Канстанцін Пятровіч; 1909-1937), беларускі пісьменнік.

182. М. А. АВАЛКІНУ (с. 168)

Друкуецца па машынапіснай копіі, зробленай М. А. Абалкіным. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

...прочитал в «Правде» Вашу статью...— Возвращение к истоку.— Правда, 1967, 17 жн.

...думаю о новой книге...— Размова ідзе пра раман «Завеі, снежань».

«Дыхание».— Раман «Подых навальніцы».

...на Неделю белорусской культуры...— Дні культуры і мастацтва БССР у Маскве (1967, верас.).

Инсценировка мне кажется не совсем, не везде, удачной, но актерские работы есть хорошие.— Сцэнічная кампазіцыя п'есы па рамане І. Мележа «Людзі на балоце» Т. Абакумоўскай і З. Браварскай у пастаноўцы — Б. Эрына. Галоўныя ролі выконвалі: Міканор — М. Яроменка; Апейка — Л. Рахленка; Ганна — Л. Давідовіч; Васіль — Г. Гарбук; Яўхім — Б. Уладамірскі; Глушак — З. Стома.

183. О. А. ЙЫГІ (с. 168)

Друкуецца па арыгінале.

...очень обрадовали тем, что так много успели сделать...— У лісце да Мележа ад 6.IX.1967 Йыгі паведаміў, што засталося перакласці з «Подыху навальніцы» толькі апошні раздзел, 25 старонак.

...за исключением русского...— Раман «Подых навальніцы» ў перакладзе на рус. мову Д. Кавалёва выйшаў у Маскве ў выд-ве «Советский писатель» у 1967.

...посылаю Вам ответ на Ваши вопросы.— На асобных лістках паперы Йыгі даслаў пытанні, што ўзніклі ў яго пры перакладзе на эст. мову «Подыху навальніцы». І. Мележ адказаў на кожнае з пытанняў тут жа на гэтых лістках і адаслаў разам з пісьмом. Пытанні напісаны рукой Йыгі, адказы — Мележа:

| | |
|---|---|
| Стр. 389 — Ярашчук — збоку прыпёку — какая-то поговорка? Что это значит? | Поговорка. Значит: случайный человек. Случайно прилип к делу |
| Стр. 392 — Няхай звягае! | Пусть лает (как собака). |
| Стр. 403 — каля цэнтральнага сквера Это где было? Там, где сейчас Исполком города или у Дома профсоюзов? | Да, где дом профсоюзов. Где театр Янки Купалы. |
| Стр. 406 — на Нямізе Это улица? Городской район? | Название улицы. |
| Стр. 407 — канспект па Замоціну Кто это был? | Фамилия профессора Белорусского университета. |
| Стр. 407. Адліга палезла настырней | Настойчивей, напористей. |
| Стр. 423. «Ноги опухли... колтун в волосах»... | Колтун — болезнь волос, которой болели в болотах |
| Стр. 464 — мука на зацірку | Затирка — похлебка из воды и муки |
| Стр. 472 — Пелюхава жонка... распатланая | Непричесанная, косматая. |
| Стр. 476 — нерухомая, грамозная маёмасць. Это, так сказать, «большие вещи», что ли? | Громоздкое имущество, хозяйство! Его не увезешь, не спрячешь... |
| Стр. 484. Лаюць нейкія лясныя дзікуны... Что под этим следует разумевать? Это какие-то бандиты, которые жили в лесу и руководили подпольным движением? | Дзікуны — дикари. Так он думает про Евхима и подобных ему, которые недовольны им, Зубричем. |
| Стр. 519. Асінбуд Что это за место? Или предприятие? | Осинстрой — строительство большой, известной тогда электростанции — на Осиновских болотах около Орши. |

| | |
|---|---|
| Стр. 536. РСІ<br>Рабоче-крестьянская инспекция? Вот что еще: в 5-й главе III части пропущен номер подглавы 3. Это опечатка, следует ли сделать новую подглаву там, где начинается речь Анисьи (стр. 524), со слов: «Калі Чарвякоў аб'явіў, што слова мае таварыш Карась...» | Да, правильно.<br>Можно и так. Но лучше — смените «4» на «3» и так далее. По порядку. |
| Стр. 189. Як гарланіў з братам «паследні нынешні дзянёчак» Это песня? Что это за песня? Помните ли Вы соответствующую строфу? | Да, песня. Ее часто пели пьяные парни, когда шли служить в армию. «Последний нонешний денечек гуляю с вами я, друзья, а завтра рано, чуть светочек заплачет вся моя семья» и т. д. Грустная, печальная песня. |
| Стр. 191. Гарбаты Мазыр. Почему гарбаты? | «Гарбаты» — потому что он расположен на больших холмах, в нем много оврагов. |
| Стр 194. Палякі трымаліся купкамі, каля мястэчка, у засценку. Были ли они отдельно в каком-то поселке? | Нередко у них были свои поселки, застенки. Застенок — небольшой поселок, хутор. |
| Стр. 201. Дарогі яшчэ багата дзе рэжуць без нажа. Не понимаю. Это какая-то поговорка? Что это значит? | Поговорка. «Рэзаць без нажа» — это значит — резать, подрезать под корень, не давать жить. |
| Стр. 202. Восень уладарыць непадзельна. Нераздельно? | Да, нераздельно. |
| Стр. 205. Спакойная журлівасць над усім. | Журлівасць — грусть, печальность. |
| Стр. 206. Ногі — волкія | Волкія — влажные, сыроватые. |
| Стр. 213. ДПУ — это ГПУ? | ГПУ |
| Стр. 214. Юрлілі лодкі | Легко, ловко, послушно веслам поворачиваясь, куда надо, скользили… |
| Стр. 280. Абоўдзіла | Ругательное: дурак, не понимающий ничего человек. |
| Стр. 337. Склешчыцца | Грубое: женщина с мужчиной — склещились, сплелись ногами. Живут вместе половой жизнью. |
| Стр. 370. Стрыкун | Стрыкун — образное: малыш, жеребенок, который беззаботно может подбрыкивать, бегать. |
| Стр. 371. Ці ў царкве, на вялікі дзень. Это вообще церковный праздник или называли ли так какой-нибудь конкретный церковный праздник? | Праздник. Рождество. <Трэба: пасха> |

| | |
|---|---|
| Стр. 376. Не мог ачомацца | Опомниться, прийти в себя. |
| Стр. 382. Бархатное пиво. Это так по вкусу или было это такое название? | Было такое по названию. И вкус свой у него был мягкий, бархатный. |
| Стр. 383. У Пхові. Как им(енительный) падеж? | Пхов. |
| Стр. 388. Я адшыў можа яшчэ пяцёх. | Пяцёх — пяць человек |

184. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 169)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Г. С. Шупенькі (г. Мінск), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

З вялікім хваляваннем прачытаў я твой ліст,— Ліст Г. Шупенькі ад 1.Х.1967 быў напісаны з Маскоўскай бальніцы (НДІТ).

185. О. А. ЙЫГІ (с. 170)

Друкуецца па арыгінале.

...я Вам благодарен за тот труд...— За пераклад на эст. мову рамана «Подых навальніцы».

186. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 171)

Друкуецца па арыгінале.

187. А. А. КУЛЯШОВУ (с. 172)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Куляшовай А, Ф. (г. Мінск).

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Вельмі ўзрушаны тваім віншаваннем! — З нагоды ўзнагароды І. Мележа ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

188. В. Д. АСКОЦКАМУ (с. 172)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

...найду 11 № «Знамени»...— У час. «Знамя» (1967, II) змешчаны артыкул В. Аскоцкага «Гроза над Куренями» пра раман І. Мележа «Подых навальніцы».

189. І. Г. БЛОКУ (е. 173)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата. (Румынія, г. Бухарэст).

190. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 173) Друкуецца па арыгінале.

...пішу Вам з такім перапынкам.— Ліст Шупенькі датуецца I.XI.1967.

...павінен быў выступаць з дакладам...— І. Мележ мае на ўвазе прамову, з якой ён выступаў на гарадскім вечары ў гонар адкрыцця Дзён французскай культуры 8.XII.1967.

...вялікі сход па прозе...— Маецца на ўвазе сумеснае пасяджэнне секцый прозы і крытыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі (25 снеж. 1967), на якім абмяркоўваліся раманы, аповесці, апавяданні за 1967 г., што публікаваліся на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку.

...на Ларчанк[авых] урачыстасцях...— Урачыстасці ў гонар 60-годдзя з дня нараджэння М. Р. Ларчанкі.

Разам з лістом Мележ паслаў віншавальную паштоўку: «Шлю Вам вітанне з Мінска, марознага, звонкага. Зычу Вам добрага Новага года (кароткага, на адны суткі) і — вялікага (на ўсе 12 (дванаццаць) месяцаў.

Зычу перанесці з поспехам усе выпрабаванні, вярнуцца з перамогай!»

191. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 174)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі. Касалапаў В. А.— Гл. ПА.

...приеду в Москву, тогда буду ругаться.— Выказваецца незадаволенасць І. Мележа з выпадку часовага затрымання публікацыі «Подыху навальніцы» ў «Роман-газете».

192. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ (с. 174)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

193. В. М. КАРПАВАЙ (с. 174)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца годам выдання паштоўкі: «1967» і па змесце — віншаванне з Новым годам.

**1964**

194. П. С. КАБЗАРЭУСКАМУ (с. 175)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 369, л. 9.

...тое участие в сборнике желательно...— Відаць, размова ідзе пра ўдзел у зборніку апавяданняў аб Вялікай Айчыннай вайне «Вставай, страна огромная» (1969). Укладальнік П. Кабзарэўскі.

...хотел бы предложить «В горах дожди».— У вышэй названы зборнік увайшло апавяданне І. Мележа «Адна» ў перакладзе П. Кабзарэўскага (апавяданне перакладалася яшчэ для зб. «Белорусские рассказы» (1955).

195. В. Ф. ЯЗЫКОВІЧУ (с. 175)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

196. С. Я. ПАПОВУ (с. 177)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве С. Я. Папова (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

...после Изюм-Барвенковской трагедии...— Гл. ліст К. А. Лысенку ад 27.III.1974 і каментарыі да яго.

Написал два мирных романа...— Размова ідзе пра першыя два раманы з «Палескай хронікі» — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

...один из которых посылаю Вам...— Раман «Люди на болоте» (Мн.: Беларусь, 1967) з аўтографам: «Генералу С. Е. Попову от бывшего замполита 70-го гвардейского артполка РГК, с чувством крепкого военного братства, от всего сердца.

Иван Мележ 20.III.68 г. Минск»

197. С. В. САРТАКОВУ (с. 177)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве С. В. Сартакова (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

Віншавальны ліст Сартакову, напісаны Мележам на кнізе «Дыхание грозы» (1967), якая была паслана ў якасці падарунка да яго 60-годдзя з дня нараджэння.

Вароўская Ніна Васільеўна (н 1927), у той час працавала загадчыцай аддзела творчых кадраў СП СССР, зараз — кансультант сакратарыята праўлення СП СССР па прававым пытанням.

...сказывается крепкая сибирская закалка...— Маецца на ўвазе тое, што С. Сартакоў нарадзіўся ў Сібіры ў г. Омску.

...хорош сибирско-белорусский сплав? — Маці С. Сартакова з Беларусі, а бацька — з Сібіры.

...покорятся Вам еще многие хребты и откроются многие клады (не только ледяные!) — Словы «хребты», «клады» Мележ ужывае тут,

маючы на ўвазе раманы Сартакова «Саянские хребты» (1952—1955), «Ледяной клад» (1968).

198. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 178)

Друкуецца па арыгінале. Датуецце паводле зместу.

...определить судьбу книги в «Роман-газете».— Размова ідзе пра публікацыю «Подыху навальніцы» ў «Роман-газете», якая адкладвалася на няпэўны час.

Сёмушкін Ціхан Захаравіч (1900-1970), рускі пісьменнік.

199. О. А. ЙЫГІ (с. 179)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

Хар'ю.— Назва вуліцы ў Таліне, на якой жыў Йыгі.

200. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 179)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Я рад разам з табою, што бяда прайшла міма...— Размова вядзецца пра хірургічную аперацыю, якую перанёс Шупенька.

...працаваў, але не над раманам, а над даўнімі, ваенных часоў, дзённікамі.— Падрыхтоўка дзённікаў для першага 3б. тв. у 6-ці т.— Мн.: Беларусь, 1969, т. I.

...напісаць артыкулы ў «Праеду» і «Вопросы литературы».— Відаць, І. Мележ меў на ўвазе артыкул «Дыхание правды» (Правда, 1969, 23 лістай.), што ж датычыцца артыкула для «Вопросов литературы», то ён з'явіўся толькі ў 1970, № 10 пад загалоўкам «Найти себя».

...збіраюся напісаць ліст М. Абалкіну...— Гл. ліст М. А. Абалону ад 5.V.1968.

Я ўжо не кажу пра раман.— Маецца на ўвазе раман «Завеі, снежань».

А «слова» пра «Людзі на балоце» мне вельмі спадабалася.— У канцы 1967 г. Генадзь Серафімавіч паслаў І. Мележу сшытак з дакладам «Традыцыі і наватарства ў «Людзях на балоце». (З інфармацыі Г. С. Шупенькі.)

201. М. А. АБАЛКІНУ (с. 181)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве М. А. Абалкіна.

Датуецца па арыгінале (інфармацыя пра гэта з ліста М. Абалона да ўкладальніка тома ад 3.III.1980), паколькі ў копіі дата адсутнічае.

Ліст амаль што поўнасцю друкаваўся ў кнізе М. Абалкіна «Оружие гуманизма» (1970), якую падараваў М. Абалкін І. Мележу з аўтографам: «Ивану Павловичу Мележу — дружески, с добрыми чувствами, высказанными на страницах этой книжицы.

29.III.70 г. Н. Абалкин» ...серьезность вопросов, которые Вы мне поставили.— У лісце да І. Мележа ад 26.III.1968 М. Абалкін піша: «Сейчас у меня большая забота — срочно надо написать книгу «Оружие гуманизма» для «Советского писателя»... Снова берусь за Ваш роман. О нем будет в моей книге отдельный очерк. На примере этого романа надо будет показать некоторые черты гуманизма советской литературы. Хотелось бы в очерке предоставить слово и автору «Дыхания грозы».

Не ответите ли Вы мне, Иван Павлович, на такие вопросы...» ...в письме Вам по поводу анкеты «Правды.»...— Гл. ліст Абалону ад 1.VI.1963 і каментарыі да яго; «Правду» (1963, 16 чэрв.).

«Один из главных ~ огромной стройке».— З ліста Мележа да Абалкіна ад 1.VI.1963.

202. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 185) Друкуецца па арыгінале.

...с «Роман-газетой» все улаживается.— Размова ідзе пра публікацыю рамана І. Мележа «Подых навальніцы» ў «Роман-газете». Малюгін В. І.— Гл. ПА.

203. Р. Я. КІСЯЛЁВУ (с. 185)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Такі ж дакладна ліст ад 12.VII.1968, толькі на рус. мове, быў накіраваны на імя А,. П. Абуховіча — сакратара Беларускага савета прафсаюзаў (у архіве сям'і І. Мележа захоўваецца машынапісная копія названага ліста).

204. У КАМІТЭТ КАМСАМОЛА САЎГАСА «ЛЕНІНСКІ» (с. 186)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Да гэтага гл. таксама ліст Р. Я. Кісялёву ад 10.VII.1968.

205. В. М. ГАПОНЕНКУ (с. 186)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

206. В. А. КАСАЛАПАВУ (с. 187)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. ...книга моя передана Вам...— Раман «Подых навальніцы» для прачытання як дырэктару выд-ва «Художественная литература».

207. В. І. МАЛЮГІНУ (с. 188)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ, як і іншыя лісты І. Мележа да адрасата, што ўключаны ў дадзены том.

Дело в общем, снова заторможено.— Размова ідзе пра луб. лікацыю рамана «Подых навальніцы» ў «Роман-газете».

...то поездка в Ленинград, то — в Горький...— Гл. ЛЖТ: 1968, Чэрвень, 4-10 і Чэрвень, 18-22.

...то служба...— І. Мележ — сакратар праўлення СП БССР.

208. У ГЛІНІШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 189)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Гл. пра гэта таксама ліст В. Ф. Языковічу ад 19.III.1968.

209. О. А. ЙЫГІ (с. 190)

Друкуецца па арыгінале.

...хотел бы исполнить давнее желание...— Упершыню І. Мележ выказаў жаданне наведаць Талін у лісце да Йыгі ад 1.XII. 1964: «В Новом году очень хочу побывать в Таллине, поглядеть на Эстонию. Думаю, что летом выберусь в путь». У лютаўскім, снежаньскім лістах да Йыгі за 1967 г. ён зноў вяртаецца да гэтай думкі: «Я и моя семья мы прямо грезим Таллином, мечтаем о нем,..», «Мечтаю побывать, наконец, в старом, давно влекущем меня Таллине». І толькі ў жніўні 1968 г. І. Мележ здзейсніў сваю даўнюю мару.

Напишите, пожалуйста.— Пасля гэтага ліста Мележ атрымаў ад Йыгі тэлеграму ад 31. VII.1968, у якой паведамлялася, што лепш прыехаць у Талін пасля 10 жніўня. Услед за тэлеграмай эстонскі перакладчык даслаў ліст ад 31.VII.1968, у якім выказаў пажаданне прымаць І. Мележа ў сябе дома.

...не спрашиваю, как дела с книгой...— Размова ідзе пра перакладзены О. Йыгі на эст. мову раман І. Мележа «Подых навальніцы», які вось ужо каторы час ляжаў без руху ў выдавецтве. О. Йыгі ў адказе на гэты ліст пісьменніка паведаміў, што раман ужо пачаў друкавацца.

210. А. В. АЛЯКСАНКІНУ (с. 190)

Друкуецца па чарнавым аўтографе, які захоўваецца ў архіве сям'і І, Мележа. Арыгінал невядомы.

Во время поездки в избирательный округ...— Гл. ЛЖТ: 1968. Канец ліпеня.

211. М. В. КАШЧЭЕВУ (с. 191)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

212. О. А. ЙЫГІ (с. 192)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

Ваше письмо нашло меня в Кисловодске...— Ліст Йыгі ад 13.IX.1968 быў перасланы ў Кіславодск, дзе Мележ знаходзіўся на лячэнні ў санаторыі.

Спасибо Вам за присланные книги...— Некалькі экземпляраў «Подыху навальніцы» на эст. мове. Ційу — дачка О. А. Йыгі.

213. М. І. ШАКІНКУ (с. 192)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Датуецца па памеце, зробленай Мележам на лісце Шакінкі: «Адк. 12.Х.68».

...благодарю Вас за теплые слова о моих романах «Люди на болоте» и «Дыхание грозы».— У лісце да пісьменніка Шакінка пісаў: «Будучи по рождению белорусом я хорошо знаю те места, в условиях которых развиваются события Ваших романов, а равно и обычаи белорусских крестьян, с большим волнением читаю Ваши книги, жду их продолжения».

Очевидно, он будет печататься в журнале «Дружба народов»...— Размова ідзе пра раман «Завеі, снежань», які быў надрукаваны ў названым часопісе ўжо пасля смерці пісьменніка.— Дружба народов, 1978, № 4-6.

214. С. В. і С. С. САРТАКОВЫМ (с. 193) Друкуецца па арыгінале.

215. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 193) Друкуецца па арыгінале.

216. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 194) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца кастрычнікам месяцам памылкова. Рэдактарская дата па пашт. штэмпелі.

217. А. А. САКАЛОВАЙ (с. 194)

Друкуецца па арыгінале.

...Отвечаю Вам с некоторым опозданием.— Ліст Сакаловай Мележу датуецца 25.X.1968. На ім памета пісьменніка: «Адк.».

...я Вас, конечно, хорошо помню...— У канцы 50-х гадоў І. Мележ звярнуўся да А. Сакаловай (у той час інструктара аддзела літаратуры і мастацтва пры ЦК КПСС) з просьбай пасадзейнічаць у выданні п'есы «Пакуль вы маладыя», паколькі п'еса ўжо даўно знаходзілася ў выд-ве «Искусство». «Прочитав п'есу, я ему сказала, что в ней есть ряд достоинств, но есть и какие-то недостатки, которые издательство поможет ему устранить в процессе работы над ней». П'еса выйшла ў 1958 г.

Пасля Трэцяй Прыбалтыйскай тэатральнай вясны ў «Литературной газете» (1958, 26 чэрв.) з'явіўся артыкул Ю. Ханюціна «Театр ищет пьесу» аб выніках гэтага традыцыйнага тэатральнага свята, у якім была дадзена неаб'ектыўная, адмоўная ацэнка п'есе «Пакуль маладыя». І. Мележ выказаў свае меркаванні, заўвагі наконт артыкула і самога аўтара артыкула ў лісце Друзіну В. П. (у той час выконваючага абавязкі галоўнага рэдактара «Литературной газеты»). Машынапісную копію гэтага ліста Мележ паслаў Сакаловай (гл. у дадзеным томе ліст пад № 83). «Я успокоила Ивана Павловича тем, что, пользуясь своим правом критика, отвечу критику Ю. Ханютину, а заодно и другим критикам его пьесы». 17 жніўня 1958 г. у «Правде» з'явіўся артыкул А. Сакаловай «Современная пьеса — основа репертуара», у якім п'еса Мележа, у асноўным, была ацэнена станоўча. З артыкула: «Белорусский театр имени Янки Купалы открыл как драматурга прозаика И. Мележа, поставив его первую пьесу «Пока вы молоды». Театр справедливо оценил важное воспитательное значение для молодежи этого произведения, зовущего к труду и восстающего против легковесного отношения к жизни. И вряд ли правы те критики, которые за мелкими недостатками этой пьесы не хотят видеть ее достоинств».

...рад Вам помочь...— У лісце да Мележа ад 25.X.1968 Сакалова звярнулася з просьбай пазнаёміцца з яе п'есай «Шумяць сосны» і пасадзейнічаць у пастаноўцы яе на сцэне аднаго з беларускіх тэатраў.

Губарэвіч Канстанцін Лявонавіч (н. 1907), беларускі драматург. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. У той час працаваў галоўным рэдактарам рэпертуарнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

218. В. І. МАЛЮГІНУ (с. 195)

Друкуецца па арыгінале.

...будем печатать в 1969 г.— Маецца на ўвазе публікацыя рамана І. Мележа «Подых навальніцы» ў «Роман-газете».

219. У. І. КОРБАНУ (с. 195)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 183, в. І, спр. 138, л. 11.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

220. В. І. МАЛЮГІНУ (с. 196) Друкуецца па арыгінале.

221. С. В. САРТАКОВУ (с. 196)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

**1969**

222. М. Г. МІНКЕВІЧУ (с. 196)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Гл. да гэтага таксама лісты ў Глінішчанскую сярэднюю школу ад 9 студз. і 16 лют. 1969 г.

223. У ГЛІНІШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 197)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

224. У ГЛІНІШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 197)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

225. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 198) Друкуецца па арыгінале.

...дзякуй табе за віншаванне...— З днём нараджэння (7 лютага).

226. Ю. П. ВАНАГУ (с. 198)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

...привет Вам из Москвы...— І. Мележ удзельнічаў у 5-й Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў (25 сак.— 1 крас.).

...отвечаю Вам с некоторой задержкой.— Ліст Ванага Мележу датуецца 17.III.1969.

...это не помешает серьезно движению Вашей работы.— Размова ідзе пра работу Ю. Ванага над перакладам рамана Мележа «Подых навальніцы».

...слово, которое Вас смутило, конечно, Вы. не могли перевести.— У лісце да І. Мележа ад 17.III.1969 перакладчык піша: «Перевод «Навальніцы» подходит к концу. Встретился с одной мне незнакомой вещью и обращаюсь к Вам за разъяснением.

Часть III, глава первая, стр. 406-я: «На Нямізе...» и далее: «...на старой пазелянелай ад старажытнасці «Нямізе».

Мне неизвестно, что такое «Няміза». Район ли старый города, речка или улица. Вот это прошу написать!»

«Слово о полку Игореве».— Помнік літаратуры Кіеўскай Русі (1187 г.).

227. А. М. СТАТКЕВІЧУ (с. 199)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве А. М. Статкевіча (Глускі р-н), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

...пішу Вам з такім спазненнем.— Ліст Статкевіча датуецца 4. XII. 1968.

Пасылаю Вам дзве кнігі...— «Подых навальніцы» (Мн.: Беларусь, 1966) з аўтографам: «Вучням і настаўнікам, ад аўтара. Жадаю ўсім поспехаў у вучобе, у працы!

І. Мележ 4.IV. 69»

Ф. Куляшоў. «Іван Мележ» (Мн.: Беларусь, 1968) з надпісам: «Таварышу А. М. Статкевічу з надзеяй, што гэтая кніга дапаможа адказаць на пытанні, якія ўзнікнуць у вучняў.

І. Мележ 4.IV.69»

«Людзі на балоце» нядаўна выйшлі спецыяльна для школ... — Размова ідзе пра выданне рамана ў выд-ве «Народная асвета» (1968).

Новы раман яшчэ не скончыў.— Гэта адказ пісьменніка на пытанне настаўніка «Ці скора выйдзе працяг «За асакою бераг»?» Раман, пра які ідзе тут размова, выйшаў пад назвай «Завеі, снежань».

228. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 199) Друкуецца па арыгінале.

З немалым страхам (!) прачытаў я Ваша пісьмо.— Ліст Шупенькі ад 16.III.1969.

...напужаў мяне строгі рад надзвычай складаных пытанняў...— Г. Шупенька просіць пісьменніка адказаць на наступныя пытанні: З якіх меркаванняў Вы назвалі свае раманы «хронікай»? Як бы Вы сфармуліравалі сваю «галоўную ідэю», замысел усяго цыкла раманаў? Цяпер часта некаторыя гавораць пра талстоўскае «сцепление» ў рамане. Што б Вы сказалі пра той «цэмент», які скрапляе «скляпенне» Вашых раманаў?

...паехаць у Маскву на нараду...— Размова ідзе пра 5-ю Усесаюзную нараду маладых пісьменнікаў, якая адбылася ў канцы сакавіка 1969 г.

...гаварыць пра Маёвага як пра лішняе...— І. Мележ мае на ўвазе выказванні пра гэта Р. Бярозкіна ў яго артыкуле «Час ідзе, раман разгортваецца».— Літ. і мастацтва, 1965, 3 снеж. У. Юрэвіч, відаць, гэту думку выказаў І. Мележу ў прыватнай размове. Пасля ў артыкуле «Лёс чалавека — лёс народа» (датуецца 1963-1967).— У кн.: «Абрысы»,— Мн.: Маст. літ., 1976, с. 50.

229. В. І. КУДРЫЦКАМУ (с. 201)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

230. Ф. І. і В. П. КУЛЯШОВЫМ (с. 201)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

231. В. П. КАЗАЧЭНКУ (с. 201) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па памеце адрасата: «1969», а таксама — па змесце — віншаванне з Першамаем.

232. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 201)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна паводле зместу: віншаванне з Першамаем, па-другое, раман «Подых навальніцы» на ўкр. мове выйшаў у выд-ве «Дніпро» ў 1969 г.

233. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 202)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Г. М. Крылова (г. Мінск), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя Мележа да адрасата, што ўвайшлі ў дадзены том. Датуецца па пашт. штэмпелі.

234. ЧЫТАЧАМ ГРОДЗЕНСКАЙ АБЛАСНОЙ ЮНАЦКАЙ БІБЛІЯТЭКІ (с. 202)

Друкуецца па аўтографе (рукапісная копія), які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. На лісце памета Мележа: «Копія».

Да І. Мележа звярнулася загадчыца Гродзенскай абласной юнацкай бібліятэкі тав. Шагун (ліст яе ад 14.VI.1969) з просьбай напісаць для чытачоў бібліятэкі прысвячэнне, паколькі бібліятэка размешчана ў славутым доме Элізы Ажэшкі, які паступова ператвараецца ў літаратурны музей. Прысвячэнне павінны былі змясціць на

фотапартрэце Мележа, які зрабіў Васіль Быкаў і падараваў бібліятэцы.

235. Л. Я. ПЯТРОВАЙ (с. 202)

Друкуецца па арыгінале.

Сегодня я уезжаю.— І. Мележ у складзе савецкай дэлегацыі як член Савета па міжнародных пісьменніцкіх сувязях пры СП СССР едзе ў Польшчу на святкаванне 25-годдзя ўтварэння Польскай Народнай Рэспублікі (22.VII. 1944).

Обещали здесь, что поляка выплатят гонорар.— Відаць, размова ідзе пра ганарар за польскае выданне рамана «Людзі на балоце» (1968).

...хочется мне в Коктебель.— Якраз у гэты час жонка І. Мележа адпачывала ў Кактэбелі.

236. К. І. ПЯТРОВАЙ (с. 203)

Друкуецца па арыгінале.

Посылаю привет Вам из Варшавы.— Гл. ліст І. Мележа да Л. Я. Пятровай ад 20.VII. 1969 і каментарыі да яго.

...места, где жил Ленин.— У Кракаве і яго ваколіцах у 1912-1914 гг. жыў і працаваў У. І. Ленін. У Пароніне, дзе летам 1913 г. адбылося пасяджэнне ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі, зараз Музей У, І. Леніна.

237. В. І. КУДРЫЦКАМУ (с. 203) Друкуецца па арыгінале.

...получил от тебя почти сразу три письма, которые меня очень взволновали...— Кудрыцкі паведамляў земляку пра цяжкую хваробу, затым смерць жонкі, пра тое, што на руках у яго засталося трое дзяцей.

...был и в Москве, и в Польше, и в Армении.— Гл. ЛЖТ: 1969, Сакавік, 25 — красавік, 2; Ліпень, 21-29; Верасень, 18-0.

238. Ф. З. УВАРАВУ (с. 205)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. ...письмо свидетельствует о том, что Вы. вдумчивый, серьезный читатель...— Гэта адзначае І. Мележ і ў артыкуле «Некалькі думак пра чытача» (гл. дадзены Зб. тв., т. 8). Да чытачоў, лісты якіх «вучаць, узбагачаюць, узмацняюць патрабавальнасць да сябе», Мележ адносіць і Ф. З. Уварава: «З вялікай павагай успамінаю я, напрыклад, пісьмы-водгукі пра апошнія мае раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», якія прыслаў стары аграном Ф. Увараў, што жыве цяпер у Куйбышаве».

239. Я. С. РАМАНОВІЧУ (с. 205)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 243, в. I, адз. з ах. 306, л. 6.

Вашы «Рэкі» шчасліва дацяклі да мяне.— Маецца на ўвазе кніга ўспамінаў Я. Рамановіча «Рэкі цякуць з ручаёў», падараваная Мележу.

240. А. І. ЧАСНАКОВАЙ (с. 205)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па памеце адрасата.

Посылаю фото для книги...— Для выдання: Люди на болоте: Дыханне грозы.— М.: Сов. писатель, 1970.

С Адамчиком я говорил.— Відаць, размова вялася пра пераклады апавяданняў В. Адамчыка на рус. мову, што зрабіла А. Часнакова для зборніка пісьменніка «Вспышка молнии», які павінен быў выйсці ў выд-ве «Сов. писатель» у 1971 г. (З інфармацыі В. Адамчыка.)

241. Ю. П. ВАНАГУ (с. 206)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца паводле зместу.

...готовил книгу к печати.— Люди на болоте: Дыханне грозы (1970).

242. Д. М. КАВАЛЁВУ (с. 206)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

243. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 206)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

244. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 207)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Перапіску заводзіць па літпраблемах...— У лісце да Мележа ад 1.XI.1969 Шупенька прасіў пісьменніка расказаць пра тое, як пераасэнсоўваліся рэальныя прататыпы і станавіліся героямі «Палескай хронікі» — Ганнай, Васілём, Яўхімам, Апейкам і інш.

**1970**

245. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 207)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

246. А. Н. АКСЁНАВУ (с. 207)

Друкуецца па машынапіснай копіі (аўтарызаваны машынапіс), якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...звярнуўся з просьбай адзін з ветэранаў...— У лісце да І. Мележа ад 23.1.1970 Г. М. Крылоў звярнуўся з просьбай пахадайнічаць перад абкомам партыі аб хуткім завяршэнні будаўніцтва мемарыяльнага комплексу пад Віцебскам, прысвечанага пераможным баям Савецкай Арміі (гл. таксама ліст Мележа Крылову, які датуецца сакавіком, пасля 20, 1970).

247. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 208) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па змесце: «Посылаю вырезку из газеты «Звязда».— Дасланае паведамленне публікавалася ў «Звяздзе», 14 сак. 1970. Значыць, ліст напісаны не раней 14.III.

...дело должно сдвинуться.— Гл. ліст А. Н. Аксёнаву ад 17.11.1970 і каментарыі да яго.

Посылаю вырезку из газеты «Звязда».— Паведамленне пад назвай «Помнік абаронцам» за подпісам Ю. Доктарава, у якім гаварылася, што закончаны работы над праектам помніка воінам, якія геаічна загінулі ў баі на Ціхмянаўскай вышыні ў раёне Лёзна, і што 12-метровы манумент, над якім уздымаецца пяць вострых шпіляў, скульптар Азат Тарасян прысвячае 25-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

248. М. В. ЛЕСЮЧЭЎСКАМУ (с. 209)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве выд-ва «Советский писатель». (Аўтарская справа Мележа І. П. па рэдакцыі прозы народаў СССР за 1970-1973 гг., л. 16.)

На лісце Мележа ёсць памета Лесючэўскага: «7.IX.1970: тт. Карповой В. М., Кирьянову С. Л., Андриевской Н. М.

Прошу рассмотреть последнее издание романа на белорусском языке и дать суждения и предложения редакции и главной редакции».

...«совершенствовать роман от издания к изданию».— Відаць, І. Мележ па памяці ўзнавіў радкі з ліста А. Фадзеева да яго ад 18 лют. 1955 г. Дакладна гэта гучыць так: «Мне кажется, что есть смысл Вам еще и еще поработать над романом, добиваясь для каждого нового издания все большего совершенства». (Ліст .захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.)

...чтоб это сделал «Советский писатель»...— Раман быў выдадзены ў 1973 г.

...трудится первый редактор всех моих книг.— Часнакова А. І. (гл. ПА).

249. С. Л. КІР'ЯНАВУ (с. 210)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве выд-ва «Советский писатель». (Аўтарская справа Мележа І. П. па рэдакцыі прозы народаў СССР за 1970-1973 гг., л. 17.)

Разам з гэтым лістом пісьменнік паслаў «Мінскі напрамак» (Зб. тв. у 6-ці т., 1970, т. 2, 3).

...для рецензирования на предмет включения в план.— Гл. ліст М. В. Лесючэўскаму ад 28.VIII.1970 і каментарыі да яго.

250. В. І. КУДРЫЦКАМУ (с. 210)

Друкуецца па арыгінале.

251. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 210)

Друкуецца па арыгінале.

252. В. І. СМЫКОУСКАЙ (с. 211)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Гомель).

Датуецца па пашт, штэмпелі месца атрымання: 25.XII.1970. Гомель, з улікам паштовага каэфіцыента.

Пасылаю Вам фота.— З аўтографам: «Валянціне Смыкоўскай з пажаданнем поспехаў на навуковай ніве. І. Мележ». Фотаздымак быў змешчаны разам з артыкулам В. Смыкоўскай «Лёс мастака — лёс народа» ў «Гомельскай праўдзе» (1971, 6 лют.) да 50-годдзя з дня нараджэння І. Мележа.

253. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 211) Друкуецца па арыгінале.

254. С. В. САРТАКОВУ (с. 211) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца на аснове паметы адрасата: «1970», а таксама па змесце паштоўкі: «Премия высокая...» — У 1970 г. С. Сартакоў атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР за трылогію «Барбінскія аповесці».

**1971**

255. М. М. ГРЫНЧЫКУ (с. 212)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

...цікавыя пытанні паставілі Вы...— Размова ідзе пра анкету, дасланую М. Грынчыкам, па праблеме рэгіянальнай спецыфікі літаратуры.

256. Л. А. СУШЧАНКУ (с. 212) Друкуецца па арыгінале.

...што я не заехаў у Дворышча...— Гл. ЛЖТ: 1971, Люты, 10—13.

257. І. А. БЫХАУЦУ (с. 213)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. п. Лынтупы Віцебскай вобл.).

Часткова ліст быў выкарыстаны ў артыкуле І. Быхаўца «На багатым матэрыяле».— Настаўніцкая газета, 1975, 2 жн.

...з цікавасцю прачытаў Ваш ліст...— Ліст І. Быхаўца ад 27.XII.1970 г., у якім настаўнік просіць пісьменніка адказаць на пытанні: «Мне хацелася б пачуць Вашу думку, думку аўтара аб гераіні Вашага рамана Ганне Чарнушцы. Што канкрэтна разумець пад «духам часу», якія фактары, акалічнасці таго часу дзейнічалі на гераіню? Ці маем мы, настаўнікі, права растлумачыць вучням, што ў той трагедыі, якую перажыла Ганна, аўтар абвінавачвае і рэлігію?»

258. М. К. СУВОРЫНА (с. 214)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (Вінніцкая вобл.).

...отвечаю Вам с таким большим опозданием.— Ліст Суворына датуецца 26.1.1971. На ім ёсць памета І. Мележа: «Адк. Праслаў кнігу».

Благодарю Вас за хорошие слова...— Відаць, наступныя радкі з ліста Суворына мае на ўвазе І. Мележ: «С Вашим творчеством я познакомился много лет назад, когда прочитал роман «Минское направление». Книга произвела на меня большое впечатление. В 1963 году с большим удовольствием прочитал Ваш роман «Люди на болоте», а в прошлом году с радостью познакомился с романом «Дыхание грозы». Вы стали для меня глубокоуважаемым писателем».

...посылаю Вам роман...— Дыхание грозы.— М.: Известия, 1968 з аўтографам: «Михаилу Кузьмичу Суворину с пожеланиями здоровья и счастья

Иван Мележ 5.IV.71 г.»

259. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 214)

Друкуецца па арыгінале.

260. Л. І. МЕЛЕЖ (с. 214)

Друкуецца па арыгінале.

І. Мележ прымае ўдзел у асамблеі Сусветнага Савета Міру, якая праходзіла ў Будапешце 13-16 мая. 17 мая ён выступіў з прамовай перад грэчаскімі дэмакратамі.

261. С. Я. ПАПОВУ (с. 215)

Друкуецца па арыгінале.

...прочитал я Вашу книгу «На огневых рубежах».— Ваеннагістарычны нарыс С. Папова, у якім апавядаецца пра баявы шлях 3-й гвардзейскай артылерыйскай Віцебскай, Хінганскай Чырванасцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава дывізіі прарыву РВГК. С. Папоў падарыў І. Мележу гэту кнігу з надпісам: «Дорогому Ивану Павловичу Мележу в память о нашей 3-й гв. АДП, о большой дороге войны 1941-1945 гг., пройденной вместе. В знак глубокого уважения

С. Е. Попов 4.4.71 г.

г. Москва».

...отвечаю с некоторым запозданием.— Ліст Папова да пісьменніка датуецца 4.IV.1971.

262. У ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ» (с. 215)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве П. З. Шаўцова (г. Мінск).

Датуецца паводле зместу.

Ліст напісаны ў сувязі з выданнем у выд-ве «Беларусь» першага Зб. твораў І. Мележа ў 6-ці тамах. У прыватнасці, вядзецца гаворка пра якасць карэктур 4 і 5 тамоў.

263. В. А. ВІЛЬТОЎСКАМУ (с. 216)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. Датуецца паводле зместу: віншаванне з кастрычніцкім святам, па-другое, Мележ знаходзіўся ў Ялце з 16 кастр. па 25 снеж. 1971 г.

...книги о себе Ф. Кулешова...— Размова ідзе пра кнігу «Иван Мележ (Очерк творчества)».— М.: Сов. писатель, 1971.

264. С. Л. ГУБАНАВУ (с. 217)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Датуецца па памеце, зробленай пісьменнікам на лісце Губанава ад 24.X.1971 (па пашт. штэмпелі): «Адк. 3.XI.71».

Прыводзім, тут ліст Губанава (у скарочаным выглядзе):

«Здравствуйте, тов. Мележ!

Как ни странно, но я решил написать письмо с подтверждением фото. По телевидению я прослушал Ваше выступление, сказал лсене: «Мне этот человек знаком, рекомендовал меня в партию в г. Каменске. Нашел фотографию и на ней надпись: «Фронтовая жизнь в борьбе с фашизмом. Апрель 1942 г.». Губанов, Буша, Пономарев, Чугунов, Сахно, Икрамов, Квасяцца. Фотография сделана после вручения партбилетов т. Брежневым в Доме офицеров г. Каменска. Прошу сообщить о других товарищах, их судьбе...

Я закончил войну в Чехословакии, освобождали Румынию, Югославию, Венгрию, Австрию, Чехословакию...

Губанов»

...фотографию хорошо знаю.— Гл. гэты здымак у дадзеным Зб. твораў, т. 3, пасля с. 160 (памылкова здымак тут датуецца 1941 г. Правільна: «Красавік, 1942»).

...главный врач пожалел меня...— «Дзякуй таму растоўскаму хірургу Антонаву, які, паспачуваўшы маладому палітработніку, сам узяўся рабіць аперацыю, выратаваў маю правую руку, ужо асуджаную на смерць другімі ўрачамі. Рука гэта так спатрэбілася потым, так памагла мне ў працы!» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 183.)

265. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 218) Друкуецца па арыгінале.

...смотрю на Ваш роман («И. М.»)...— Маецца на ўвазе кніга Ф. Куляшова «Иван Мележ (Очерк творчества)», якую аўтар падараваў Івану Паўлавічу з надпісам: «Милому Ивану Павловичу Мележу, о талантливых книгах которого я писал тут с радостью, восхищением и открытой искренностью и без которого, конечно, не было бы и этой маленькой книжки — с большой любовью.

Ф. Кулешов 7-X-71 г.»

266. А. К. ГАРДЗІЦКАМУ (с. 219)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

...з прыемнасцю даведаўся...— У лісце да І. Мележа ад 29.XI.1971 А. Гардзіцкі паведамляў аб тэлеперадачы пра «Людзей на балоце»: «Весці перадачу запрасілі мяне. Цікава было б ведаць, як Вы адносіцеся да тэлеспектакля, наколькі ўдала ён перадае атмасферу, дух рамана, яго вобразы? Ці можна сказаць мне ў заключэнні, калі гэта так, што Вы працягваеце работу над «Палескай хронікай»?.. Добра было б перадаць ад Вас прывітанне дзесяцікласнікам».

...павінен адзначыць адданую работу многіх акцёраў, асабліва — Васіля, Ганны, Яўхіма, можа быць — Глушака.— Ролі вышэй названых герояў спектакля адпаведна выконвалі: Г. Гарбук, Л. Давідовіч, Б. Уладамірскі, З. Стома.

267. В. П. КАЗАЧЭНКУ (с. 219)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца паводле зместу: віншаванне з Новым годам, па-другое, у тэксце паштоўкі ёсць словы: «Няхай у новым годзе табе добра пішацца і кіруецца...» — З 1971 г. В. П. Казачэнка — першы намеснік старшыні праўлення СП УССР.

268. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 220)

Друкуецца па арыгінале.

269. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 220)

Друкуецца па арыгінале.

270. С. Л. і З. І. ГУВАНАВЫМ (с. 220)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

271. М. М. УЛАШЧЫКУ (с. 221)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве М. М. Улашчыка (г.Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

272. П. М. ЯКАВЕНКУ (с. 221)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

У лісце да пісьменніка ад 1.XII.1971 Якавенка пытае, чаму Мележ, будучы выдатнікам, адразу пасля школы не змог паступіць у ВНУ: «Як нам арыентаваць сваіх выхаванцаў у гэтым выпадку? Тлумачыць тэрмін як бюракратызм…?»

...не прынялі ў інстытут...— Пасля заканчэння сярэдняй школы з адзнакай І. Мележ падаў заяву ў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры. Нягледзячы на тое, што выдатнікі ў той час залічваліся ў ВНУ без экзаменаў, ён не стаў студэнтам.

273. Я. Л. СМАЛЕНСКАМУ (с. 221)

Друкуецца па арыгінале.

274. В. М. КАРПАВАЙ (с. 222)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па выдавецкай памеце: «1971 і па змесце — віншаванне з Новым годам.

Наилучшие пожелания в новом году! - Гэтыя словы надрукаваны на паштоўцы ў выдавецтве...

275. С. Я. ПАПОВУ (с. 222)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце: віншаванне з Новым годам і выдавецкай памеце: «1971».

Вспоминая Лиозно...— У маі 1965 г. І. Мележ быў запрошаны на сустрэчу з ветэранамі 70-га артпалка, прысвечаную 20-годдзю перамогі савецкага народа над фашыстамі. Сустрэча адбылася ў г. п. Лёзна (Віцебская вобл.).

**1972**

276. Ф. В. МАРОЗ (с. 222)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў літаратурна-краязнаўчым музеі Гудзевіцкай сярэдняй школы (Мастоўскі р-н).

Ліст пісьменніку ад 6.XII.1971 Ф. Мароз напісала ад імя дзесяцікласнікаў Гудзевіцкай сярэдняй школы, членаў савета літаратурна-краязнаўчага школьнага музея. У ім паведамлялася, што члены савета музея знайшлі адрасы тых людзей, жыццё якіх было пакладзена Якубам Коласам у аснову пры стварэнні літаратурных вобразаў, і што вельмі б пажадана было, каб аўтар «Палескай Хронікі» напісаў ім адрасы тых людзей, жыццё якіх пакладзена ў аснову стварэння мастацкіх вобразаў дылогіі.

На лісце вучаніцы стаіць памета І. Мележа: «Адк. І. М.».

277. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 223) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца памылкова 1971 г. Рэдактарская дата па змесце — гэта адказ пісьменніка на ліст адрасата ад 23.XII.1971.

278. А. Ц. ГАНЧАРУ (с. 223)

Друкуецца па рукапіснай копіі, зробленай з арыгінала І. С. Шпакоўскім. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Кіеў).

Грыбачоў Мікалай Мацвеевіч (1910), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Ленінскай прэміі.

279. Г. С. ШУПЕНЬКУ (с. 224)

Друкуецца па арыгінале.

...што зрабілі з тваім артыкулам у «ЛіМе»...— У лісце да пісьменніка ад 17.111.1972 адрасант паведамляў, што вялікі артыкул пра «Палескую хроніку», які прапанаваў ён рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», быў на 1/3 скарочаны. (Народ у гісторыі.— Літ. і мастацтва, 1972, 17 сак.)

...вельмі ўдзячны Маскве — «Правде», «Литгазете», «Известиям».— Гаворка ідзе пра публікацыі, змешчаныя ў названых газетах, у сувязі з прысуджэннем І. Мележу Ленінскай прэміі — «Живое дыхание эпоса» М. Абалкіна (Правда, 1972, 9 сак.), «Полесская рапсодия» М. Лынькова (Известия, 1972, 18 сак.), «Гроза на болоте» В. Сурганава (Лит. газета, 1972, 15 сак.).

Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (н.1929), беларускі драматург.

280. С. Я. ПАПОВУ (с. 225) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па выдавецкай памеце на паштоўцы: «1972», а таксама па змесце — віншаванне з майскімі святамі.

...встречи в Лиозно...— Гл. каментарыі да паштоўкі С. Я. Папову, якая датуецца канцом снежня 1971.

281. С. КОЛЕВУ (с. 225)

Друкуецца па фотакопіі, як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да Колева, уключаныя ў дадзены том. Арыгіналы захоўваюцца ў асабістым архіве Колева (Балгарыя, г. Сафія).

...нумар газеты «Отечествен фронт» з Вашым артыкулам.— Размова ідзе пра артыкул С. Колева, прысвечаны лаўрэатам Ленінскай прэміі М. Шагінян і І. Мележу пад агульным загалоўкам: «Новите лауреати на Ленинска награда за литература» (Отечествен фронт, 1972, 3 мая).

...выйшаў на балгарскай мове...— Раман «Людзі на балоце» выйшаў у 1971 г. у выд-ве «Народна култура» ў перакладзе Іжы Сакалова.

Пра тое, што «Людзі на балоце» перакладаюцца на балг. мову і выйдуць у выд-ве «Народна култура» ў 1971 г., было вядома Мележу з ліста Георгія Вылчава ад 30.VIII.1970.

Пасылаю Вам кніжку пра маю творчасць.— Ф. Куляшоў. «Иван Мележ (Очерк творчества)».

282. О. А. ЙЫГІ (с. 226) Друкуецца па арыгінале.

...у «Звяздзе» надрукавана заметка...— Пад агульным загалоўкам «З рэдакцыйнага стала» ў «Звяздзе» ад 23.V.1972 змешчана

бібліяграфічная даведка пра матэрыялы аднаго з тамоў БелСЭ, дзе даецца артыкул і пра эстонскага перакладчыка О. Йыгі.

283. К. М. СІМАНАВУ (с. 226) Друкуецца па арыгінале.

Я сердечно признателен Вам за поздравления...— За віншавальную тэлеграму Сіманава ад 22.IV.1972 у сувязі з прысуджэннем Мележу Ленінскай прэміі: «Дорогой Иван Павлович! Примите мои поздравления и самые добрые пожелания. Жму Вашу руку. Уважающий Вас Константин Симонов!»

...речь на прошлом писательском съезде.— І. Мележ мае на ўвазе выступленне К. Сіманава 30 чэрв. 1971 г. на 5-м з'ездзе СП СССР, які праходзіў з 29 чэрв. па 2 ліп. 1971 г. у Маскве. Асноўную ўвагу ў сваім выступленні К. Сіманаў сканцэнтраваў на такіх пытаннях і праблемах, як Радзіма, інтэрнацыяналізм, патрыятызм, пачуццё гісторыі ў сваім асабістым разуменні, што новага ўнёс у гэтыя паняцці наш савецкі час.

«Жывыя і мёртвыя» — трылогія К. Сіманава, за якую ў 1974 г. ён атрымаў Ленінскую прэмію,— раманы — «Жывыя і мёртвыя» (1954—1959), «Салдатамі не нараджаюцца» (1963-1964), «Апошняе лета» (1970-1971).

284. Л. М. ТАЛКУНОВУ (с. 227)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал не захаваўся.

...дружескую и весьма дорогую мне поддержку, которую оказали «Известия»...— Размова ідзе пра публікацыю ў «Известиях» (1972, 18 сак.) артыкула М. Лынькова «Полесская рапсодия» пра творчасць І. Мележа.

285. В. ЖЫДЛІЦКАМУ (с. 227)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (Румынія, г. Бухарэст).

Адамовіч напісаў новы роман.— «Хатынская аповесць» (1972). Чыгрынаў з поспехам дэбютаваў у новым жанры.— Апублікаваў раман «Плач перапёлкі». Да гэтага І. Чыгрынаў — аўтар кніг апавяданняў і аповесцей «Птушкі ляцяць на волю» і «Самы шчаслівы чалавек».

...апошні па праблемах крытыкі...— Гл. ЛЖТ: 1972, Люты, 16.

286. А. І. ПЯТРОЎСКАМУ (с. 228)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца прыблізна паводле зместу.

...але й за переклад...— Размова ідзе пра пераклад на ўкр. мову рамана «Людзі на балоце».

287. С. КОЛЕВУ (с. 229)
Друкуецца па фотакопіі.

288. Б. Б. РАПАПОРТУ (с. 229)
Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архі. ве адрасата (г. Горкі),
Датуецца па пашт, штэмпелі.

289. Л. А. СУШЧАНКУ (с. 230)
Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

290. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» (с. 230)
Друкуецца па першай публікацыі — Літ. і мастацтва, 1972, 2 чэрв.
Гэта адказ пісьменіка на віншаванне рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», 1972, 28 крас, з прысуджэннем яму Ленінскай прэміі.

291. М. Я. і Ю. П. ВАНАГАМ (с. 230) Друкуецца па арыгінале.
...по-братски отозвались на счастье...— У сувязі з прысуджэннем І. Мележу Ленінскай прэміі Ванагі даслалі яму віншавальны ліст ад 29.IV.1972.
...заметили мои книги...— Ю. Ванаг пераклаў на латыш, мову раманы І. Мележа «Людзі на балоце» (1966) і «Подых навальніцы» (1970).

292. Ф. З. УВАРАВУ (с. 231) Друкуецца па арыгінале.

293. Я. Л. СМАЛЕНСКАМУ (с. 231)
Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.
...получить поздравления от тебя...— Віншавальная паштоўка Смаленскага ад 26.IV.1972 (па пашт. штэмпелі) з майскімі святамі і прысуджэннем І. Мележу Ленінскай прэміі.

294. Н. М. ДАНІЛЕНЦЫ (с. 231)
Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. ...адказваю Вам з такім спазненнем.— Ліст Даніленкі да пісьменніка датуецца 21.VI.1972 (па пашт. штэмпелі).

...цяжка адказваць на пытанне пра пераклады.— У сувязі з паступленнем у аспірантуру пасля заканчэння ў 1972 г. Гомельскага Дзяржаўнага універсітэта Н. Даніленка працавала над рэфератам «Дылогія І. Мележа на рускай мове». Жадаючы ведаць думку аўтара «Палескай хронікі» пра пераклады на рускую мову яго твораў, яна звярнулася да І. Мележа з пытаннямі: «Як Вы асабіста ацэньваеце пераклады дылогіі Д. Кавалёвым, М. Гарбачовым і Н. Кіслікам? Каму з гэтых перакладчыкаў удалося найбольш удала перадаць асаблівасці палескіх гаворак герояў хронікі? Ці не згубіўся своеасаблівы «водар» мовы, калі перакладчык адшукваў адэкватныя выразы замест устойлівых беларусізмаў?»

Ці не дачка Вы, дарэчы, нашага паважанага пісьменніка Міхася Даніленкі? — Дачка.

Даніленка Міхась (Міхаіл Пятровіч; н. 1922), беларускі пісьменнік.

295. С. КОЛЕВУ (с. 232) Друкуецца па фотакопіі.

...благодарен Вам за всё, что Вы. сделали.— Гл. лісты Колеву ад 19.V.1972 і ад 1.VI.1972 і каментарыі да іх.

...книги, журнал «Лик», газеты «Лйтературен фронт», «Отеч. фронт».— Даслана два экземпляры рамана «Людзі на балоце» на балг. мове, «Лйтературен фронт» (1972, 27 ліп.), дзе было апублікавана інтэрв'ю з Мележам Элеоноры Турлаковай. (Інфармацыя з ліста Колева ад 14.X.1980 да ўкладальніка тома.)

...альбом о Минске.— Альбом пад назвай «Узняты з руін».— Мн.: Беларусь, 1968.

...с моими книгами.— «Што ён за чалавек» (1961); «В горах дожди» (1966).

...переведете любой рассказ.— Колеў пераклаў на балг. мову апавяданне «Апошняя аперацыя», якое было надрукавана ў газ. «Народна култура», 1982, 26 лют.

296. Н. Е. КАШЧУК (с. 233)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Кіеў).

Датуецца па пашт. штэмпелі.

...одержати від Вас листа...— Ліст Кашчук да пісьменніка датуецца 23.IX.1972.

...заплановані літ?устрічі — річ корисна.— У верасні 1972 г. у Мінску праходзіў Тыдзень братніх літаратур. У складзе дэлегацыі ад

СП Украіны была і Н. Кашчук. З І. Мележам яна пазнаёмілася ў час паездкі на радзіму Я. Коласа, дзе адбылося вялікае свята паэзіі.

...послав Вам наш журнал...— Маладосць, 1972, № 11, дзе змешчаны ілюстраваны рэпартаж пра свята паэзіі, якое адбылося ў Дубах, пад Мікалаеўшчынай 17 верасня 1972 года.

Закруткін Віталій Аляксандравіч (1908), рускі пісьменнік.

...здав стару, переписану наполовину книгу...— Размова ідзе пра раман «Мінскі напрамак» выдання 1973 г. (выд-ва «Сов. писатель»).

297. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЧОРНОМОРСЬКА КОМУНА» (с. 233)

Друкуецца па чарнавым аўтографе, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Упершыню — Чорноморська комуна, 1972, 30 снеж. пад загалоўкам «Незабутні дні» (на ўкр. мове).

Карэспандэнт украінскай газеты «Чорноморська комуна», даведаўшыся, што беларускі пісьменнік І. П. Мележ і С. Л. Губанаў з Украіны (г. Катоўск) у 1942 г. разам вучыліся на курсах па падрыхтоўцы палітработнікаў і зараз падтрымліваюць сувязь (гл. таксама ліст Губанаву ад 3.XI.1971 і каментарыі да яго), прапанаваў ім падзяліцца ўспамінамі з чытачамі газеты. Так у газеце з'явіліся дзве публікацыі — Мележа і Губанава — пад агульным загалоўкам «Лісты пра вялікую дружбу».

...сохранился этот снимок,— Гл. гэты фотаздымак у дадзеным Зб. твораў, т. 3, пасля с. 160: На здымку сярод групы курсантаў, якім толькі што былі ўручаны партыйныя білеты, І. Мележ — парторг роты курсантаў.

...глубоко взволновал его отклик...— Маецца на ўвазе ліст С. Л. Губанава ад 24.X.1971.

298. В. І. КУДРЫЦКАМУ (с. 235) Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

299. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 235) Друкуецца па арыгінале.

**1973**

300. В. М. ЛАМАНАВУ (с. 235)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве В. М. Ламанава (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя пісьменніка да адрасата, змешчаныя ў дадзеным томе.

...прочел интервью.— Гаворка ідзе пра інтэрв'ю з І. Мележам для час. «В мире книг», якое правёў В. Ламанаў 12 снеж. 1972. Інтэрв'ю было апублікавана ў час. «В мире книг» (1973, № 4) пад загалоўкам «Веление пережитого».

301. В. М. ЛАМАНАВУ (с. 236)

Друкуецца па арыгінале.

Посылаю верстку.— Гл. ліст Ламанаву ад 2.1.1973 і каментар да яго.

Интервью для «Лит. России» дать не смогу...— У лісце да Мележа ад 8.II.1973 Ламанаў выказаў просьбу рэдакцыі газ. «Литературная Россия» арганізаваць з аўтарам «Палескай хронікі» інтэрв'ю на тэму: «Кантакты пісьменнікаў з калегамі з сацыялістычных і капіталістычных краін».

Людміла Мікалаеўна — жонка В. М. Ламанава.

302. У. П. КАТЛЯРЧЫКУ (с. 236)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

303. Ф. І. КУЛЯШОВУ (с. 237) Друкуецца па арыгінале.

Тэлеграма ў сувязі з 60-годдзем Ф. І. Куляшова.

304. В. М. ЛАМАНАВУ (с. 237)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

Бандероли с журналом («В мире книг») получил.— Размова ідзе пра час. «В мире книг» (1973, № 4), дзе было змешчана інтэрв'ю з І. Мележам. (Гл. ліст В. М. Ламанаву ад 2.1.1973 і каментарыі да яго.)

305. К. А. ЧАРНЯЦЭВІЧУ (с. 238)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Нявіннамыск).

Упершыню — Літаратура і мастацтва, 1980, 29 лют.

...вдумчиво прочитали статьи.— У лісце да І. Мележа ад 16.VII.1973 адрасант паведамляў: «Мною с величайшим интересом были прочитаны Ваши материалы «Чей дорог суд» (Лит. обозрение, № 1, 1973) и «Веление пережитого» (В мире книг, № 4, 1973)...»

Выйдет он в новой редакции...— Минское направление.— М.: Сов. писатель, 1973.

О Собрании сочинений сказать ничего определенного не могу.— Размова ідзе пра выданне Збору твораў пісьменніка на рускай мове. Пакуль такога Збору твораў няма.

306. В. Д. АСКОЦКАМУ (с. 238) Друкуецца па арыгінале.

**1974**

307. А. А. КУЛЯШОВУ (с. 239)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. Віншавальны ліст А. Куляшову ў сувязі з 60-годдзем з дня яго нараджэння (6.ІІ.1914).

308. В. ЖЫДЛІЦКАМУ (с. 239)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата. (Румынія, г. Бухарэст),

...збольшага падрыхтаваў том крытыкі і публіцыстыкі...— «Жыццёвыя клопаты» (1975).

Восенню ў Алма-Аце, у Казахстане, я трапіў у бальніцу...— Гл. ЛЖТ: 1973, Верасень, 4-6.

Асабліва цёплыя павевы былі ў апошнія гады з Балгарыі... — Маецца на ўвазе выданне на балг. мове «Людзей на балоце», а таксама сардэчная перапіска з С. Колевым (гл. у дадзеным томе).

309. А. М. СТАТКЕВІЧУ (с. 240)

Друкуецца па арыгінале.

...атрымаў Ваш ліст.— Ліст Статкевіча ад 6.ІІ.1974, у якім ён звяртаецца да пісьменніка з просьбай адказаць на пытанні: «Калі выйдзе Ваш раман «За асакою бераг»? Я і мае вучні чакаем яго з нецярпеннем. Па тэлебачанні Вы выступалі і сказалі, што ўжо паставілі апошнюю кропку, а часу прайшло ўжо шмат. Я з вучнямі падбіраю матэрыял для тэматычнага вечара па Вашай творчасці; неабходны сцэнарыі ўрыўкаў па раманах «Людзі на балоце», «Подых навальніцы». Дапамажыце парадай і, калі можна, матэрыялам...»

Раман «За асакою бераг»...— Раман публікаваўся пад назвай «Завеі, снежань».

Раман у дзвюх кнігах павінен неўзабаве выйсці ў выдавецтве.— Мінскі напрамак.— Мн.: Маст. літ., 1974.

Вёска Курамі ёсць на свеце...— Маецца на ўвазе вёска Каранёўка (Гомельская вобл.), адкуль родам маці пісьменніка.

310. А. М. ЖАБІНУ (с. 241)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Нерахта).

Но выйдет это из печати...— Асобным выданнем раман «Завеі, снежань» выйшаў у 1978 (Мн.: Масг. літ.), ужо пасля смерці Мележа. На рус. мове публікаваўся ў час. «Дружба народов», 1978, № 4, 5, 6.

311. У. М. ШПІТАЛЬНІКУ (с. 241)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (ст. Калодзішчы Мінскага р-на), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя І. Мележа да пытальніка, што ўвайшлі ў дадзены том.

С большим волнением прочитал я твое письмо.— Ліст Шпітальніка ад 12.11.1974, у якім паведамлялася, што 7 лютага 1974 года па 1-й праграме Беларускага тэлебачання была паказана перадача з в. Глінішча Хойніцкага р-на «Запрашаем на вячоркі» і што дзякуючы тэлеперадачы была магчымасць убачыць і пачуць таварыша юнацтва, г. зн. І. П. Мележа.

Встретимся, поговорим.— Летам 1974 г. яны сустракаліся ў Мележа на дачы ў Ждановічах, куды пісьменнік запрасіў свайго земляка. (Гл. паштоўку І. Мележа да Шпітальніка ад чэрвеня — ліпеня 1974.)

Разам з лістом І. Мележ паслаў Уладзіміру Маркавічу кнігу «Люди на бологе. Дыханне грозы» (1973) з надпісам: «Дорогому товарищу далеких дней молодости Владимиру Марковичу Шпитальнику на память от автора — Іван Мележ 20.11.1974 г. Минск »

312. К. А. ЛЫСЕНКУ (с. 242)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве К. А. Лысенкі (Нова-Аскольскі р-н Белгародскай вобл.), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя пісьменніка да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

Ваше письмо взволновало меня...— Ліст Лысенкі ад 6.ІІІ.1971. Прыводзім яго ў скарочаным выглядзе:

«Здравствуйте, дорогой Иван Павлович!

Пишет Вам бывший однополчанин Лысенко Кирилл Антонович. Будучи в Москве в редакции «Юность» на приеме у Б. Н. Полевого по поводу повести «Пушка», которую написал наш однополчанин Д. М. Холендро, я от Якубовича Е. А. узнал Ваш адрес <...>

В памяти о Вас я имею следующее:

Я чуть раньше попал в Артемовск и встречал партию белорусских ребят уже в солдатской шинели. Среди них Ваш образ мне помнится веселым и задорным. Плотный, плечистый, выше среднего роста, русый парень с добрым веселым взглядом всегда хороводил

бойцов у нас в ленкомнате, в казарме г. Артемовска. А как энергично Вы организовывали танцы и отплясывали «Лявониху», этого никогда не забыть, и вот всегда, когда я смотрю телевизор и при упоминании «Лявонихи», я вспоминаю, прежде всего, Вас, да и об этом танце я впервые узнал от Вас. Я часто Вас встречал в Зап. Украине, в походе на С. Буковину, помню Вас в звании замполита...

Мои товарищи на встрече в Москве гордились и радовались за ваши успехи, и как не радоваться, что среди нашего поколения есть такие люди с большой буквы...»

Вспомнил я и трагедию на реке Самарке...— Пасля выхаду з акружэння рэшткі падраздзяленняў 192-й горна-стралковай дывізіі былі сфарміраваны ў 676-ты стралковы полк і перададзены ў 15-ю стралковую дывізію, якая 14 верасня 1941 года заняла абарону на Дняпры ў раёне вёскі Каменка пад Днепрапятроўскай. 28 верасня вораг у раёне Крамянчуга фарсіраваў Дняпро і абкружыў усе часці, якія знаходзіліся ў абароне г. Днепрапятроўска. Камандаванне прызнала неабходным прарваць абарону праціўніка на рацэ Самарцы ў раёне вёскі Сокалава пад Паўлаградам, і, нягледзячы на артканападу, танкавую лавіну ворага, масіраваныя налёты авіяцыі, нашы войскі, ў асноўным, выйшлі з акружэння і пераправіліся праз раку. Аднак 203-й артполк 15-й Сівашскай дывізіі не выканаў сваю баявую задачу — полк страціў многа баявой тэхнікі і людзей. (Інфармацыя з ліста Лысенкі ад 13.III.1980 да ўкладальніка тома.)

...послали на курсы политсостава фронта.— Гл. ліст С. Л. Губанаву ад 3.XI.1971 і каментарыі да яго.

...посылаю два последних своих романа...— «Люди на болоте. Дыхание грозы» (1973) з надпісам: «Лысенко Кириллу Антоновичу, товарищу по военной службе, на память о 192 горно-стрелковой дивизии, о далекой молодости

от автора Иван Мележ 27.III.74 г.

Минск»

313. Ю. А. ПЯТРОВУ (с. 243)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў школьным музеі «У імя Радзімы» (г. Масква, СШ № 80).

Посылаю Вам книгу...— «Минское направление» (1973) (не захавалася ў адрасата).

...биографию, написанную профессором Ф. Кулешовым.— Ф. Кулешов. «Иван Мележ (Очерк творчества)», 1971. На кнізе зроблены надпіс: «КЛАДу 80-й школы

И. Мележ 22.VI.74 г.»

(Кніга захоўваецца ў школьным музеі.)

Встретить не мог...— У лісце да Мележа ад 10.VI. 1974 члены клуба «КЛАД» (клуб любителей архивной документации) паведамлялі, што хутка выязджаюць у турысцкую экспедыцыю па месцах баявых дзеянняў дывізіі, у якой ваяваў Мележ, прысвечаную 30-годдзю вызвалення Беларусі ад фашыстаў, і што 17 чэрвеня будуць праязджаць г. Мінск у 9 гадзін раніцы. Прасілі, каб пісьменнік разам з іншымі аднапалчанамі з Мінска, што таксама былі папярэджаны аб сустрэчы, прыйшлі на чыгуначны вакзал, дзе павінна была адбыцца сустрэча байцоў адной дывізіі, што арганізоўвалі «кладаўцы».

314. У. М. ІШПТАЛЬНІКУ (с.

Друкуецца па арыгінале. Датуецца паводле зместу і па супастаўленні з сумежным лістом (Шпітальніку ад 20.11.1974).

315. С. КОЛЕВУ (с. 244)

Друкуецца па фотакопіі.

...получил бандероль...— Раман «Подых навальніцы» ў перакладзе на балг. мову Пенкі Кыневай. Выйшаў у выд-ве «Народна култура» (Сафія, 1974).

...тоже вышлю бандероль? — «Получил "Ваш роман «Мінскі напрамак» 1- 2 и хочу благодарить за большое внимание и дружеский жест. Это величавый эпос, и я весьма счастлив иметь эту книгу в моей библиотеке». (З ліста С. Колева да І. Мележа ад 1.X.1974).

316. Л. І. МЕЛЕЖ (с. 244)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

Пісьменнік разам з жонкай знаходзіўся ў санаторыі «Беларусь» (Місхор) з 20.IX па 13. XI.1974.

317. Ю. ЛАУРУШАСУ (с. 244)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал не захаваўся.

Гудайціс-Гузявічус Аляксандарс Аўгуставіч (1908-1969), літоўскі пісьменнік.

...не смогу выступить в Вашем сборнике с воспоминаниями...— У лісце да Мележа ад 14.XI.1974 Лаўрушас звярнуўся з просьбай выступіць у зборніку «Воспоминания об А. Гудайтисе-Гузявичюсе» (1982).

318. В. ЖЫДЛІЦКАМУ (с. 245)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (Румынія, г. Бухарэст).

...я доўгі час не быў у Мінску...— Гл. ЛЖТ: 1974, Верасень, 20-лістапад, 13.

Што да трэцяга рамана...— Размова ідзе пра «Завеі, снежань». Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930-1984), беларускі пісьменнік.

319. Ю. А. АНДРЭЕВУ (с. 246)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Ленінград).

Вашу книгу получил.— Ю. Андреев. «Наша жизнь, наша литература» (1974) з надпісам: «Ивану Павловичу Мележу с любовью

Ю. Андреев. 16.11.74. Ленинград»

...памятную мне статью из «Невы».— Размова ідзе пра артыкул Ю. Андрэева «На ниве многонациональной литературы» (Нева, 1972, № 9).

Работаю понемножку еще над одной «полесской» книгой...— Маецца на ўвазе раман «Завеі, снежань».

Хотелось бы повидаться с Вами...— «Виделись мы всего один раз — на VI съезде писателей СССР, где работали в одной секции, освещающей проблемы социалистического реализма. Он узнал меня по карточке, посланной ему в ответ на его фото, остановил на

Лестнице в ИМЛИ, и мы с ним очень дружественно поговорили о продолжении его работы над «Полесской хроникой». (З ліста Ю. Андрэева ад 20.VI.1980 на імя дырэктара ІЛ.)

320. Ю. М. ХУСАІНАВУ (с. 246)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

...обратились рабочие и руководство совхоза...— Ліст выбаршчыкаў саўгаса «Прыпяцкі» Петрыкаўскага р-на ад 18.IX.1974. На ім памета І. Мележа: «Пісьмо ў аблвыканком».

321. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 247) Друкуецца па арыгінале.

322. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 247)

Друкуецца па арыгінале.

323. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ (с. 248)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

...Нарач і Ваш флот.— На ўзбярэжжы Карачы знаходзіцца дача Лынькова. А гаворачы пра «флот», І. Мележ мае на ўвазе маторную лодку Міхася Ціханавіча.

324. М. М. УЛАШЧЫКУ (с. 248) Друкуецца па арыгінале.

325. С. С. і С. В. САРТАКОВЫМ (с. 248) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па змесце віншавальнай паштоўкі: «...пожелания на Новый, 1975-й!»

**1975**

326. Л. А. СУШЧАНКУ (с. 249) Друкуецца па арыгінале.

...асабліва загадчыку навучальнай часткі школы...— Л. А. Сушчанку, ...праязджаючы праз Хойнікі...— Гл. ЛЖТ: 1974, Верасень, паміж 10 і 15.

...выйдзе вялікая кніга...— «Жыццёвыя клопаты». ...у пачатку наступнага пачну друкаваць той раман...— У «Полымі», 1976, № 3, 4, 5 была надрукавана частка рамана І. Мележа «Завеі, снежань».

...назва яго будзе, відаць, іншая...— У вераснёўскім нумары «Полымя» за 1975 г. паведамлялася, што ў наступным годзе ў часопісе будзе друкавацца новы раман І. Мележа «За асакою бераг». Раман публікаваўся пад назвай «Завеі, снежань».

327. В. У. БЫСТРЫХ (с. 250)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Ленінград).

...мне переслали Ваше письмо...— Ліст Быстрых ад 3.III.1975. Спасибо Вам за доброе слово! — У лісце да Мележа адрасант пісаў: «Этим Вашим литературным трудом Вы создали достойный памятник (живым и мертвым) нашим советским воинам и партизанам...»

328. П. Е. ЛАТЫШАВУ (с. 250)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Получил Ваше письмо.— Ліст Латышава ад 15.III.1975.

З ліста Латышава: «Многоуважаемый наш писатель Иван Павлович!

Обращаюсь я к Вам как к писателю, а может быть, и однополчанину... Читая газету «Красная звезда» от 22 февраля 1975 года, на второй странице газеты я прочитал Вашу статью «Герои войны —

герои книг», в четвертой колонке я наткнулся на такой неожиданный для меня «сюрприз», после окончания Отечественной войны я ни разу не находил в газетах или книгах, а может, это совпадение, однофамильца, нашего Героя Отечественной войны командира 269-го артиллерийского полка, артиллерии резерва Главного командования полковника Дедова и нашего любимого командира первой батареи третьего дивизиона лейтенанта Романова...»

І далей у сваім лісце Латышаў паведамляе аб пройдзеным шляху дывізіі, нагадвае прозвішчы таварышаў і месцы баёў.

...командир дивизии генерал Попов.— Гл. ПА.

Дневник прислать не могу...— Маецца на ўвазе ваенны дзённік І. Мележа, які быў да гэтага часу апублікаваны ўжо ў «Маладосці» (1975, № 3) пад загалоўкам: «317 дзён вайны». На рускай мове «Першая кніга» І. Мележа публікавалася ў «Немане», 1980, № 1, 2; 1981, № 2.

329. С. КОЛЕВУ (с. 252) Друкуецца па фотакопіі.

Посылаю, наконец, ответы на Вашу анкету...— У лісце да Мележа ад 27.XII.1974 Колеў паведамляў, што «Маштабы дружбы» (дадатак да балгарскай газеты «Вячэрнія навіны») будзе публікаваць матэрыялы пра савецкую літаратуру, у прыватнасці пра аўтара «Палескай хронікі». І далей просіць, каб І. Мележ даслаў чытачам гэтай газеты прысвячэнне на бел. мове і адказаў на пытанні анкеты.

Гэты матэрыял быў апублікаваны ў «Маіцабн на дружбата» (1975, 24 чэрв.).

Пад фотаздымкам І. Мележа — прысвячэнне, дасланае ім на беларускай мове: «Сардэчнае прывітанне чытачам газеты «Вечерни новини»!

Дабра і шчасця Вам, дарагія балгарскія сябры».

Тут жа апублікаваны былі адказы І. Мележа на пытанні анкеты.

Анкета

1. Как Вы видите будущее развитие белорусской литературы?

Белорусская литература — одна из старых славянских литератур. Однако развитие в прошлые века происходило в таких трудных условиях, что было время — в середине XIX века,— когда стоял вопрос, сможет ли она вообще существовать дальше.

С конца XIX и в начале XX века начинается новый этап в развитии белорусской литературы, быстрого ее роста и мужания. Этот рост связан с ростом революционного движения в Белоруссии. Но подлинный расцвет белорусской литературы определен Октябрьской

революцией 1917 года, раскрепостившей могучие творческие силы белорусского народа.

В настоящее время белорусская литература — одна из наиболее развитых и сильных литератур в Советском Союзе. В ней работает много опытных талантливых писателей, ее год от года щедро пополняет способная молодежь, вливающая в нашу литературу новые силы. Хорошее здоровье белорусской литературы в наши дни, приток талантливых молодых сил в нее предсказывает, что у литературы нашей большое, радующее и многообещающее будущее.

Уверенность в этом основывается также на том, что белорусская литература отличается крепкой связью с жизнью народа, с его насущными заботами и надеждами.

2. Как Вы чувствуете себя связанным с болгарским народом?

Прежде всего, меня связывает с болгарским народом мое сердце. Сердце мое полно симпатии и любви к болгарам, симпатии и любви таких привычных и естественных, что объяснение в словах представляется мне делом трудным и неизбежно упрощающим реальность.

Хочется ограничиться вначале просто сердечным признанием: я люблю Болгарию, народ Ваш.

Пользуясь случаем, с удовольствием могу сказать о том, что дед мой в составе русских войск в прошлом столетии участвовал в боях за свободу Болгарии. Так что, как видите, связь моя с Болгарией, можно сказать,— традиционна, весьма длительна по времени, уходит корнями в историю.

Давняя семейная связь эта в новое время продлена, обновлена мной: у меня в Болгарии ныне немало знакомых и друзей среди писателей. И, конечно же, чувство единения с болгарами стало крепче после выхода в Софии моих книг «Люди на болоте» и «Дыхание грозы».

Но отмечая этн факты, я хочу повторить, что они только отдельные черточки в том большом и привычном чувстве, которое сердечно связывает меня с Болгарией.

3. Если не секрет, какие у Вас творческие планы на 1975 год?

В 1975 году опубликовал дневник, который вел на фронте в 1941-1942 годах,— тогда, когда мне было только двадцать лет. Дневник небольшой, но он мне очень дорог: ведь в нем дыхание молодости, трудных, незабываемых дней.

Примерно в середине года надеюсь получить из издательства большую книгу моей публицистики и раздумий — «Житейские заботы», которая охватывает двадцать пять лет моей творческой жизни.

Наибольшие волнения и надежды теперь с романом — он написан только наполовину, и окончание его видится мне еще далеко. Поэтому говорить о нем. думаю, рано.

И. Мележ

330. М. М. ХУДЗЕНКУ (с. 252)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (в. Кананаўшчына Брагінскага р-на).

...атрымаў тваё пісьмо.— Ліст Худзенькі ад 19.II.1975, на якім ёсць памета пісьменніка: «Адк. 18.IV.75».

...фотакартку на тваю просьбу пасылаю.— Мастацкі фотаздымак, надрукаваны выд-вам «Беларусь» у 1973 г., на якім І. Мележ зрабіў надпіс: «Міколу Худзенку — з прывітаннем у Кананаўшчыну. Зычу добрых твораў і поспехаў у вучобе!

Іван Мележ 18.IV.75 г.»

331. Т. Ф. ЗАЛАТУХІНАЙ (с. 253)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

...пасылаю документ...— Размова ідзе пра рэцэпт на новы медыцынскі прэпарат ад хваробы нырак.

332. Г. М. КРЫЛОВУ (с. 253)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца па пашт. штэмпелі.

333. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ (с. 253)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве С. З. Лыньковай (г. Мінск).

Датуецпа па пашт. штэмпелі.

334. К. А. ЛЫСЕНКУ (с. 254)

Друкуецца па арыгінале. Датуецца паводле пашт. штэмпеля.

335. У РЭДАКЦЫЮ ЧАСОПІСА «ЛИТЕРАТУРНОЕ ОБОЗРЕНИЕ» (с. 254).

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

...Возвращая верстку...— Размова ідзе пра вёрстку артыкула І. Мележа «Мастерство есть стремление», які быў апублікаваны ў «Литературном обозрении», 1975, № 6.

336. В. В. ГУРЫ (с. 254)

Друкуецца па машынапіснай копіі, зробленай з арыгінала В. Гурай. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Волагда).

Датуецца па памеце адрасата.

Віншавальная тэлеграма да 50-годдзя з дня нараджэння В. Гуры.

337. Л. Л. АРАБЕЙ (с. 255)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Л. Арабей (Мінск).

...не змог трапіць на юбілейную вечарыну 26.VI...— Маецца на ўвазе юбілейны вечар да 50-годдзя з дня нараджэння Л. Л. Арабей.

338. А. П. СМІРНОВУ (с. 255)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве А. П. Смірнова (г. Масква), як і другі ліст Мележа да адрасата, уключаны ў дадзены том.

«Эшелоны шли на восток».— Нарыс А. Смірнова (Правда, 1975, 7 жн.).

...не ошибаюсь, считая, што 192-я стрелк. дивизия это та самая 192-я горно-стрелковая...— Гл. ліст да Смірнова ад 28.XII.1975 і каментарыі да яго.

Беларуская аперацыя — адна з найвялікшых стратэгічных наступальных аперацый Чырвонай Арміі ў Вялікую Айчынную вайну, ажыццёўленая на Беларусі з 23 чэрвеня да канца жніўня 1944 г.

...понравился Ваш «Эшелон».— Раман А. Смірнова «Эшелон», які публікаваўся ў «Новом мире» (1971, № 2, 3).

339. Т. АЛІМКУЛАВУ (с. 256)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ. ...получил Ваше беспокойное письмо.— Ліст Алімкулава ад 12.VIII.1975, у якім паведамлялася, што пераклад рамана «Людзі на балоце» завершаны і ўжо ў выд-ве «Жазушы», але чамусьці ён не папаў у план выданняў на 1976 г. Тут жа перакладчык прасіў Мележа асабіста звярнуцца па гэтаму пытанню да дырэктара выдавецтва.

...за Вашу большую работу, за перевод романа.— У час працы над перакладам «Людзей на балоце» І. Мележа на казахскую мову Алімкулаў цяжка захварэў, і прыйшлося яму заканчваць пераклад рамана сумесна з вядомым перакладчыкам А. Шаншаравым. (Інфармацыя з ліста Т. Алімкулава ад 20.XII.1981 да ўкладальніка тома).

Раман «Людзі на балоце» ў перакладзе на казах, мову выйшаў у 1976.

340. А. П. РОГАВАЯ (с. 257)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ (як і другі ліст І. Мележа да адрасата, што друкуецца ў дадзеным томе).

Посылаю обещанную расклейку романа «Минское направление».— Для выдання «Мінскага напрамку» ў выд-ве Міністэрства абароты СССР (1976).

341. В. В. ГУРЫ (с. 258)

Друкуецца па фотакопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Волагда).

...пишу Вам с таким большим опозданием.— Ліст Гуры да Мележа датуецца 20.VIII.1975.

...на следующей неделе лягу в больницу.— Размова ідзе пра Цэнтральную клінічную бальніцу ў Маскве, дзе І. Мележ лячыўся з 28 кастр. да 30 лістап.

...рад был Вашей книге с дарственной надписью.— У «Литературной газете» (1975, 22 студз.) быў апублікаваны адказ І. Мележа на анкету рэдакцыі гэтай газеты. Адказваючы на першае пытанне: «Какие критические работы прошлого года привлекли Ваше внимание и видятся Вам особо значительными?» — І. Мележ сярод кніг, што зрабілі на яго добрае ўражанне, назваў і кнігу В. Гуры «Роман и революция» (1979). Пасля гэтага разам з удзячным лістом В. Гуры беларускі пісьменнік атрымаў ад літаратуразнаўца вышэй названую кнігу з надпісам: «Дорогому Ивану Павловичу Мележу с большим уважением, поклоном и благодарностью.

Август 1975 Виктор Гура»

Разам з падзякай за ліст і кнігу І. Мележ паслаў В. Гуры два сваіх раманы «Минское направление» (1973) і «Люди на болоте» (Роман-газета, 1963, № 5) з аўтографамі:

на рамане «Мінскі напрамак»: «Виктору Васильевичу Гура. Мне очень многое хотелось бы сказать Вам, отдавая Вам эту первую большую свою книгу, но может быть, она немало расскажет об авторе, его надеждах сама...

И. Мележ 21.10.75 г.

Минск»,

на рамане «Людзі на балоце» : «Виктору Васильевичу Гура с уважением

И. Мележ 21.10.75 г.

Минск».

342. У. А. СУРГАНАВУ (с. 258)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

Гэты ліст напісаны І. Мележам пасля прачытання кнігі У. Сурганава «Человек на земле» (1975).

На тытульным лісце кнігі пісьменнікам зроблена памета: «Чытаў 8-9.IX.75 г. Дача».

У лісце-адказе да Мележа ад 3.XI.1975 Сурганаў піша шчырыя словы падзякі за высокую ацэнку яго кнігі: «Спасибо за доброе слово о моем детище<...> Еще раз великое спасибо Вам и низкий поклон! Смутили и взволновали Вы меня похвалой, чертовски рад и даже горжусь малость, что угодил Вам...»

343. Ю. А. АНДРЭЕВУ (с. 259)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата.

Книгу Вашу — «Революция и литература» — получил.— Кніга даслана з аўтографам: «Дорогому И. П. Мележу — здоровья и доброй работоспособности. Ю. Андреев. Ленинград, 1975»

Посылаю Вам свое «Мин. направление»...— «Минское направление» (1973) з аўтографам: «Юрию Андреевичу Андрееву — с надеждой на встречу на Минском направлении и с большой симпатией.

Іван Мележ 25.10.75 г.

Минск»

344. Г. М. МАРКАВУ (с. 260)

Друкуецца па машынапіснчй копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Посылаю Вам мой последний том...— «Жыццёвыя клопаты» (1975).

345. А. П. РОГАВАЙ (с. 261)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца памылкова кастрычнікам месяцам. Рэдактарская дата аргументуецца зместам ліста — размова ў лісце вядзецца пра час паслякастрычніцкага свята. І яшчэ: у лісце да В. Гуры ад 21.X.1975 Мележ піша, што праз тыдзень збіраецца толькі яшчэ легчы ў бальніцу.

...что «Минское направление» выйдет на год раньше.— Па плану выд-ва Міністэрства абароны СССР раман павінен быў выйсці ў 1977 г., а выйшаў у 1976.

Факсіміле — дакладная копія рукапісу, подпісу і т. д. пры дапамозе гравіравання, фатаграфіі і інш.

Рабаў Васіль Сяргеевіч (н.1918), намеснік начальніка ўпраўлення выд-ва Міністэрства абароны СССР, галоўны рэдактар выдавецтва.

Філіпаў Гаўрыла Пракопавіч (н.1918), галоўны рэдактар рэдакцыі мастацкай літаратуры выд-ва Міністэрства абароны СССР.

346. У ДВАРЫШЧАНСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ (с. 261)

Друкуецца па арыгінале.

347. А. П. СМІРНОВУ (с. 262)

Друкуецца па арыгінале.

...болезненно в главной части, было ощущение того, что я узнал из письма.— «К сожалению, должен вас разочаровать: это не та дивизия, в которой Вы служили до войны и в которой встретили войну. 192-я стрелковая (впоследствии Краснознаменная, Оршанско-Хинганская) дивизия была сформирована в мае 1943 года на Смоленщине на базе двух стрелковых бригад — 112-й, воевавшей под Москвой, и 64-й, прибывшей из Туркмении. Новому этому поединению и было присвоено: 192-я». (Ліст Смірнова да Мележа ад 15.V1II.1975.)

...окружение ее на Дону в 1942 было последним.— Гл. лісты: К. А. Лысенку ад 27.III.1974, П. Е. Латышаву ад 22.III.1975 і каментарыі да гэтых лістоў.

...тронуло Ваше доброе слово о моем творчестве...— З вышэй названага ліста А. Смірнова: «Спасибо за добрые слова об очерке в «Правде» <...>. Я вдвойне их ценю, потому что они принадлежат писателю, творчество которого мне глубоко симпатично».

....роман, который я почти закончил..— Размова ідзе пра раман «Завеі, снежань».

...«Полесскую хронику», которая печаталась в «Дружбе народов»...— «Люди на болоте» (Дружба народов, 1962, № 11, 12) і «Дыхание грозы» (Дружба народов, 1967, № 5, 6, 7).

...нет Вас в списке редколлегии? — На працягу 1970-1974 гг. А. П. Смірноў працаваў намеснікам галоўнага рэдактара час. «Новый мир».

**1976**

348. М. М. УЛАШЧЫКУ (с. 263) Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. памеце на бланку тэлеграмы. ...примите самые горячие поздравления...— Віншаванне М. М. Улашчыка з 70-годдзем з дня нараджэння. За пяць гадоў да гэтай віншавальнай тэлеграмы М. М. Улашчык асабіста віншаваў І. Мележа на вечары ў СП БССР, прысвечаным 50-годдзю з дня яго нараджэння.

Тады ж І. Мележ падараваў вядомаму гісторыку першы том Збору твораў у 6-ці т. з надпісам: «Мікалаю Мікалаевічу Улашчыў, які на вечары аўтара, 8 лютага года 1971, пераканаўча давёў, што зямля беларуская невыпадкова дала свету Кірылу Тураўскага і Сімяона Полацкага і што дар іх не згас зусім, жыве і цяпер, з падзякай, пашанай і замілаваннем —

Іван Мележ 23.11.71 г.

Каралішчавічы»

(У той час М. М. Улашчык адпачываў у Каралішчавічах у пісьменніцкім доме адпачынку).

349. В. В. НЯФЁДАВУ (с. 263)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

Книгу Вашу — «Поэзия И. Бунина» — получил.— Разам з кнігай В. Няфёдава «Поэзия И. Бунина» (1975) І. Мележ атрымаў невялікі ліст, у якім аўтар ліста аргументуе, чым выкліканы яго падарунак: «Эта книжка — скромный знак любви к Вашей чудесной прозе». І далей звяртаецца ўвага пісьменніка на старонку 133 гэтай кнігі, дзе падкрэсліваецца, што І. Мележ, як і многія вядомыя пісьменнікі, не прайшоў міма мастацкіх адкрыццяў Буніна.

350. К. К. КРАПІВЕ (с. 264)

Друкуецца па чарнавым аўтографе, які захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

Датуецца па змесце. Тэлеграма даслана ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння К. К. Крапівы.

351. А. Т. КУЗЬМІНУ (с. 264)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

352. А. М. ЛАЎНІЦКАМУ (с. 266)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа. Арыгінал невядомы.

353. В. І. АТРАШКЕВІЧУ (с. 267)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Магілёў).

...атрымаў Ваша пісьмо...— Ліст Атрашкевіча ад 4.III.1976,

у якім адрасант звяртаецца да пісьменніка з просьбай адказаць на пытанні, звязаныя з аўтабіяграфізмам у яго творчасці.

354. М. М. УЛАШЧЫКА (с. 267) Друкуецца па арыгінале.

Дзякую Вам за добрыя словы пра раман! — У лісце да Мележа ад 15.V.1976 Улашчык выказаў свае ўражанні пасля прачытання ў «Полымі» № 5 часткі рамана «Завеі, снежань». З ліста: «Вы далі гісторыю тых часоў пераканаўчую, бо гэта гісторыя сапраўдная. Няма ніякае схемы, няма нічога таго, што напісана пэўна тысячамі аўтараў, ёсць праўда. Слава Вам за гэта».

355. Ф. А. БЯЛЯЕВУ (с. 267)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве сям'і Івана Мележа. Арыгінал невядомы.

Хамічы.— Вёска ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобл.

353. Б. А. БУРАНУ (с. 268)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ІЛ.

Гэта адказ І. Мележа на ліст В. Бурана ад 2.VII.1976, у якім Васіль Акімавіч звярнуўся да пісьменніка з просьбай дазволіць яму пазнаёміцца з чытацкімі лістамі, дасланымі ў розныя гады, каб выкарыстаць іх у сваёй кнізе па праблеме «Пісьменнік-кніга-чытач». Ліст І. Мележа В. Буран чытаў ужо пасля яго смерці: «Ліст я атрымаў у другой палове жніўня, калі Івана Паўлавіча ўжо не стала». (З ліста В. Бурана да жонкі І. Мележа ад 30.IX. 1979.)

...зусім нядаўна прыехаў з Крыма:— Адпачываў ў Місхоры ў санаторыі «Беларусь».

На анкету адказаць пакуль што не змагу...— Разам з лістом І. Мележу ад 2.VII.1976 В. Буран даслаў анкету з пяці пытанняў. Анкета прысвечана праблеме «Піеьменнік-кніга-чытач».

Дзякую за кніжку пра В. Быкава.— В. Буран даслаў І. Мележу сваю кнігу «Васіль Быкаў» (1976) з надпісам: «Паважанаму Івану Паўлавічу Мележу з глыбокай прыхільнасцю

4.VII.76 г. Кіеў

Васіль Буран»

## АНАТАВАНЫ ПАКАЗАЛЬНІК АДРАСАТАЎ

Абалкін Мікалай Аляксандравіч (н. 1906), рускі тэатральны і літаратурны крытык, літаратуразнавец. Аўтар многіх кніг аб тэатры і мастацтве.

Знаёмства з І. Мележам адбылося ў той час, калі Абалкін быў членам рэдкалегіі і рэдактарам «Правды» па аддзелу літаратуры і мастацтва. «С Иваном Павловичем мы были в добрых дружественных отношениях. Не раз встречались в Москве и в Минске». (З ліста Абалкіна ад 3.ХІ.1980 да ўкладальніка тома.)

Літ.: Возвращение к истоку (Правда, 1967, 17 жн.); у кн.: Оружие гуманизма.— М.: Сов. писатель, 1970; Живое дыхание эпоса (Правда, 1972, 9 сак.).

Аксёнаў Аляксандр Нічыпаравіч (н. 1924), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Старшыня Савета Міністраў БССР (1978-1983). Зараз — Надзвычайны Паўнамоцны Пасол СССР у ПНР. У той. час — першы сакратар Віцебскага абкома КП Беларусі.

Алімкулаў Такен (н. 1918), казахскі пісьменнік, перакладчык.

І. Мележ пазнаёміўся з Алімкулавым у лістападзе 1974 г. на нарадзе па перакладу, што праходзіла ў Мінску. (Інфармацыя з ліста Т. Алімкулава ад 20.ХІІ.1981 да ўкладальніка тома.)

Аляксанкін Аляксандр Васільевіч (н. 1929), дзяржаўны дзеяч БССР. Міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР.

Андрэеў Юрый Андрэевіч (н.1930), рускі пісьменнік, крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук.

Першым лістом да Андрэева І. Мележ звярнуўся пасля прачытання яго артыкула «На ниве многонациональной литературы» ў час. «Нева», дзе размова вялася таксама і пра «Палескую хроніку» (ліст невядомы). Андрэеў адказаў лістом ад 21.1.1973, у якім ёсць наступныя радкі: «Я искренне рад, што мой слова, идущие от чистого сердца, оказались созвучны Вам, ведь это замечательно, когда встречаешь человека, близкого тебе по взгляду на мир, на людей, на историю! Я встретил такого человека, прочитав Вашу дилогию, вторично я его встретил, прочитав Ваше письмо...»

Дарчы надпіс. І. Мележ — Ю. Андрэеву: «Юрию Андрееву — с глубоким уважением и благодарностью. И с надеждой встретиться, познакомиться ближе.

От автора Иван Мележ 19.XII.72 г. Минск»

(Люди на болоте. Дыхание грозы, 1972.)

Літ.: На ниве многонациональной литературы.— Нева, 1972. № 9; у кн.: Наша жизнь, наша литература.— Л.: Сов. писатель, 1974, с. 65-77.

Арабей Лідзія Львоўна (н. 1925), беларуская пісьменніца. Была рэдактарам кнігі апавяданняў І. Мележа «У гарах дажджы» (1957).

Дарчыя надпісы І. Мележ — Л. Арабей:

«Лідзе Арабей ад настаўніка, якому даводзілася быць вучнем,— з пажаданнем поспехаў у кабінетах і на дарогах жыцця.

Іван Мележ 17.5.62 г. Мінск»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Лідзе Арабей — былой студэнтцы, якая вытрымала ўжо не адзін экзамен перад чытачамі. Зычу поспехаў!

Іван Мележ 6.4.66 г. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.) Л. Арабей — І. Мележу:

«Івану Паўлавічу Мележу з глыбокай пашанаю

Л. Арабей»

(На струнах буры, 1967.)

У асабістай бібліятэцы сям'і І. Мележа захоўваецца аповесць Л. Арабей «На другой зіме вайны» (часопісная публікацыя) з паметамі, заўвагамі Мележа, якія былі зроблены пісьменнікам пры чытанні аповесці: с. 98— «Добра — немец»; с. 103— «Добрая канкрэтнасць бачанага» і інш.

На апошняй старонцы: «Вельмі праўдзіва. Жыццёва. Дакладнасць абстаноўкі. Даклад<насць> псіхалогіі. Вобразы ёсць. Усе немцы — добра! Мова часам збіваецца. А ў цэлым — поспех.

16.6.66 г.».

Літ.: Родны чалавек.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.—Мн.: Маст. літ., 1982.

Аранскі Улас Сцяпанавіч (н. 1920), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута агульнай педагогікі АН СССР.

З Мележам — сябры юнацтва. Пазнаёміліся ў 1938 г., калі Аранскі пасля Мазырскага педагагічнага тэхнікума працаваў настаўнікам Алексіцкай сярэдняй школы, а Мележ — у Хойніцкім райкоме камсамола. Першая сустрэча адбылася ў рэдакцыі раённай газеты (г. Хойнікі), куды яны абодва прыносілі свае першыя вершы. Пасля вучыліся аднačасова ў Маскве — Мележ у ІФЛІ, Аранскі — у

КІЖы (камуністычны інстытут журналістыкі). (Інфармацыя з ліста Аранскага да ўкладальніка тома ад 19.11. 1980 г.)

У асабістым архіве Аранскага захоўваецца выразка з газ. «Звязда» (1969, 5 чзрв.), дасланая Мележам. У нататцы «Сардэчнае дзякуй» М. Амельчанкі — сакратара партыйнай арганізацыі Вербавіцкай сярэдняй школы Нараўлянскага р-на, дзе вучыўся Арэнскі,— успамінаецца, што шмат якія выпускнікі школы сталі вучонымі, і сярод іншых называецца Улас Сцяпанавіч Арэнскі. На выразцы напісана Мележам: «Улас Сцяпанэвіч! Пасылаю Вам выразку са «Звязды», якая гаворыць, што Вас помняць у Беларусі.

Прывітанне! Не забывай Вербавічы!

Іван Мележ 5.VI.69 г.»

Дарчыя надпісы. І. Мележ — У. Аранскаму: «Уласу Аранскаму — паэту, настаўніку з Алексін і будучаму акадэміку на памяць.

Іван Мележ 12.II.1955

Масква, дэкадэ л-ры і мастацтва»

(Мінскі напрэмэк, 1952.)

«Уласу Аранскэму — нэ памяць пра нашу далёкую маладосць.

Іван Мележ 14.II.62»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Дарэгому Уласу Аранскаму на ўспамін пра тую зямлю, на якой мы былі маладыя.

Ад аўтара Іван Мележ 15.XII.69. Мінск»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. І).

«Уласу Аранскэму эд чэлэвека з «біяграфіяй» пэ-сяброўску

Іван Мележ 15.XII.69 Мінск

З Новым годам!

І. М.»

(Ф. Куляшоў. Іван Мележ, 1968.) — 168.

Арлоў Сяргей Аляксандравіч (н. 1927), інспектэр Яжэлбіцкага маслазавода Ноўгарадскэй вобл. (Звесткі з лістэ Арлова да пісьменніка ад 8.1.1955.) — 46.

Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (н. 1931), рускі літаратурэзнавец, крытык.

У час знаёмства з Мележам, якое адбылося ў Мінску на Пленуме СП БССР у 1963 г., прэцэвэў нэмеснікэм загадчыка аддзела літаратуры народаў СССР у «Литературной газете». Дарчыя надпісы. І. Мележ — В, Аскоцкаму: «Валянціну Аскоцкаму на памяць пра першую нашу сустрэчу, за якой, веру, будуць новыя, такія ж шчырыя, харошыя,—

ад сэрца — Іван Мележ 9.10,63 г. Мінск»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Вале Оскоцкому, блестяще начавшему диссертацию, с пожеланием так же держать и дальше,— с пожеланием успехов во всех начинаниях,

дружески — Иван Мележ 7.VII.66 г. Минск»

(Подых навальніцы, 1966.)

«Валентину Дмитриевичу Оскоцкому, дорогому Вале Оскоцкому, от одного из многих его в белорусской литературе друзей,

с любовью и дружбой, И. Мележ 22.XI.1967 Москва»

(Дыхание грозы, 1967.)

«Валентину Оскоцкому с дружескими чувствами

И. Мележ 22.IX.73 г.»

(Люди на болоте. Дыхание грозы, 1973.)

«Валентину Оскоцкому — страницы моей далекой, все еще беспокоящей молодости — дружески,

с любовью И. Мележ 2.III.74 г.»

(Минское направление, 1973.)

«Валентину Дмитриевичу Оскоцкому — мол литературные «житейские заботы» — вместе с неизменными чувствами дружбы

И. Мележ 10.1.76 г. Минск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.) В Аскоцкі — І. Мележу:

«Дорогому Ивану Павловичу — с неизменным уважением и любовью — в знак доброй памяти —

В. Оскоцкий 27.6,1966»

(Многонациональный советский роман, 1966).

«Дорогому Ивану Павловичу Мележу — одному из главных «героев» этой книги. С чувствами давнего и глубокого уважения к Вашему таланту —

В. Оскоцкий 27.7.76

Москва»

(Богатство романа. 1976.)

Літ.: Мост в новую жизнь.— Лит. Россия, 1963, 29 лістай.; Гроза над Куренями.— Знамя, 1967, № 11; Нехоженым полем непрожитой жизни...— Лит. Россия, 1970, 13 сак.; у ня.: Богатство романа.— М.: Сов. писатель, 1976, с. 242-252. — 123, 129, 188, 306.

Атрашкевіч Валерый Іосіфавіч (н. 1939), загадчык кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута. У той час аспірант Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Бандарэнка Ніна (н. 1939), вучаніца 9-га класа адной са школ г. Сталінабада (зараз г. Душанбе). (Звесткі з ліста Бандарэнкі да пісьменніка ад I.VI. 1955).

Батракоў Валянцін (н. 1933), ваеннаслужачы (г. Ташкент). (Звесткі з ліста Батракова да пісьменніка ад 2.XI.1954.)

Блок Ігар Генрыхавіч (н. 1918), румынскі пісьменнік, журналіст, перакладчык. Галоўны рэдактар час. «Аўрора».

Пазнаёміўся з Мележам у Румыніі ў 1965 г. (Інфармацыя з ліста Блока да ўкладальніка тома ад 5.II.1982.)

Пераклаў на рум. мову раман І. Мележа «Людзі на балоце». Дарчы надпіс. І. Мележ —І. Блоку:

«Игорю Блоку, трудом которого я приобщился к румынскому читателю, с благодарностью за перевод «Людей на болоте» и с глубоким уважением —

Иван Мележ 22.X.1967 г. Москва»

(Дыхание грозы, 1967.)

Бондараў Канстанцін Арцёмавіч (н. 1918), ваеннаслужачы. (Звесткі з ліста Бондарава да пісьменніка ад 16.XII.1955.)

Брыль Янка (Іван Антонавіч; н. 1917), беларускі празаік, народны пісьменнік Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

З Мележам знаёмы з канца 1944 г. Брыль успамінае: «...з Мележам пазнаёміў мяне Лынькоў. Гэтаму светламу чалавеку як быццам наканавана было зводзіць людзей на дружбу.

Канчаўся сорак чацвёрты год. Мележ быў у старым цывільным палітончыку, прыкметна сутуліўся ў адзін бок, на параненае плячо, і ўжо тады найахвотней, найбольш гаварыў пра адно — што пішам, што будзем пісаць... Ад тае першае нашай гутаркі ў адзіным тады пакоі Саюза пісьменнікаў да апошняга развітання з Іванам у рэдкім сонечным сасонніку — больш за трыццаць гадоў адчування ўзаемнай прысутнасці, то частых, то рэдкіх сустрэч, гутарак, у сяброўскай кампаніі і толькі ўдвух, па-мележаўску доўгіх размоў па тэлефоне, сумесная праца ў секцыі прозы, у кіраўніцтве пісьменніцкай арганізацыі, даволі доўгае суседства па кватэрах, паездкі па Беларусі, у Маскву, у Крым, у Ерэван...» (Я. Брыль. Зб. тв. у 5-ці т.— Мн.: Маст. літ., 198.1, т. 4, с. 495.)

Я. Брыль рэдагаваў кнігу Мележа «Блізкае і далёкае». Дарчыя надпісы. І. Мележ — Янку Брылю:

«Янку Брылю ў знак глыбокай сімпатыі і павагі на шчыры сяброўскі ўспамін —

Ів. Мележ 25 лістапада 1946»

(У завіруху, 1946.)

«Дарагі Янка! Хай гэты мой «мой родны кут» будзе табе як знак маёй вялікай павагі да цябе, нязменнай любові і ўдзячнасці.

Ад душы — Іван Мележ 12.5.62 г. Мінск»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Янку Брылю, жывому класіку,

ад сэрца Іван Мележ 8.V.73 г. Мінск»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. І.)

«Янку Брылю

ад сэрца Іван Мележ 23.10.75».

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

Янка Брыль —І. Мележу: «Дарагому сябру Івану Мележу шчыра

Янка Брыль 16.IV-53 г.»

(Дзеля сапраўднай радасці, 1952.)

«Дарагому Івану Мележу па-сяброўску — з націскам на старонкі 232-240.

Янка Брыль 23.XII.63»

(Роздум і слова, 1963.)

«Івану Мележу — з сяброўскім поціскам рукі

(Жменя сонечных промняў, 1965.)

Янка Брыль 16.IX.65»

«Івану Мележу — з любоўю — «с милого севера в сторону южную»

Янка Брыль Мінск, 20.X.72»

(Вітраж, 1972.)

Літ.: Запаветная песня.— Літ. і мастацтва, 1961, 17 кастр.; Хоць і не ўсё...— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Будакоў Аляксандр Васільевіч (н. 1913), тэхнік кардоннай фабрыкі імя М. І. Калініна (Горкаўская вобл.). Зараз пенсіянер. У час перапіскі з Мележам быў кіраўніком-аматарам мясцовага тэатральнага гуртка, самадзейным калектывам якога пастаўлена п'еса Мележа «Пакуль маладыя». (Інфармацыя з ліста Будакова да ўкладальніка тома ад 14.XII.1980.)

Буран Васіль Акімавіч (н. 1924), украінскі літаратуразнавец, крытык. Дацэнт кафедры агульнай бібліяграфіі і кнігазнаўства

кіеўскага Інстытута культуры імя А. Е. Карнейчука. Працуе ў галіне беларускай савецкай літаратуры, кнігазнаўства і бібліяграфіі. (Інфармацыя з ліста Бурана да ўкладальніка тома ад 29.III.1982.)

Літ.: Артыкул пра І. Мележа ва Украінскай Савецкай Энцыклапедыі, 1981, т. 6.

Бутузаў Мікалай Мікалаевіч, ваеннаслужачы. (Звесткі з ліста Бутузава да пісьменніка ад 4.XII.1954.)

Быстрых Валянцін Уладзіміравіч (н. 1911), кінааператар кінастудыі Леннавукфільм. Зараз пенсіянер. (Інфармацыя з ліста Быстрых да ўкладальніка тома ад 11.IV.1980.)

Быхавец Іосіф Аляксандравіч (н. 1916), настаўнік беларускай мовы і літаратуры з 1936 па 1978 г. Працаваў на Полаччыне, затым на Пастаўшчык. Зараз пенсіянер. (Інфармацыя з ліста Быхаўца да ўкладальніка тома ад 18.II.1980.)

Бяляеў Фёдар Антонавіч (н. 1931), старшыня выканкома Быхаўскага раённага Савета народных дэпутатаў.

Ванаг Юлій Пятровіч (н. 1903), латышскі пісьменнік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Латвійскай ССР і БССР.

Пераклаў на латышскую мову раманы І. Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

Літ.: Іван Мележ: Подых навальніцы.— Яднас граматас, 1960, № 12 (на латышск, мове).

Вільтоўскі Васіль Антонавіч (н. 1928), дырэктар Беларускага аддзялення літфонда СССР. У той час працаваў галоўным кнігаведам Дзяржкамвыда БССР.

Гальпер Аляксандр Барысавіч, лектар-міжнароднік (г. Харкаў). (Звесткі з ліста Гальпера да пісьменніка ад 16.I.1955).

Ганчар Алесь (Аляксандр Цярэнцьевіч; н. 1918), украінскі пісьменнік. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўных прэмій СССР, рэспубліканскай літаратурнай прэміі імя Шаўчэнкі.

З артыкула А. Ганчара «Цудоўны пісьменнік і чалавек»: «Цудоўны пісьменнік, шчыры і добры чалавек — вось што я магу пра яго

сказаць. Яго «Людзі на балоце» і наступныя раманы гэтага цыкла маюць, безумоўна, значэнне не толькі для беларускай літаратуры. Гэтая велічная сага народнага жыцця глыбока і па-новаму адкрывае беларусаў ўсім народам свету... . Я таксама лічу для сябе гонарам і тое, што ў свой час мае «Сцяганосцы» перакладаліся на беларускую мову пры ўдзеле Івана Мележа — і было гэта яшчэ на зары яго таленавітай творчасці». (У кн.: Успаміны пра Івана Мележа, с. 98.)

Дарчы надпіс. А. Ганчар — І. Мележу:

«Івану Мележу — брату па зброї на добру згадку про зустріч у Києві в дні III-го з'їзду

1.XI.54 Олесь Гончар»

(Твори в 2-х т., 1954, т. I.)

Гапоненка Васіль Міхайлавіч, старшыня калгаса «Ленінскі шлях» Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

Гардзіцкі Аляксей, Кузьміч (н. 1934), літаратурны кансультант СП БССР. У час перапіскі працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку. Дарчы надпіс А. Гардзіцкі — І. Мележу: «Сааўтару Івану Паўлавічу Мележу ад аўтара

31/XII-68 г. А. Гардзіцкі»

(Дыялогі, 1968).

Літ.: У кн.: Дыялогі.— Мн.: Беларусь, с. 22-33; у кн.: Пра майстэрства дэталі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1969, с. 24-38; Рука сябра.— Маладосць, 1972, № 12; У кн.: Вачыма сяброў,—Мн.: Маст. літ., 1977, с. 3-13.

Глазырын А. І. (н. 1938), студэнт II курса Кемераўскага кокса-хімічнага тэхнікума. (Звесткі з ліста Глазырына да пісьменніка ад 17.1.1955.)

Глухаўцаў Барыс Васільевіч, аспірант Маскоўскага інстытута сталі. (Звесткі з ліста Глухаўцава да пісьменніка ад 15.1.1955).

Горак Мілан (н. 1920), чэшскі перакладчык, супрацоўнік выд-ва «Наше войско» ў Празе. (Звесткі з ліста Горака да Мележа ад 15.XI.1955 і з ліста В. Жыдліцкага ад 8.V.1982 да ўкладальніка тома.)

Горлач В. Г., работнік бібліятэчнага калектара ў г. Краснадары. (Звесткі з ліста Горлача да пісьменніка ад 28.X.1954.)

Грынчык Мікалай Міхайлавіч (н. 1913), беларускі крытык і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар. Загадчык кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры. У час перапіскі з Мележам працаваў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Заслужаны дзеяч навукі БССР.

Дарчы надпіс. М. Грынчык — І. Мележу:

«Дарагому Івану Паўлавічу Мележу — выдатнаму майстру слова з глыбокай павагай і верай у яго далейшыя творчыя поспехі —

Мінск, 5.1.1970 г.

аўтар».

(Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі, 1969.)

Літ.: Рэгіянальныя асаблівасці літаратуры.— Полымя, 1971, № 10, с. 183; Беларуская літаратура і літаратуразнаўства.— Мн.: выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1974, с. 25.

Губанаў Сідар Лявонцьевіч (н. 1916), радыёмеханік дыстанцыі сігналізацыі і сувязі (г. Катоўск Адэскай вобл.). Зараз пенсіянер. Таварыш І. Мележа па курсах палітработнікаў (г. Каменск Растоўскай вобл., люты — май 1942 г.). (Інфармацыя з ліста Губанава да ўкладальніка тома ад 4.X.1980). Дарчы надпіс. І. Мележ — С. Губанаву:

«Губанову Сидору Леонтьевичу на память о незабываемых днях совместной учебы на курсах политсостава Южного фронта и с пожеланиями здоровья и счастья.

От автора И. Мележ

Шлю пожелания счастья жене твоей — Зинаиде Губановой

И. М. 27.2.74 г.»

(Люди на болоте. Дыхание грозы, 1973.)

Гура Віктар Васільевіч (н. 1925), рускі крытык, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар. Загадчык кафедры літаратуры Валагодскага педагагічнага інстытута.

Перапіска пачалася з публікацыі добрых слоў Івана Паўлавіча ў «Литературной газете» пра кнігу Гуры «Роман и революция». «Я с большой симпатней относился и отношусь к Ивану Павловичу как человеку и как писателю. Переписка наша только укрепила меня в этих чувствах». (З ліста Гуры ад 2.IX.1980 да ўкладальніка тома.)

Дабратворскі Мікалай Пятровіч (н. 1926), начальнік аддзела Ленінградскага камітэта па тэлебачанні і радыё. Член Саюза журналістаў СССР. Заслужаны работнік культуры РСФСР. У час перапіскі з І.

Мележам быў літсупрацоўнікам газ. «Сталинская гвардия» 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса. (Інфармацыя з ліста Дабратворскага ад 27.1.1982 да ўкладальніка тома.)

Даніленка (па мужу Іванешка) Надзея Міхайлаўна (н.1948), настаўніца беларускай і рускай мовы і літаратуры (г. Гомель). (Інфармацыя з ліста Даніленкі-Іванешкі ад 5.II.1980 да ўкладальніка тома).

Друзін Валерый Паўлавіч (1903-1980), крытык, літаратуразнавец. У той час выконваў абавязкі галоўнага рэдактара «Литературной газеты».

Жабін Аляксандр Міхайлавіч (н. 1904), пенсіянер. У мінулым — фінансавы работнік (Кастрамская Еобл.). (Інфармацыя з ліста Жабіна да ўкладальніка тома ад 20.XI.1980.)

Жыдліцкі Вацлаў (н. 1931), прафесар Карлава універсітэта ў Празе, перакладчык.

З успамінаў Жыдліцкага: «З Іванам Паўлавічам я пазнаёміўся ў час маёй стажыроўкі ў БДУ ў 1961 — 1962 гг. Упершыню сустрэліся на сустрэчы Івана Паўлавіча са студэнтамі філалагічнага факультэта... Пасля мы не раз сустракаліся ў Мінску... Пасля Іван Паўлавіч некалькі разоў прыязджаў у Прагу, і мы заўсёды сустракаліся на філасафічным факультэце Карлава ун-та». (Ліст Жыдліцкага да ўкладальніка тома ад 8.V.1982.)

Пераклаў на чэшскую мову раман І. Мележа «Людзі на балоце».

Залатухіна Тамара Фёдараўна (н. 1931), у той час загадчык аддзела літаратур народаў СССР «Литературной газеты». Зараз — аглядальнік «Литературной газеты».

Пераклала з беларускай мовы на рускую частку рамана І. Мележа «Завеі, снежань» (тое, што не паспеў перакласці Д. Кавалёў з прычыны цяжкой хваробы, затым і смерці). У яе перакладзе друкаваліся: апавяданне «Булкін»,— Лит. газета, 1978, 20 снеж.; урывак з «Першай кнігі».— В мире книг, 1978, № 9, с. 73-77. У яе запісе прагучаў дыялог паміж І. Мележам (празаікам) і І. Казловым (крытыкам). «Слагаемые эпопеи».— Лит. газета, 1975, 30 крас.

Дарчыя надпісы. І. Мележ — Т. Залатухінай: «Тамаре Федоровне Золотухиной — хорошему, отзывчивому человеку из большого города Москвы

от автора Іван Мележ 24.10.75 г. Минск »
(Людзі на балоце, 1973.)

«Тамаре Федоровне Золотухиной — дорогие сердцу моему книги, частицу моего сердца —

И. Мележ 24.10.75 г.
Минск»
(Подых навальніцы, 1973.)

Іваноў Герман Іванавіч, жыхар г. Наваград-Валынскі Жытомірскай вобл. (Звесткі з ліста Іванова да пісьменніка ад 2.III.1955.)

Йыгі Олеў Адавіч (н. 1919), эстонскі літаратуразнавец і перакладчык. Галоўны рэдактар часопіса «Мова і літаратура» выдавецтва АБ ЭССР.

Перапіска з І. Мележам налічвае 23 адзінкі і была наладжана ў сувязі з перакладам Йыгі раманаў І. Мележа «Людзі на балоце» (1964) і «Подых навальніцы» (1968.)

З успамінаў Йыгі: «...Маё знаёмства з Мележам пачалося чытаннем яго кніг і перапіскай. Уласна кажучы, віноўнікам усяго быў Янка Брыль... Параіў прачытаць Івана Мележа — яго раман «Людзі на балоце», які нядаўна выйшаў». (Дзесяць год знаёмства з Іванам Мележам.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа, с. 216.)

Дарчыя надпісы. І. Мележ — О. Йыгі:

«Олеву Адовичу Йыги — с дружеским приветом в Таллин,

от автора — Иван Мележ
27.8.62 г. Минск»
(Людзі на балоце, 1962.)

«Олеву Адовичу Йыги на память о нашей первой встрече в Москве

И. Мелж
28.3.63 г. Москва»
(Люди на болоте, 1962.)

«Олеву Йыгі — ад сэрца.

Іван Мележ 6.4.66 г. Мінск»
(Подых навальніцы, 1966.)

Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909-1970), рускі пісьменнік-перакладчык. Складальнік шэрагу зборнікаў і анталогій беларускай літаратуры.

Пераклаў на рус. мову апавяданні І. Мележа «Адна», «Таварышы», «Дружная сям'я» для зборнікаў «Белорусские рассказы» (М.: Сов. писатель) выдання 1948 і 1955 гг.

Каваленка Віктар Антонавіч (н. 1929), беларускі пісьменнік, крытык і літаратуразнавец. Член-карэспандэнт АН БССР. Доктар філалагічных навук. Дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Дарчыя надпісы. І. Мележ — В. Каваленку: «Віктару Каваленку. Мне здаецца, што ў тым, што ты напісаў пра Міканора і Глушака, ёсць вялікая праўда; і вялікая праўда ў тым, што героі нашай літаратуры сталі больш думаць. Больш думаюць — заўважыў я — і крытыкі, сярод якіх я з радасцю часта бачу цябе.

Зычу ўдач. 6.4.66 г. Іван Мележ»

(Подых навальніцы, 1966.)

«Віктару Антонавічу Каваленку з пажаданнем поспехаў (у крытыцы і прозе)

Іван Мележ 5.12.75 г. Мінск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

Літ.: Важно и количество.— Вопросы литературы, 1967, № 3; Хвалюючыя старонкі нашага жыцця.— Настаўніцкая газета, 1967, 19 крас.; у кн.: Голас чалавечнасці.— Мн.: Навука і тэхніка, 1970, с. 139-142; Проблемы современной белорусской прозы о войне.— У зб. «Единство».— М.: Худож. лит., 1972, с. 379-380; у кн.: Прага духоўнасці.— Мн.: Маст, літ., 1975, с. 21-22, 127; Жывое аблічча дзён.— Мн.: Маст, літ., 1979.

Кавалеўская Пахана Ігнатаўна (н. 1940), у той час вучаніца 7-га класа (Акмолінская вобл. Казахскай ССР). (Звесткі з ліста Кавалеўскай да пісьменніка, які датуецца канцом 1954 г.).

Кавалёў Дзмітрый Міхайлавіч (1915—1977), рускі паэт, перакладчык. Пераклаў на рускую мову раман І. Мележа «Подых навальніцы» і частку рамана «Завеі, снежань,» працу над якім перапыніла заўчасная смерць.

Дарчыя надпісы. І. Мележ — Д. Кавалёву: «Дзіме Кавалёву — Чалавеку, Паэту, Другу, сааўтару — ад сэрца

Іван Мележ 6.3.66 г. Мінск

Рад буду, што рускае выданне будзе ўпрыгожваць тваё сумленнае, мілае маёй душы імя. Зычу поспехаў!

Іван»

(Подых навальніцы, 1966.)

«Диме Ковалёву. На память о многотрудном времени, которое, в общем, уже позади,

Іван Мележ 22.X.1967 Москва «Россия»

(Дыхание грозы, 1967.)

«Дарагому Дзмітрый) Кавалёву — другу з маладых даваенных гадоў, таленавітаму паэту і аднадумцу — з павагай і любоўю.

Іван Мележ 6.9.69 г.

Мінск»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. I.)

Д. Кавалёў — І. Мележу:

«Ивану Мележу — по-землячки, по-дружески, обнимая.

Дм. Ковалев 22/XI-65 г.»

(Б-ка избранной лирики, 1965). «Тебе — Дм. Ковалев, Дима Ивану Мележу — Ваня, одной земли со мною, одной людской земной доли и любви, глубокому художнику, строгому, нервному, как я сам, но медлительному, а значит, более основательному как раз — когда начало печататься «Дыханне грозы»

25.V.67 г.»

(Ветреный день, 1967.)

«Ивану Мележу — другу моему, глубокому художнйкў слова, родному по отношению к родной земле, Гомельщине нашей.

Дм. Ковалев»

(Тревожная совесть, 1975.)

Літ.: Поэзия Полесья.— Октябрь, 1971, № 5.

Кавалёў Мікалай Апанасавіч (н. 1930), у той час працаваў шафёрам (г. Гагры). (Звесткі з ліста Кавалёва да пісьменніка ад 20.XII.1954.)

Казачэнка Васіль Паўлавіч (н. 1913), украінскі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Шаўчэнкі і рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага.

В. Казачэнка і І. Мележ даўно і добра сябравалі. Васіль Паўлавіч пераклаў для час. «Украіна» (1956, № 2) апавяданне І. Мележа «На Прыпяці».

Дарчыя надпісы. І. Мележ — В. Казачэнку: «Дарагому Васілю на ўспамін пра першую сустрэчу ў Мінску

ад сэрца — Іван Мележ 16/IX-54 г. Мінск»

(Мінскі напрамак, 1952.)

«Паважаным Казачэнкам з самымі добрымі пажаданнямі ў сямейным жыцці, у творчасці, у кіраўніцтве

Іван Мележ 2.II.61 г. Мінск»

(Што ён за чалавек, 1961.)

«Васілю Паўлавічу Казачэнку, слаўнаму сыну Украіны —

ад сэрца, Іван Мележ 27.XI.66 г. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.)

В. Казачэнка — І. Мележу:

«Другові Івану Павловичу Мележу, славному синові білоруськой літератури

з любов'ю 26.IV.63»

(Блискавка, 1962.)

«Дорогому Іванові Павловичу Мележу з найхцирішими дружніми пачуттямі!

7.XI.73 р.»

(Листи з патрона, 1973.)

Карпава Валянціна Міхайлаўна (н. 1915), у той час працавала галоўным рэдактарам выдавецтва «Советский писатель» (з 1958 па 1979), зараз член Праўлення гэтага выдавецтва. (Інфармацыя з ліста Карпавай да ўкладальніка тома ад 15.XII. 1981.)

Касалапаў Валерый Аляксеевіч (1910-1982), рускі крытык, публіцыст. У гой час дырэктар выдавецтва «Художественная литература».

Катлярчук Уладзімір Паўлавіч, жыхар в. Слабажанка Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

Кашчук Наталля Емяльянаўна (н. 1937), украінская пісьменніца.

Літ.: Добрая ўсмешка майстра.— Друг читача, 1973, 15 лют.

Кашчэеў Мікалай Васільевіч (н. 1913), дзяржаўны дзеяч БССР. Міністр сельскага будаўніцтва БССР. — 211.

Кір'янаў Сяргей Леанідавіч (1907-1982), у той час загадчык рэдакцыі прозы народаў СССР выдавецтва «Советский писатель».

Кісялёў Рыгор Якаўлевіч (1913-1970), дзяржаўны дзеяч БССР. У той час намеснік старшыні Савета Міністраў БССР. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

Козін Уладзімір (н. 1941), вучань 5-га класа г. Паўладара. (Звесткі з ліста Козіна да пісьменніка ад 7.XII.1954.)

Колеў Светаслаў (н. 1915), балгарскі пісьменнік, журналіст, перакладчык з многіх моў свету.

Пераклаў на балгарскую мову апавяданне І. Мележа «Апошняя аперацыя». У перакладзе Колева ў час. «Лик» друкавалася інтэрв'ю, дадзена І. Мележам для «Литературной России» (1972, 22 верас.).

Перапіска з І. Мележам пачалася з таго, што Колеў даслаў яму нумар газеты «Отечествен фронт» (1972, 3 мая), дзе была надрукавана яго нататка да прысуджэння І. Мележу Ленінскай прэміі.

Корбан Уладзімір Іванавіч (1910-1971), беларускі паэт-байкапісец, сатырык. Заслужаны дзеяч культуры БССР. З 1967 працаваў галоўным рэдактарам час. «Вожык».

Крапіва (сапр. Атраховіч) Кандрат Кандратавіч (н.1896), беларускі пісьменнік, вучоны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Доктар філалагічных навук. Герой Сацыялістычнай Працы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

У асабістым архіве сям'і І. Мележа захоўваецца тэлеграма К. Крапівы ад 3.XI.1967: «Дарагі Іван Паўлавіч!

Горача віншую Вас з вялікім святам — 50-годдзем Кастрычніка — і высокай урадавай узнагародай.

Жывіце доўгія гады ў добрым здароўі і тварыце на радасць людзям.

Кандрат Крапіва».

Краснашчокаў Аляксандр Сямёнавіч (н. 1931), у той час працаваў токарам на адным з заводаў г .Казані. (Звесткі з ліста Краснашчокава да пісьменніка ад 30.XII.1954.)

Краўцоў Васіль Паўлавіч (н. 1918), настаўнік Прылукскай сярэдняй школы Мінскага раёна. Зараз пенсіянер.

Крылоў Георгій Мікалаевіч (н. 1918), падпалкоўнік у адстаўцы. Жыве ў Мінску.

Кудрыцкі Васіль Іванавіч (н. 1921), зямляк, аднакласнік па Алексіцкай школе. Зараз працуе інжынерам-будаўніком — начальнікам

аднаго з будаўніцтваў у Чымкенцкай вобл. (Інфармацыя з ліста Кудрыцкага да ўкладальніка тома ад 12.III.1980 г.)

Пры сустрэчы, калі ў 1968 г. Кудрыцкі наведаў Мінск, Мележ падараваў таварышу-земляку раман «Людзі на балоце» з аўтографам:

«На память Кудрицкому Василию про Алексичи, про то время, когда мы были так молоды

Иван Мележ 10.VII.68 г.»

Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (н. 1918), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР , сакратар ЦК КП Беларусі.

Кульбачны В. (н. 1936), салдат тэрміновай службы Савецкай Арміі. (Звесткі з ліста Кульбачнага да пісьменніка ад 3.III.1955.)

Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914-1978), народны паэт Беларусі. Заслужаны работнік культуры УССР. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Куляшоў Фёдар Іванавіч (н. 1913), беларускі і рускі літаратуразнавец і крытык. Доктар філалагічных навук, прафесар.

Сяброўскія, шчырыя адносіны паміж пісьменнікам і літаратуразнаўцам былі даўнімі і моцнымі, аб чым сведчыць не толькі багатая іх перапіска, але і дарчыя надпісы на ўзаемападараваных кнігах:

Дарчыя надпісы. І. Мележ — Ф. Куляшову: «Фёдару Іванавічу Куляшову з пашанай.—

Іван Мележ 16.10.53 г. Мінск»

(Гарачы жнівень, 1948.)

«Федору Иван. Кулешову и Ольге Филипповне от шофера-любителя, автора — на память

Ів. Мележ 21.3.1954 г.»

(Товарищи, 1951.)

«Федору Ивановичу Кулешову с глубоким уважением —

Ів. Мележ 21.3.1954»

(Мінскі напрамак, 1952.)

«Федору Ивановичу и Ольге Филипповне Кулешовым на суд и в знак глубокого уважения

Ів. Мележ 26.8.1954 г.»

(Минское направление, 1954.)

«Сімпатычным Куляшовым:

1. Фёдару Іванавічу,

2. Ользе Філіпаўне,

3. Наташы маленькай — на памяць пра новы, 55 год, ад вялікага (ростам) дзядзькі, аўтара кнігі, і яго памочніцы — Люды,

Ів. Мележ Люда 3/1-55 г.»

(Блізкае і далёкае, 1954.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову — сахалінцу і мінчаніну ад сэрца.

Іван Мележ 21.9.58 г. Мінск»

(У гарах дажджы, 1957.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову з пажаданнем шчасця і поспехаў — на Мінскім напрамку

Іван Мележ 23.7.61 г. Ждановічы, дача»

(Мінскі напрамак, 1958, т. І.)

«Фёдару Іванавічу і Ользе Філіпаўне Куляшовым — з верай у дружбу і — з падзякай за лімоннік, добраму ўплыву якога я абавязан усім вартым, што ёсць у гэтай кнізе.

Іван Мележ 12.5.62 г. Мінск»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Федору Ивановичу (Кулешову) и Ольге Филипповне (Кулешовой) — путешественникам по призванию от путешественника по принуждению, в дни прощания с Минском перед бегством в теплые, морские края, с просьбой — не забывать странника —

автора. Іван Мележ 16.2.63 г.»

(Люди на болоте, 1962.)

«Федору Ивановичу Кулешову —

как всегда І. Мележ
20.5.65 г.»

(Кузьма Черный. Третье поколение: Иван Мележ. Люди на болоте, 1965).

«Фёдару Іванавічу Куляшову — падтрымка і ўвага якога мне вельмі памагала ў працы над гэтай кнігай, з павагай, падзякай і пажаданнем, каб дружба наша жыла не слабеючы далей, многія гады.

Іван Мележ 7.3.66. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову з пачуццём, прызнаюся, віноватасці за тое, што мая скромная асоба заняла столькі ўвагі ў працы Вашай, з пажаданнем удачы і поспеху ўва ўсіх Вашых клопатах!

Іван Мележ
14.3.66 г.»

(Дні нараджэння. Хто прыйшоў уночы, 1959.)

«Федору Ивановичу и Ольге Филипповне Кулешовым с пожеланием приятных свиданий за городом (и в городе).

И. Мележ 27.XI.66 г. Минск»

(Свидание за городом, 1966.)

«Федору Ивановичу Кулешову — с прежними чувствами.

И. Мележ 5.XII.1967 г.»

(Дыхание грозы, 1967.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову —

ад сэрца. Іван Мележ 11.VIII.69 г.»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. I.).

«Фёдару Іванавічу Куляшову, які не чытаў «Сказ пра Лысую гару» (а яшчэ — прафесар!)

І. Мележ I.V.71 г.»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1970, т. 3.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову з моцнай (непахіснай) памяццю пра тое добрае, што было зроблена раней для гэтай кнігі — завяршэнне клопатаў маіх за гады.

Іван Мележ 16.2.75. Мінск»

(Мінскі напрамак, 1974, т. I.)

«Фёдару Іванавічу Куляшову — вопытнаму, мацёраму крытыку (зубру) ад пачаткоўца

Іван Мележ 23.Х.75 г. Мінск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

Ф. Куляшоў — І. Мележу:

«Івану Паўлавічу Мележу, галоўнаму станоўчаму герою гэтай кнігі, з любоўю, пашанай і пажаданнямі яшчэ больш бліскучых поспехаў,

ад аўтара Ф. Куляшоў 24-Х-64 г.»

(Эцюды аб прозе, 1964.)

«Милому Ивану Павловичу Мелел{у — автору белорусских «романов века», одному из главных героев этой маленькой брошюры — с чувством глубокого уважения и пожеланием новых творческих завоеваний.

Ф. Кулешов 26-XII-70 г. Минск»

(Современная белорусская проза, 1970.)

Літ.: Твор аб вызваленні Мінска.— Полымя, 1953, № 5; Патрабавальнасць мастака.— Полымя, 1955, № 5; Лицом в завтра.— Неман, 1962, № 3; События и характеры.— Дружба народов, 1964, № 7; Эцюды аб прозе.— Мн.: Беларусь, 1964, с. 5-20 і с. 146-181; Грозовые дни.— Неман, 1966, № 4; Через алгебру жизни к гармонии слова.— Лит. газета, 1967, 8 сак.; Эпічны талент.— Полымя, 1968, № 7;

Каментарыі да Збору твораў Івана Мележа ў 6-ці тамах.— Мн.: Беларусь, 1969-1971; Певец отчей земли.— Литература в школе, 1972, № 6; Грамадзянскі клопат пісьменніка.— Полымя. 1977, № І. Манаграфіі: Іван Мележ,— Мн.: Беларусь, 1968; Иван Мележ.— М.: Сов. писатель, 1971; Подвиг художника.— Мн.: выд-ва БДУ, 1982.

Курыцын Ігар Іванавіч (н. 1922), інструктар райкома партыі (г. Ленінград). (Звесткі з ліста Курыцына да пісьменніка ад 28.XII.1954.)

Лагуновіч Іван Данілавіч, у той час жыў у Маскве. (Іншых звестак пра адрасата не выяўлена.)

Ламанаў Віталій Міхайлавіч (н. 1942), рускі паэт, журналіст. Перапіска з І. Мележам звязана з падрыхтоўкай да публікацыі інтэрв'ю, што правёў з пісьменнікам В. Ламанаў для час. «В мире книг».

Пры сустрэчы І. Мележ падараваў Ламанаву сваю кнігу з надпісам: «Виталию Михайловичу Ломанову — на память о нашей первой встрече в Минске, сердечно.

Иван Мележ 12.XII.72 г. Минск»
(Люди на болоте. Дыхание грозы, 1972.)

Латарыя Цярэнцій Лукіч (н. 1888), работнік спажыўкааперацыі (г. Тбілісі). (Звесткі з ліста Латарыя да пісьменніка ад 1.III.1955.)

Латышаў Пётр Ермалаевіч (1921-1980), баявы таварыш І. Мележа. Разам ваявалі ў адной батарэі 269-га артпалка з ліпеня 1941 да сярэдзіны лютага 1942 г. (Інфармацыя з ліста Латышава да ўкладальніка тома ад 31.1.1980.)

Лаўрушас Юозас-Лёнгінас Юозавіч (н. 1947), навуковы супрацоўнік Інстытута літоўскай мовы і літаратуры АН ЛітССР. (Інфармацыя з ліста Лаурушаса да ўкладальніка тома ад 30.XII.1981.)

Лаўніцкі Аляксей Міронавіч.— Звесткі пра адрасата не выяўлены.

Лесючэўскі Мікалай Васільевіч (1908-1978), у той час старшыня Праўлення выдавецтва «Советский писатель».

Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929-1977), беларуская паэтэса.

Лукін Юрый Барысавіч (н. 1907), рускі крытык, літаратуразнавец, кінадраматург. У час перапіскі з І. Мележам працаваў кансультантам аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».

Літ.: Рэцэнзія на раман «Мінскі напрамак» для выдавецтва «Сов. писатель» (1953 г.; захоўваецца ў архіве выдавецтва); Минское направление.— Красная звезда, 1955, 7 студз.; Декада белорусского искусства и литературы в Москве.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1955, с. 337.

Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899-1975), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

Літ.; Беларуская савецкая проза за 1947 год.— Літ. і мастацтва, 1948, 28 лют.; Полесская рапсодия.— Известия, 1972, 18 сак.

Лысенка Кірыл Антонавіч (н. 1919), старшыня калгаса «Шлях Ільіча» Белгародскай вобл. Таварыш І. Мележа па службе ў Савецкай Арміі. Разам былі прызваны ў армію ў канцы 1939 г. (г. Арцёмаўск), служылі ў першым дывізіёне, першай батарэі 298-га артылерыйскага палка 192-й стралковай дывізіі. (Інфармацыя з ліста Лысенкі да ўкладальніка тома ад 13.III.1980.)

Ляонаў Барыс Андрэевіч (н. 1935), рускі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук.

Мазалькоў Яўген Сямёнавіч (1909-1969), рускі перакладчык, крытык і літаратуразнавец. З 1948 па 1969 старшыня камісіі, потым Савета па беларускай літаратуры пры праўленні СП СССР. Заслужаны дзеяч культуры БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

З твораў І. Мележа ім перакладзена апавяданне «Дом пад сонцам» для «Дружбы народов» (1955, № 2) і п'еса «Дні нараджэння».

Малюгін Віктар Іванавіч (н. 1922), старшы рэдактар рэдакцыі «Роман-газеты».

Перапіска паміж В, Малюгіным і І. Мележам звязана в выданнем «Подыху навальніцы» ў «Роман-газете».

Дарчы надпіс: І. Мележ — В. Малюгіну: «Виктору Ивановичу Малюгину с пожеланием, чтоб грозы, которые будут собираться над Вашим домом, приносили Вам благодатный дождь и после него синее небо и солнце —

Иван Мележ 2.VII.69 г.»
(Дыхание грозы, 1968.)

Маркаў Георгій Макеевіч (н. 1911), рускі пісьменнік. Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР.

Літ.: Великая правда наших дней.— Литературная газета, 1963, 30 марта.

Мароз (па мужу Зарыхта) Францішка Віктараўна (н. 1955), у той час вучаніца 9-га класа Гудзевіцкай сярэдняй школы Мастоўскага р-на. (Звесткі з ліста Зарыхты да ўкладальніка тома ад 5.III.1980.)

Маскаленка Ядвіга, у той час жыла ў Віцебску. (З ліста Маскаленкі да Мележа — жнівень, 1955.)

Маслієў Якаў Піліпавіч, у той час працаваў на чыгуначнай станцыі (с. Краснае Белгародскай вобл.) З ліста Масліева да Мележа, які датуецца снежнем 1954.)

Матузаў Захар Пятровіч (1911-1977), у той час дырэктар выдавецтва «Беларусь».

Мележ Ларыса Іванаўна (н. 1961), малодшая дачка І. Мележа. Зараз студэнтка мастацка-прамысловага факультэта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

Мележ Людміла Іванаўна (н. 1944), старэйшая дачка І. Мележа. Зараз працуе перакладчыцай у Інстытуце матэматыкі АН БССР.

Дарчыя надпісы:

«Мілай маёй дачцэ Людзе —
Іван Мележ 22.9.56 г. Мінск»
(Минское направление, 1956.)

«Людзе на памяць пра дзень 27 студзеня 1962 года, на шчасце — папа 27.1.62 г.»
(Што ён за чалавек, 1961).

Мінкевіч Міхаіл Гаўрылавіч (н. 1919), дзяржаўны дзеяч БССР. Міністр асветы БССР.

Навуменка Іван Якаўлевіч (н. 1925), беларускі пісьменнік і літаратуразнавец. Акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук, прафесар. Віцэ-прэзідэнт АН БССР. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР.

Дарчыя надпісы. І. Мележ — І. Навуменку: «Івану, які выкапаў нейкаму Ціту копанку і які пасадзіў на дарозе сасну (а не ля дарогі, як памылкова лічаць некаторыя), ад Івана, які ў гэтым манускрыпце спрабуе даказаць, што на Палессі ёсць горы (Юравіцкая), рэкі (Прыпяць) і нават балоты (пра што ўжо кажа сама назва кнігі).

з братнім абдымкам і дружбаю.
Іван з Глінішчаў (Мележ) 22.5.62 г. Мінск»
(Людзі на балоце, 1962.)

«Земляку і доктару Івану Навуменку з нязменнай любоўю і з пажаданнем шчасця ў новай кватэры.

Іван Мележ 3.XII.69 г.»
(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. I.)

І. Навуменка — І, Мележу:

«Дарагому Івану Паўлавічу Мележу ад шчырага сэрца.

І. Навуменка 7.9.58 г.»
(Хлопцы-равеснікі, 1958.)

«Івану Мележу з павагай і любоўю

І. Навуменка 25.12.62 г.»
(Сасна пры дарозе, 1962.)

«Дарагому Івану Паўлавічу Мележу, бацьку палескіх балот ад аднаго з палешукоў

сардэчна І. Навуменка».
(Таполі юнацтва, 1966.)

«Дарагому дэмакрату Івану Мележу

ад аўтара. 2.1.68»
(Пісьменнікі-дэмакраты, 1967.)

«Івану Паўлавічу Мележу — шчыра, з Добрымі пачуццямі

І. Навуменка 10.1.73 г.»
(Тая самая зямля, 1971.)

«Дарагому Івану Паўлавічу Мележу — Эльбрусу нашай літаратуры, з гордасцю ад усведамлення, што з'яўляюся яго земляком і сучаснікам.

І. Навуменка 18.3.75 г.»
(Сорак трэці, 1974.)

Літ.: Мінскі напрамак.— Бальшавік Палесся, 1950, 4 кастр.; Мінскі напрамак.— Чырвоная змена, 1953, 9 ліп.; Минское напра-

вление.— Во славу Родины, 1955, 8 лют; Дыханне истории.— Вопросы литературы, 1965, № 1; От «частностей» к гармонии целого.— Лит. газета, 1964, 22 верас.; Героя сучаснасці — на поўны рост.— Звязда, 1966, 12 мая; Сацыяльная тэма ў сучаснай прозе.— Звязда, 1967, 27 снеж.; На пути творческих свершений.— Веснік БДУ, 1969, № 1; Шчодрасць мастака.— Уступны артыкул да Збору твораў Івана Мележа ў 6-ці тамах.— Мн.: Беларусь, 1969, т. I; Обычность необычного.— Лит. обозрение, 1976, № 6.; З пазіцыі рабочага чалавека.— Беларусь, 1981, № 4; Кніга адкрывае свет.— Мн.: Маст. літ., 1978, с. 152-159.

Насенка Е., у той час жыла ў Вільнюсе. (З ліста Насенкі да І. Мележа ад 8.VIII.1955.)

Нікіціч Пётр Мікітавіч (1907-1968), рускі пісьменнік, перакладчык.

Завочнае знаёмства з І. Мележам адбылося ў 1954 г., калі Нікіціч працаваў загадчыкам аддзела літаратур народаў СССР «Литературной газеты». (Інфармацыя з ліста М. В. Марозавай — жонкі Нікіціча — да ўкладальніка тома ад 31.III.1982.)

Няфёдаў Валерый Васільевіч (н. 1945), дацэнт кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры.

Няяглава Соф'я, у той час жыла ў р/п Вага Горкаўскай вобл. (Звесткі з ліста Няяглавай да пісьменніка ад 29.1.1955.)

Палявік Васіль Аляксеевіч (н. 1905), генерал-маёр. У той час прадаваў начальнікам ваеннага пяхотнага вучылішча ў г. Алма-Ата. (Звесткі з ліста В. Палевіка да пісьменніка ад сакавіка 1955.)

Папоў Сцяпан Яфімавіч (н. 1904), генерал-лейтэнант артылерыі, былы камандзір 3-й гвардзейскай артылерыйскай Віцебскай, Хінганскай Чырванасцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава дывізіі прарыву РВГК. У час перапіскі з І. Мележам быў начальнікам факультэта артылерыйскай Акадэміі імя М. І. Калініна. Аўтар шэрагу кніг пра гераічнае мінулае артылерыстаў. (Інфармацыя з ліста Папова да ўкладальніка тома ад 1.III.1981, а таксама з яго лістоў да Мележа.)

У вышэй названым лісце да ўкладальніка тома Папоў успамінае пра знаёмства і сустрэчу з Мележам наступнае: «Работая над военно-историческим очерком о боевом пути 3-й гв. артиллерийской дивизии

прорыва РВГК, в списках личного состава 70-го гвардейского артиллерийского Кенигсбергского пушечного полка я встретил фамилию лейтенанта: Мележ — заместитель политрука — военкор. Меня заинтересовала фамилия Мележа. Вскоре нашел Ивана Павловича, написал письмо, на которое Мележ с теплотой сердца ответил... В начале мая 1965 г. я проводил в г. п. Лиозно встречу ветеранов дивизии, посвященную 20-летию Победы советского народа над фашистской Германией, на которую по нашему приглашению прибыл и И. П, Мележ. Это была наша первая встреча: передо мной стоял человек выше среднего роста ладно скроенный. Он был одет в черный костюм. Скромный, если не сказать застенчивый, старался быть незамеченным, стоял в стороне... Последующие наши встречи проходили уже в Москве и носили дружественный и разносторонний характер».

Дарчыя надпісы. І. Мележ — С. Папову:

«Генералу С. Е. Попову от одного из бывших артиллеристов 70-го гвардейского артполка на добрую память.

Иван Мележ».

(В горах дожди, 1966.)

«Генерал-лейтенанту Попову Степану Ефимовичу командиру 3-й гвардейской артдивизии прорыва РВГК, родной дивизии, освобождавшей землю Белоруссии, с большим уважением и любовью

И. Мележ (70 гв. артполк) 6.1.74 г. Минск»

(Минское направление, 1973.)

Паўлаў Яфім Іванавіч (н. 1909), пенсіянер, у мінулым работнік МУС. Падрыхтаваў зборнік «Крым у замежнай мастацкай літаратуры». (Інфармацыя з ліста Паўлава да ўкладальніка тома ад 10.III. 1980.) У сувязі з працай над тэмай «Крым у творчасці пісьменнікаў СССР» Паўлаў звярнуўся да І. Мележа з лістом ад 13.1.1963, у якім паставіў перад пісьменнікам шэраг пытанняў: «Где и когда Вы были в Крыму? Над какими произведениями работали и что написали во время пребывания? Если встречались с общественностью, то где и когда?»

Піўтарак Рыгор Пятровіч (н. 1935), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя А. А. Патэбні АН УССР. У час знаёмства з І. Мележам, будучы аспірантам вышэй названага інстытута, стажыраваўся ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. 14 лютага 1963 г. ён прыняў удзел у чытацкай канферэнцыі, што адбылася ў Палацы культуры прафсаюзаў па кнізе І. Мележа «Людзі на балоце». Пісьменнік быў удзячны Р. Піўтараку за

выступленне на канферэнцыі і падараваў яму кнігу «Што ён за чалавек» з аўтографам: «Рыгору Пятровічу Піўтараку — на памяць пра першую сустрэчу ў Палацы прафсаюзаў, з добрым пажаданнем дружбы —

Іван Мележ 14.2.63 г.
Мінск »

У чэрвені 1963 г. І. Мележ запрасіў яго на чытацкую канферэнцыю ў г. Маладзечна, пасля чаго прапанаваў заехаць разам у Ждановічы на дачу. (Гл. каментарыі да ліста Піўтараку ад 5.Х.1963.)

Пятрова Клаўдзія Іванаўна (1897-1983), цешча І. Мележа.

«Клаўдзія Іванаўна Пятрова, руская жанчына, у маладосці выхавацельніца дзіцячага сада, заслужыла самыя высокія словы любові і ўдзячнасці, тыя словы, якія мы гаворым пра нашых матак. Іван Паўлавіч неаднойчы казаў мне:

— У тым, што я не толькі жыву, але і працую, большая заслуга Клаўдзіі Іванаўны, чым дактароў». (Іван Шамякін. Палёт над Палессем.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа, с. 376.)

Дарчыя надпісы:

«Клавдии Ивановне Петровой на память

Иван 29/XI-51 г.»
(Товарищи, 1951.)

«Помощнику нашему в жизни Клавдии Ивановне Петровой на добрую память

Иван 10/IX-54 г.»
(Минское направление, 1954.)

Пятрова Лідзія Якаўлеўна (н. 1923), жонка І. Мележа. Скончыла геаграфічны факультэт БДУ, працавала ў лабараторыі фізічнай геаграфіі, затым асістэнтам кафедры фізічнай геаграфіі. Дома, а таксама ў лістах родныя і блізкія называлі яе Ліляй.

З успамінаў Алены Васілевіч: «З яго ясонкай Лідай — дзяўчынай выключнага хараства — я была знаёма добра. Яна часта забягала ў наш пакой на Нямізе, да сваіх аднакурсніц-геаграфічак. Яны былі вельмі прыгожай парай з Мележам». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 72.)

Эпісталярная спадчына І. Мележа да жонкі была багатай, але захавалася не ўся. Першыя лісты Мележа да яе напісаны ў 1943 г. і адрасаваны ў Бугуруслан, дзе тады жыла Лідзія Якаўлеўна і дзе яны пазнаёміліся. У асноўным лісты да жонкі напісаны Мележам у сувязі з паездкамі яго на поўдзень (санаторыі, дамы адпачынку і іншыя

месцы лячэння і адпачынку — Кіславодск, Трускавец, Пушкіна і г. д.), а таксама ў турыстычныя паездкі і камандзіроўкі за мяжу (Чэхаславакія, Польшча, Германія, Румынія, вакол Еўропы і г. д.). Некалькі лістоў напісаны Мележам з Мінска, калі Лідзія Якаўлеўна знаходзілася на студэнцкай выязной практыцы. Дарчыя надпісы:

«Падружцы дзён маіх суровых, старушцы маёй Лідзіі Якаўлеўне

з любоўю — Іван (Рыжы). Далучы гэты том да першага і спадзявайся, што ён будзе не апошні, што ў наступным прысвячэнні я напішу тое, аб чым не змог напісаць тут.

Ів. Мележ 15.2.48 г. Мінск»

(Гарачы жнівень, 1948.)

«Маёй Лілі — крытыку, памочніку, другу, які першым чытаў гэтае тварэнне (у неразборлівых каракулях і памарках), які ругаў аўтара за бяссонныя ночы і рассеянасць, з пакаяннем смірэнным і любоўю —

твой Іван 26/XII-50 г. Мінск»

(Мінскі напрамак, 1950.)

«Лиле — жене, другу —

влюбленный автор Ів. Мележ 27/1-53 г.»

(Мінскі напрамак, 1952.)

«Моему милому шоферу-любителю, Лиле моей, которая 5,5 часов везла три пачки этой книги из Москвы —

благодарный автор Іван М. 19.8.54 г.»

(Минское направление, 1954.)

«Маме Лілі Мележаўскай на Новы год пад елачку ад зайчыкаў

Іван Мележ і Люда 29/XII-54 г.

У Мінску на 4 паверсе ў кабінеце з балконам». (Блізкае і далёкае, 1954.)

«Лиле, которая почему-то называется Петровой, а должна была бы по закону именоваться, как и я,— Мележ

от меня, Мележа, на память, в старый костер нашей любви.

И. Мележ 5.4.56 г. Минск»

(Минское направление, 1956.)

«Лідзе Пятровай у дні, калі ў Мінску былі таксама дажджы, і было холадна, і падала жоўтае лісце, і мы ездзілі на дачу, дзе стаялі голыя сцены —

Іван 12.9.57 г. К. Маркса, 52, кв. 22»

(У гарах дажджы, 1957.)

«Лілі. Няхай заўсёды над тваім домам будзе сонца!

Іван М, 28.9.57 г.»

(Дом под солнцем, 1957).

«Жене — от мужа (который был тоже молодым)

И. М. 23.1.59 г.»

(Пока вы молоды, 1958.)

«Маме і мамінай Ларысе ад папы

Іван М. Ждановічы, 19.7.61 г.»

(Што ён за чалавек, 1961.)

«Лідзе маёй —
Іван

(лаўрэат) 3.1.63 Мінск» (Люди на болоте, 1962.)

«Дзяўчатам маім з гасцініцы «Украіна» (Лілі, Людзе і Лары) — з любоўю і сімпатыяй — аўтар.

Ён жа — Іван Мележ 9.4.63 г. Ялта. Дом творчасці» (Люди на болоте.— Роман-газета, 1963, № 5.)

Літ.: Зварот у нашу маладосць.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Пятроў Юрый Аляксандравіч (н. 1937), настаўнік геаграфіі ОШ № 80, г. Масквы, арганізатар і кіраўнік клуба аматараў архіўнай дакументацыі, які працуе на базе школьнага музея «У імя Радзімы». Члены клуба займаюцца пошукамі новых матэрыялаў, дакументаў пра 3-ю гвардзейскую артылерыйскую Віцебскую, Хінганскую Чырванасцяжную, ордэнаў Суворава і Кутузава дывізію прарыву РВГК.

Пятроўскі Аляксандр Іванавіч (н. 1932), украінскі перакладчык.

Ім перакладзены на ўкраінскую мову раманы І. Мележа «Людзі на балоце» (1963), «Мінскі напрамак» (1966), «Подых навальніцы» (1969), «Мінскі напрамак» (новая рэдакцыя, 1978); апавяданне «У завіруху» для зб. «За рідну землю» (1970) і «У гарах дажджы» для зб. «Білоруське радянське оповідання» (1979). Дарчыя надпісы. І. Мележ — А. Пятроўскаму: «Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму — на памяць аб нашым першым — тэлефонным — спатканні, з верай у будучыя сустрэчы ў Мінску і ў Кіеве

Іван Мележ 15.5. 62 г.»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму, з дапамогай якога людзі з балота ўбачаць украінскія стэпы і белыя мазанкі, Дняпро і Буг,—

з падзякай ад душы Іван Мележ 29.4.63 г. Мінск»

(Мінскі напрамак, 1958, т. I.)

«Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму — на памяць пра першую мінскую сустрэчу — ад сэрца —

Іван Мележ 29. 4. 63 г. Мінск»

(Што ён за чалавек, 1961.)

«Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму як доказ таго, што я яшчэ ў балоце, і як знак павагі

Іван Мележ 3.3.66 г. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.)

«О. Петровському з Кіева — ад І. Мележа з Мінска. Калі будзе «Подих грози»?!

Іван Мележ 9.VIII.69

Мінск»

(Зб. тв. у 6-ці т., 1969, т. I.)

«Олександру Івановичу Петровськоілу з любов'ю і з пабажанням успіхів не тільки на киіеських, але і на мінському напрамку.

Сердечно Іван Мележ 6.1.74 г. Мінск»

(Минское направление, 1973.)

«Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму — з якім мы не адну кнігу рабілі разам, з падзякай за зробленае і з пажаданнем поспехаў таму, што робіцца.

І. Мележ 16.2.75 Мінск»

(Мінскі напрамак, 1974, т. I.).

«Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму з радасцю ад тых сустрэч, якія былі раней, і з надзеяй на тыя, што наперадзе.

Іван Мележ 16.2.75 Мінск»

(Мінскі напрамак, 1974, т. 2.)

«Глыбокапаважанаму і вучонаму Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму — мае мінскія клопаты за 25 гадоў (частковыя).

З давер'ем і дружбаю — Іван Мележ 10.1.76 г. Мінск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

Рамановіч Яўген Сцяпанавіч (1905-1979), беларускі пісьменнік, акцёр, тэатразнавец. Заслужаны артыст БССР.

Літ.: Спектакль пра неспакойную маладосць.— Літ. і мастацтва, 1957, 8 нэрв.; Беларуская драматургія крочыць наперад. Літ. і мастацтва, 1958, 16 жн.

Дарчы надпіс: Я. Рамановіч — І. Мележу: «Дарагому Івану Паўлавічу з пашанай

Яўген Рамановіч 1958 г. Мінск»

(Галіна Званцова.— Мн.: ДВБ, 1958.)

Рапапорт Беня Бенуіянавіч (н. 1917), урач-кансультант чыгуначнай бальніцы г. Горкага...

Пазнаёміліся з Мележам у 1935 г. Разам вучыліся ў СШ № 1 (г. Хойнікі). (З лістоў Рапапорта да ўкладальніка тома ад 17.XII.1980 і ад 23.1.1981.)

Рогава Аіда Паўлаўна (н. 1925), рэдактар Ваеннага выдавецтва Міністэрства абароны СССР. Рэдагавала раман І. Мележа «Мінскі напрамак» (1976),

Сажнеў Мікалай Паўлавіч (н. 1932), у той час служыў на Ціхаакіянскім флоце. (Звесткі з ліста Сажнева да пісьменніка ад 28.XII.1954.)

Сакалова Аляксандра Арсеньеўна (н. 1910), рускі тэатральны крытык, драматург. (Гл. таксама каментарыі да ліста І. Мележа Сакаловай ад 23.XI.1968.)

Літ.: Современная пьеса — основа репертуара.— Правда, 1958, 17 жн.; Нехоженым полем жизни,— Индустриальная Караганда, 1972, 2 жн.

Сартакоў Сяргей Венядзіктавіч (н. 1908), рускі пісьменнік, сакратар праўлення СП СССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

З успамінаў С. Сартакова (ліст на імя дырэктара ІЛ ад 7.XII.1980): «С Иваном Павловичем Мележем я познакомился на Третьем съезде писателей СССР в 1959 году, а затем очень часто встречался на общесоюзных Пленумах правления Союза писателей СССР, различного рода совехцаниях и конференциях и, естественно, на всех последующих съездах писателей СССР.

В каждый мой приезд в Минск (а это было раз пять) мы обязательно с ним общались и лично, и, хотя бы, в виде разговоров по телефону.

А теснее всего мы сдружились с ним в ялтинском Доме творчества, куда неоднократно и на долгое время приезжали оба работать. Сидели всегда в столовой за одним столом, бродили по дорожкам парка и по набережной, вечерквм заходили в комнаты друг к другу посидеть, побеседовать. Иван Павлович иногда читал вслух только что написанные страницы». Дарчыя надпісы. І. Мележ — С. Сартакову:

«Дорогому Сергею Венедиктовичу Сартакову на память о встречах в Ялте и в Минске,

с уважением и любовью Іван Мележ 7.IX.61 г. Минск»

(Минское направление, 1961.)

С. Сартакоў — І. Мележу:

«Дорогому Ивану Павловичу Мележу, с самыми теплыми воспоминаниями о Ялте и о Минске — родной земле моей матери — желаю больших творческих успехов.

Дружески С. Сартаков 12/VIII-1961 г. Минск»

(Горный ветер, 1957.)

Літ.: Памяти Мележа.— Лит. газета, 1976, 18 жн.; Працяг размовы.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Селіванаў Вечаслаў, у той час жыў у г. Ленінградзе. (Іншых звестак пра адрасата не выяўлена.)

Сенін Якаў Васільевіч (н. 1937), у той час працаваў у тапаграфічным атрадзе (Ленінградская вобл.). (Звесткі з ліста Сеніна да пісьменніка ад 31.XII.1954.)

Сіманаў Канстанцін (Кірыла) Міхайлавіч (1915—1979), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўных прэмій СССР. Герой Сацыялістычнай Працы.

Скрыган Янка (Іван Аляксеевіч; н. 1905), беларускі пісьменнік. У час перапіскі з І. Мележам працаваў намеснікам галоўнага рэдактара час. «Полымя».

Дарчыя надпісы. І. Мележ — Я. Скрыгану:

«Івану Аляксеевічу і Анне Міхайлаўне — глыбокапаважаным суседзям Скрыганам

ад сэрца Іван Мележ 23.VII.58 г.»

(Мінскі напрамак, 1958.)

«Дарагому Янку Скрыгану — чалавеку добрага, прыгожага сэрца — З пашанай і любоўю — Іван Мележ 21.7.61 г. Мінск »

(Што ён за чалавек, 1961.)

«Янку Скрыгану...

Добрую ты дарогу мне першы напрарочыў, прароцтва тваё збылося, аж дзіва!

Жадаю табе шчасця і ў творчасці, і ў сям'і — поплеч з тваёй Ганнай (Міхайлаўнай)!

Іван М. 12.5.62 г. Мінск»

(Людзі на балоце, 1962.)

«Янку Скрыгану, з падзякай ад мяне і ад маёй Ганны, якая любіць цябе, як і я, з першага знаёмства.

Іван Мележ 5.3.66 г. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.)

Я. Скрыган — І. Мележу: «Дарагому Івану Мележу Любячы вельмі. Апроч усяго — у знак захаплення тым чарадзействам, якое зрабіў ты з людзьмі на сваіх палескіх балотах. 28.III.64 г.

Янка Скрыган»

(Свая аповесць, 1964.)

«Майму любаму Івану Мележу — за ўсё, што я ў ім люблю.

Янка Скрыган 8.V.65 г.»

(Ранішнія росы, 1965.)

«Івану Мележу як заўсёды — з любоўю

Янка Скрыган Верасень, 75»

(Кругі, 1975).

Літ.: Мой сусед Іван Мележ,— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Смаленскі Яфім Ліпавіч (н. 1920), вядучы канструктар на Кіеўскім заводзе. Школьны таварыш Мележа. Пазнаёміліся блізка ў 1932 г. у піянерскім лагеры (в. Барысавічы Хойніцкага р-на). (З асабістай інфармацыі адрасата.)

Дарчы надпіс: І. Мележ — Я. Смаленскаму: «Школьному товарищу, другу далекой юности — Ефиму Смоленскому на память о Хойниках, о школе, о днях, которые уже далеко.

Иван Мележ 17.11.69 г. Минск»

(Дыхание грозы, 1967).

Смірноў Алег Паўлавіч (н. 1922), рускі пісьменнік.

Смірноў Сяргей Сяргеевіч (1915-1976), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі.

Дарчыя надпісы: С. Смірноў — І. Мележу: «Дорогому Ивану Павловичу с лучшими дружескими чувствами

от автора 20.11.56)1

(Крепость над Бугом, 1956.)

«Глубокоуважаемому Ивану Павловичу Мележу от души с лучшими дружескими чувствами

от автора 28.4.57»

(Сталинград на Днепре, 1954.)

«Дорогому Ивану Павловичу Мележу с неизменной дружбой и любовью.

С. Смирнов 12.8.61 г.»

(На войне, 1961.)

«Дорогому Ивану Павловичу Мележу с неизменной дружеской симпатией и самыми лучшими пожеланиями.

С. Смирнов 26.2.62»

(Поездка на Кубу, 1962.)

«Дорогому Ивану Мележу, которого я очень люблю

С. Смирнов 27.3.63»

(Рассказы о неизвестных героях, 1963.)

Літ.: Минское направление.— Военный вестник, 1955, № 10.

Смыкоўская Валянціна Іванаўна (н. 1940), у той час аспірантка-завочніца Інстытута літаратуры АН БССР; в. а. загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, зараз — выкладчыца.

Дарчыя надпісы: І. Мележ — В. Смыкоўскай: «Валянціне Смыкоўскай — будучаму кандыдату (а потым і доктару) навук ад пісьменніка проста

Іван Мележ 18.IV.70 г.

Мінск»

(Людзі на балоце, 1968.)

«Валянціне Іванаўне Смыкоўскай разам з прывітаннем роднай зямлі —

Іван Мележ 11.I.1976 г. Мінск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

«Валянціне Іванаўне Смыкоўскай з пажаданнем удач на ўсіх напрамках

Іван Мележ 2.2.1976»

(Мінскі напрамак, 1974.)

Літ.: Часоў узвышаная сувязь.— Гомельская праўда, 1970, 11 крас.; Лёс мастака — лёс народа.— Гомельская праўда, 1971, 6 лют.; Творческий путь И. Мележа.— Гомель, 1971; Зб.: Беларуская літаратура і літаратуразнаўства.— Мн.: Выд-ва БДУ (1973, с. 46-59; 1974, с. 102-116; 1975, с. 15-27; 1976, с. 3-14; 1977, с. 68-77; 1978, с. 67-76); Роман о жизни народной.— Неман, 1974, № 12; Цэласнае вывучэнне «Палескай хронікі» І. Мележа.— Нар. асвета, 1976, № 5; Падзей узвышаная сувязь.— Літ. і мастацтва, 1976, 23 ліп.; Творчая канцэпцыя пісьменніка.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1976.

Соін Мікалай Мікалаевіч, жыхар Масквы, у часы вайны служыў у дзеючай арміі 3-га Беларускага фронту. (Звесткі з ліста Соіна да пісьменніка ад 3.II.1955.)

Статкевіч Анатоль Міхайлавіч (н. 1927), настаўнік беларускай мовы і літаратуры ў Глускім раёне Магілёўскай вобл. (Інфармацыя з ліста Статкевіча да ўкладальніка тома ад 9.II.1981.)

Суворын Міхаіл Кузьміч (н. 1933), фельчар Гранаўскай бальніцы (Вінніцкая вобл.). (Інфармацыя з ліста Суворына да ўкладальніка тома ад 12.III.1980.)

Сурганаў Усевалад Аляксеевіч (н. 1927), рускі крытык, літаратуразнавец.

Літ.: Гроза на болоте.— Лит. газета, 1972, 15 сак.

Сушчанка Леанід Акімавіч (н. 1925), загадчык навучальнай часткі Дварышчанскай СШ Хойніцкага раёна Гомельскай вобл. Выдатнік народнай асветы БССР. (Інфармацыя з ліста Сушчанкі да ўкладальніка тома ад 28.X.1980.)

Знаёмы з Іванам Паўлавічам з даваенных гадоў, калі Мележ жыў некаторы час у сваякоў у Людзвіне ў час вучобы ў 8-10 класах Хойніцкай СШ № I.

Дарчы надпіс: І. Мележ — Л. Сушчанку:

«Леаніду Сушчанку — на памяць пра маладыя гады нашы, пра даваенны Людзвін, на памяць пра нашу новую — праз дваццаць з гакам гадоў — сустрэчу — Іван Мележ

7.8.62 года Дворышча»

(Гарачы жнівень, 1948).

Літ.: Незабыўнае.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Талкуноў Леў Мікалаевіч (н. 1919), у той час галоўны рэдактар «Известий». Зараз працуе ў АПН.

Танк Максім (Скурко Яўген Іванавіч; н. 1912), беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. Старшыня праўлення СП БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі. Дзяржаўных прэмій СССР і БССР. Герой Сацыялістычнай Працы. Дарчыя надпісы І. Мележ — Максіму Танку: «Дарагому Максіму Танку —

ад сэрца Іван Мележ 29.1.53 г.»

(Мінскі напрамак, 1952.)

«Максіму Танку, Паэту, Чалавеку —

з любоўю Іван Мележ 3.4.66 г. Мінск»

(Подых навальніцы, 1966.)

Максім Танк — І. Мележу:

«На добры ўспамін дарагому другу

Максім Танк

(Каб ведалі, 1948.) Мінск, 6/X.1948 г.»

«Дарагому Івану Паўлавічу Мележу ад усяго сэрца.

Мінск, 1.II.70 г.»

(Лісткі календара, 1970.)

«Дарагому другу Івану Паўлавічу Мележу з любоўю і найлепшымі навагоднімі пажаданнямі

Максім Танк Мінск, 31/XII.1972 г.»

(Хай будзе святло, 1972.)

Трафімаў Іван Мікалаевіч (н. 1924), у той час працаваў шахцёрам (г. Караганда). (Звесткі з ліста Трафімава да Мележа ад 25.X.1954.)

Увараў Фёдар Захаравіч (н. 1897),. аграном. Зараз пенсіянер (г. Куйбышаў). (Інфармацыя з ліста Уварава да ўкладальніка тома ад 6.II.1980.)

Улашчык Мікалай Мікалаевіч (н. 1906), беларускі гісторык і археограф. Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі СССР АН СССР. Доктар гістарычных навук.

Хуан Іван, выкладчык рускай мовы ў г. Нанкін (Кітай). (Звесткі з ліста Хуана Івана да Мележа ад 16.V. 1960.)

Худзенка Мікалай Мікалаевіч (н. 1961), курсант Васількоўскага ваеннага авіяцыйна-тэхнічнага вучылішча імя 50-годдзя камсамола Украіны. У час перапіскі з Мележам вучыўся ў 7-м класе (в. Конакаўшчына Брагінскага р-на). (Інфармацыя з ліста Худзенкі да ўкладальніка тома ад 23.III.1981.)

Хусаінаў Юрый Мініваліч (н. 1929), партыйны дзеяч БССР, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР. У той час — старшыня Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных.

Цыглін Аляксандр (н. 1940), у той час вучань 7-га класа школы імя Ф. Э. Дзяржынскага (г. Ерэван). (Звесткі з ліста Цygліна да Мележа ад 11.IX. 1954.)

Чарняцэвіч Казімір Адольфавіч (н. 1927), начальнік змены цэха электразабеспячэння Нявіннамыскага аб'яднання «Азот» (Стаўрапольскі край). (Інфармацыя з ліста Чарняцэвіча да ўкладальніка тома ад 14.XI.1980.)

Дарчыя надпісы: І. Мележ — К. Чарняцэвічу: «Казимиру Чернятевичу с приветом в Невинномысск. От автора. Иван Мележ

18.XII.72 г. Минск» «Казимиру Чернятевичу с пожеланиями счастья.

Иван Мележ 18.XII.72 г. Минск»

(Дыхание грозы,— Роман-газета, 1969, № 9.) 396

(Першы надпіс зроблены на вокладцы, другі — на першай старонцы рамана.)

Літ.: Герон полюбились.— Невинномыеский рабочий, 1972, 21 лістап.; Тут любяць кнігі Івана Мележа.— Літ. і мастацтва, 1972, I снеж.

Часнакова Аляксандра Іванаўна (н. 1908), старшы рэдактар выд-ва «Сов. писатель». Рэдагавала ўсе кнігі І. Мележа, пачынаючы са зб. апавяданняў «Товарищи» (1951) і да апошняй, што выходзілі ў гэтым выд-ве.

Шадрина Галса (н. 1941), вучаніца 7-га класа Чыбіцкай сямігадовай школы (Алтайскі край). (Звесткі з ліста Шадрынай да пісьменніка — снежань, 1954.)

Шакінка Міхаіл Іванавіч (н. 1904), лектар-міжнароднік (г. Свярдлоўск.) (Інфармацыя з ліста Шакінкі да ўкладальніка тома ад 17.XI.1980.)

Шпітальнік Уладзімір Маркавіч (н. 1918), упаўнаважаны Беларускага ўпраўлення «Вторцветмета».

Шупенька Генадзь Серафімавіч (н. 1936), беларускі крытык, загадчык рэдакцыі выд-ва «Мастацкая літаратура». У час перапіскі з Мележам быў аспірантам пры кафедры беларускай літаратуры БДУ, затым — старшым навуковым супрацоўнікам навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. Дарчыя надпісы: І. Мележ — Г. Шупеньку: «Генадзю Шупеньку — крытыку-прафесіяналу ад крытыка-саматужніка

Іван Мележ 22.10.75 г. Мінск»

(Жыццёвыя клопаты, 1975.)

«Генадзю Шупеньку з пажаданнем шчасця ва ўсіх галінах жыцця
І. Мележ 22.10.75»
(На фотаздымку.)

Літ.: Творчасць Івана Мележа ў крытыцы.— Полымя, 1969, №3; Майстэрства Мележа-раманіста.— Народная асвета, 1969, №3; Яшчэ раз пра «Палескую хроніку».— Літ. і мастацтва, 1970, 26 чэрв.; Народ у гісторыі.— Літ. і мастацтва, 1972, 17 сак.; Не только о литературе...— Неман, 1976, № 9; у кн.: Цеплыня чалавечнасці.— Мн.: Маст. літ., 1977, с.4-33, 246-2-54; артыкул у БелСЭ; Мужны і чалавечны.— У зб.: Успаміны пра Івана Мележа.

Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч (н. 1916), беларускі пісьменнік, крытык і літаратуразнавец. Заслужаны работнік культуры БССР. Дарчыя надпісы. І. Мележ — У. Юрэвічу:

«Уладзіміру Міхайлавічу Юрэвічу ад душы —
Іван Мележ 25.10.57 г. Мінск»
(У гарах дажджы, 1957.)

«Уладзіміру Юрэвічу ад сэрца — Іван Мележ
18.9.63 г.»
(Што ён за чалавек, 1961.)

«Змагару за шматгалоссе Уладзіміру Юрэвічу з пажаданнем поспехаў —
Іван Мележ 20.3.66 г. Мінск»
(Подых навальніцы, 1966.)

«Уладзіміру Юрэвічу — на суд, справядлівы і шчыры,
ад сэрца Іван Мележ 7. VIII.74 г.»
(Мінскі напрамак, 1974, т. І).

«Уладзіміру Юрэвічу
ад сэрца Іван Мележ 23.10.75 г. Мінск»

У. Юрэвіч — І. Мележу:

«Дарагому Івану Паўлавічу шчыра ўдзячны за той падмурак, што памог выснаваць гэтыя абрысы.
Аўтар Красавік, 1976 г.
(Абрысы, 1976).

«Дарагому Івану Паўлавічу — чалавеку высокіх прынцыпаў і мастаку вялікай праўды!
Жнівень, 1974 Ул. Юрэвіч»
(Погляд, 1974.)

Літ.: Жывапіс словам.— Полымя, 1963, № 10; Шматгалоссе жыцця.— Маладосць, 1964, № 1; У творчай трывозе.— Літ. і мастацтва, 1964, 5 чэрв.; Утверждая величие народа.— Сельская -газета,

1971, 7 лют.; у кн.: Шматгалоссе жыцця.— Мн.: Беларусь, 1965, с, 3-46; Высокое призвание.— Сельская газета, 1972, 30 крас.; З думкаю пра жыццё, пра літаратуру.— Звязда, 1976, 22 лют.; у кн.: Абрысы.— Міг. Маст. літ., 1976, с. 12-94; у кн.: Испытания зрелостью.— М.: Сов. писатель, 1981, с. 32-119.

Языковіч Валянцін Фёдаравіч (н. 1926), у той час працаваў першым сакратаром Гомельскага абкома партыі.

Якавенка Пётр Міхайлавіч (н. 1915), настаўнік беларускай мовы і літаратуры СШ № 4 г. Баранавічы. Выдатнік народнай асветы БССР. Зараз пенсіянер. (Інфармацыя з ліста Якавенкі П. М. ад 13.XI.1980 да ўкладальніка тома.)

Янчук Надзея (н. 1941). вучаніца 8-га класа (в. Янкавічы Брэсцкай вобл.). (Звесткі з ліста Янчук да пісьменніка ад 16.11.1955.)

## ПАКАЗАЛЬНІК ТВОРАЎ І ТВОРЧЫХ ЗАДУМ

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

Гудайдіс
Гузявічус А.
Гура В. В
Дабратворскі М. П.
Дакука
Даніленка М. П
Даніленка Н. М.
Дастаеўская А.
Дзюбайла П. К.
Дзядоў
Драздова Л. С.
Драпал М.
Друзін В. П.
Дубінкін
Ерась А. П
Жабін А. М
Жумабаеў
Жыдліцкі В
Закруткін В. А.
Залатухіна Т. Ф.
Іваноў Г. І
Ікрамаў
Йыгі О. А.
Йыгі Ц. О
Кабзарэўскі П. С
Каваленка В.
Каваленка В. А.
Кавалеўская П. І. Кавалёва А. П.
Кавалёў Д. М
Кавалёў М. А.
Кавалёў П. Н
Казачэнка В. П
Казачэнка І. С
Казлова В. В
Калачынскі М. І.
Калюга Лукаш
Карабутэнка І. Ф.
Караткевіч У. С.
Карніцкая С.
Карпава В. М
Касалапаў В. А.

Катлярчук У. П.
Качурын П. І
Кашчук Н. Е
Кашчэеў М. В.
Квасніца
Кір'янаў С. Л
Кісялёў Р. Я
Козін У
Колас Якуб
Колеў С
Колэ Луіза
Корбан У. І
Коўпак С. А
Крапіва К. К
Краснашчокаў А. С.
Краўцоў
Краўцоў В. П
Краўчанка У. І.
Крахмальнікава З. А.
Крылоў Г. М
Кудравец А. П
Кудрыцкі В. І
Кузняцова А. А.
Кузьмін А. Т.
Кулакоўскі А. М
Куляшова Н. Ф
Куляшова В. П.
Куляшоў А. А
Куляшоў Ф. І
Кульбачны В.
Купрыяновіч О. Т
Курыцын І. І.
Кучар Алесь
Лагуновіч І. Д.
Ламанаў В. М
Ларчанка М. Р.
Латарыя Ц. Л.
Латышаў П. Е
Лаўрушас Ю.
Лаўніцкі А. М
Левін

Палявік В. А.
Палявой Б. М.
Панамароў
Панчанка П. Е
Папова А. П.
Папоў С. Я
Паслядовіч М. Т.
Паўлаў У. А
Паўлаў Я. І
Паўленка П. А.
Пестрак П. С.
Піменаў У. Ф.
Піўтарак Р. П
Прастоў Е. А.
Пташнікаў І. М
Пшыркоў Ю. С.
Пятрова К. І
Пятрова Л. Я
Пятроў Ю. А
Пятроўская Г. І
Пятроўская Я. У.
Пятроўскі А. І
Рабаў В. С
Рабчук
Ракоўскі Л. І.
Раманаў
Рамановіч Я. С
Рапапорт Б. Б
Распуцін Р. Я
Рогава А. П.
Ром М. І
Рузвельт Ф.
Савіцкі А. А.
Сажнеў М. П.
Сакалова А. А.
Салахян А. Н
Сартакова С. С
Сартакоў С. В.
Сахно
Сачанка Б. І
Селіванаў В.

Сенін Я. В.
Сёмкін
Сёмушкін Ц. З
Сіманаў К. М
Скрыган Г. І.
Скрыган Г. М
Скрыган І. А
Смаленскі Я. Л.
Смілянскі Л. І.
Смірноў А. П.
Смірноў С. С.
Смоквін
Смыкоўская В. І.
Соін М. М.
Сотнікаў
Статкевіч А. М.
Стаховіч А. І.
Стральцоў М. Л
Суворын М. К.
Сурганаў У. А
Сушчанка Л. А
Талкуноў Л. М.
Талстой Л. М.
Танк Максім
Тапаркова В. М.
Трафімаў І. М.
Увараў Ф. З
Улашчык М. М.
Улашчык Н. М
Ушакоў Ф. Ф.
Фадзееў А. А
Фамін
Федзін К. А
Філіпаў Г. П.
Флабэр Гюстаў
Фрыдманы
Фрэйман
Ханюцін Ю
Хмяльніцкі Багдан
Хуан Іван
Худзенка М. М.

Хусаінаў Ю. М
Ціханаў М. С.
Ціхмянаў Л. П.
Цыглін А.
Чарняхоўскі І. Д.
Чарняцэвіч К. А.
Часнакова А. І
Часнакова А. У.
Часнакоў У. А
Чорны Кузьма
Чугуноў
Чыгрынаў І. Г.
Чыжова В.
Чэхаў А. П.
Шадрына Р.
Шакінка М. І
Шамота М. З.
Шамякін І. П.
Шапіра Л. Я
Шкраба Р. В.
Шпітальнік У. М
Шупенька Г. С
Шэкспір В.
Эмін Г.
Юрэвіч У. М
Юрэвіч Л. С.
Языковіч В. Ф
Якавенка П. М
Янчук Н
Ярош М

**1921**[17]

Люты, 8

У вёсцы Глінішча б. Юравіцкай воласці Рэчыцкага павета Гомельскай губерні (зараз Алексіцкага сельсавета Хойніцкага р-на) у селяніна Паўла Фёдаравіча Мележа і Марыі Дзянісаўны Мележ нарадзіўся сын Іван. (Асабістая справа, 1952)[18]

«Радзіма мая — вёска Глінішчы — прыляпілася двума радамі хат на самым беразе не шырокай, але доўгай паласы трывалай зямлі, што цягнецца між бяскрайніх балот ад Хойнік да Юравіч, вялікага сяла каля Прыляці. Глінішчы — цераз кіламетр ад шляху». (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты.— Мн.: Маст. літ., 1975, с. 160.)

«Бацька пісьменніка меў мала зямлі і з маладых гадоў займаўся розным рамяством: рабіў гонты, дзежкі, цабэркі, наймаўся ўстаўляць вокны і дзверы ў новыя хаты». У 1929 годзе ўступіў у калгас «Ленінскі шлях». (Успаміны пра Івана Мележа.— Мн.: Маст. літ., 1982, с. 245-246; Аўтабіяграфія, 1952.)

«Маці родам з суседняй вёскі Каранёўка. Паходзіла яна таксама з беднай сялянскай сям'і. Была працавітая, гаспадарлівая, любіла спяваць свае «палескія» песні». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 246.)

**1927—1932**

Вучыцца ў Глінішчанскай пачатковай школе. У школе быў першым вучнем. Захапляецца чытаннем і маляваннем. (Аўтабіяграфія, 1969; Успаміны пра Івана Мележа, с. 23.)

**1932**

Верасень

Паступае ў пяты клас Алексіцкай сямігадовай школы. (Аўтабіяграфія, 1969.)

**1933**

Удзельнічае ў конкурсе, аб'яўленым час. «Іскры Ільіча», № 5-6, на лепшае апавяданне па малюнках пад назвай «Прыгода на граніцы». (Аб тым, як лыжнік-піянер трапіў у бандыцкія лапы... і што з гэтага

[17] У «Летапіс...» не ўвайшлі звесткі аб перапісцы Мележа, а таксама пра творчую гісторыю таго ці іншага твора пісьменніка, паколькі гэты матэрыял ёсць у лістах і каментарыях да лістоў.

[18] Асабістыя справы, Аўтабіяграфіі (розных гадоў напісання), Лісткі па ўліку кадраў, на якія ў «Летапісе...» робіцца спасылка, захоўваюцца ў СП БССР. Рукапісы, Машынапісы, Карэктуры твораў і выступленняў, Выдавецкія дагаворы, Лісты да жонкі і дачок, Лісты адрасатаў, Граматы, Запрашэнні, Мандаты, Выпіскі з гісторыі хваробы, Пасведчанні, Спраўкі, Працоўная кніжка, Лісткі ад перакіднога календара, Дыплом, Медыцынскае заключэнне — у архіве сям'і І. Мележа,

выйшла). У № 10 гэтага часопіса быў аб'яўлены вынік конкурсу, і сярод лепшых названа апавяданне Янкі Мележа з Хойніцкага раёна.

У юбілейнай нататцы часопісу «Бярозка» (гл.: 1974, Снежань) Мележ называе ўдзел у конкурсе «Іскраў Ільіча» (з чэрв. 1945 — «Бярозка») «першым сваім пісьменніцкім Поспехам, першай аўтарскай радасцю. Адтуль усё і пачалося».

**1935**

Жнівень

Падае заявы ў навучальныя ўстановы. У Навабеліцу — на рабфак пры запалкавай фабрыцы, і ў Мінск — на рабфак пры Інстытуце народнай гаспадаркі. «Ні ў Навабеліцы, ні ў Мінску са мной не сталі нават гаварыць толькі таму, што для паступлення на рабфак — па закону — мне. не хапала аднаго года». (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 180.)

Верасень

Паступае ў восьмы клас Хойніцкай сярэдняй школы № 1. У час вучобы кватаруе ў в. Людзвін у роднай цёткі па маці — Гарбатай Веры Дзянісаўны. (Аўтабіяграфія, 1969; Ліст Л. А. Сушчанкі ад 28 кастр. 1980 да ўкладальніка дадзенага тома.)

**1938**

Чэрвень

Заканчвае Хойніцкую дзесяцігодку з адзнакай. (Аўтабіяграфія, 1946; Ліст да вучняў 7-6 класа Дварышчанскай СШ ад 21 сак. 1962.)

Ліпень — жнівень

Падае заяву ў Маскоўскі Інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры, але студэнтам не быў залічаны, хоць меў на гэта ў той час поўнае права як выдатнік. (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 181.)

З ліста да П. М. Якавенкі ад 23 снеж. 1971: «Тое, што мяне не прынялі ў інстытут, гэта была несправядлівасць, парушэнне закона. Але я быў ціхі, сялянскі хлопец, я не ўмеў дабівацца сваіх правоў і вымушаны быў вярнуцца назад».

Верасень, 1938 — жнівень, 1939

Працуе загадчыкам аддзела піянераў Хойніцкага райкома камсамола. (Аўтабіяграфія, 1946.)

**1939**

Люты, 20

У газ. «Чырвоная змена» публікуе верш «Радзіме». Жнівень, II

У газ. «Літаратура і мастацтва» публікуе верш «Над ракой».

Верасень — кастрычнік

Студэнт Маскоўскага Інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры. (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 182.)

Лістапад

Прызываецца ў Чырвоную Армію — 298-мы артылерыйскі полк 192-й стралковай дывізіі. Абіраецца камсоргам, затым намеснікам палітрука батарэі. (Іван Мележ. Першая кніга: Дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак.— Мн.: Маст. літ., 1977, с. 9-10.)

З ліста К. А. Лысенкі да І. Мележа ад 6 сак. 1974: «Я чуть раньше попал в Артемовск и встречал партию белорусских ребят уже в солдатской шинели. Среди них Ваш образ мне помнится веселым и задорным. Плотный, плечистый, выше среднего роста, русый парень с добрым веселым взглядом...»

З успамінаў Мележа: «Я принадлежу к поколению, юность которого связана с армией. В небольшом гарнизоне, среди Карпат, у самой границы росла моя солдатская молодость — походы, ночные тревоги, боевое учение в горах — годы трудные и незабываемые». (Любите ратный труд.— Красная звезда, 1964, 8 студз.)

**1940**

Люты — ліпень

192-ю дывізію, якая была ператворана ў горна-артылерыйскую, перакідаюць у Заходнюю Украіну. У маі полк, у якім служыў Мележ, выходзіць да граніцы з Румыніяй па маршруту Драгобыч — Стрый — Жаб'е — Каломня — Косаў, каб прыняць удзел у вызваленні тэрыторыі Паўночнай Букавіны і Бесарабіі. (У жніўні 1940 г. у выніку мірнага вырашэння канфлікту паміж СССР і Румыніяй паўночная частка Букавіны, асноўнае насельніцтва якой украінцы, увайшла ў склад УССР.) У ліпені дывізія размяшчаецца пад Драгобычам на станцыі Люберцы. (Ліст К. А. Лысенкі ад 13.111.1980 да ўкладальніка дадзенага тома.)

Верасень

Уступае ў рады КПСС. (Асабісты лісток па ўліку кадраў.)

На працягу года

Напісаў вершы «Жураўлі» і «Багдановіч». (Іван Мележ. Першая кніга, с. 6-7.)

**1941**

Вясна

Полк перадыслацыраваны ў г. Стары Самбор у раёне Туркі, дзе і застала І. Мележа вайна. (Ліст К. А. Лысенкі ад 13.III.1980 да ўкладальніка дадзенага тома.)

Пасля 22 чэрвеня — жнівень, 9

Полк адпраўлены на фарміраванне. Пройдзены маршрут : Явора — Драгобыч — Стрый — Збруч — Першамайск — Умань — Вазнясенец (Іван Мележ. Першая кніга, с. 13-21.)

Жнівень, 10 — снежань, 11

У Новай Адэсе пападае ў новую часць — 269-ты (з мая 1942 — 70-ты гвардзейскі полк Рэзерву Вярхоўнага Галоўнакамандавання. Назначаны камандзірам аддзялення. Пройдзены маршрут: Запарожжа — Іларыёнаўка — ст. Дэмурына — Краснаармейск — Данбас — Канстанцінаўка — Варашылаўград — ст. Луганская — Наваспасаўіса. (Тамсама, с. 21-43; Аўтабіяграфія, 1946.)

Снежань, 12

Першае раненне. «Мой твар і правая рука абпалены. Увесь час хаджу па полі, на ветры — інакш нельга трываць жудаснага болю...» Выпісваецца з санчасці 28 снежня. (Іван Мележ. Першая кніга, с. 44—45.)

Снежань, 31

Атрымаў «Временное удостоверение» штаба 269-га артпалка АРГК, у якім гаворыцца, што Мележ І. П. «состоит на действительной военной службе при 269-м артполку АРГК в должности замполитрука». (Временное удостоверение М 711.)

**1942**

Люты, 20 — май, 7

Вучыцца на курсах палітсаставу Паўднёвага фронту (г. Каменск). Абіраецца палітруком роты. (Іван Мележ. Першая кніга, с. 62-77; Асабістая справа, 1952.)

Май, 8

Атрымаў Пасведчанне аб заканчэнні двухмесячных курсаў маладых палітрукоў вайсковай часці 1080. З Пасведчання: «Сдал испытания с оценкой по: политподготовке — отлично; тактике — отлично; огневой подготовке — отлично.

Начальник политуправления ВЧ 1080 — дивизионный комиссар — Л. Брежнев (подпіс).

Начальник курсов младших политруков политуправления — батальонный комиссар — Спартак». (Удостоверение № 735.)

Май, 18

Атрымаў «Удостоверение» за подпісам начальніка курсаў малодшых палітрукоў вайсковай часці 1080, якое пацвярджае, што «младший политрук тов. Мележ Иван Павлович является старшим группы политсостава, выпускников курсов мл. политруков Южного фронта, в количестве 92 человек, следующих по железной дороге на фронт.» (Удостоверение № 012/77.)

Май, 20 — чэрвень, 20

Працуе інструктарам-літаратарам дывізійнай газеты «Красноармейская правда» 51-й стралковай дывізіі, якая трымала абарону пад Ізюмам. (Аўтабіяграфія, 1946; Ліст у рэдакцыю газеты «Чорноморська комуна» ад 17 снеж. 1972; Іван Мележ. Першая кніга, с. 81-92.)

Чэрвень, 20

Пад Растовам цяжка паранены асколкам авіябомбы ў час бамбёжкі. Асколак раздрабіў правае плячо. Быў дастаўлены ў растоўскі ваенны шпіталь. (Аўтабіяграфія, 1946; Іван Мележ. Першая кніга, с. 92, 125-129.)

Ліпень, 3 — верасень, 26

Знаходзіцца ў шпіталі ў Есентуках да 25 ліп. Затым — у тбіліскім шпіталі. Там напісаў свае першыя празаічныя творы — апавяданні «Сустрэча» і «Апошняя аперацыя». (Аўтабіяграфія, 1946; Іван Мележ. Першая кніга, с. 93-130.)

Жнівень, 23

«Усё думаю над вершам «Мы ноччу пакідалі вёску...». Амаль закончыў яго... Напісаў збольшага яшчэ адзін — «У палаце». (Іван Мележ. Першая кніга, с. 112.)

Верасень, 26

«Атрымаў дакументы, з якіх вынікае, што я звальняюся ў 6 м. (шасцімесячны) водпуск са зняццем з уліку і пераасведчаннем праз 6 м. па месцу жыхарства». (Тамсама, с. 131.)

Са «Свидетельства об освобождении от в/обязанности за № 523» ад 25 верас. 1942 г.: «Объективные признаки болезни: в верхней '/з правого плеча имеется обширный рубец разм. 15Х12 см. Активность движения в плече и локтевом суставах отсутствует совершенно. Имеется деформация правого плечевого сустава.

Результаты специального исследования: перелом суставных отростков лопатки и большой дефект правой плечевой кости после внутреннего суставного перелома плечевой кости с дефектом головки и шейки.

Признан негодным с исключением с учета и переосвидетельствованием через 6 мес. по месту жительства».

Пасля 27 верасня

Пасля Тбілісі дабіраецца да Баку, затым на параходзе да Гур'ева і праз Куйбышаў да Бугуруслана. 16 кастр.— у Бугуруслане, дзе ў той час знаходзілася Цэнтральнае бюро даведак.

Кватаруе ў сям'і К. І. Пятровай, знаёміцца з дачкой гаспадыні — Лідзіяй Якаўлеўнай Пятровай, якая пазней стала яго жонкай. (Тамсама, с. 134-46.)

Лідзія Якаўлеўна ўспамінае: «Іван Паўлавіч звяртаў на сябе ўвагу перш за ўсё сваёй знешнасцю. Высокі, бледны і худы пасля ранення і шпіталя, крыху дзіўна апрануты ў шырокія чорныя матроскія штаны і салдацкую гімнасцёрку, з рукой на марлевай павязцы, вечна кудысьці спяшаўся.

Вабіла ў ім жывая зацікаўленасць усім і ўсімі на свеце і перш за ўсё справамі на фронце, жыццём кожнага, з кім знаёміўся — ці то мясцовага жыхара, ці то эвакуіраванага дзіцяці ці старога». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 35-36.)

Лістапад, 12, 1942 — да сярэдзіны кастрычніка 1943

Працуе выкладчыкам ваеннай падрыхтоўкі Малдаўскага педагагічнага інстытута і тут жа вучыцца завочна на літаратурным факультэце (прайшоў за год два курсы). (Іван Мележ. Першая кніга, с. 165.)

Як сведчыць «Справка Молдавского Госпединститута №5/3» ад 6 ліп. 1943: Мележ І. П. «сдал экстерном ... за 1-й курс литературного факультета и показал следующие результаты: Основы марксизма-ленинизма — 5; История СССР — 5; Теория литературы — 5; Литература эпохи средних веков и возрождения — 5; Фольклор — 5; Введение в языкознание — 5; Современный рус. язык — 5; Античная литература — 5; Немецкий язык — 5; Психология — 5; История педагогики — 5; Военная подготовка — 5; Всеобщая история — 5 ».

«Апрача работы і вучобы, сустрэч з сябрамі Іван Паўлавіч праводзіў шмат часу за пісаннем вершаў (яны друкаваліся ў «Бугурусланской правде»), апавяданняў, вядзеннем дзённікаў. Уважліва сачыў за падзеямі на фронце. Штодзённа слухаў перадачу ў «Апошні час», усе змены на лініях франтоў заносіў чырвоным алоўкам на карту Еўрапейскай часткі СССР, якая была ў яго афіцэрскім планшэце». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 39.)

**1943**

Люты

У «Бугурусланской правде» публікуюцца дзве вершаваныя гумарэскі — «Без падману зроку» і «Дарожныя знакі». (Ф. Куляшоў. Іван Мележ: Літаратурная біяграфія.— Мн.: Беларусь, 1968, с. 10-11.)

Красавік, 10

Жэніцца на Лідзіі Якаўлеўне Пятровай. «Не сказаўшы нікому ні слова, мы пайшлі ў ЗАГС і распісаліся». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 39.)

Лета

Узнагароджваецца граматай Бугурусланскага гарадскога Камітэта ВЛКСМ і гарадскога камітэта па справах фізкультуры і спорту за актыўны ўдзел у трэцім летнім прафсаюзна-камсамольскім кросе 1943 года. (Грамата.)

З «Правды» даведаўся, што на Сходні пад Масквой пачаў работу Беларускі універсітэт. Падае туды заяву. (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 184.)

Пачатак верасня

У «Бугурусланской правде» публікуецца апавяданне «Апошняя аперацыя» — першае выступленне ў друку як празаіка. (Ф. Куляшоў. Іван Мележ, с. 12.)

Кастрычнік, I

Залічаны студэнтам-завочнікам на трэці курс філалагічнага факультэта БДУ: (Аўтабіяграфія, 1952.)

Кастрычнік, 11

Загадам № 24 ад 13.X.43 г. прызначаецца выкладчыкам кафедры ваеннай і фізічнай падрыхтоўкі БДУ. (Працоўная кніжка.)

Лістапад, I

Загадам № 33 ад 6.XI.43 г. прызначаецца загадчыкам кафедры ваеннай і фізічнай падрыхтоўкі БДУ. (Працоўная кніжка.)

**1944**

Студзень, 27

У сям'і Мележа нарадзілася дачка Людміла.

Сакавік

Забірае на Сходню сям'ю. «Жыццё на Сходні таксама не песціла, але Іван Паўлавіч адчуваў сябе тут, сярод беларусаў, дома. Быў энергічны, дзейны, вясёлы, быццам піў свежую сцюдзёную ваду роднай крыніцы». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 42.)

Канец жніўня

БДУ са Сходні арганізаваным эшалонам вяртаецца ў Мінск. Мележ суправаджаў групу студэнтаў. (Звязда, 1 кастр.)

«...Падмаскоўную Сходню не магу забыць і, відаць, ужо не забуду да канца свайго жыцця... Для мяне гэта была не Сходня, а Узыходня... Там на Сходні былі мае першыя творчыя прыступкі, і іх не забыць мне ніколі». (Успаміны пра Івана Мележа, с. 52.)

Лістапад, 25

У «Звяздзе» друкуе апавяданне «Сустрэча ў шпіталі», (Пазнейшая назва — «Сустрэча».)

**1945**

Студзень

У час. «Беларусь», № 1 друкуе апавяданне «У завіруху». Люты, 17

У «Звяздзе» друкуе апавяданне «Апошняя аперацыя». (Апавяданне вядома і пад назвай «Васіль Дзянісавіч».)

Люты — сакавік

У «Полымі», № 2-3 публікуе апавяданне «Сустрэча». У канцы памета: Каўказ, шпіталь.

Сакавік, 27

У «Чырвонай змене» друкуе апавяданне «Перад боем». Сакавік

У «Беларусі», № 3 друкуе апавяданне «Канец размовы». Красавік

У «Полымі», № 4 друкуе апавяданні «Апошняя аперацыя» і «Салдаткіна ноч». (Апошняе — вядома пад назвамі «Жаночыя слёзы» і «Ноччу».)

Май, 10

На пасяджэнні праўлення СП БССР І. Мележа, Я. Брыля і П. Кавалёва прымаюць у члены Саюза пісьменнікаў БССР. З характарыстыкай творчасці І. Мележа выступіў У. Краўчанка. Ён адзначыў, што Мележ з'яўляецца здольным празаікам з уласным, своеасаблівым падыходам да тэмы. Гераізм савецкага чалавека Мележ імкнецца раскрыць і паказаць у яго звычайных і будзённых справах. (Прапанову аб прыняцці маладога пісьменніка ў члены Саюза падтрымалі ў сваіх выступленнях М. Лупсякоў, К. Кірэенка, І. Гурскі). (Полымя, № 4; Беларусь, 3 6.)

Май, 1945 — студзень, 1947

Працуе ў рэдакцыі час. «Полымя». З кастрычніка 1945 г. сумяшчае працу з вучобай у аспірантуры БДУ. (Асабістая справа.)

Ліпень, 21

У «Чырвонай змене» друкуе аднаактавую п'есу «Тварам да твару».

Верасень, да 14

Закончыў вучобу ва універсітэце. Атрымаў Дыплом з адзнакай. Рашэннем экзаменацыйнай камісіі ад 14 верас. 1945 г. яму прысвоена кваліфікацыя малодшага навуковага супрацоўніка, выкладчыка ВНУ, ВТНУ, сярэдняй школы. (Дыплом № 553290.)

Верасень, 27 — кастрычнік (?)

Адпачывае ў студэнцкім санаторыі ў Ялце. (Ліст да Я. І. Паўлава ад 25.1.1963.)

Кастрычнік, 1945 — верасень, 1948

Аспірант БДУ. Тэма дысертацыі па творчасці К. Чорнага. (Аўтабіяграфія, 1946.)

«Скончыў аспірантуру Беларускага дзяржаўнага універсітэта, але дысертацыі не напісаў — замест яе напісаў некалькі кніжак прозы». (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 160.)

Па матэрыялах дысертацыі напісана літаратуразнаўчая праца.— Гл.: Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 27-110.

**1946**

Студзень

У «Полымі», № 1 друкуе апавяданне «Праз год» з падзагалоўкам «З франтавога сшытка».

Сакавік, 9

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе апавяданне «Пабыўка сержанта». (Пазнейшая назва — «Такі кароткі водпуск.»)

Май, 27

У «Літаратуры і мастацтве» паведамляецца: Згодна пастановы праўлення Саюза пісьменнікаў БССР 20 мая ў заходнія вобласці рэспублікі выехала група маладых беларускіх пісьменнікаў у складзе І. Мележа, А. Астрэйкі, І. Грамовіча, Р. Няхая, А. Вялюгіна, П. Прыходзькі з мэтай правесці літаратурныя вечары ў Брэсце, Баранавічах, Гродна і інш. гарадах Беларусі, наведаць Днепра-Бугскі канал і радзіму продкаў Ф. Дастаеўскага — мястэчка Дастоева.

Май

У «Полымі», № 5 змяшчае рэцэнзію «Апавяданні пра вайну» на зб. апавяданняў М. Лупсякова «Першая атака» (1946).

Жнівень

Працуе над цыклам апавяданняў «Гарачы жнівень» — пра жыццё пасляваеннай вёскі. Каб найбольш паспяхова ажыццявіць сваю творчую задуму, І. Мележ у час працы над «Гарачым жніўнем» жыве ў бацькоў у в. Глінішча. Прымае непасрэдны ўдзел у жыцці вёскі. Лічыць «Гарачы жнівень» самым біяграфічным творам.

Кастрычнік, 19-21

Удзельнічае ў агульнагарадскім сходзе пісьменнікаў Мінска. Выступае ў спрэчках па дакладу М. Лынькова «Аб задачах беларускай літаратуры ў сувязі з Пастановамі ЦК ВКП(б) «Аб часопісах «Звезда», «Ленинград» і «Аб рэпертуары драмтэатраў і мерах па яго паляпшэнню». (Літ, і мастацтва, 22 кастр.)

Кастрычнік

У «Полымі», №10 публікуе цыкл апавяданняў «Гарачы жнівень». У канцы памета: Жнівень 1946, в. Глінішча.

Выйшаў з друку першы зб. апавяданняў «У завіруху».— Мн.: ДВБ. (Полымя, № 10.)

1947

Сакавік, 3-10

Прымае ўдзел ва Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў, якая адбылася ў Маскве, разам з А. Кулакоўскім, К. Кірэенкам, М. Калачынекім, П. Кавалёвым. У нарадзе ўдзельнічалі 150 маладых празаікаў і паэтаў. З дакладам «За высокую ідэйнасць савецкай літаратуры і мастацтва» выступіў А. Фадзееў. Ад беларускай пісьменніцкай арганізацыі выступіў А. Кулакоўскі. (Літ. і мастацтва, 5 крас.)

Красавік, 5

У «Літаратуры і мастацтве» змяшчае артыкул «Галоўная задача» аб Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў (3—10 сак.)

Красавік, 17

Выступае з садакладам на пасяджэнні праўлення СП БССР. Даклад аб рабоце Брэсцкай філіі СП БССР зрабіў М. Хрысціч. (Літ. і мастацтва, 19 крас.)

Чэрвень, I, 4

У «Звяздзе» друкуе апавяданне «Таварышы».

Ліпень, 22

Выступае на рэспубліканскім сходзе СП БССР, прысвечаным абмеркаванню Пастаноў ЦК КП(б)Б аб рабоце Саюза савецкіх пісьменнікаў і рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў БССР, а таксама газеты «Літаратура і мастацтва». Даклад П. Броўкі. (Звязда, 31 сак.)

Лета

Рыхтуе да выдання зб. «Гарачы жнівень». (Ліст да Я. С. Мазалькова ад 18 крас.)

Працуе над нарысам «Дарогі на ўсход і на захад» пра двойчы Героя Савецкага Саюза Шутава Сцяпана Фёдаравіча. Першапачаткова нарыс друкаваўся пад назвай «Заўсёды наперадзе». (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 159.)

Канец жніўня — верасень

Адпачывае ў Гагры ў Доме творчасці. (Лісты да Л. Я. Пятровай ад 2 (?) верас, і 14 верас.)

Кастрычнік

У «Беларусі», № 10 друкуе апавяданне «Перад навальніцай» з падзагалоўкам «З цыкла апавяданняў «Гарачы жнівень».

У «Полымі», № 10 друкуе апавяданне «Павел прыехаў» з падзагалоўкам «З нізкі «Гарачы жнівень».

Лістапад, 22

У «Літаратуры і мастацтве» змяшчае артыкул «Любімы пісьменнік» да 50-годдзя з дня нараджэння і 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Кандрата Крапівы.

Восень

Пачаў працу над раманам «Мінскі напрамак». (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 159.)

Снежань, 11

Выступае на агульнагарадскім сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным вылучэнню П. Броўкі і М. Танка кандыдатамі ў дэпутаты гарадскога Савета дэпутатаў працоўных. Сход адкрыў П. Глебка. (Літ. і мастацтва, 13 снеж.)

**1948**

Студзень, 25

У «Звяздзе» друкуе ўрывак з нарыса «Заўсёды наперадзе» пад загалоўкам «У баях за Кіеў» да 30-годдзя ўтварэння Украінскай ССР.

Студзень

У «Беларусі», № 1 змяшчае рэцэнзію «Апавяданні Івана Грамовіча» на кнігу пісьменніка «Апавяданні» (1947).

Люты, да 15

Выйшла кніга «Гарачы жнівень».— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Красавік, 3

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе артыкул «Слова пра дружбу» аб братніх сувязях беларускай літаратуры з літаратурамі Чэхіі, Польшчы, Балгарыі.

Красавік, 6

Прымае ўдзел у абмеркаванні апавядання І. Грамовіча «Вяселле ў Загор'і» на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР.

Абіраецца новае бюро секцыі: І. Мележ (старшыня), М. Лынькоў, П. Пестрак (сакратар), Я. Брыль, У. Краўчанка. (Літ. і мастацтва, 17 крас.)

Красавік

У «Полымі», № 4 друкуе дакументальны нарыс «Заўсёды наперадзе» з падзагалоўкам «Старонкі з біяграфіі».

Жнівень

Выступае на сходзе партарганізацыі СП БССР, прысвечаным абмеркаванню Пастановы XVII Пленума ЦК КП(б)Б «Аб мерах узмацнення тэмпаў аднаўлення і павелічэння прамысловай вытворчасці ў сувязі з задачай датэрміновага выканання пяцігодкі». Даклад С. Майхровіча. (Беларусь, № 8.)

Верасень, 10

Прызначаецца на пасаду старшага выкладчыка беларускай літаратуры кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ. (Працоўная кніжка, Загад па БДУ № 163.)

Кастрычнік, 20-21

Выступае з дакладам «Індустрыяльная тэма ў беларускай літаратуры» на пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР. Гаворка вялася пра задачы, якія стаяць перад беларускімі пісьменнікамі ў сувязі з падрыхтоўкай да 80-годдзя ўтварэння БССР. (Літ. і мастацтва, 23 кастр.)

Даклад апублікаваны ў «Літаратуры і мастацтве», 27 лістай.

Лістапад, 2

Прымае ўдзел у абмеркаванні аповесці А. Васілевіч «Шляхі-дарогі» на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. Выступілі таксама М. Лынькоў, І. Шамякін, П. Пестрак, П. Кавалёў і інш. (Літ. і мастацтва, 13 лістай.)

Лістапад, 15

Выступае з крытыкай дзейнасці камісіі па рабоце з маладымі на адкрытым партыйным сходзе СП БССР. Са справаздачамі выступілі — ад «Полымя» — М. Модэль, ад «Беларусі» — К. Кірэенка, ад «Літаратуры і мастацтва» — В. Вітка. (Літ. і мастацтва, 20 лістап.)

Лістапад, 23

Прымае ўдзел у абмеркаванні першай часткі аповесці У. Шахаўца «Землякі» на чарговым пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. (Літ. і мастацтва, 8 снеж.)

Снежань, 18

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: З мэтай прапаганды дасягненняў беларускай літаратуры за гады савецкай улады выехалі пісьменніцкія брыгады ў гарады і вобласці рэспублікі. У складзе адной з такіх брыгад І. Мележ наведаў г. Гомель. Выступіў з дакладамі аб дасягненнях беларускай літаратуры ў педінстытуце, фельчарска-акушэрскай школе, на літаратурным вечары, што адбыўся на Добрушскай папяровай фабрыцы.

Снежань, 19

Выступае разам з П. Глебкам, П. Броўкам, М. Танкам, П. Панчанкам, Я. Маўрам і інш. з чытаннем сваіх твораў у Акруговым

Доме афіцэраў, на літаратурным вечары, прысвечаным 30-годдзю БССР. З дакладам «Беларуская літаратура за 30 год» выступіў П. Кавалёў. (Літ. і мастацтва, 25 снеж.)

Снежань, 30

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 снежня 1948 г. «Аб узнагароджанні ордэнамі і медалямі работнікаў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, культуры і мастацтва Беларускай ССР» у сувязі з 30-годдзем утварэння БССР узнагароджваецца медалём «За працоўную доблесць». (Звязда, 1949, I студз.)

4 студз. адбылося ўручэнне ўрадавых узнагарод на ўрачыстым вечары ў тэатры оперы і балета БССР. (Звязда, 1949, 5 студз.)

Снежань

У «Беларусі», № 12 друкуе ўрывак «Праз тры гады» з рамана «Мінскі напрамак».

На працягу года

У кнізе «Белорусские рассказы» (М.: Сов. писатель) надрукаваны апавяданні «В буран», «Дружная семья».

**1949**

Студзень, 25 — люты, 3

Удзельнічае ў Дэкадзе беларускай літаратуры ў Маскве,, прысвечанай 30-годдзю ўтварэння БССР. Урачыстае адкрыццё Дэкады адбылося ў ЦДЛ. Вечар адкрыў А. Фадзееў. З прамовай ад СП БССР выступіў П. Броўка. Свае творы чыталі Я. Колас, К. Крапіва, М. Танк, А. Куляшоў, П. Глебка і інш. Літаратурныя вечары адбыліся таксама на шматлікіх прадпрыемствах і ва ўстановах Масквы. 2-га лют. на бюро нацыянальных камісій СП СССР былі абмеркаваны новыя творы беларускіх празаікаў — «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Вяснянка» Т. Хадкевіча, зб. «Гарачы жнівень» І. Мележа. (Літ. і мастацтва, 5 лют.; Звязда, 4 лют.)

Сакавік, да 12

Выступае на адкрытым партыйным сходзе СП БССР, прысвечаным вынікам XIX з'езда КП(б) Беларусі. З дакладам выступіў П. Броўка. (Літ. і мастацтва, 12 сак.)

Сакавік, 12, 23

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: Брыгады пісьменнікаў выехалі ў вобласці і раёны рэспублікі для напісання нарысаў аб перадавіках сельскай гаспадаркі (9-12 сак. Баранавіцкую вобл, наведалі І. Мележ і А. Бачыла).

У выніку паездкі Мележ напісаў нарыс аб Герою Сацыялістычнай Працы калгасніцы к-са «Бальшавік» Любчанскага р-на П. Л. Калоле, якая вырасціла высокі ўраджай ільну.

Нарыс быў надрукаваны ў «Советской Белоруссии», 1 мая пад загалоўкам «Героиня».

Сакавік, 19

У «Літаратуры і мастацтве» публікуецца Заява беларускіх пісьменнікаў «За трывалы дэмакратычны мір паміж народамі, супраць падпальшчыкаў вайны!», у якой падтрымліваецца прапанова Міжнароднага камітэта сувязі дзеячаў культуры ў абарону міру і Міжнароднай федэрацыі жанчын аб скліканні Сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру. Подпісы пад Заявай ад імя СП БССР паставілі: Я. Колас, П. Броўка, К. Крапіва, М. Лынькоў, А. Куляшоў, М. Танк, П. Глебка, І. Мележ і інш.

Май, 1

У «Звяздзе» друкуе артыкул «Наша вясна» аб уздыме, дасягненнях савецкіх людзей па адбудове народнай гаспадаркі ў пасляваенны час. (Пазнейшая назва — «Агні над руінамі».)

Чэрвень, 20-23

Адбыўся другі з'езд пісьменнікаў Беларусі. З'езд адкрыў уступнай прамовай Якуб Колас. Са справаздачным дакладам «Становішча і задачы беларускай савецкай літаратуры» выступіў П. Броўка. На з'ездзе выступілі: М. Танк, К. Крапіва, К. Сіманаў, М. Лынькоў, І. Мележ, П. Глебка і інш. (Звязда, 22 чэрв.; Літ. і мастацтва, 23 чэрв., 2, 9, 16 ліп.)

Чэрвень, 28 — ліпень, 20

Адпачывае ў санаторыі (г. Маеры Латвійскай ССР). (Лісты да Л. Я. Пятровай ад 28 нэрв. і 5 ліп.)

Жнівень, 20

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе ўрывак «Партызанскі заслон» з рамана «Мінскі напрамак».

Лістапад, паміж 20 і 25

На пасяджэнні секцыі прозы СП БССР абмяркоўвалася першая кніга рамана «Мінскі напрамак». Крытычны разбор твора зрабіў М. Паслядовіч. Было адзначана, што першая частка рамана з'яўляецца творчай удачай аўтара. У абмеркаванні прынялі ўдзел У. Краўчанка, Я. Шарахоўскі, І. Грамовіч, У. Карпаў. (Літ. і мастацтва, 26 лістап.)

Снежань, 21

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе ўрывак «Загад правадыра» з рамана «Мінскі напрамак».

На працягу года

Выйшаў з друку раман А. Ганчара «Сцяганосцы» (ДВБ) у перакладзе на бел. мову У. Краўчанкі і І. Мележа.

**1950**

Студзень, 5

Прымае ўдзел у абмеркаванні рамана М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам» на чарговым пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. З дакладам выступіў Т. Хадкевіч. (Літ. і мастацтва, 7 студз.)

Удзельнічае ў пасяджэнні прэзідыума СП БССР, прысвечаным падрыхтоўцы да XIII пленума СП СССР (25 студз.). Прэзідыум зацвердзіў рэдкалегіі анталогій — украінскай паэзіі, прозы ленінградскіх пісьменнікаў, літоўскай літаратуры. Мележ абраны ў склад рэдкалегіі анталогіі прозы ленінградскіх пісьменнікаў. (Літ. і мастацтва, 14 студз.)

Студзень, 8

У «Звяздзе» друкуе аднайменны ўрывак з рамана «Мінскі напрамак».

Студзень, 11

Прымае ўдзел у абмеркаванні першай часткі рамана В. Вольскага «Высокі бераг» на пасяджэнні бюро секцыі прозы СП БССР. (Літ. і мастацтва, 14 студз.)

Студзень, паміж 20 і 28

Прымае ўдзел у абмеркаванні апавяданняў і нарысаў, змешчаных у «Полымі» і «Беларусі» за 1949 год, на пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР. (Літ. і мастацтва, 28 студз.)

Студзень — сакавік

У «Полымі», № 1, 2, 3 друкуе першую кнігу рамана «Мінскі напрамак».

Сакавік, 3

«Освидетельствован 3/III-50 г. ВТЭК Сталинского р-на. Признан инвалидом третьей группы без переосвидетельствования». (Справка № 21, выдадзеная Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння.) Са слоў Лідзіі Якаўлеўны: Івану Паўлавічу давалі другую групу інваліднасці, але ў сувязі з тым, што праз кожныя тры месяцы даводзілася праходзіць медкамісіі, на што ішло шмат часу, ён папрасіў трэцюю.

У спраўцы Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР (серыя С № 079164) ад 23 крас. 1974 г. указваецца: «Признан инвалидом второй группы по «I» без переосвидетельствования ... Может работать только в специально созданных условиях».

Сакавік, да 25

Удзельнічае ў абмеркаванні аповесці «Рэха ў гарах» Т. Хадкевіча на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. Даклад зрабіў І. Шамякін. (Літ. і мастацтва, 25 сак.)

Сакавік, 25

Удзельнічае ў літаратурным вечары (СШ № 1 г. Мінска), прысвечаным Тыдню дзіцячай кнігі. (З запісной кніжкі.)

Жнівень, 8-11

Прымае ўдзел у 3-й рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў, скліканай СП БССР. Уступным словам нараду адкрыў П. Броўка. З дакладам «Аб развіцці беларускай савецкай літаратуры» выступіў П. Кавалёў. Працавалі творчыя секцыі: паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі. (Літ. і мастацтва, 12 жн.)

Жнівень, 1950 — верасень 1951

Працуе кансультантам аддзела прапаганды і агітацыі па пытаннях літаратуры ЦК КП(б) Беларусі. (Аўтабіяграфія, 1952.)

Лістапад — снежань

Знаходзіцца ў стацыянары лечкамісіі. У снежні ставіцца дыягназ — хранічны дысемініраваны туберкулёз лёгкіх. (Выпіска з гісторыі хваробы № 1629.)

Снежань, да 26

Выйшла з друку першая кніга рамана «Мінскі напрамак».— Мн.: ДВБ, (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

**1951**

Пачатак студзеня

Знаходзіцца ў Маскве ў сувязі з падрыхтоўкай да выдання ў выд-ве «Советский писатель» зб. «Товарищи».

4 студз. з Масквы вылятае самалётам у Крым. (Ліст да Л. Я. Пятровай ад 9 студз.)

Студзень, 6-30 (?)

Адпачывае ў Форасе. Аўтарызуе зб. «Товарищи»: «Я уже кое-что сделал: отредактировал, тщательнейшим образом исправил перевод (много поправок!) — целых 63 страницы, и сегодня послал в Москву (из Москвы мне должны выслать еще 50 страниц, но я их пока не получил)». (Ліст да Л. Я. Пятровай ад 20 (?) студз.)

Ліпень, 5-30

Адпачывае ў санаторыі «Беларусь» (Друскенінкай Літоўскай ССР). (Санаторная кніжка.)

Верасень, 9, 11, 12

У газ. «Бальшавік Палесся» друкуе аднайменны ўрывак з другой кнігі рамана «Мінскі напрамак».

Верасень, 10

Выступае з прамовай на агульным сходзе пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным збору подпісаў пад Зваротам Сусветнага Савета Міру аб заключэнні Пакта Міру паміж пяццю вялікімі дзяржавамі. Уступным словам сход адкрыў П. Кавалёў. Выступілі таксама М. Лынькоў, П. Панчанка, А. Кулакоўскі, П. Пестрак, Э. Агняцвет, М. Гарулёў. Пасля выступленняў усе прысутныя паставілі свае подпісы пад Зваротам. (Літ. і мастацтва, 15 верас.)

Верасень, 29

У «Литературной газете» друкуе нататку «Мы строим для счастья».

Верасень, 30 — пачатак лістапада

Адпачывае ў Ялце. Працуе над трэцяй кнігай рамана «Мінскі напрамак». (Ліст да Л. Я. Пятровай ад 5 кастр. і 31 кастр.)

Верасень

Выйшаў з друку першы зб. апавяданняў на рус. мове «Товарищи».— М.: Сов. писатель. Пераклала С. Грыгор'ева. (Ліст да Л. Я. Пятровай ад 5 кастр. 1951.)

Кастрычнік, 14

У «Мінскай праўдзе» друкуе ўрывак «На Мінскім напрамку» з другой кнігі рамана «Мінскі напрамак»,

**1952**

Май, 9

У «Звяздзе» друкуе ўрывак «На камандным пункце» з другой кнігі рамана «Мінскі напрамак».

Чэрвень, 1, 6, 8

У газ. «Бальшавік Палесся» друкуе ўрывак «Клава» з другой кнігі «Мінскага напрамку».

Чэрвень, 8

У «Мінскай праўдзе» друкуе ўрывак «У вялікім паходзе» з другой кнігі «Мінскага напрамку».

Чэрвень, 28

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе ўрывак «У дні вызвалення» з трэцяй кнігі рамана «Мінскі напрамак».

Чэрвень — ліпень

У «Полымі», № 6, 7 публікуе другую і трэцюю кнігі рамана «Мінскі напрамак».

Ліпень, 3

У «Звяздзе» друкуе ўрывак «Ранак над Мінскам» з трэцяй кнігі «Мінскага напрамку».

Ліпень

У «Бярозцы», № 7 друкуе ўрывак «За Мінск» з трэцяй кнігі рамана «Мінскі напрамак».

У «Беларусі», № 7 — урывак «У тыя дні».

Верасень

Адпачывае ў Кактэбелі. (Успаміны пра Івана Мележа, с. 55.)

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Мінскі напрамак».— Мн.: ДВБ.

**1953**

Люты

У «Полымі», № 2 друкуе апавяданне «На Прыляці». (Пазнейшая назва — «На рацэ».)

Люты, 25

Праходзіць медыцынскае абследаванне ў лечкамісіі. Пастаўлены дыягназ: «Очаговый туберкулёз легких в фазе уплотнения. Очаговый подострый нефрит. Хронический тонзиллит и гайморит. Деформирующий хронический спондилоартроз». (Выпіска з гісторыі хваробы № 1629.)

Красавік, да 25

Прымае ўдзел у абмеркаванні рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. Даклад зрабіў А. Кучар. Выступілі таксама П. Броўка, А. Куляшоў, І. Шамякін, С. Прытыцкі, А. Кулакоўскі. (Літ. і мастацтва, 25 крас.)

Красавік, 26 (?) — май, 28 (?)

Адпачывае ў Крыму (Харакс). (Лісты да Л. Я. Пятровай ад 5 мая і 8 мая.)

Ліпень, 27

Уступным словам адкрывае літаратурны вечар у рускім драматычным тэатры БССР, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. Г. Караленка (Літ. і мастацтва, I жн.)

Снежань

Знаходзіцца ў Маскве ў сувязі з выданнем на рус. мове рамана «Мінскі напрамак». (Ліст да Л. І. Мележ ад 12 снеж.)

**1954**

Студзень, 30

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: На прадпрыемствах і ўстановах Мінска адбылося некалькі вечароў, прысвечаных беларускай

літаратуры. На Мінскім вагонарамонтным заводзе імя Мяснікова, на аўтарамонтным заводзе аб поспехах беларускай літаратуры расказалі Ул. Карпаў, І. Шамякін і інш. З чытаннем сваіх твораў выступілі пісьменнікі: І. Мележ, М. Калачынскі, Д. Кавалёў, А. Макаёнак і інш.

Красавік, 25

Выступае на справаздачна-выбарчым пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. Даклад аб рабоце секцыі зрабіў старшыня бюро секцыі А. Кулакоўскі. Абіраецца членам бюро секцыі. (Літ. і мастацтва, 27 сак.)

Май, 13

Знаходзіцца ў Маскве на кансультацыі ў навукова-даследчым інстытуце хвароб вачэй імя Гельмгольца. (Медыцынскае заключэнне.)

Май — чэрвень

У «Дружбе народов», № 5 і «Полымі», № 6 друкуе апавяданне «Близкое и далекое» («Блізкае і далёкае»). (Пазней апавяданне вядома як аповесць пад назвамі: «Край, які любіш», «Зямля, якую любіш», «Блізкае і няблізкае».)

Ліпень, 3

У «Чырвонай змене» друкуе ўрывак «У той дзень» з рамана «Мінскі напрамак».

Ліпень

У «Беларусі», № 7 друкуе апавяданне «Дом на праспекце». (Пасля дапрацоўкі — аповесць «Дом пад сонцам».)

Жнівень, да 19

Выйшаў з друку раман «Минское направление».— М.: Сов. писатель. Пер. Л. Шапіра. (Па даце, пастаўленай І. Мележам пад аўтографам на кнізе, падараванай жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Канец жніўня (ці пачатак верасня)

Выступае на сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР, прысвечаным пытанню аб падрыхтоўцы да трэцяга з'езда пісьменнікаў БССР. Даклад зрабіў П. Кавалёў. (Літ. і мастацтва, 4 верас.)

Верасень, 15-18

Прымае ўдзел у рабоце трэцяга з'езда пісьменнікаў Беларусі. Уступнай прамовай з'езд адкрыў Я. Колас. Даклад зрабіў старшыня праўлення СП БССР П. Броўка. (Літ. і мастацтва, 17 верас.; Ліст да К. М. Сіманава ад 1 кастр.)

Кастрычнік, 25

Прымае ўдзел у гаворцы аб стане беларускай літаратурнай крытыкі і аб мерах яе паляпшэння (аб надзённых задачах развіцця беларускай літаратурнай і тэатральнай крытыкі) на пашыраным пасяджэнні прэзідыума СП БССР. (Літ. і мастацтва, 30 кастр.)

Лістапад, 26

Прымае ўдзел у літаратурным вечары ў Бабруйску, прысвечаным другому Усесаюзнаму з'езду пісьменнікаў. Агляд дасягненняў беларускай савецкай літаратуры за перыяд паміж 1-м і 2-м Усесаюзнымі з'ездамі пісьменнікаў зрабіў А. Есакоў. (Літ. і мастацтва, 4 снеж.)

Лістапад

У «Беларусі», № 11 друкуе апавяданне «Адна».

Снежань, 9

У «Настаўніцкай газеце» змяшчае нататку «Папярэдзіць падпальшчыкаў вайны». (Пазнейшая назва — «Мы помнім».) Як і ў матэрыялах іншых аўтараў, змешчаных у падборцы «За мір і калектыўную бяспеку!», тут выказваецца адабрэнне нядаўна прынятай Дэкларацыі за мір і бяспеку народаў.

Снежань, да 11

Разам з І. Шамякіным, У. Корбанам, М. Гарулёвым удзельнічае ў літаратурным вечары ў клубе пас. Уручча, прысвечаным другому Усесаюзнаму з'езду пісьменнікаў. (Літ. і мастацтва, II снеж.)

Снежань, 15-26

Прымае ўдзел у рабоце другога Усесаюзнага з'езда СП СССР. (Лит. газ., 19 снеж.)

Снежань, да 29

Выйшаў з друку зб. апавяданняў «Блізкае і далёкае».— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на кнізе, падараванай І. Мележам жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

На працягу года

Напісаў апавяданні: «Памылка», «На скрыжаванні», «У гарах дажджы». (Дадзены Зб. тв., т. 1.)

**1955**

Люты, 12-20

Удзельнічае ў Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. 14-15 лют. праходзіла абмеркаванне ў СП СССР раманаў «Свет над Ліпскам», «Сустрэнемся на барыкадах», «Мінскі напрамак» — М. Паслядовіча, П. Петрака, І. Мележа. У заключным слове В. Ажаеў даў раманам высокую ацэнку, падкрэсліў іх народнасць, яркі нацыянальны каларыт. (Лит. газ., 17 лют.)

Люты, 25

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджваецца ордэнам «Знак Пашаны» за выдатныя заслугі ў развіцці беларускай літаратуры. (Звязда, 27 лют.)

Люты

У «Дружбе народов», № 2 друкуе апавяданне «Дом на проспекте». Пер. Я. Мазалькоў.

Сакавік — красавік

У час. «Советская Отчизна», № 2 друкуе аповесць «Края родные». Пер. М. Гарулёў.

Красавік, 19 — май, 14

Адпачывае ў санаторыі ВЦСПС (Лівадзія). (Ліст да Ф. І. Куляшова ад 10 мая; Обратный талон к путевке № 092132.)

Май, 27—31

Удзельнічае ў першай Усесаюзнай нарадзе па пытаннях развіцця ваенна-мастацкай літаратуры (Масква, ЦДСА). Нараду адкрыў уступнай прамовай Б. Палявой. 31 мая Мележ выступіў на вячэрнім пасяджэнні. (Лит. газ., 28 мая, 2, 16 чэрв.)

Чэрвень, да 11

Выступае як член нядаўна створанай камісіі па ваенна-мастацкай літаратуры з інфармацыяй аб рабоце камісіі і яе планах на пасяджэнні прэзідыума СП БССР. Зацвярджаецца старшынёй камісіі. (Літ. і мастацтва, 11 чэрв.)

Чэрвень, 26

У «Советской Белоруссии» публікуе артыкул «Литература подвига и любви к Родине». (Пазнейшая назва — «Быць у першым эшалоне».)

Кастрычнік, 9-?

У складзе савецкай турысцкай групы наведвае Чэхаславакію. (Сов. Белоруссия, 1956, 15, 18, 19 студз.)

Канец кастрычніка

Знаходзіцца ў Маскве ў сувязі з выданнем рамана «Мінскі напрамак» у Ваенвыдаце. (Ліст да Мілана Горака ад 15 лістап.)

Лістапад, да 19

Выступае на рэспубліканскай нарадзе, скліканай Міністэрствам культуры і СП БССР. Было абмеркавана пытанне аб паляпшэнні работы тэатраў і драматургаў над арыгінальнымі п'есамі. Уступнае слова П. Броўкі. (Літ. і мастацтва, 19 лістай.)

Снежань, 3

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе артыкул «Чулае сэрца» з падзагалоўкам «Некалькі сустрэч з Кузьмой Чорным».

На працягу года

Напісаў апавяданні: «Спатканне за горадам», «Хто ён?». (Апошняе — вядома пад назвамі: «У прыморскім горадзе» і «Што ён за чалавек.) (Дадзены Зб. тв., г. І.)

**1956**

Студзень, 7

У «Литературной газете» публікуюцца адказы пісьменнікаў, у тым ліку і Мележа, на навагоднюю анкету газеты пад агульным загалоўкам «Наши творческие замыслы».

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе аднайменны ўрывак з п'есы «Калі вы маладыя». (Пазней п'еса называлася «Пакуль вы маладыя». Апошняя назва — «Пакуль маладыя».)

Студзень, 15, 18, 19

У «Советской Белоруссии» публікуюцца дарожныя нататкі «Поездка в Прагу». (Гл.: 1955, Кастрычнік, 9—?)

Студзень, 28

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе нататку «Чорныя сілуэты» (пра адвольныя, што не адпавядаюць сапраўднасці, ацэнкі творчай дзейнасці асоб, паказаных на старонках час. «Беларусь»),

Студзень, 31

Выступае на адкрытым партыйным сходзе пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, прысвечаным абмеркаванню праекта Дырэктыў XX з'езда партыі па шостаму пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР. (Літ. і мастацтва,

4 лют.)

Люты, 21

У «Литературной газете» друкуе артыкул «Величие нашего пути» да XX з'езда КПСС.

Люты

У час. «Украіна» друкуе апавяданне «На Прыляцi». Пер. В. Казачэнка.

Красавік, да 5

Выйшаў з друку раман «Минское направление».— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Красавік

У «Бярозцы», № 4 друкуе апавяданне «Памылка».

Май, 23 — чэрвень, 8 (?)

Па турысцкай пуцёўцы знаходзіцца ў ГДР. (Ліст да Ф. І. Куляшова ад І ліп. 1956.)

З запісной кніжкі: «23 мая — 56 г. 6-7 часов граница. 28.5.56 — Росток. 29.5 — Штральзунд. 4.6.56 — Лейпциг».

Чэрвень

У «Работніцы і сялянцы», № 6 друкуе апавяданне «На скрыжаванні».

Ліпень

Прымае ўдзел у экскурсіі на цеплаходзе вакол Еўропы. (Полымя, № 10.)

З запісной кніжкі: «5.7.56 г. Балціка. Учора ў 12 гадз. выйшлі з Ленінграда. 6.7.56 — Стакгольм.

8.7.56 — Балт. мора, Кільскі канал. Апоўдні падышлі к Кільскаму каналу.

10.7.56 г. Галандыя. Ротэрдам. У Ротэрдам прыйшлі ўночы.

20.7.56 — Неапаль. Неапаль мы ўбачылі спачатку з мора ў перадвячэрняй цішыні».

Жнівень

У «Дружбе народов», № 8 друкуе дарожныя нататкі «Поездка в Прагу» аб уражаннях ад наведвання Чэхаславакіі, (Гл.: 1955. Кастрычнік, 9—?)

Верасень, да 22

Выйшаў з друку раман «Минское направление».— М.: Воениздат. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам дачцэ Людміле.— Гл. ПА: Мележ Л. І.)

Верасень, да 27

Пачаў пісаць раман «Людзі на балоце»: «Начал роман. Уже настрочил полтора листа. Но замахнуться думаю широко. Начинаю с предколхозных дней на деревне. В Полесских краях». (Ліст да Ф. І. Куляшова ад 27 верас.)

Верасень

У «Работніцы і сялянцы», № 9 друкуе апавяданне «Спатканне за горадам».

Кастрычнік

У «Полымі», № 10 друкуе дарожныя нататкі аб экскурсіі на цеплаходзе пад назвай «Вакол Еўропы» і падзагалоўкам «Лісткі з блакнота». У канцы памета: Балтыйскае мора — Атлантычны акіян — Міжземнае мора — Мінск, 1956. Пазнейшая назва — «Ліпень у дарозе».

У «Беларусі», № 10 друкуе апавяданне «У гарах дажджы».

Лістапад, 10

У «Литературной газете» ў падборцы «О нашем читателе» публікуюць нататкі пра чытача М. Нікіцін, В. Герасімава, К. Наджмі, П. Пестрак, Л. Ленч, І. Мележ. Нататка Мележа пад загалоўкам «Он поможет, поддержит, поправит».

Снежань

У «Полымі», № 12 друкуе п'есу «Пакуль вы маладыя» з падзагалоўкам «Памылкі маладосці».

На працягу года

Напісаў апавяданні: «Дадому» і «Здарэнне». (Дадзены Зб. тв., т. I.)

**1957**

Студзень, 9

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: На сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР Мележ і Зарыцкі абіраюцца ў склад акруговай выбарчай камісіі № 51 па выбарах у Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў працоўных.

Студзень, да 16

Разам з Р. Няхаем, І. Гурскім, А. Міронавым выступае ў Акруговым Доме афіцэраў на сустрэчы з воінамі Савецкай Арміі (літаратурны ранішнік). (Літ. і мастацтва, 16 студз.)

Люты

У «Дружбе народов», № 2 друкуе апавяданне «В горах дожди». Пер. аўтар.

Сакавік, 18-19

Адбыўся трэці пленум праўлення СП БССР. Выступае ў спрэчках па дакладу «Стан беларускай літаратуры пасля XX з'езда КПСС і яе задачы» П. Броўкі. (Літ. і мастацтва, 23 сак.)

Сакавік

У «Полымі», № 3 друкуе апавяданне «У прыморскім горадзе».

Красавік, 27

Прысутнічае на праглядзе спектакля па п'есе «Пакуль вы маладыя» ў пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы. (Пазначана на лістку перакіднога календара.)

Красавік, 30

Прысутнічае на прэм'еры спектакля па п'есе «Пакуль вы маладыя». (Ліст да Ф. І. Куляшова ад 31 мая.)

Май, 17

Выступае з заключным словам на чытацкай канферэнцыі па раману «Мінскі напрамак», якая адбылася ў бібліятэцы імя М. Горкага. (Літ. і мастацтва, 22 мая.)

Май, 23 ці 24

Разам з М. Аўрамчыкам па дарозе ў Крым на адкрыццё помніка М. Багдановічу спыняюцца ў Кіеве і наведваюць В. Казачэнку. (Успаміны пра Івана Мележа, с. 134.)

Май, 25

Выступае ў Місхоры на адкрыцці помніка М. Багдановічу на тэрыторыі санаторыя «Беларусь» да 40-годдзя з дня смерці паэта. (Лит. газ., 28 мая.)

Чэрвень, 16-19

Выступае ад імя пісьменнікаў Беларусі ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку імя М. Горкага ў Маскве на вечарах, прысвечаных БССР. (Сов. Белоруссия, 20 нэрв.)

Ліпень, 28

У газ. «Москоу ньюс», «Де нивель де Моску» публікуецца артыкул «Сіла братэрства».

Жнівень, 26

Працуе над артыкулам «Мы прывыкаем к чудесам». (Машынапіс з праўкамі аўтара і датай: «26.8.1957 г.».)

Верасень, да 12

Выйшла з друку кніга «У гарах дажджы».— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Верасень, да 28

Выйшла з друку кніга «Дом под солнцем».— М.: Сов. писатель. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам жонцы.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Кастрычнік, 4

У «Правде» друкуе артыкул «Древний и юный город» да 40-годдзя Вялікага Кастрычніка (нумар газеты поўнасцю прысвечаны Беларускай ССР).

Пасля 4 кастрычніка

У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў знаходзіцца ў Францыі. (Паштоўка да Л. Я. Пятровай ад 9 кастр.).

Канец кастрычніка

Прысуджаецца заахвочвальная прэмія за п'есу «Дні нашага нараджэння» на рэспубліканскім конкурсе на лепшую п'есу, опернае і балетнае лібрэта, прысвечаным 40-годдзю Вялікага Кастрычніка. (Літ. і мастацтва, 6 лістап.)

Лістапад, 26

Адкрывае ўступным словам вечар у ЦДЛ (Масква), прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Вядзе вечар А. Суркоў. Выступаюць: С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, П. Семынін, М. Лужанін, Я. Мазалькоў і інш. (Літ. і мастацтва, 30 лістап.)

Лістапад, да 27

Выступае разам з П. Броўкам, А. Бачылам, К. Кірэенкам на Мінскім камвольным камбінаце на вечары, прысвечаным месячніку кнігі. (Літ. і мастацтва, 27 лістап.)

Ва працягу года

Выйшла з друку п'еса «Пока вы молоды».— М.: ВУОАП.

**1958**

Красавік

У «Советском воине», № 4 у падборцы «Творческие планы писателей» — І. Мележ, П. Капіца, Б. Зубавін, М. Калеснікаў, І. Шаўцоў, М. Крыванчыкаў дзеляцца з чытачамі сваімі творчымі планамі і задумамі. З нататкі Мележа: «Написал пьесу «Дни нашего рождения». Работаю над военными рассказами и повестью».

Ліпень, да 23

Выйшаў з друку раман «Мінскі напрамак» у 2-х тамах.— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на першым томе выдання рамана, падараванага І. А. і Г. М. Скрыганам.— Гл. ПАг Скрыган Янка.)

Жнівень, 23

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе ўрывак з п'есы «Дні нашага нараджэння» пад загалоўкам «Рэстаран «Парыж».

Верасень, да 13

Выступае на адкрытым партыйным сходзе пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным падрыхтоўцы да з'ездаў СП СССР і СП БССР. Даклад зрабіў М. Калачынскі. (Літ. і мастацтва, 13 верас.)

Верасень, да 29

Выйшла з друку п'еса «Пакуль вы маладыя».—Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на гэтым выданні п'есы, падараваным І. Мележам Ф. І. і В. П. Куляшовым.— Гл. ПА: Куляшоў Ф. І.)

Верасень

У літоўскім час. «Пергале», № 9 друкуецца апавяданне «Адна». (Летапіс друку БССР.)

Кастрычнік, 8-10

Удзельнічае ў рабоце Міжнароднай канферэнцыі пісьменнікаў Азіі і Афрыкі. Канферэнцыя праходзіла ў Ташкенце ў тэатры оперы і балета імя Навай. Адкрыў канферэнцыю ўступнай прамовай старшыня азіяцка-афрыканскага падрыхтоўчага камітэта па скліканню канферэнцыі Шараф Рашыдаў. Ад імя прадстаўнікоў брацкіх літаратур усіх рэспублік Савецкага Саюза канферэнцыю вітаў М. С. Ціханаў. (Звязда, 8 кастр.)

Кастрычнік, паміж 15 і 25

Выступае на літаратурным вечары ў БДУ, прысвечаным вынікам канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі. Агляд развіцця літаратуры Блізкага і Сярэдняга Усходу зрабіў загадчык кафедры замежнай літаратуры БДУ Д. Я. Фактаровіч (Звязда, 25 кастр.)

Лістапад, 7

Напісаў фрагмент да «Палескай хронікі» пад загалоўкам «Хлопец і дзяўчына». (Рукапіс з датай: «7.XI.58 г.».)

Лістапад, 29

У «Літаратуры і мастацтве» публікуюцца невялікія нататкі пісьменнікаў, у тым ліку і Мележа, аб сваіх творчых дасягненнях і планах — па просьбе рэдакцыі газеты ў сувязі з 40-годдзем утварэння БССР.

Снежань, 27

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе артыкул «Радуюся і ганаруся» ў сувязі з узнагародай БССР ордэнам Леніна да 40-й гадавіны з дня ўтварэння рэспублікі. Артыкул публікуецца разам з іншымі матэрыяламі пісьменнікаў, прысвечанымі святу рэспублікі пад агульным загалоўкам «Слава табе, Беларусь!».

Снежань

У «Полымі», № 12 друкуе п'есу «Дні нашага нараджэння» з падзагалоўкам «Гераічная драма ў чатырох дзеях». (Пазнейшая назва — «Дні нараджэння».)

Па працягу года

Выйшлі з друку: Мінскі напрамак.— Бухарэст: Ваенвыдат; Пока вы молоды.— М,: Искусство; зб. «Чэшскія і славацкія апавяданні».— Мн.: ДВБ. Укл. І. Мележ.

**1959**

Студзень, 29

У «Вечерней Москве» друкуе артыкул «Цветущая Беларусь».

Люты, 14

Удзельнічае ў заключным пасяджэнні чацвёртага з'езда СП БССР. Па стану здароўя на адкрыцці з'езда не прысутнічаў. З'езд праходзіў 12-14 лют. Уступная прамова К. Крапівы. Даклад зрабіў П. Броўка. (Літ. і мастацтва, 13 лют.; Ліст да Я. С. Мазалькова ад 24 лют.)

Люты, 18

У «Калгаснай праўдзе» друкуе ўрывак «Дадому» з рамана «Час спадзяванняў» (раман застаўся ненапісаным — быў задуманы як працяг «Палескай хронікі»).

Люты, 26 — сакавік, 21

Адпачывае ў Ялце. (Ліст да Я. С. Мазалькова ад 24 лют.)

Красавік, 24

Выступае на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях драматургіі. Даклад «Аб некаторых пытаннях беларускай драматургіі і кінадраматургіі» зрабіў міністр культуры БССР Р. Я. Кісялёў. (Літ. і мастацтва, 29 крас.)

Май, 5

У «Литературной газете» публікуе нататку «В ногу со временем» (па просьбе рэдакцыі газеты падзяліцца думкамі аб месцы і ролі пісьменніка ў газеце і часопісе, аб значэнні публіцыстыкі ў прапагандзе сямігадовага плана).

Ліпень, 3

У «Советской Белоруссии» публікуе артыкул «Вперед и ввысь» да 15-й гадавіны з дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Кастрычнік, 6

У «Чырвонай змене» публікуе нататку «Першыя!» (пра штучныя спадарожнікі зямлі) — да запуску трэцяй касмічнай ракеты, на борце якой устаноўлена аўтаматычная міжпланетная станцыя.

Кастрычнік, 21 — лістапад, 15

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Ліст Я. І. Паўлава да ўкладальніка дадзенага тома ад 10 лют. 1980.)

Снежань, 29

Прысутнічае на праглядзе спектакля «Дні нашага нараджэння» ў пастаноўцы тэатра імя Я. Купалы. (Паштоўка да А. А. Сакаловай ад 29 снеж.)

На працягу года

У зборніку матэрыялаў аб жыцці і тзорчай дзейнасці К. Чорнага («Кузьма Чорны») публікуе нарыс «Чулае сэрца».

Выйшлі з друку: Дні нараджэння: Хто прыйшоў уночы.— Мн.: ДВБ; Мінскі напрамак.— Прага: Наша войска; Пакуль маладыя.— Браціслава: Дзіліза.

**1960**

Студзень, да 23

Выступае на справаздачна-выбарчым сходзе секцыі прозы СП БССР. Справаздачны даклад зрабіў старшыня бюро секцыі Т. Хадкевіч. (Літ. і мастацтва, 23 студз.)

Сакавік, 15 — красавік, 10

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Ліст Я. І. Паўлава да ўкладальніка тома ад 10 сак. 1980.)

Чэрвень, 10

Узнагароджваецца Ганаровай граматай Савецкага Камітэта Абароны Міру за актыўную дзейнасць, звязаную з умацаваннем міру паміж народамі. (Ганаровая грамата.)

Ліпень ці жнівень

Па турысцкай пуцёўцы наведвае Англію. (Ліст да П. С. Кабзарэўскага ад 5 верас. 1960.)

Лістапад, 6

У «Літаратуры і мастацтве» публікуецца інтэрв'ю з І. Мележам пад загалоўкам «Пра дарогі векапомныя». Пісьменнік расказвае пра сваю творчую лабараторыю, задумы, планы.

Лістапад, 10 — чэрвень, 21 (1961)

Знаходзіцца разам з сям'ёй у Ялце (у пачатку лютага ездзіў у Маскву і наведаў Мінск). «Мы жили здесь, в Ялте, повсюду: были в Доме творчества, жили в гостиницах «Ореанда» и «Украина», на частных двух квартирах». (Ліст да Ф. І. Куляшова ад 21 мая 1961 і да К. І. Пятровай ад 16 лют. 1961.)

«Осенью и зимой 1980/61 года в Ялте ... работал над романом «Люди на болоте», завершил здесь его, отсюда послал его в редакцию журнала». (Ліст да Я. І. Паўлава ад 25 студз. 1963.)

Частае і працяглае знаходжанне Мележа ў Крыму вымушала захворванне нырак. Урачы раілі яму на некалькі гадоў або назусім, перабрацца жыць на месца з найбольш спрыяльнымі для здароўя кліматычнымі ўмовамі, на што Іван Паўлавіч катэгарычна адмовіўся. (Інфармацыя Лідзіі Якаўлеўны Пятровай.)

На працягу года

Напісаў уступны артыкул да зб. «Што ён за чалавек» (1961) пад назвай «Гартаючы старонкі...».

**1961**

Люты, 14

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе ўрывак з рамана «Людзі на балоце» пад загалоўкам «Раніца».

Сакавік

У «Работніцы і сялянцы», № 3 публікуе аднайменны ўрывак з першай дзеі п'есы «У новым доме».

Красавік

У «Беларусі», № 4 публікуе ўрывак з рамана «Людзі на балоце» пад назвай «Постаці з цемры».

Чэрвень, 9

У сям'і Мележа нарадзілася дачка Ларыса. Ліпень, да 19

Выйшла з друку кніга «Што ён за чалавек».— Мн.: ДВБ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам жонцы і дачцэ Ларысе.— Гл. ПА: Пятрова Л. Я.)

Жнівень — кастрычнік

У «Полымі», № 8, 9, 10 публікуе раман «Людзі на балоце».

Верасень, да 7

Выйшаў з друку раман «Минское направление».— М.; Л.: Госиздат. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам. С. В. Сартакову.— Гл. ПА: Сартакоў С. В.)

Верасень, 10

У «Советской Белоруссии» публікуе ўрывак з рамана «Людзі на балоце» пад загалоўкам «Начало наступлення». Пер. І. Клімашэўская.

Кастрычнік, 17

У «Советской Белоруссии» публікуе артыкул «Хорошая пора» да адкрыцця XXII з'езда КПСС.

У «Колхозной правде» публікуе невялікі артыкул «Когда думаешь о жизни».

Кастрычнік, 26

У «Литературной газете» публікуе нататку «Эпопея нашей жизни» да XXII з'езда КПСС.

Лістапад, 17

Выступае на адкрытым партыйным сходзе СП БССР, прысвечаным вынікам XXII з'езда КПСС. (Літ. і мастацтва, 21 лістап.)

Лістапад, 24

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: На пашыраным пасяджэнні прэзідыума СП БССР (21 лістай.) абмяркоўваўся раман І. Мележа «Людзі на балоце». Выступілі: Я. Брыль, І. Шамякін, А. Адамовіч, Т. Хадкевіч, В. Вітка, Я. Шарахоўскі, А. Васілевіч, І. Грамовіч, Я. Скрыган, А. Бялевіч, Н. Пашкевіч, Ф. Куляшоў. З выступлення Я. Брыля: «Людзі на балоце» — з'ява цікавая і радасная ў нашай літаратуры, кніга, бясспрэчна,— творчая ўдача І. Мележа. Сваім раманам пісьменнік ступіў далёка наперад у параўнанні з тым, што было напісана ім раней».

Снежань, 10

Выступае на адкрыцці Клуба пісьменніка і чытача, што быў арганізаваны пры Цэнтральнай кнігарні г. Мінска. (Літ. і мастацтва, 12 снеж.)

Снежань, 21

У «Звяздзе» публікуе артыкул «Крыніца творчасці» (паводле выступлення на партсходзе СП БССР ад 17 снеж.).

Снежань, да 22

Выступае на пашыраным пасяджэнні секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, што праводзілася сумесна з супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, прысвечаным праблемам беларускай літаратуры 20-30 гг. Уступнае слова — У. Юрэвіча. З дакладам выступіў Я. Усікаў. (Літ. і мастацтва, 22 снеж.)

**1962**

Студзень, I

У «Літаратуры і мастацтве» публікуюцца адказы І. Мележа на навагоднюю анкету рэдакцыі газеты ў падборцы «Задумы, планы...».

Люты, 22

У «Красной звезде» друкуе артыкул «Ответственность перед народом», прысвечаны 44-й гадавіне Савецкай Арміі і Ваенна-Марскому Флоту.

Сакавік

У «Работніцы і сялянцы», № 3 публікуе аднайменны ўрывак з рамана «Подых навальніцы».

Май, да 12

Выйшаў з друку раман «Людзі на балоце».— Мн.: ДВВ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам Я. Брылю.— Гл. ПА: Брыль Янка.)

Ліпень, 13

Сустракаецца ў Мінску з вучнямі Дварышчанскай! СШ. (Ліст Л. А. Сушчанкі да ўкладальніка тома ад 21 лістап. 1980.)

Ліпень, да 31

Прымае ўдзел у сустрэчы разам з Я. Маўрам, П. Пестракам, П. Глебкам, Н. Гілевічам, Е. Лось, С. Грахоўскім, К. Кірэенкам з настаўнікамі беларускіх школ Беластоцкага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі, якія прыехалі ў Беларусь на месячныя курсы павышэння кваліфікацыі па бел. мове, літаратуры і гісторыі Беларусі. (Літ. і мастацтва, 31 ліп.)

Жнівень, 7

Наведвае ў Глінішчы бацькоў, родных. Заязджае да родных у Людзвін, сустракаецца з Л. А. Сушчанкам і вучнямі Дварышчанскай СШ. Вечарам адбылася сустрэча з чытачамі Казялушскай сельскай бібліятэкі. (Ліст Л. А. Сушчанкі да ўкладальніка тома ад 21 лістай. 1980.)

Жнівень, 8

Сустракаецца з чытачамі-землякамі ў Хойніцкім раённым Доме культуры. Даклад аб жыцці і творчым шляху пісьменніка зрабіў

настаўнік І. Г. Будзько. (Сов. Белоруссия, 24 жн.; Успаміны пра Івана Мележа, с. 129.)

Жнівень, 10

Прымае ўдзел у чытацкай канферэнцыі па раману «Людзі на балоце» ў Дзяржынскай раённай бібліятэцы. Выступае з заключным словам. (Лісты заг. бібліятэкі Б. С. Сівашынскай да І. Мележа ад 17 ліп. і 6 жн.)

Жнівень, пасля 10

Знаходзіцца ў Маскве ў сувязі з падрыхтоўкай да першага выдання на рус. мове рамана «Людзі на балоце» («Сов. писатель»). «Сядзеў у Маскве. У «Украіне» дарабляў з Часнаковай пераклад. Нарэшце, здаецца, давялі да канца. Паўгода ўбіў за нішто часу». (З запісной кніжкі.)

Жнівень, 28

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе ўрывак «Кончана ўсё тое...» з рамана «Звер сочыць з зарасніку» (так першапачаткова пісьменнік называе раман «Подых навальніцы»).

Жнівень

У час. «Савецкая літаратура», № 8 (на англ., ням., ісп., польск. мовах) публікуюцца раздзелы з рамана «Людзі на балоце». Ад рэдакцыі — бібліяграфічная даведка пра пісьменніка.

Верасень, 9

Працуе над успамінамі пра родны кут «Не цьмее ў памяці». (Рукапіс з датай: «9.9.62 г.».)

Кастрычнік, да 23 — лістапад, да 7

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў, (Ліст да О. А. Йыгі ад 5 лістап.)

Кастрычнік, 23

Выступае на адкрыцці мемарыяльнай дошкі М. Багдановічу ў Ялце па вуд. Камунараў на доме, дзе пісьменнік правёў свае апошнія дні жыцця. (Літ. і мастацтва, 30 кастр.; Рукапіс з паметай: «Выступление 23.10.62 г. (на открытии мемориальн. доски Богдановичу)»).

Лістапад, 14-20

Прымае ўдзел у Днях чэхаславацкай культуры, што праходзілі ў Беларусі. Выступае з прамовай аб культурных сувязях Чэхаславакіі і Беларусі на ўрачыстым вечары ў тэатры оперы і балета БССР, прысвечаным савецка-чэхаславацкай дружбе. Даклад зрабіў старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы М. В. Дарашэвіч. (Літ. і мастацтва, 16 лістап.)

Лістапад, пасля 15

Прымае ўдзел у Свяце кнігі, што адбылося ў Магілёве. Выступае на чытацкай канферэнцыі па раману «Людзі на балоце», перад студэнтамі Магілёўскага педінстытута, сустракаецца з рабочымі завода штучнага валакна. (Літ і мастацтва, 11 снеж.)

Лістапад, 27

Выступае на пасяджэнні секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, прысвечаным праблемам сучаснага беларускага рамана. Даклад зрабіў В. Каваленка. (Літ. і мастацтва, 30 лістап.)

Лістапад, 28

У «Сельской газете» публікуе ўрывак «Материнская тревога» з рамана «Подых навальніцы».

Лістапад

У «Полымі», № 11 публікуе старонкі з аўтабіяграфіі «Трохі згадак і думак».

Лістапад — снежань

У «Дружбе народов», № 11, 12 публікуе раман «Люди на болоте». Пер, М. Гарбачоў.

Снежань, да 25

Выступае на літаратурным вечары ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна, прысвечаным 40-годдзю час. «Полымя». (Літ. і мастацтва, 25 снеж.)

Снежань, 30

Пастановай Савета Міністраў БССР прысуджаецца рэспубліканская літаратурная прэмія імя Якуба Коласа за раман «Людзі на балоце». (Літ. і мастацтва, 1963, 8 студз.)

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Люди на болоте».— М.: Сов. писатель.

**1963**

Студзень, 16-20

Знаходзіцца ў Маскве па справах, звязаных з выданнем рамана «Людзі на балоце» ў «Роман-газете». (З запісной кніжкі. Запіс ад 16 і 19 студз.)

Студзень, пасля 20

Чытае карэктуру «Мінскага напрамку» на рус. мове (ДВБ). (З запісной кніжкі.)

Люты, 1

У «Литературной Украине» публікуе ўрывак «Жніво» з рамана «Людзі на балоце». Пер. А. Пятроўскі.

Люты, 14

Выступае на чытацкай канферэнцыі па раману «Людзі на балоце» ў бібліятэцы Палаца культуры прафсаюзаў. (З інфармацыі Р. П. Піўтарака.— Гл.: ПА.)

Люты

У «Работніцы і сялянцы», № 2 публікуе ўрывак «Ёсць і ў яе радасць» з рамана «Подых навальніцы».

Сакавік, 26-28

Удзельнічае ў рабоце IV пленума праўлення СП СССР, тэма якога: «За высокую ідэйнасць і мастацкае майстэрства савецкай літаратуры». Выступае з прамовай, якая надрукавана ў «Литературной газете», 28 сак. пад назвай «О смелости, которая городов не берет».

Сакавік

У «Роман-газете», № 5 друкуе раман «Люди на болоте». Слова пра аўтара — І. Шамякіна. Пер. М. Гарбачоў.

Красавік — май, да 10

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Паштоўка да А. І. Часнаковай ад красавіка.)

Май, 13

Узнагароджваецца граматай Узброеных Сіл СССР за вялікую работу ў ідэйна-эстэтычным выхаванні савецкіх воінаў і ў сувязі з 40-годдзем культурнага шэфства над Узброенымі Сіламі СССР, за подпісам камандуючага войск Беларускай ваеннай акругі генерала арміі В. Пянькоўскага. (Літ. і мастацтва, 28 мая.)

Май, 22 ці 23

Выступае на чытацкай канферэнцыі па раману «Людзі на балоце», што праводзілі студэнты і выкладчыкі Мазырскага педагагічнага інстытута. (Літ. і мастацтва, 4 чэрв.)

Май, пасля 22

Знаходзіцца ў Кіеве. «Аўтарызуе» ўкраінскі пераклад рамана «Людзі на балоце». (Ліст да Р. П. Піўтарака ад 1 чэрв.)

Май

Дае інтэрв'ю карэспандэнту Усесаюзнага радыё. (Машынапіс гутаркі з аўтарскімі праўкамі і паметай: «Інтэрв'ю карэспандэнту Усесаюзнага радыё», май, 1963».)

У «Вопросах литературы», № 5 друкуюцца адказы пісьменнікаў, у тым ліку і Мележа, на анкету часопіса пад агульным загалоўкам «Жизнь — источник творчества». Тэма анкеты: Што папярэднічае напісанню першай старонкі новага твора.

Чэрвень, 16

У «Правде» публікуюцца адказы пісьменнікаў, у тым ліку і Мележа, на анкету газеты пад агульным загалоўкам «Литература

живет идеалами коммунизма» (да Пленума ЦК КПСС па ідэалагічных пытаннях, 18-21 чэрв.). Анкета аб творчых планах і задумах пісьменнікаў.

Чэрвень, пасля 16

Удзельнічае ў чытацкай канферэнцыі па раману «Людзі на балоце», што адбылася ў Маладзечанскай раённай бібліятэцы. (Літ. і мастацтва, 16 ліп.)

Жнівень, 1

Выступае з прамовай на вечары да 50-годдзя з дня смерці Лесі Украінкі, што адбыўся ў Кіеве ў памяшканні тэатра рускай драмы імя Л. Украінкі. Вечар адкрыў уступнай прамовай А. Ганчар. Слова пра пісьменніцу сказаў М. Рыльскі. (Лит. газ., 3 жн.)

Верасень, 24

У газ. «Новае Палессе» друкуе нататку «Слова маім чытачам» да завочнай чытацкай канферэнцыі Тураўскай гарпасялковай бібліятэкі і газ. «Новае Палессе» па раману «Людзі на балоце».

Кастрычнік, да 5

Выйшаў з друку ў Дзяржвыдаце УССР раман «Людзі на. балоце». Пер. А. Пятроўскі. (Паштоўка да Р. П. Піўтарака ад 5 кастр.)

Кастрычнік, 24 — лістапад, 4

Адбылася рэспубліканская нарада маладых літаратараў, скліканая Саюзам пісьменнікаў і ЦК камсамола Беларусі. Пачынаючыя празаікі, паэты і драматургі сустрэліся з К. Крапівой, П. Броўкам, П. Глебкам, М. Танкам, П. Панчанкам. Пра свой творчы вопыт расказалі маладым літаратарам Я. Брыль, М. Лужанін, І. Мележ, Я. Скрыган. (Полымя, № 12.)

Кастрычнік, 29

Напісаў прадмову да фінскага выдання «Людзей на балоце» пад назвай «Некалькі слоў папярэдне». (Рукапіс прадмовы з датай: «29.10.63 г.».)

Кастрычнік

У «Беларусі», № 10 друкуе ўрывак з рамана «Подых навальніцы» пад назвай «Няхай яно згарыць!».

Лістапад, 15

Запісваецца на беларускім радыё — інтэрв'ю карэспандэнту апошніх паведамленняў. (Рукапіс інтэрв'ю: «Адказваць справаю на ўвагу партыі і народа»; З запісной кніжкі.)

Лістапад, 23

На ўкраінскім радыё запісвае выступленне. (Рукапіс выступлення з паметай: «Выступл. па ўкр. радыё. Запіс. 23.XI.63 г.».)

Снежань, 1, 3, 4, 7, 8

У «Сельской газете» друкуе раздзел з рамана «Навальніца над полем» пад загалоўкам «Лето было грозовое...». Пер. І. Клімашэўская.

Снежань, 5-22

У складзе савецкай пісьменніцкай дэлегацыі (Л. Навічэнка, Я. Ісаеў, І. Стаднюк, Т. Міронава) наведвае Чэхаславакію. 12 снеж. пасольствам СССР у Празе запрошаны на прыём у сувязі з 20-й гадавінай дагавора аб дружбе і ўзаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж СССР і ЧССР. (Лит. газ., 12 снеж.)

Снежань

У «Полымі», № 12 публікуе артыкул «Слова да таварыша, якое я хацеў бы сказаць на юбілейным вечары» да 50-годдзя з дня нараджэння А. Кулакоўская.

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Минское направление».— Мн.: ДВБ. Пер. Л. Ракоўскі.

**1964**

Студзень, 5

У Брэсцкай абласной газеце «Заря» друкуе аднайменны ўрывак з рамана «Людзі на балоце».

Студзень, 8

У «Красной звезде» друкуе віншавальную нататку «Любите ратный труд» да 40-годдзя выхаду першага нумара газеты.

Студзень — люты

У «Полымі», № 1, 2 друкуе першую частку рамана «Навальніца над полем». (Пазнейшая назва — «Подых навальніцы».)

Сакавік, пасля 15 — май, 18 (?)

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. Працуе над раманам «Подых навальніцы». (Паштоўка да А. І. Пятроўскага ад 27 сак.; Ліст да П. М. Нікіціча ад 8 мая.)

Красавік, 7

У «Советской Белоруссии» друкуе ўрывак «Гроза над полем» з рамана «Подых навальніцы».

Чэрвень, 5

У «Літаратуры і мастацтве» друкуецца гутарка У. Юрэвіча з Мележам пад загалоўкам «У творчай трывозе».

Ліпень, 10

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе ўрывак «Дарогі і людзі» з другой часткі рамана «Подых навальніцы».

Жнівень

У час. «Произведения и мнения», № 8 (на франц. мове) публікуецца ўрывак з рамана «Людзі на балоце».

Верасень, 25-26

Выступае на пленуме праўлення СП БССР, прысвечаным праблемам развіцця сучаснага беларускага рамана. Даклад зрабіў І. Навуменка. (Літ. і мастацтва, 29 верас.)

Кастрычнік, 14-18

Удзельнічае ў Кіеве ва ўрачыстасцях, прысвечаных 20-й гадавіне вызвалення Украіны ад фашысцкіх захопнікаў. (Успаміны пра Івана Мележа, с. 289; Запрашэнне.)

Лістапад, да 25

Выйшаў з друку раман «Людзі на балоце».— Талін: Ээсці раамат. Пер. О. Йыгі. (Ліст О. А. Йыгі да І. Мележа ад 25 лістап.)

Снежань, 9-30

Адпачывае ў падмаскоўным санаторыі «Пушкіна». (Санаторна-курортная кніжка М 2742.)

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Люди на болоте».— Мн.: ДВВ. У перакладзе на рус. мову Н. Кісліка.

**1965**

Студзень, пасля 22 — люты, да 3

У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў (Л. Дзміцерка, К, Кавальджы) па запрашэнню румынскіх пісьменнікаў і ў адпаведнасці з пагадненнем аб культурным супрацоўніцтве паміж СССР і Румыніяй наведвае Румынскую Сацыялістычную рэспубліку. (Лит. газ., 2 лют.)

Красавік, 4

У «Гомельскай праўдзе» друкуе ўрывак «Кіно ў Куранях» з рамана «Подых навальніцы».

Май, да 10

Удзельнічае ў сустрэчы ветэранаў 70-га артпалка, прысвечанай 20-годдзю Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй. Сустрэча адбылася ў г. п. Лёзна Віцебскай вобл. (З інфармацыі М. Г. Крылова.— Гл.: ПА.)

Май, 18

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: У Мінску ў Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў адбылася сустрэча выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры рэспублікі з пісьменнікамі: І. Мележам, І. Шамякіным, Я. Брылём, А. Кулакоўскім, С. Грахоўскім, В. Віткам, Г. Бураўкіным і інш.

Да 20 мая

Выйшла з друку кніга: К. Чорны. Третье поколение: И. Мележ. Люди на болоте.— М.: Известия. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам Ф, Куляшову.— Гл. ПА: Куляшоў Ф. І.)

Май, 22

У «Литературной газете» друкуе артыкул «Пример писателям» да 60-годдзя з дня нараджэння М. А. Шэлахава.

Чэрвень, 27, 29 — ліпень, 1, 2, 4, 7, 9, 11, 13

У «Сельской газете» публікуе аднайменны ўрывак (раздзел) з рамана «Подых навальніцы». Пер. І. Клімашэўская.

Ліпень

Адпачывае на Рыжскім узмор'і. (Устаноўлена на аснове памет на некаторых рукапісах: «Рыжзк, узм.».)

Жнівень, 27

Дапісвае апошнія радкі рамана «Подых навальніцы». «Закончыў раман $12^{45}$ дня. Кропка. (Не бачыў лета. Стаміўся)». (З запісной кніжкі.)

Верасень — лістапад

У «Полымі», № 9, 10, 11 друкуе працяг і заканчэнне рамана «Подых навальніцы». (Гл.: 1964, Студзень — люты.)

Лістапад, 10

У «Правде» публікуе артыкул «Времена года».

Лістапад, 10 — снежань, да 5 (?)

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Ліст да Д. М. Кавалёва ад 9 лістап.)

Лістапад, пасля 19 — снежань, 3

Чытае 1-ю карэктуру рамана «Подых навальніцы» (выд-ва «Беларусь»). (Карэктура № 1146, 19.XI.1965. У канцы яе пазначана: «Прачытаў — Іван Мележ. 3.XI1.65 г.».)

Лістапад, 23

У «Советской Белоруссии» публікуе аднайменны ўрывак з рамана «Подых навальніцы».

Снежань

У час. «Произведения и мнения», № 12 публікуецца ў перакладзе на франц. мову артыкул «Не оставаться должниками».

На працягу года

Выйшлі з друку: Людзі на балоце.— Мн.: Беларусь; Людзі на балоце.— Кішынёў: Карця малдавеняскэ; Людзі на балоце.— Петразаводск; Масква: Прагрэс.

**1966**

Студзень, 25

Выступае з дакладам «Вялікі пісьменнік і друг» на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння французскага пісьменніка Рамэна Ралана. Вечар адбыўся ў Мінску ў Акруговым Доме афіцэраў. Уступнае слова П. Броўкі. (Літ. і мастацтва, 28 студз.)

У гэтым жа нумары «Літаратуры і мастацтва» надрукаваны даклад Мележа на вечары пад загалоўкам «Чалавек чалавецтва».

Красавік, 7

Выступае разам з С. Грахоўскім на сустрэчы з былымі выпускнікамі філфака Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. (Успаміны пра Івана Мележа, с. ЮЗ.)

Красавік, 19

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: У выд-ве «Беларусь» выйшаў з друку раман «Подых навальніцы».

Красавік

Ва ўзбекскім час. «Шарк юлдузи», № 4 публікуецца апавяданне «Адна». Пер. Э. Мірабідаў.

У час. «Амудар'я», № 4 на каракалпачкай мове публікуецца апавяданне «У завіруху». Пер. А. Кавалаў. (Летапіс друку БССР.)

Май, 12—14

Удзельнічае ў рабоце V з'езда пісьменнікаў Беларусі (Палац культуры прафсаюзаў). Выступае ў спрэчках па дакладу П. Броўкі «Партыйнасць і народнасць — галоўная лінія беларускай мастацкай літаратуры».

Абіраецца членам прэзідыума і сакратаром праўлення СП БССР. (Літ. і мастацтва, 13, 17, 20 мая.)

Май

У «Маладосці», № 5 публікуецца гутарка з Мележам карэспандэнта часопіса пад загалоўкам «Бачыць глыбока і шырока» (да выхаду з друку рамана «Подых навальніцы»). Гутарку вёў А. Гардзіцкі.

Чэрвень, 15-18

Працуе над замалёўкамі «Пэўна, праб'ецца», «Веснавы цвет», «Парастак», «Бацькі і дзеці», «Сосны на строме», «Чамусьці радаснае мора», «Як паміраюць дрэвы», «Шторм», «Хочацца падулсацца». (Рукапіс з паметай: Дача. Ждановічы.)

Ліпень, 8

У «Правде» публікуе ўрывак «Утренний свет» з рамана «Подых навальніцы». Пер. Д. Кавалёў.

Жнівень

Некаторы час знаходзіцца ў стацыянары лечкамісіі — ныркавая коліка. (Ліст да Д. М. Кавалёва ад 4 верас.)

Верасень, 16 — кастрычнік, 9

Адпачывае ў Місхоры ў санаторыі «Беларусь». (Санаторна-курортная кніжка.)

Верасень

У час. «Советский воин», № 18 друкуе ўрывак «Апейкины заботы» з рамана «Подых навальніцы». Пер. Д. Кавалёў.

Кастрычнік, 5-12

Прымае ўдзел у Тыдні таджыкскай літаратуры ў Беларусі. 12 кастр. выступае ў Саюзе пісьменнікаў на сустрэчы беларускіх і таджыкскіх пісьменнікаў. (Літ. і мастацтва, 7, 11, 14.)

Кастрычнік, 26 — лістапад, да 10

У складзе савецкай дэлегацыі наведвае Францыю. (Ліст да Л. Я. Пятровай ад 5 лістап.)

З запісной кніжкі: «Парыж 26.X.66 г.; 27.X,— Крэмлен-Біссэтр; 28.X-I.XI — Ліён; 6.XI-66 — Ларыян».

Лістапад, 16-19

Прымае ўдзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў Украіны. Уступная прамова — П. Тычыны. Даклад зрабіў А. Ганчар. У адзін з дзён работы з'езда Мележ выступіў з прамовай. (Літ. і мастацтва, 18 лістап.)

Лістапад, да 27

Выйшла кніга «Свидание за городом».— М.; Л.: Худож. лит. (Ліст да У. С. Аранскага ад 27 лістап.)

Лістапад, да 29

Выйшаў з друку раман «Людзі на балоце».— Рыга: Ліесма. Пер. Ю. Ванаг. (Ліст Ю. П. Ванага да І. Мележа ад 10 снеж.)

Лістапад, 29

Выступае ў спрэчках па дакладу І. Навуменкі на справаздачна-выбарчым сходзе секцыі прозы СП БССР. (Літ і мастацтва, 2 снеж.)

Снежань, 20

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: Выйшаў з друку зб. апавяданняў І. Мележа «В горах дожди».— М.: Правда.

На працягу года

Выйшлі з друку: Людзі на балоце (Бухарэст); Хто прыйшоў уночы.— Мн.: Беларусь; Мінскі напрамак.— Кіеў: Рад. письменник. Пер. А. Пятроўскі.

**1967**

Студзень, 2-6

Знаходзіцца ў Маскве па справах, звязаных з выданнем на рус. мове «Подыху навальніцы». (З запісной кніжкі.)

Студзень, пасля 7

Правіць «Мінскі напрамак», рыхтуе яго для Збору твораў: «17 студзеня. Сяджу ўсе дні дома. Перакладаю і праўлю «Мінскі напрамак». Акрамя праўкі дапаўненні. 20 студзеня. Пачаў раздзел — Чарнях. на камандным пункце. Калі пачалося наступленне. Атрымліваецца нешта прыстойнае. Ва ўсякім разе, лепшае за тое, што было». (З запісной кніжкі)

Студзень, 25-26

Удзельнічае ў другой Усесаюзнай канферэнцыі Савецкіх таварыстваў дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі (Масква, Крамлёўскі тэатр). (Звязда, 26 студз.)

Люты, 28

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: У сваіх выбаршчыкаў пабываў пісьменнік Іван Мележ. Мнагалюдны сход адбыўся ў клубе саўгаса «Людзяневічы» Жыткавіцкага р-на. Давераная асоба — настаўнік мясцовай СПІ М. Адліванаў — расказаў аб жыццёвым і творчым шляху пісьменніка. Сустрэчы адбыліся таксама ў саўгасах «Ленінскі» і «Случ».

Сакавік, 3

Выступае з заключным словам на аб'яднаным пасяджэнні секцый прозы і крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, прысвечаным абмеркаванню празаічных твораў мінулага года. Даклады зрабілі В. Каваленка і Д. Бугаёў. (Літ. і мастацтва, 14 сак.)

Сакавік, 7

У «Літаратуры і мастацтве» друкуе жалобныя словы «Балюча думаць...» з выпадку смерці народнага артыста СССР Г. П. Глебава.

Сакавік, 12

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 264 Гомельскай вобл. (Звязда, 16 сак.)

Сакавік, 22

Адкрывае ўступным словам літаратурны вечар у клубе СП БССР, прысвечаны 125-й гадавіне з дня смерці французскага пісьменніка Стэндаля. Даклад пра жыццёвы і творчы шлях Стэндаля зрабіў Н. Лапідус. (Літ. і мастацтва, 28 сак.)

Сакавік, 23

У «Звяздзе» друкуе артыкул «Нашы клопаты і надзеі» (пра беларускую літаратуру ў юбілейным годзе).

Сакавік, да 27

У бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылося абмеркаванне раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». І. Мележ выступіў з заключным словам — расказаў чытачам аб рабоце над раманамі, падзяліўся

сваімі планамі і задумамі, адказаў на пытанні. (Літ. і мастацтва, 28 сак.)

Сакавік, да 28

Выступае на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР. Абмяркоўваліся планы работы ў юбілейным годзе органаў друку пісьменніцкай арганізацыі. Са справаздачамі выступілі ад «Полымя» — А. Бачыла, ад «Маладосці» — А. Асіпенка, ад «Немана» — Г. Папоў, ад «Беларусі» — М. Калачынскі, ад «Літаратуры і мастацтва» — Н. Пашкевіч. (Літ. і мастацтва, 28 сак.)

Сакавік, 31

Прымае ўдзел у вечары кароткага апавядання ў СП БССР, дзе пісьменнікі прачыталі свае творы і абмяняліся пра іх думкамі. (Літ. і мастацтва, 4 крас.)

Красавік, да 4

Выйшаў з друку ў выд-ве «Беларусь» раман «Люди на болоте». Пераклад Н. Кіс Ліка. (Літ. і мастацтва, 4 крас.)

Красавік, 15 — май, 10

Адпачывае ў Трускаўцы ў санаторыі «Крышталёвы палац». (Санаторна-курортная кніжка.)

Май, 22—27

Удзельнічае ў рабоце IV з'езда пісьменнікаў СССР. Уступнай прамовай з'езд адкрыў першы сакратар праўлення СП СССР К. А. Федзін. З дакладамі выступілі: аб прозе — Г. Маркаў, пра паэзію — М. Дудзін, пра драматургію — А. Салынскі, пра літаратурную навуку і крытыку — Л. Навічэнка, пра дзіцячую і юнацкую літаратуру — С. Міхалкоў. Ад беларускай пісьменніцкай арганізацыі выступілі П. Броўка і М. Танк.

Беларуская дэлегацыя ўсклала вянкі — на магілу Невядомага салдата і да помніка А. М. Горкаму. (Літ. і мастацтва, 23, 25, 27, 30 мая.)

Май — ліпень

У «Дружбе народов», № 5, 6, 7 друкуе раман «Дыхание грозы». Пер. Д. Кавалёў.

Чэрвень, 1-9

Прымае ўдзел у Дэкадзе ўзбекскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі. (Літ. і мастацтва, 2, 6, 9, 13 чэрв.)

Чэрвень, 27

Удзельнічае ў сходзе актыву Мінскай абласной партыйнай арганізацыі. Даклад «Вынікі чэрвеньскага (1967) Пленума ЦК КПСС і задачы партыйных арганізацый» зрабіў П. М. Машэраў. (Звязда, 28 чэрв.; Мандат № 348.)

Ліпень, 19

Прымае ўдзел у Дні кнігі Беларусі, што праводзіўся на Міжнароднай выстаўцы ў Сакольніках (Масква). Свята беларускай кнігі адкрыў намеснік старшыні Камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР Г. М. Марцірасян. Ад беларускай дэлегацыі выступіў Г. В. Канавалаў — старшыня Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. Перад чытачамі выступілі беларускія пісьменнікі: І. Мележ, С. Грахоўскі, У. Дубоўка, М. Аўрамчык, Е. Лось. (Літ. і мастацтва, 21 ліп.)

Ліпень, 25

У балгарскай газ. «Отечествен фронт» друкуецца апавяданне «На скрыжаванні».

Жнівень, 15

Прымае ўдзел у агульнагарадскім вечары ў гонар 450-годдзя беларускага кнігадрукавання (Белдзяржфілармонія). Адкрыў вечар першы сакратар Мінскага гарадскога камітэта партыі Л. Мятліцкі. З дакладам «Францыск Скарына — заснавальнік беларускага кнігадрукавання» выступіў П. Броўка. (Літ. і мастацтва, 18 жн.)

Кастрычнік, 21

Удзельнічае ў рабоце аб'яднанага пленума праўленняў творчых саюзаў і арганізацый СССР і РСФСР, прысвечанага 50-й гадавіне Вялікага Кастрычніка. (Вечерняя Москва, 21 кастр.)

Кастрычнік, да 22

Выйшаў з друку раман «Дыхание грозы».— М.: Сов. писатель. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам Д. Кавалёву.— Гл. ПА: Кавалёў Д. М.)

Кастрычнік, 28

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджваецца ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўны ўдзел у камуністычны ад выхаванні працоўных. (Звязда, 31 кастр.)

Кастрычнік

У «Беларусі», № 10 друкуе замалёўкі «Парастак», «Як паміраюць дрэвы», «Х ;чацца падужацца», «Трэба глядзець на сосны» пад агульным загалоўкам «Свет поўны цудаў: Крымскія малюнкі».

Лістапад, 5

Удзельнічае ва ўрачыстым пасяджэнні ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР, якое праводзілася сумесна з партыйнымі і савецкімі органамі Мінска і Мінскай вобл., прысвечаным 50-годдзю Вялікага Кастрычніка. (Літ. і мастацтва, 7 лістап.)

Лістапад, 15

Прымае ўдзел у сустрэчы беларускіх літаратараў у СП БССР з брыгадай супрацоўнікаў «Литературной газеты» ў складзе Я. Крывіцкага, В. Пашанай, У. Весялоўскага, І. Кейдатуса, Л. Озерава. Гаворка вялася пра новыя магчымасці «Литературной газеты» ў сувязі з яе новым аб'ёмам і перыядычнасцю, пра ўмацаванні кантактаў газеты з пісьменніцкімі арганізацыямі саюзных рэспублік, а таксама аб праблемах савецкай літаратуры, перспектывах яе далейшага развіцця. (Літ. і мастацтва, 17 лістап.)

Лістапад, 28 — снежань, 6

Удзельнічае ў рабоце рэспубліканскага семінара маладых паэтаў і празаікаў. 4 снеж. адкрывае ўступным словам вялікі вечар маладой паэзіі ў клубе СП БССР. (Літ, і мастацтва, I, 5 снеж.)

Снежань, 7

Адкрывае прэс-канферэнцыю ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, прысвечаную Дням французскай культуры ў Беларусі (7-13 снеж.). (Звязда, 8 снеж.)

У «Звяздзе» публікуецца гутарка карэспандэнта БелТА з Мележам як старшынёй прэзідыума Беларускага аддзялення таварыства «СССР — Францыя» пад загалоўкам «Сардэчна запрашаем французскія сябры!» да Дзён французскай культуры ў Беларусі.

У «Чырвонай змене» — інтэрв'ю пад загалоўкам «Яднае моцная дружба».

Снежань, 8

Выступае з дакладам «Культурныя сувязі БССР і Францыі» на ўрачыстым вечары, прысвечаным Дням французскай культуры ў Беларусі (Белдзяржфілармонія). Уступным словам вечар адкрыў старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі В. С. Смірноў. (Літ. і мастацтва, 12 снеж.; Звязда, 9 снеж.)

Снежань, 11

Адкрывае ўступным словам літаратурна-музычны вечар у БДУ, прысвечаны Дням французскай культуры ў Беларусі. Даклад «Літаратурныя сувязі СССР і Францыі» зрабіў Б. П. Міцкевіч. (Сов. Белоруссия, 12 снеж.)

Снежань, 15

У «Звяздзе» публікуе артыкул «Радасць збліжэння» да Дзён французскай культуры ў Беларусі.

Снежань, 25

Адкрывае ўступным словам сумеснае пасяджэнне секцый прозы і крытыкі СП БССР па абмеркаванню раманаў, аповесцей і апавяданняў, што апублікаваны за год у рэспубліканскім перыядычным

друку. Выступае таксама ў спрэчках па дакладах П. Дзюбайлы, М. Стральцова, В. Адамчыка. (Літ. і мастацтва, 29 снеж.)

**1968**

Студзень, 26

На пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР створана камісія па прыёму ў члены Саюза пісьменнікаў. Абіраецца старшынёй камісіі. (Літ. і мастацтва, 30 студз.)

Студзень, 30

Выступае ў спрэчках па дакладу А. Вярцінскага «Камуністы і выхаванне творчай моладзі» на адкрытым партыйным сходзе СП БССР. (Літ. і мастацтва, 2 лют.)

Люты, 6

Выступае на XXI канферэнцыі Мінскай гарадской арганізацыі КПБ (Акруговы Дом афіцэраў). Абіраецца членам гаркома партыі. (Звязда, 7 лют.)

Сакавік, 6

Адкрывае вечар-сустрэчу супрацоўнікаў рэдкалегіі час. «Дружба народов» (С. Баруздзін, М. Старшынаў, М. Луконін, Д. Самойлаў, А. Нікалаеў) з чытачамі, які адбыўся ў Мінску ў АДА. (Літ. і мастацтва, 8 сак.)

Сакавік, 13

Выступае ў спрэчках па дакладу старшыні секцыі прозы СП БССР А. Асіпенкі «Аб выніках творчага года» на справаздачна-перавыбарчым сходзе секцыі. Абіраецца членам бюро секцыі. (Літ. і мастацтва, 15 сак.)

Сакавік, пасля 26 — красавік, 27

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Ліст да Г. С. Шупенькі ад 29 крас.)

Сакавік, 27

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе артыкул «Дарога да вяршынь» да 100-годдзя з дня нараджэння М. Горкага.

Май, 13

Адкрывае ўступным словам вечар у СП БССР, прысвечаны 100-годдзю з дня выхаду ў свет кнігі Шарля дэ Кастэра «Легенда аб Уленшпігелі». Даклад «100-годдзе «Легенды аб Уленшпігелі» зрабіў Б. Міцкевіч. (Літ. і мастацтва, 14 мая.)

Чэрвень, 4-10

Прымае ўдзел у Тыдні беларускай літаратуры ў Ленінградзе. Выступае на сустрэчы з рабочымі завода імя Кірава. (Звязда, 5 чэрв.)

Чэрвень, 18-22

18 чэрв. на цеплаходзе разам з іншымі ўдзельнікамі аб'яднанага пленума СП СССР і СП РСФСР, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння А. М. Горкага, накіроўваецца на радзіму пісьменніка, дзе 21-22 чэрв. павінен быў адбыцца пленум. На цеплаходзе праводзіўся «круглы стол» «А. М. Горкі і мастацкі вопыт сучаснасці». Маршрут цеплахода: Масква — Яраслаўль — Кастрама — Горкі.

21 чэрв. пленум адкрыў сакратар праўлення СП СССР Г. Маркаў. З дакладам «Традыцыі А. М. Горкага і сучасная літаратура» выступіў сакратар праўлення СП СССР Б. Рурыкаў. (Лит. газ., 19, 26 чэрв.)

Ліпень, да 2

Выйшаў з друку раман «Дыхание грозы».— М.: Известия. (Па даце, якую паставіў Мележ пад дарчым надпісам на кнізе ў падарунак В. І. Малюгіну.)

Ліпень, 17

У «Литературной газете» (у «Літаратуры і мастацтве», 19 ліп.) публікуюцца словы жалобы «Не иссякнет криница нашей любви» з выпадку смерці К. Паўстоўскага.

Канец ліпеня

Сустракаецца з выбаршчыкамі Ленінскай выбарчай акругі № 264 Гомельскай вобл. Вечары адбыліся ў Жыткавіцкім, Тураўскім Дамах культуры, саўгасе «Случ». (Літ. і мастацтва, 2 жн.)

Ліпень

У час. «Савецкая літаратура», № 7 на ісп. мове публікуецца вялікі ўрывак з рамана «Подых навальніцы» з уступным словам аўтара «Да чытачоў рамана».

Жнівень, да 16

Выйшаў з друку раман «Подых навальніцы».— Талін: Ээсці раамат. Пер. О. Йыгі. (Ліст. О. А. Йыгі да І. Мележа ад 16 жн.)

Жнівень

Наведвае Талін разам з жонкай і дачкой Ларысай. (Ліст О. А. Йыгі да І. Мележа ад 13 верас.)

Верасень, да 17

Пастановай сакратарыята праўлення СП СССР зацвярджаецца членам створанага пры праўленні Савета па міжнародных пісьменніцкіх сувязях. (Афіцыйны ліст СП СССР да І. Мележа ад 17 верас.)

Верасень

Адпачывае ў Кіславодску. (З запісной кніжкі; Ліст да О. А. Йыгі ад 29 верас.)

Кастрычнік, 4

Выступае на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР. Гутарка вялася пра выданне ў выд-ве «Дніпро» анталогіі беларускай савецкай паэзіі ў 2-х тамах. У пасяджэнні прымаў удзел дырэктар украінскага выд-ва А. Бандура.

На пасяджэнні ішла таксама размова аб падрыхтоўцы да 60-гадовага юбілею нашай рэспублікі. (Літ. і мастацтва, 8 кастр.)

Кастрычнік, 12

Вітае на сустрэчы ў СП БССР гасцей з Польшчы — актывістаў галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. (Літ. і мастацтва, 15 кастр.)

Кастрычнік, 16

Выступае на вечары памяці Садрыддзіна Айні да 90-годдзя з дня нараджэння (Масква, Калонная зала Дома Саюзаў). Уступным словам вечар адкрыў А. Суркоў. (Лит. газ., 23 касір.; Рукапіс выступлення з паметай: «Выступление на вечере памяти С. Айна, Москва. Колонный зал. 16.Х.68».)

Снежань, 15-19

Удзельнічае ва ўрачыстасцях у Маскве, прысвечаных 50-годдзю БССР і КПБ. 17 снеж.— урачысты вечар у Калоннай зале Дома Саюзаў; 18 снеж.— сустракаецца з рабочымі завода імя Ліхачова, выступае на вечары беларускай літаратуры ў ЦДЛ. Вечар адкрыў Г. Маркаў; 19 снеж.— выступае на сустрэчы з выкладчыкамі і слухачамі Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. (Правда, 20 снеж.; Звязда, 20 снеж.)

Снежань, 25

У «Литературной газете» публікуе артыкул «Дорогами борьбы и труда» да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

Снежань, 28

Удзельнічае ва ўрачыстым пасяджэнні ЦК КПБ і Вярхоўнага Савета БССР з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый працоўных горада Мінска і воінаў Савецкай Арміі, прысвечаным 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. (Звязда, 29 снеж.; Запрашэнне.)

**1969**

Студзень, пасля 9 — да сярэдзіны лютага

Адпачывае ў Малееўцы ў Доме творчасці пад Масквой. (З запісной кніжкі.)

Студзень, да 15

Прымае ўдзел ва ўрачыстым пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння

К. Буйло. Вёў пасяджэнне намеснік сакратара праўлення па літаратурам народаў СССР М. Гарбачоў. Ад беларускай пісьменніцкай арганізацыі прымалі ўдзел у віншаванні таксама С. Шушкевіч і Н. Тарас. (Лит. газ., 15 студз.)

Студзень, 29

«Литературная газета» знаёміць чытачоў з творчымі планамі пісьменнікаў І. Мележа, Д. Ікрамі, С. Алешына, Н. Сафарава. Мележ гаворыць пра задуму «написать книгу о товарищах по оружию в то трудное время, о солдатах и командирах горно-артиллерийского полка...».

Сакавік, 25 — красавік, 2

Удзельнічае ў V Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў. Кіруе адным з семінараў нарады. (Лит. газ., 2 крас.)

Красавік, 9

«Литературная газета» публікуе інтэрв'ю з кіраўнікамі і ўдзельнікамі Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў пад агульным загалоўкам «Доброго пути, молодые!».

Мележ як адзін з кіраўнікоў семінара вядзе гаворку пра маладых пісьменнікаў Беларусі А. Кудраўца, В. Мысліўца, М. Капыловіча («О молодых прозаиках Белоруссии»),

Красавік

Рыхтуе да выдання 2-гі том Збору твораў — першую кнігу «Мінскага напрамку». (З запісной кніжкі.)

Май, 9, 13, 16, 20, 22

У «Звяздзе» публікуе новыя раздзелы з рамана «Мінскі напрамак» пад загалоўкам «Наперадзе Мінск».

Май

У «Роман-газете», № 9, 10 публікуе раман «Дыхание грозы». Пер. Д. Кавалёў.

Чэрвень, 18

«Литературная газета» публікуе інтэрв'ю з пісьменнікамі (М. Ціханаў, І. Мележ, Ф. Ніязі, Ю. Бондараў) — удзельнікамі Міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый (Масква) — у падборцы: «Историческое событие современности: Слово советских писателей» (Мележ публікуецца пад загалоўкам «Уверенно смотрим в будущее»).

Чэрвень, 19

Выступае на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР, прысвечаным пытанню аб сучасным стане беларускага апавядання. (Літ. і мастацтва, 24, 27 чэрв.)

Чэрвень, 26

Выступае на мітынгу ў Наваполацку, прысвечаным адкрыццю кнігарні. (Літ. і мастацтва, 4 ліп.)

Ліпень, 4

Прымае ўдзел ва ўрачыстым сходзе грамадскасці Мінска (Палац спорту), прысвечаным 25-годдзю з дня вызвалення сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З прамовай выступіў П. М. Машэраў. (Літ. і мастацтва, 8 ліп.)

Ліпень, 10

Удзельнічае ў пашыраным пленуме Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру. З дакладам «20-годдзе Сусветнага руху за мір і задачах савецкіх прыхільнікаў міру» выступіў намеснік старшыні Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру П. Ф. Глебка. Абіраецца старшынёй камітэта. (Сов. Белоруссия, 12 ліп.)

Ліпень, 21-29

У складзе савецкай дэлегацыі як член Савета па міжнародных пісьменніцкіх сувязях пры СП СССР знаходзіцца ў Польшчы на святкаванні 25-годдзя ўтварэння ПНР (22.VII.1944). (Лит. газ., 30 ліп.)

З запісной кніжкі: «Паездка ў Польшчу. Варшава, Кракаў. Закапанэ, Асвенцім.

У Варшаве — паездка па горадзе (Старэ място, цэнтр, Лазенкі, Вілянув, Вісла). 22 — на плошчы парадаў у Варшаве глядзелі парад і дэманстрацыю спартсменаў. 23-га прыём у Саюзе пісьменнікаў. Вечарам тэатр. 24-га выехалі ў Кракаў. На наступны дзень агледзелі Кракаў. Марыяцкі касцёл, Ягелонскі універсітэт, карцінная галерэя, Вавель. У Вавелі — магілы — Міцкевіча, Славацкага, Пілсудскага... На другі дзень — Пароніна (музей Леніна). Завярнулі на «Марское вока». Дзівосныя пейзажы Татраў. Паўз самую граніцу з Чэхасл.<авакіяй> ехалі ў Закапанэ... Вярнуліся ў Кракаў увечары. У нядзелю — у Асвенцім. Жахлівы лагер. Відовішча жахаў. Вечарам дачасна ў Варшаву. Справы цягнуць дадому. 28 — у Варшаве... 29 — дадому».

Жнівень, да 11

Выйшаў з друку ў выд-ве «Беларусь» першы том Збору твораў у 6-ці тамах.— Ваенны дзённік, апавяданні, аповесці. Уступны артыкул І. Навуменкі. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам Ф. Куляшову.— Гл. ПА: Куляшоў Ф. І.)

Верасень, 18-20

Прымае ўдзел ва ўрачыстасцях у Ерэване да 100-годдзя з дня нараджэння армянскага паэта Аванеса Туманяна. 19 верас, адбыўся аб'яднаны пленум праўленняў СП СССР і СП Арменіі, прысвечаны гэтай даце. Уступнай прамовай пленум адкрыў сакратар праўлення

СП СССР С. Баруздзін. Даклад пра жыццёвы і творчы шлях Туманяна зрабіў С. Нараўчатаў. (Лит. газ., 24 верас.)

Верасень, 25

Скончыў чытаць карэктуру 2-га тома Зб. твораў: «Прачытаў. Выправіў да друку. Іван Мележ 25.IX.1969». (Карэктура. Зб. тв. у 6-ці т.— Мінскі напрамак. Кніга 1-я, т. 2.)

Верасень

У час. «Век XX и мир», № 9 паведамляецца: Мележ абраны членам Сусветнага Савета Міру.

Кастрычнік, 4

У «Советской Белоруссии» публікуецца гутарка карэспандэнта газеты з Мележам як сакратаром праўлення СП БССР пад загалоўкам «Сардэчна вітаем!» пра творчыя сувязі і дружбу літаратараў Беларусі і Расіі ў сувязі з прыездам у Беларусь пісьменнікаў РСФСР, якія выступяць на літаратурных вечарах, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Кастрычнік, 6-10

Удзельнічае ў літаратурных вечарах пісьменнікаў РСФСР у Мінску, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. (Сов. Белоруссия, 9 кастр.; Літ. і мастацтва, 10, 14 кастр.)

Кастрычнік, 7 — лістапад, 3

Адпачывае ў Крыму ў санаторыі «Днепр». (Санаторна-курортная кніжка № 2091.)

Лістапад, 14

Як член Сусветнага Савета Міру, старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру адкрывае ўступным словам агульнагарадскі мітынг моладзі, грамадскіх арганізацый, прысвечаны Дню міжнароднай мабілізацыі за супыненне вайны ў В'етнаме, які адбыўся ў зале БДУ.

На мітынгу прысутнічала дэлегацыя народа Паўднёвага В'етнама. (Сов. Белоруссия, 15 лістап.)

Лістапад, 18

Выступае з дакладам на пленуме СП БССР. На парадку дня: «Пад сцягам ідэй ленінізма» (беларуская літаратура да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна). Адкрыў пленум М. Танк. (Звязда, 21 лістап.)

Даклад апублікаваны ў «Літаратуры і мастацтве», 21 лістап. пад загалоўкам «На шырокай плыні жыцця і часу ».

Лістапад, 23

У «Правде» друкуе артыкул «Дыхание правды» з падзагалоўкам «Художник и время».

Снежань, 4

Адкрывае ўступным словам пашыранае пасяджэнне Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру, прысвечанае Заяве камуністычных партый і ўрадаў братніх сацыялістычных краін аб становішчы на Блізкім Усходзе. (Літ. і мастацтва, 5 снеж.)

Снежань, 10-11

Удзельнічае ў Маскве ў аб'яднаным пленуме праўленняў творчых саюзаў СССР — пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў з удзелам прадстаўнікоў тэатральных аб'яднанняў, саюзаў архітэктараў і журналістаў. На парадку дня: «Увасабленне ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці савецкай літаратуры і мастацтва». (Літ. і мастацтва, 12 снеж.)

Снежань, 24

Выступае з заключным словам на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР па пытанню «Ленінская тэма ў творчасці беларускіх пісьменнікаў». Адкрыў пасяджэнне Я. Скрыган. З дакладам выступіў І. Шамякін. (Літ. і мастацтва, 30 снеж.)

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Подых навальніцы».— Кіеў: Дніпро. Пер. Л. Пятроўскі.

**1970**

Студзень, 16

Прымае ўдзел у абмеркаванні работы бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР. (Літ. і мастацтва, 23 студз.)

Студзень, 27

Удзельнічае ў нарадзе-сустрэчы аўтараў, якія пішуць на вясковыя тэмы, што праводзіла рэдакцыя «Дружбы народов». Мэта сустрэчы: абмен думкамі пра стан сучаснай літаратуры, прысвечанай жыццю вёскі. (Ліст з «Дружбы народов» з паметай Мележа: «Адк. Прыеду».)

Студзень, 28

Выступае на чытацкай канферэнцыі ў Маскве (бібліятэка Палаца культуры аўтазавода імя І. А. Ліхачова) па раманах «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». (З запісной кніжкі; Запрашэнне.)

Студзень

Піша рэцэнзію для выд-ва «Беларусь» на зб. В. Адамчыка «Дзікі голуб» (1971). (З запісной кніжкі.)

Люты, да 20

Выступае ў спрэчках па дакладу А. Алешкі «Аб практыцы правядзення партыйных сходаў у Яраслаўскай гарадской партыйнай арганізацыі» на сходзе партарганізацыі СП БССР. (Літ. і мастацтва, 20 лют.)

Люты, 25

Выступае на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР з тэмай «Праўда жыцця і мастацкі вымысел» (з вопыту работы над раманамі «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»),

У «Літаратуры і мастацтве», 27 лют. пад загалоўкам «Творчы вопыт — калегам па пяру» друкуецца кароткі пераказ выступлення на секцыі.

Люты, 26

Прымае ўдзел у сустрэчы пісьменнікаў, журналістаў, работнікаў радыё і тэлебачання з маршалам В. І. Чуйковым у СП БССР.

Выступае з прывітальным словам, расказвае пра баявы шлях Чуйкова. (Літ. і мастацтва, 27 лют. Тут жа фотаздымак: І. Шамякін, І. Мележ, В. І. Чуйкоў у час сустрэчы.)

Сакавік, 11

Выступае на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР (Масква). Адкрыў пасяджэнне С. Баруздзін. Даклад аб беларускай прозе 1968-1969 гг. зрабіў старшыня Савета А. Аўчарэнка. (Літ. і мастацтва, 17 сак.)

Сакавік, пасля 14 — красавік, да 10

Адпачывае ў Доме творчасці пад Масквой. (З запісной книжки; Ліст да Г. М. Крылова ад сакавіка, пасля 14.)

Пачатак красавіка

Прымае ўдзел у рабоце сесіі прэзідыума Сусветнага Савета Міру, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна (Масква, Калонная зала Дома Саюзаў). 3 крас, выступае з прамовай. (Лит. газ., 8 крас.)

Красавік, 11

Прысутнічае на спектаклі «Людзі на балоце» ў пастаноўцы Мазырскага народнага тэатра (г. Мазыр). (З запісной кніжкі.)

Красавік, 15

Удзельнічае ў абмеркаванні стану сучаснага нарыса на пасяджэнні секцыі прозы СП БССР. Даклад зрабіла А. Лысенка. (Літ. і мастацтва, 24 крас.)

Красавік

Рэдакцыя «Вопросов литературы» прапанавала пісьменнікам розных краін адказаць на пытанні анкеты часопіса ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна. Анкета: Як уздзейнічала

Кастрычніцкая рэвалюцыя на развіццё савецкага і сусветнага прагрэсіўнага мастацтва? Якія бакі ленінскага вучэння аказалі найбольшы ўплыў на культуру, літаратуру XX стагоддзя? Як дапамагае зварот да ленінскіх прац у творчай практыцы? Адказы пісьменнікаў надрукаваны ў «Вопросах литературы», № 4 пад агульным загалоўкам «Неисчерпаемый источник вдохновения». (Мележ друкуецца на с. 73-76.)

Май 19-20

Выступае ў Маскве на Усесаюзнай нарадзе па ваенна-мастацкай літаратуры, арганізаванай СП СССР і Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і Ваенна-марскога Флоту. Уступнае слова — А. Суркова. З дакладам «Праблемы і задачы ваенна-мастацкай літаратуры» выступіў В. Кажэўнікаў. (Лит. газ., 27 мая.)

Чэрвень, 1

Прымае ўдзел ва ўрачыстым сходзе грамадскасці г. Мінска, прысвечаным Міжнароднаму дню абароны дзяцей (зала Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі). Даклад зрабіў намеснік міністра аховы здароўя БССР Л. П. Марынкевіч. (Сов. Белоруссия, 2 чэрв.; Запрашэнне з паметай: «Президиум».)

Чэрвень, 23

Адкрывае ўступнай прамовай урачысты вечар у тэатры імя Я. Купалы, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння К. Чорнага. З успамінамі выступілі П. Броўка, М. Паслядовіч, К. Кірэенка, І. Грамовіч. (Літ. і мастацтва, 26 чэрв.)

Чэрвень, 30

Удзельнічае ў пасяджэнні Савета па міжнародных пісьменніцкіх сувязях (СП СССР, Масква). Разглядалася пытанне асвятлення ў перыядычным друку праблем сучаснай зарубежнай літаратуры і публікацый твораў замежных пісьменнікаў. (Лит. газ., 8 ліп.)

Ліпень, 20-30

Прымае ўдзел у Днях савецкай літаратуры, што праходзілі ў Цюменскай вобл. Выступае на канферэнцыі, прысвечанай тэме «Працоўны подзвіг і літаратура». (Лит. газ., 22, 29 ліп., 5 жн.— фотаздымак: Іван Мележ з нафтавікамі Цюменскай вобл.)

Жнівень, 9

«Закончыў падрыхтоўку тома 6 Збору твораў («Подых навальніцы»)». (З запісной кніжкі.)

Верасень

У час. «Произведения и мнения», № 9 на франц. мове публікуюцца раздзелы з рамана «Подых навальніцы».

Кастрычнік, да 21

Выйшлі з друку 2-гі і 3-ці тамы Збору твораў у 6-ці тамах.— Мн.: Беларусь. (Ліст да С. Л. Кір'янава ад 21 кастр.)

Кастрычнік, 23

Выступае з дакладам на вечары ў Белдзяржфілармоніі, прысвечаным 25-гадавіне ўтварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Вечар адкрыў К. Крапіва. (Сов. Белоруссия, 25 кастр.)

Кастрычнік, 28

Адказвае на пытанні анкеты А. Адамовіча. (З запісной кніжкі.)

Кастрычнік

У «Вопросах литературы», № 10 у падборцы «Мастерство писателя» друкуе аўтабіяграфічны артыкул «Найти себя».

Лістапад, 9

Выступае на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР. Разглядаліся пытанні: аб скліканні рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў, аб скліканні пленума СП БССР па пытаннях сучаснага стану развіцця беларускай драматургіі, аб урачыстасцях, прысвечаных XXIV з'езду КПСС. (Літ. і мастацтва, 13 лістап.)

Лістапад, 11

У «Литературной газете» ў падборцы «Литературная мастерская» друкуе артыкул «Так рождаются сюжеты: Люди из Полесья».

Лістапад, 19

Прымае ўдзел ва ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю тэатра імя Я. Купалы. Вечар адкрыў міністр культуры БССР М. Мінковіч. Даклад пра творчы шлях першага беларускага прафесіянальнага драматычнага тэатра зрабіў дырэктар тэатра І. Міхалюта. (Літ. і мастацтва, 20 лістап.)

Снежань, 18

Узнагароджваецца Ганаровай граматай Камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры за шматгадовую плённую працу ў савецкім друку. (Ганаровая грамата.)

Снежань, да 22

Адпачывае ў Звенігарадзе пад Масквой. (Паштоўкі: У Дварышчанскую СШ ад 20 снеж. і да В. І. Смыкоўскай ад 22 снеж.)

Снежань, 25

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: Днямі ў Мінску гасціў французскі журналіст з час. «Францыя — СССР» Рэнэ Дзюшэ, які рыхтуе нумар часопіса, прысвечанага Мінску. У шчырай таварыскай гутарцы з Рэнэ Дзюшэ прынялі ўдзел Я. Брыль, А. Бачыла, А. Вярцінскі, І. Мележ, М. Ткачоў.

На працягу года

Выйшлі з друку: Люди на болоте. Дыханне грозы.— М.: Сов. Писатель; Подых навальніцы.— Мн.: Нар. асвета; У гарах дажджы.— на англ. мове (Мн.); Подых навальніцы.— Рыга: Ліесма.

**1971**

Студзень, 22

Сустракаецца з вучнямі б 5-й СШ г. Мінска. Запісваецца на радыё для перадачы за мяжу. (З запісной кніжкі.)

Люты, 5

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджваецца ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння. (Звязда, 9 лют.)

У «Литературной России» пад загалоўкам «Отцу, матери, отчей земле» публікуецца гутарка карэспандэнта газеты з Мележам пра яго творчыя планы (да 50-годдзя з дня нараджэння).

Люты, 8

У Доме мастацтваў адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння І. Мележа. Вечар адкрыў уступным словам М. Танк. Даклад зрабіў А. Кулакоўскі. (Літ. і мастацтва, 12 лют.)

Люты, 10-13

У складзе пісьменніцкай брыгады ўдзельнічае ў Днях літаратуры на Гомельшчыне.

10 лют.— пісьменнікі сустракаюцца з кіраўнікамі абкома партыі; прымаюць удзел у літаратурным вечары ў Гомельскім універсітэце.

11-12 лют.— паездка па маршруту Мазыр — Хойнікі: адбыліся сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі Мазырскага педінстытута, з рабочымі нафтаперапрацоўчага камбіната і «Мазырсельбуда», фабрыкі мастацкіх вырабаў у Хойніках, з калгаснікамі к-са «Рассвет» Хойніцкага р-на, а таксама з жыхарамі В. Глінішча.

13 лют.— у Гомельскай абласной бібліятэцы адбыўся заключны літаратурны вечар. (Літ. і мастацтва, 12 лют., 5 сак.)

Люты, 19

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: 15 лют. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С. О. Прытыцкі ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР уручыў ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга пісьменнікам І. П. Мележу і І. П. Шамякіну.

Красавік, 7

У «Литературной газете» ў падборцы «Корреспонденту «ЛГ» рассказывают: Литературная Белоруссия» і пад агульным загалоўкам «Мое сердце, мои строки...» публікуюцца нататкі І. Мележа, І. Шамя-

кіна, Я. Брыля, А. Макаёнка, Р. Барадуліна аб планах і задумах да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Красавік, 21

У «Литературной газете» публікуе віншавальны артыкул «Приверженность к эпосу» да 60-годдзя з дня нараджэння Г. Маркава.

Красавік, 26-27

Удзельнічае ў рабоце VI з'езда СП БССР (тэатр оперы і балета). Даклад зрабіў М. Танк. Мележ выступае ў спрэчках па дакладу. Абіраецца намеснікам старшыні праўлення СП БССР.

У «Літаратуры і мастацтве», 7 мая пад агульным загалоўкам «Дзеля новага ўздыму роднай літаратуры» публікуюцца выступленні І. Мележа, П. Броўкі, І. Шамякіна, В. Віткі і інш. на VI з'ездзе пісьменнікаў БССР.

Май, паміж 5 і 13

Вылучаецца калгаснікамі к-са імя Леніна Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл, кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Петрыкаўскай выбарчай акрузе. (Літ. і мастацтва, 14 мая.)

Май, 13-17

У складзе савецкай дэлегацыі (А. Карняйчук — кіраўнік дэлегацыі, М. Ціханаў, С. С. Смірноў) удзельнічае ў Асамблеі Сусветнага Савета Міру ў Будапешце (13-18 мая).

17 мая ў Будапешце выступае з прамовай на сустрэчы з грэчаскімі дэмакратамі. (Лит. газ., 19 мая; Рукапіс прамовы, з датай: «17. Ў.1971».)

Май, 19

У «Литературной газете» публікуецца артыкул «Солдаты мира» пра работу Асамблеі Сусветнага Савета Міру ў Будапешце. У канцы артыкула памета: «Будапешт. По телефону».

Чэрвень, 13

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Петрыкаўскай выбарчай акрузе Гомельскай вобл. (Літ. і мастацтва, 11, 18 чэрв.)

Чэрвень, 29 — ліпень, 2

Прымае ўдзел у рабоце V з'езда СП СССР (Масква, Вялікі Крамлёўскі палац). Абіраецца ў рэдакцыйную камісію з'езда. З'езд адкрыў М. С. Ціханаў. Са справаздачным дакладам выступіў Г. М. Маркаў. (Лит. газ., 30 чэрв.; Літ. і мастацтва, 2 і 9 ліп.)

Кастрычнік, 16 — канец снежня

Адпачывае ў Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Лісты: да С. Л. Губанава ад 3 лістап. і 23 снеж., да Ф. І. Куляшова ад 1 снеж.)

На працягу года

Выйшлі з друку: Зб. твораў у 6-ці т.— Мн.: Беларусь, т. 4, 5, 6; Подых навальніцы.—Мн.: Нар. асвета; Подых навальніцы.— Кішынёў: Карця Малдавеняскэ; Людзі на балоце.— Сафія: Народна култура.

**1972**

Студзень, 14

Выступае на пашыраным пасяджэнні рэдкалегіі «Літаратуры і мастацтва» з удзелам секцыі крытыкі і літаратуразнаўства і кіраўніцтва СП БССР. Тэма гаворкі: «Стан і задачы беларускай літаратурнай крытыкі». (Літ. і мастацтва, 21 студз.)

Люты, 16

Выступае з дакладам на пленуме праўлення СП БССР, які быў прысвечаны пытанню беларускай літаратурнай крытыкі. Уступным словам пленум адкрыў М. Танк.

У «Літаратуры і мастацтве», 18 лют. друкуецца даклад І. Мележа на пленуме пад загалоўкам «Крытыка — пярэдні край літаратуры». (У «Полымі», № 6 — «Клопаты і надзеі».)

Люты, 23

У «Литературной газете» друкуе нататку «Найти образ времени» да 80-годдзя з дня нараджэння К. А. Федзіна.

У «Літаратуры і мастацтве», 25 лют.— «Наш вялікі сябар».

Сакавік, 6

Як член Сусветнага Савета Міру, старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру выступае з дакладам «Актуальныя праблемы барацьбы за мір у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» на другой Беларускай рэспубліканскай канферэнцыі прыхільнікаў міру, якая адбылася ў Мінску. (Літ. і мастацтва, 10 сак.)

Красавік, 22

У «Правде» друкуецца Пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР аб прысуджэнні Ленінскіх прэмій 1972 года. У вобласці літаратуры — Мележу І. П., Шагінян М. С., Барто А. Л.

У «Чырвонай змене» публікуецца гутарка карэспандэнта газеты з Мележам да прысуджэння яму Ленінскай прэміі пад загалоўкам «Сталасць шчодрага таленту».

Красавік, 26

У «Литературной газете» пад агульным загалоўкам «Вдохновляющая награда Родины» публікуецца інтэрв'ю з лаўрэатамі Ленінскай прэміі 1972 года. Мележ выказвае словы вялікай удзячнасці партыі і ўраду за высокую ўзнагароду («Чтоб узнали внуки и правнуки»).

Красавік, 28

Адбылося ўручэнне лаўрэацкіх дыпломаў і значкоў у Свярдлоўскай зале Маскоўскага Крамля. Урачыстасць адкрыў старшыня Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у вобласці літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў СССР М. С. Ціханаў. Сярод узнагароджаных І. П. Мележ, М. С. Шагінян, А. Л. Барто, Ю. В. Бондараў, А. І. Курганаў. Мележ выступіў у адказ са словамі падзякі ў адрас ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР. (Лит. газ., 1 мая; Рукапіс выступлення з паметай: «Писано в гост. «Москва».)

Май, 1

У «Мінскай праўдзе» публікуецца гутарка з Мележам да прысуджэння яму Ленінскай прэміі пад загалоўкам «На быстрыні».

Май, 4

У газ. «Піянер Беларусі» друкуе ўрывак «Цераз Дзясну» з нарыса «Дарогі на ўсход і на захад».

Чэрвень, 2

У «Літаратуры і мастацтве» публікуецца падзяка І. Мележа ўсім тым, хто павіншаваў яго з прысуджэннем Ленінскай прэміі.

Чэрвень, паміж 16 і 22

Выступае на сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР, прысвечаным абмеркаванню Пастановы ЦК КПБ аб рабоце партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. (Літ. і мастацтва, 23 чэрв.)

Ліпень, 6

Выступае на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі твораў выяўленчага мастацтва, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння двух вялікіх песняроў Беларусі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. (Літ. і мастацтва, 14 ліп.)

Ліпень, 7

Удзельнічае ва ўрачыстым пасяджэнні грамадскасці рэспублікі (Мінск, тэатр оперы і балета), прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. (Літ. і мастацтва, 14 ліп.)

Ліпень, 13-16

Прымае ўдзел у Міжнароднай сустрэчы барацьбітоў за мір, якая праходзіла ў Мінску пад дэвізам «Хай ніколі не паўторыцца трагедыя Хатыні, Лідзіцэ, Арадура, Хірасімы, Сангмі». 15 ліп. выступае з прамовай на мітынгу ў Хатыні. (Літ. і мастацтва, 14 ліп.)

Ліпень, 19

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прысвойваецца ганаровае званне народнага пісьменніка Беларускай ССР. (Літ. і мастацтва, 21 ліп.)

Ліпень, 23-30

Удзельнічае ў Днях савецка-польскай дружбы і польскай культуры ў Беларусі. Выступае ў СП БССР на сустрэчы з выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры з Беластоцкага ваяводства ПНР. (Літ. і мастацтва, 28 ліп.)

Ліпень, 27

У газ. «Литературен фронт» (Сафія) публікуецца інтэрв'ю балгарскага карэспандэнта з Мележам пад загалоўкам «Жыццё, якое я зведаў».

Жнівень, да 11

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў прымае ўдзел у свяце Купалавай паэзіі ў Ленінградзе, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння паэта. У Доме пісьменніка імя У. Маякоўскага адбылася прэс-канферэнцыя. Вялікі літаратурны вечар прайшоў у Цэнтральным парку культуры і адпачынку. Беларускія пісьменнікі выступілі таксама на Неўскім машынабудаўнічым заводзе. (Літ. і мастацтва, 11 жн.)

Верасень, 5

У «Известии» ў падборцы «Встречи по Вашей просьбе» публікуецца інтэрв'ю з Мележам пад загалоўкам «Часть моего сердца». Гутарку вёў М. Матукоўскі.

Верасень, 12-17

Удзельнічае ў Тыдні літаратур народаў СССР у Беларусі, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР. (Літ. і мастацтва, 15, 22 верас.)

Верасень, 15

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе артыкул «Паэт, грамадзянін, чалавек» да 60-годдзя з дня нараджэння М. Танка.

Верасень, 17

Адкрывае ўступным словам вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння М. Танка, які адбыўся ў тэатры імя Я. Купалы. (Літ. і мастацтва, 6 кастр.)

Верасень, 22

У «Литературной России» публікуецца інтэрв'ю з Мележам пад загалоўкам «Счастливый дар судьбы». Гутарку вяла Л. Аганава.

Верасень

У літоўскім час. «Нямунас», № 9 публікуецца апавяданне «Спатканне за горадам» (з даведкай пра аўтара). Пер. І. Буйткус. (Летапіс друку БССР.)

Лістапад, пасля 20

Знаходзіцца ў Маскве ў сувязі з выданнем у выд-ве «Советский писатель» рамана «Мінскі напрамак». (Ліст да Н. Е. Вашчук ад 26 лістап.)

Снежань, да 12

Выйшла з друку кніга «Люди на болоте. Дыхание грозы».— М.: Худож. лит. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам В. Ламанаву.— Гл. ПА: Дамакаў В. М.)

Снежань, 20

У «Литературной газете» ў падборцы «Братство народов — братство литератур» друкуюцца артыкулы пісьменнікаў краіны да 50-годдзя ўтварэння СССР. Артыкул Мележа — «Прекрасен наш союз». (Пазнейшая назва — «Аб граніцах, памяці і вопыце».)

Снежань, 30

«Учительская газета» публікуе артыкул І. Мележа «Прекрасная миссия на земле». (Пазнейшая назва — «Настаўнік, выхавацель, школа».)

Снежань

У «Дружбе народов», № 12 пад агульным загалоўкам «50 лет СССР» публікуюцца адказы пісьменнікаў, у тым ліку і Мележа, на пытанне часопіса: «Что дает Вам, Вашей творческой практике знакомство с литературами народов СССР?»

**1973**

Студзень

У час. «Русская речь», № 1 пад агульным загалоўкам «Слово писателю» публікуюцца адказы пісьменнікаў і паэтаў, у тым ліку і Мележа, на анкету, з якой карэспандэнт часопіса звярнуўся да прадстаўнікоў нацыянальных літаратур У сувязі з 50-годдзем утварэння СССР. Тэма анкеты — аб ролі рускай мовы ў міжнацыянальных культурных сувязях народаў нашай краіны.

У «Литературном обозрении», № 1 друкуе артыкул «Чей дорог суд». (Пазнейшая назва — «Некалькі думак пра чытача».)

Люты

Знаходзіцца ў стацыянары лечкамісіі. «21 дзень — цяжкі грып». (З запісной кніжкі.)

Сакавік, 25 — красавік, 17

Адпачывае ў Місхоры ў санаторыі «Беларусь». (Санаторна-курортная кніжка М 495.)

Канец красавіка

Выступае ў спрэчках па дакладу сакратара ЦК КПБ

А. Т. Кузьміна на партыйным сходзе камуністаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадку дня пытанне — «Вынікі сумеснага ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета Саюза ССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР, і задачы камуністаў па далейшым узмацненні ідэйна-палітычнай работы, інтэрнацыянальнага выхавання працоўных у святле патрабаванняў даклада Л. І. Брэжнева «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік». (Літ. і мастацтва, 5 мая.)

Красавік

У час. «В мире книг», № 4 друкуецца інтэрв'ю з Мележам пад загалоўкам «Веление пережитого». Гутарку вёў В. Ламанаў.

Май, 18

Адкрывае ўступным словам вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння французскага пісьменніка Анры Барбюса, які адбыўся ў Мінску (тэатр імя Я. Купалы). З дакладам выступіў Б. Міцкевіч. (Літ. і мастацтва, 18 мая.)

Май, пасля 20

Сустракаецца ў СП БССР з выдаўцамі з Чэхаславакіі — галоўным рэдактарам «Народнага выдавецтва» Магдай Байкавай і рэдактарам Эленай Вылчкавай, якія прыехалі ў Мінск па запрашэнню Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. (Літ. і мастацтва, 1 чэрв.)

Чэрвень, 28

Выступае на Пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР восьмага склікання (28-29 чэрв.). З дакладам «Аб стане і далейшым паляпшэнні культурна-масавай работы сярод насельніцтва рэспублікі» выступіла намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова. (Літ. і мастацтва, 6 ліп.; Рукапіс выступлення з паметай: «Выступленне было 28.VI.73 г.»)

Верасень, 4-6

Удзельнічае ў рабоце V канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ў Алма-Аце (праходзіла 4-9 верас.). 6-11 верас, знаходзіцца ў першай рэспубліканскай бальніцы Мінздрава Казахскай ССР з дыягназам: хранічны нефрыт, катар верхніх дыхальных шляхоў, пнеўмасклероз. (Лит. газ., 12 верас.; Выпіска з гісторыі хваробы.)

Верасень, 12

У «Литературной газете» пад агульным загалоўкам «V конференция стран Азии и Африки: Говорят участники международного форума» публікуюцца нататкі дэлегатаў, у тым ліку і Мележа, аб канферэнцыі.

Верасень, да 22

Выйшла з друку кніга «Люди на болоте. Дыхание грозы».— М.: Сов. писатель. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам В. Аскоцкаму.— Гл. ПА: Аскоцкі В. Д.)

Кастрычнік, 9-10

Выступае на сімпозіуме перакладчыкаў беларускай літаратуры на мовы народаў СССР (Мінск). Адкрыў сімпозіум М. Танк. (Літ. і мастацтва, 12 кастр.)

Кастрычнік, 25-31

Удзельнічае ў рабоце Сусветнага кангрэсу міралюбівых сіл (Масква, Крамлёўскі Палац з'ездаў). 26 кастр. з прамовай «За справедливый, демократический мир, за безопасность народов и международное сотрудничество» выступіў Л. І. Брэжнеў. (Літ. і мастацтва, 26 кастр.; Лит. газ., 31 кастр.)

Лістапад, 16

У «Літаратуры і мастацтве» публікуецца гутарка з Мележам як з удзельнікам Сусветнага кангрэсу барацьбітоў за мір пад загалоўкам «Над планетай — неба высокі блакіт».

Лістапад, 26

Уступным словам адкрывае ўрачысты вечар у СП БССР, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння П. С. Пестрака. (Літ. і мастацтва, 30 лістап.)

Лістапад, да 30

Узнагароджваецца ганаровым ордэнам Венгерскага Савета Міру. (Тэлеграма з Масквы (камітэт абароны міру) ад 30 лістап.)

На працягу года

Выйшлі з друку: Людзі на балоце.— Мн.: Маст. літ.; Подых навальніцы.— Мн.: Маст. літ.; Минское направление.— М.: Сов. писатель.

**1974**

Люты, 7

Удзельнічае ў тэлевізійнай перадачы беларускага тэлебачання «Запрашаем на вячоркі» з в. Глінішча Хойніцкага р-на. (Ліст У. М. Шпітальнай да І. Мележа ад 12 лют.)

Сакавік, 27

У «Звяздзе» друкуецца гутарка карэспандэнта газеты з Мележам як старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру аб рабоце камітэта пад загалоўкам «Абарона міру — пачэсная справа».

Красавік, 11

Прымае ўдзел у нарадзе, скліканай Саветам па драматургіі і Саветам па беларускай літаратуры СП СССР, Усерасійскім тэатра-

льным аб'яднаннем СП БССР, Міністэрствам культуры БССР і Беларускім тэатральным аб'яднаннем (Мінск, Дом мастацтваў). Тэма нарады: «Праблема сённяшняй беларускай драматургіі і яе ўвасабленне на сцэне». Нараду адкрыў І. Шамякін. З дакладам выступіў А. Салынскі. (Літ. і мастацтва, 12, 19 крас.— фотаздымак: І. Мележ і А. Салынскі.)

Май, 15

Выступае на чарговым пасяджэнні секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, прысвечаным агляду крытычных артыкулаў і рэцэнзій, якія публікаваліся ў рэспубліканскіх часопісах «Полымя» і «Беларусь» за 1973 год. (Літ. і мастацтва, 24 мая.)

Чэрвень, 20

Прымае ўдзел у рабоце пленума праўлення СП БССР. На парадку дня пытанне аб выкананні рашэнняў VI з'езда пісьменнікаў Беларусі. Пленум адкрыў М. Танк. З дакладам выступіў А. Грачанікаў. (Літ. і мастацтва, 28 чэрв.)

Чэрвень, 21

Выпіска з Асабістай справы: «У сувязі з заявай І. П. Мележа аб вызваленні яго ад работы з прычыны хваробы і Пастановы пленума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР лічыць вызваленым І. П. Мележа з пасады намесніка старшыні праўлення СП БССР з 21 чэрвеня 1974 года. Старшыня праўлення СП БССР — М. Танк».

Чэрвень, 25-30

Прымае ўдзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 30-годдзю вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і прысваенню Мінску звання Горада-героя. (Літ. і мастацтва, 28 нэрв.)

Верасень, 3-4

Удзельнічае ў рабоце пленума праўлення СП СССР, прысвечанага 40-годдзю першага з'езда савецкіх пісьменнікаў. Адкрыў пленум Г. Маркаў. З дакладам выступіў М. Ціханаў. (Лит. газ., 4 верас.)

Верасень, паміж 10 і 15

Як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР сустракаецца са сваімі выбаршчыкамі ў Петрыкаве на сударамонтным заводзе, у швейным цэху камбіната бытавога абслугоўвання, з рабочымі саўгаса «Прыпяцкі». Наведвае Мазыр і новую школу ў в. Глінішча. (Літ. і мастацтва, 27 верас.)

Верасень, 20 — лістапад, 13

Адпачывае ў Місхоры ў санаторыі «Беларусь», а з 14 кастр.— у Ялце ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Санаторна-курортная кніжка М 1116; Паштоўка да Л. І. Мележ ад 4 лістап.)

Кастрычнік, 9-10

Прымае ўдзел у рабоце Савецкай канферэнцыі прыхільнікаў міру, прысвечанай 25-й гадавіне савецкага руху ў абарону міру (Масква, Калонная зала Дома Саюзаў). З дакладам выступіў старшыня Савецкага камітэта абароны міру М. С. Ціханаў. (Лит. газ., 16 кастр.)

Снежань

У «Бярозцы», № 12 друкуе віншаванне часопісу да 50-годдзя з дня выхаду яго першага нумару пад загалоўкам «Дзякуй, «Бярозка».

На працягу года

Напісаў прадмову да кнігі А. Адамовіча «Хатынская аповесць» (1974).

Выйшлі з друку: Мінскі напрамак, у 2-х тамах — Мн.: Маст. літ.; Людзі на балоце.— Берлін; Подых навальніцы.— Сафія: Народна култура.

**1975**

Люты, 22

У «Красной звезде» публікуецца інтэрв'ю з Мележам пад загалоўкам «Герой войны — герои книг» да Дня Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

Люты, 27 — сакавік, 3

Прымае ўдзел ва Усесаюзнай нарадзе пісьменнікаў і крытыкаў, прысвечанай тэме «Неўміручы подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура» да 30-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне (Мінск, тэатр оперы і балета). З прамовай выступіў П. М. Машэраў. (Літ. і мастацтва, 21 лют. і 2 сак.)

Сакавік

У «Маладосці», № 3 друкуе старонкі з ваеннага дзённіка пад назвай «317 дзён вайны». (Публікацыя пачынаецца аўтарскай прадмовай.)

У «Новом мире», № 3 друкуе артыкул «Могучий поток народной жизни» да 70-годдзя з дня нараджэння М. Шолахава.

Красавік, 15

Удзельнічае ў рабоце аб'яднанага пленума праўленцаў творчых саюзаў і арганізацый СССР, прысвечанага 30-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне (Масква, Вялікі Крамлёўскі палац). Пленум адкрыў уступнай прамовай Г. Маркаў. (Лит. газ., 23 крас.)

Красавік, 21

Загадам міністра абароны СССР узнагароджваецца Дыпломам і імянным афіцэрскім корцікам за высока мастацкія творы пра баявыя

подзвігі Савецкіх Узброеных Сіл і ў сувязі з 30-годдзем Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. (Лит. газ., 14 мая.)

Красавік, 30

У «Литературной газете» публікуецца дыялог паміж І. Мележам і крытыкам І. Казловым пад загалоўкам «Слагаемые эпопеи». Запісала Т. Залатухіна.

Май, 9

«Літаратура і мастацтва» паведамляе аб выхадзе з друку рамана «Людзі на балоце».— Брацiслава: Словенскі спісавацель.

Май, 16-20

Прымае ўдзел у Міжнароднай сустрэчы барацьбітоў за мір, прысвечанай 30-годдзю Перамогі над фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне (Мінск). 16 мая — урачысты сход, прысвечаны адкрыццю Міжнароднай сустрэчы прыхільнікаў міру (тэатр оперы і балета БССР), сустрэчы з працоўнымі Мінска на прадпрыемствах, у навуковых установах, удзел у мітынгах; 17 мая — сімпозіум «Гістарычнае значэнне разгрому гітлераўскага фашызму. Барацьба міралюбівых сіл супраць пагрозы неафашызму»; 18 мая — паездка ў Хатынь; сустрэча з працоўнымі трактарнага і маторнага заводаў; 19 мая — выступае на мітынгу ў крэпасці-героі Брэста; 20 мая — закладка Алеі Міру; 21 мая — прэс-канферэнцыя па выніках Міжнароднай сустрэчы прыхільнікаў міру. (Полымя, № 7.)

Май, 22

Выступае на ўрачыстым вечары грамадскасці беларускай сталіцы, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння М. А. Шолахава (Мінск, тэатр оперы і балета).

У «Звяздзе», 24 мая («Літаратура і мастацтва», 30 мая) выступленне надрукавана пад загалоўкам «Магутны, непаўторны талент».

Май, 24

У «Советской Белоруссии» («Полымя», № 5) друкуе артыкул «Яго чытачы — усё чалавецтва» да 70-годдзя з дня нараджэння М. Шэлахава.

Май, 26-27

Вылучаецца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Гарадзецкай выбарчай акрузе № 399 Магілёўскай вобл. Сустракаецца з выбаршчыкамі — рабочымі Быхаўскага ільнозавода, рабочымі саўгасаў «Усход», «Спадарожнік», «Быхаўскі». (Літ і мастацтва, 30 мая.)

Май

У час. «Вопросы литературы», № 5 пад агульным загалоўкам «Этих лет не смолкнет слава» публікуюцца адказы пісьменнікаў, у тым

ліку і Мележа, на анкету часопіса, прысвечаную 30-годдзю Перамогі над гітлераўскай Германіяй.

У час. «Крестьянка», № 5 друкуе артыкул «Поклон человеку и стране, взрастившей его...» да 70-годдзя з дня нараджэння М. ІПолахава.

Пачатак чэрвеня — ліпень, да 10

Адпачывае ў Крыму ў Доме творчасці пісьменнікаў. (Віншавальная тэлеграма з Быхава ад выбаршчыкаў ад 17.VI.75 на адрас: Планёрнае, Дом творчасці; Ліст да Л. Л. Арабей ад 10 ліп.)

Чэрвень, 15

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Гарадзецкай выбарчай акрузе № 399 Быхаўскага раёна Магілёўскай вобл. (Сов. Белоруссия, 19 чэрв.)

Чэрвень

Ва ўкраінскім час. «Вітчизна», № 6 друкуе дзённікавыя запісы «317 днів війни». Пер. І. Адарыч. (Нумар часопіса прысвечаны БССР да Дзён літаратуры і мастацтва Беларусі на Украіне.)

У час. «Литературное обозрение», № 6 друкуе артыкул «Мастерство есть стремление...», прысвечаны праблемам псіхалогіі творчасці і літаратурнага майстэрства.

Ліпень, да 23

У лісце супрацоўніцы ерэванскага выд-ва «Айастан» Д. Есаян да І. Мележа ад 23 ліп. паведамляецца аб выхадзе з друку рамана «Людзі на балоце» на арм. мове.

Жнівень, 17-18

Удзельнічае ў рабоце пленума Савецкага Камітэта Абароны Міру, прысвечанага кампаніі за спыненне гонкі ўзбраення. 17 жн. выступае на семінары прадстаўнікоў мясцовых камітэтаў абароны міру. (З запісной кніжкі.)

Жнівень

Выйшаў з друку раман «Людзі на балоце».— Вільнюс: Вага. (З запісной кніжкі. Запіс ад 5 верас.: «З Вільнюса прыйшлі экземпляры «Людзей».)

Верасень, 4

Адкрывае ўступным словам вялікі літаратурны вечар у СП БССР, прысвечаны 30-годдзю з дня ўтварэння ДРВ. Даклад зрабіў старшыня Камітэта па літаратурных сувязях з пісьменнікамі Азіі і Афрыкі Алесь Асіпенка. (Літ. і мастацтва, 12 верас.)

Кастрычнік, 3

Выступае ў спрэчках па дакладу М. Татура на чарговым пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР, прысвечаным абмеркаванню

работы бюро прапаганды мастацкай літаратуры. (Літ. і мастацтва, 3 касір.)

Кастрычнік, да 22

Выйшла з друку кніга публіцыстычных і крытычных артыкулаў «Жыццёвыя клопаты».— Мн.: Маст. літ. (Па даце аўтографа на гэтай кнізе, падараванай І. Мележам Г, Шупеньку.— Гл. ПА: Шупенька Г. С.)

Кастрычнік, 29 (?) — лістапад, 30

Знаходзіцца ў Цэнтральнай клінічнай бальніцы (Масква). (Лісты да Г. М. Маркава ад 25 касір, і да А. П. Рогавай ад 20 лістап.)

На працягу года

Выйшаў з друку раман «Людзі на балоце».— М.: Прагрэс (на ісп. мове).

**1976**

Студзень, 8

Выступае з дакладам як старшыня рэспубліканскага камітэта абароны міру, член Сусветнага Савета Міру на сходзе актыву Беларускага рэспубліканскага КАМ у падтрымку новай Стакгольмскай адозвы. На сходзе была прынята рэзалюцыя, у якой удзельнікі сходу заявілі аб поўнай салідарнасці з заклікам Сусветнага Савета Міру і заявай СКАМ аб рашучасці сумесна з міралюбівымі сіламі ўсіх краін дабівацца, каб працэс разрадкі міжнароднай напружанасці стаў незваротным. (Звязда, 9 студз.)

Студзень, 9

У «Літаратуры і мастацтве» ў падборцы «Задумы, планы, здзяйсненні» публікуецца нататка Мележа «Літаратура можа існаваць у розных якасцях...». Тут жа дзеляцца сваімі творчымі планамі Я. Брыль, В. Быкаў, Д. Бічэль-Загнетава, Г. Вагнер.

Люты, да 6

Выступае на партыйным сходзе СП БССР, на якім абмяркоўваўся праект ЦК КПСС да XXV з'езда партыі «Асноўныя напрамкі развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1976-1980 гады». З дакладам выступіла Н. Л. Сняжкова. (Літ. і мастацтва, 6 лют.)

Сакавік, 5, 12

У «Літаратуры і мастацтве» публікуе ўрывак «Пачатак дня» з рамана «Завеі, снежань».

Сакавік, 10

У «Звяздзе» публікуе ўрывак «Дні і вечары» з рамана «Завеі, снежань».

Сакавік, 17

У «Литературной газете» публікуе артыкул «Мир народной жизни» аб рамане Г. Маркава «Сибирь».

Сакавік — май

У «Полымі», № 3, 4, 5 публікуе частку рамана «Завеі, снежань».

Красавік, 2

У «Літаратуры і мастацтве» публікуецца гутарка карэспандэнта газеты П. Шаўцова з І. Мележам пад загалоўкам «Вытокі творчасці — крыніца натхнення».

Красавік, 20

Адбыўся аўтарскі вечар І. Мележа ў тэатры імя Я. Купалы. Вёў вечар Н. Гілевіч. Даклад зрабіў А. Адамовіч. Выступілі: П. Панчанка, А. Лойка, М. Аўрамчык, Е. Лось, Я. Семяжон. Спявалі землякі — этнаграфічны хор в. Глінішча Хойніцкага р-на. Выконваліся ўрыўкі з п'ес «Дні нараджэння», «Пакуль маладыя». (Літ. і мастацтва, 30 крас.)

Красавік, 27

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР узнагароджваецца Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР за заслугі ў справе ўмацавання і расшырэння дружалюбных і культурных сувязяў з зарубежнай грамадскасцю і ў сувязі з 50-годдзем з дня заснавання Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. (Звязда, 28 крас.)

Май, 11-12

Выступае на VII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. З'езд уступнай прамовай адкрыў П. Броўка. Справаздачны даклад праўлення СП БССР зрабіў М. Танк. (Літ. і мастацтва, 14 мая.)

Выступленне друкавалася ў «Літаратуры і мастацтве», 21 мая разам з выступленнямі на з'ездзе іншых пісьменнікаў пад агульным загалоўкам «Высокая місія савецкіх пісьменнікаў».

Май, пасля 12

Адразу пасля пісьменніцкага з'езда па запрашэнню П. М. Машэрава робіць паездку па Палессі разам з пісьменнікамі М. Танкам, І. Шамякіным, П. Панчанкам, А. Макаёнкам. Выступае ў Жыткавічах, Тураве на літаратурных вечарах. Наведвае родную вёску і школу. (Успаміны пра Івана Мележа, с. 380.)

Май, 23

У «Советской Белоруссии» друкуе нататку «Общность судеб» да Дзён літаратуры і мастацтва Украіны ў Беларусі.

Май, 24 — чэрвень, 2

Прымае ўдзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных Дням літаратуры і мастацтва Украінскай ССР у Беларусі. 24 мая на адкрыцці свята выступае з прамовай (тэатр оперы і балета).

